*Паўла Урбан*

# Старажытныя ліцьвіны

***мова***
***паходжаньне***
***этнічная прыналежнасьць***

Мінск
«Тэхналогія»
2010

УДК 39(=826)+930.221
ББК 63.3(4Бел)
У 69

**Урбан П.**

У 69 Старажытныя ліцьвіны: Мова, паходжаньне, этнічная прыналежнасьць / Паўла Урбан. 3-е выд. — Мінск: Тэхналогія, 2010. — 216 с.

ISBN 978-985-458-215-3

Выкарыстоўваючы малавядомыя і невядомыя гістарычныя крыніцы, пераважна заходнеэўрапейскія, аўтар разглядае мову і культы старажытных ліцьвіноў, паходжаньне іх найменьня і этнічную прыналежнасьць. На падставе гэтага аналізу ён даводзіць славянскае паходжаньне таго племя, якое дало назоў Вялікаму Княству Літоўскаму. У дадатку да кнігі зьмешчаныя багатыя матэрыялы да тлумачэньня паганскіх імёнаў, пачэрпнутыя з навуковых працаў, дзе дасьледуюцца імёны іншых індаэўрапейскіх народаў.

Адрасуецца гісторыкам, этнолагам, мовазнаўцам, а таксама ўсім, хто цікавіцца гісторыяй Сярэднявечча.

**УДК 39(=826)+930.221**
**ББК 63.3(4Бел)**

ISBN 978-985-458-215-3

# ПРА ЭТНІЧНУЮ ПРЫНАЛЕЖНАСЬЦЬ СТАРАЖЫТНЫХ ЛІЦЬВІНОЎ

Беларуская гістарычная навука доўгі час ня мела ўласнага незалежнага погляду на гісторыю Вялікага Княства Літоўскага й мусіла працаваць у рэчышчы расейскіх прапагандысцкіх стэрэатыпаў. За гэты час у Летуве былі створаныя й пашыраныя канцэпцыі, паводле якіх летувісы ёсьць адзіныя спадчыньнікі Княства, а беларусы ня маюць да ВКЛ ніякага дачыненьня. Пра заваёвы "літоўскіх князёў" і захоп імі "рускіх земляў" пісалі таксама польскія гісторыкі, паўтараючы, што ў Вялікім Княстве палітычна панаваў летувіскі этнічны элемэнт[1].

Між тым ужо першыя самастойныя працы беларускіх гісторыкаў паказваюць, што й беларускі народ меў сваю дзяржаўнасьць "у форме Вялікага Княства Літоўскага"[2].

Наша дасьледваньне мае на мэце з дапамогай невядомых заходнеэўрапейскіх крыніцаў працягнуць гэтую тэму й высьветліць, да якога этнасу належалі колішнія ліцьвіны й што азначала тады Літва як дзяржава.

## Япіскап Хрысьціян і Лукаш Давід пра Літву

Пасьля гэткага ўступу зьвернемся да тых аўтараў, якія пра Літву пісалі як пра славянскую краіну, а мову ліцьвіноў залічалі да славянскіх моваў. Адным з такіх аўтараў быў манах і першы япіскап Прусіі Хрысьціян, прызначаны Ватыканам[3]. Напісаная ім хроніка Прусіі "Liber filiorum Boelial et eorum superstitionibus" не захавалася. Аднак дзеля сваіх фантастычных высноваў ёю карысталіся прускія храністы XVI ст. Сымон Грунаў і Лукаш Давід. У чарнавых паперах, якія пакінуў пасьля сябе Лукаш Давід, быў знойдзены невялікі фрагмэнт з той "Хронікі" япіскапа Хрысьціяна, выпісаны почыркам Лукаша Давіда й азагалоўлены ім: "Borussorum origo ex Domino Christiano". Гэты фрагмэнт апублікаваў у сваёй "Гісторыі Прусіі" Ёганэс Фогт[4].

Як вядома, за часоў япіскапа Хрысьціяна ды й пазьней ствараліся розныя фантастычныя тэорыі паходжаньня асобных народаў. Ня ўнікнуў гэтай "слабасьці" й япіскап Хрысьціян, хоць, праўда, ён таксама мог грунтавацца на легендах, якія існавалі тады ў асяродзьдзі невялікіх прускіх плямёнаў. Адным словам, зыходзячы з назоваў вось гэтых плямёнаў або назоваў асобных земляў старажытнай

Прусіі, япіскап Хрысьціян і прыдумаў для іх імёны прашчураў ці князёў-заснавальнікаў. Гісторыю паходжаньня прусаў ён пачынаў ад часоў бізантыйскага імпэратара Юстыніяна I і зьвязваў яе з паразай готаў у Італіі, з уцёкамі часткі іх на поўнач у кірунку Даніі і перасяленьнем іх адсюль з дазволу караля Даніі Тэўдота на востраў Готлянд у Балтыйскім моры. Раней на гэтым востраве жыў скандынаўскі народ камбраў (кімбраў), які, уступаючы востраў готам, і змушаны быў перасяліцца ў Ульміганію, што пазьней пачне называцца Прусіяй.

Паводле япіскапа Хрысьціяна, пры перасяленьні той народ камбраў меў двух князёў — Брутэна й Вудавута. На новым месцы пасяленьня першы зь іх быў абраны паганскім сьвятаром (Крывэ-Крывэйта), а Вудавута стаў каралём. Ён спарадзіў 12 сыноў, старэйшы зь якіх меў імя Літфо.

У прыгаданым фрагмэнце не было гаворкі, якую ж зямлю пры падзеле атрымаў гэты Літфо. Аднак япіскап Хрысьціян тут жа занатаваў: “Wenedia olim, nunc Lithphania, hinc sinus Venedicus dicitur”. Гэта азначае: калісьці звалася Вэнэдыяй, а цяпер гэта Літва, адсюль і назоў Вэнэдзкай затокі.

Няма патрэбы даказваць, што “калісьці” ўсіх славянаў называлі вэнэдамі. Пад гэтым назовам заходнія славяне, улучаючы сюды й Польшчу, часта выступалі ў заходнеэўрапейскіх хроніках ды іншых крыніцах яшчэ ў X і XI стст. Вэнэдзкім у тым часе называлася і Балтыйскае мора ці “затока”, паводле япіскапа Хрысьціяна.

Такім чынам, Літву свайго часу япіскап Хрысьціян проста залічаў да славянскіх краінаў.

Мы ўжо казалі, што хронікай япіскапа Хрысьціяна карысталіся прускія храністы Сымон Грунаў і Лукаш Давід. Але гэтыя аўтары пісалі свае “Прускія хронікі” тады, калі ў тагачаснай гістарыяграфіі, асабліва польскай, на ўсе лады выпраўлялася й перакручвалася вядомая тэорыя пра гэтак званае “рымскае” або “італійскае” паходжаньне ліцьвіноў і жамойтаў. (Хоць, праўда, жамойты мелі яшчэ ўласную тэорыю свайго “рымскага” паходжаньня, у якую тыя ж ліцьвіны не дапускаліся.) Гэта асабліва датычыла Лукаша Давіда, які памёр у 1583 г. і пры жыцьці якога дзякуючы “кніжнікам” мова жамойтаў таксама пачала называцца “літоўскай”. Таму гэтыя прускія храністы, як, дарэчы, і шмат іншых аўтараў, то раднілі ліцьвіноў з жамойтамі, то адрозьнівалі іх як асобныя народы.

Дарэчы адзначыць, што хроніка Лукаша Давіда не выдавалася ні пры жыцьці аўтара, ні пару стагодзьдзяў пазьней. Калі верыць яе выдаўцу[5], яна захоўвалася ў архівах у двух рукапісах з папраўкамі і ўстаўкамі на асобных аркушах як самога аўтара, так і пабочных асобаў. Былі й выкрэсьліваньні, таму ўсё гэта вядзе да незразуменьня асобных мясьцінаў. Напрыклад, незразумелай застаецца мясьціна, дзе аўтар, апісваючы эпізод варажнечы паміж судавамі (дайновамі) і ліцьвінамі, адзначае, што Літва раней называлася Вэнэдыяй, але далей не разьвівае гэтую думку. У спасылцы выдавец хронікі тлумачыць, што ў абодвух рукапісах у гэтым месцы два з паловай аркушы былі напісаныя (а магчыма, выпраўленыя) чужой рукой[6].

Паводле канцэпцыі Лукаша Давіда, якая, магчыма, супадала з канцэпцыяй япіскапа Хрысьціяна, сын мітычнага прускага князя Вудавуты — мітычны князь ліцьвіноў Літво — сядзеў у Гарадзенскай зямлі паміж рэкамі Нёманам і Бугам. Сталіцай гэтага князя й ягоных нашчадкаў быў горад Горадня, заснаваны самім Літво. Гэта, паводле Лукаша Давіда, была “Малая Літва”, якая заўсёды варагавала зь іншымі землямі Прусіі, а затым з Прускім Тэўтонскім ордэнам[7].

Фантазіі ў Лукаша Давіда было зашмат. Тым ня менш, атаясамленьне першапачатковай Літвы з Гарадзеншчынай, якая ў шмат ранейшых прускіх хроніках называлася Русь або Рутэнія, дае падставы меркаваць, што, магчыма, у разуменьні Лукаша Давіда Літва папраўдзе мела сувязь з прыгадванай Вэнэдыяй і была славянскай краінай.

## Нататкі Жыльбэра дэ Лянўа

Чарговую важную крыніцу для зразуменьня этнічнага характару Вялікага Княства Літоўскага ўяўляюць сабою “Падарожныя запіскі”[8] францускага рыцара, а пазьней дыплямата Жыльбэра дэ Лянўа. Ён наведаўся ў гэтае Княства два разы: узімку 1414 г. у якасьці цікаўнага рыцара-авантурніка і ў 1421 г. у якасьці дыплямата караля Англіі Генрыха Ланкастара. Першы раз ён зьявіўся на ўсходзе дзеля таго, каб на баку Тэўтонскага ордэну ўзяць удзел у змаганьні супраць “няверных” і “сарацынаў”. Гэтыя ягоныя акрэсьленьні сьведчаць пра тое, як пасьля перамогі 1410 г. у Грунвальдзкай бітве на Захадзе распаўсюджвалася нянавісьць у дачыненьні да Польшчы й Княства. І Жыльбэр дэ Лянўа ў 1413 г. браў удзел у экспэдыцыі крыжакоў,

скіраванай у асноўным супраць Памараніі — тагачаснай хаўрусніцы Польшчы. З Прусіі ён выехаў у Лівонію дзеля таго, каб і там далучыцца да гэткага ж "змаганьня". Відавочна, супраць ВКЛ або супраць Ноўгарадзкай рэспублікі. Але там, у Лівоніі, таксама астудзілі ягоны рыцарскі парыў, і таму дэ Лянўа наважыўся наведаць Ноўгарад, Пскоў, а затым Вільню й Трокі.

Дэ Лянўа быў назіральным чалавекам. Ён апісаў тагачасную Вільню й зьдзівіўся, чаму яна безабаронная — без гарадзкіх муроў. Пахваліў новы замак у Троках, занатаваўшы, што ён збудаваны на францускі ўзор. Заўважыў таксама й вялікі зьвярынец каля Трокаў, "абгароджаны парк", у якім трымалася разнастайная дзікая й свойская жывёла. Прыкмеціў яшчэ, што ў Вялікім Княстве вельмі добра ставяцца да чужынцаў і шчодра апякуюцца імі.

Як відаць, свае назіраньні і ўражаньні дэ Лянўа занатоўваў па дарозе й толькі пазьней апрацаваў іх. Напрыклад, едучы з Кёнігсбэргу ў Лібаву (Ліепая) праз Жамойць, ён зьдзіўлена запісаў, што ўзьбярэжжа Балтыйскага мора (ад вусьця Нёману й далей на поўнач) называецца "Літоўскім берагам", нягледзячы на тое што тут знаходзіцца "Жамойцкая краіна"[9]. У іншым месцы ён пашкадаваў Жамойць, бо мясьціны, празь якія ён праязджаў, былі спапялёныя й бязьлюдныя.

З кантэксту "Падарожных запісак" вынікае, што мову жамойтаў дэ Лянўа таксама адрозьніваў ад мовы ліцьвіноў. Сапраўды, мову жамойтаў дэ Лянўа залічаў да моваў іншых балтаў, што жылі ў тагачаснай Лівоніі. Праўда, і пра мову ліцьвіноў ён гаварыў агульна, коратка занатаваўшы, што ў Літве будуецца шмат цэркваў, тут налічваецца 12 япархіяў і народ гэтай краіны "мае сваю ўласную мову"[10]. Крыху далей, паведамляючы пра тое, што ў Троках жывуць татары, немцы, ліцьвіны, рускія й шмат габраяў, дэ Лянўа дадаў, што "ўсе яны карыстаюцца адметнай мовай"[11].

Такім чынам, з гэтых паведамленьняў францускага рыцара нельга зрабіць выснову, чым, напрыклад, адрозьнівалася мова тых "ліцьвіноў" і "рускіх" з Трокаў. Хоць, праўда, аб'яднаўшы ў адно цэлае каталіцкія й праваслаўныя япархіі Вялікага Княства, дэ Лянўа, магчыма, аб'ядноўваў моўна й народ, зь якім ён спатыкаўся ў "каралеўстве Літвы".

У Вільні Жыльбэр дэ Лянўа не засьпеў вялікага князя Вітаўта. Маючы, напэўна, рэкамэндацыі, ён сустракаўся зь дзьвюма сёстрамі жонкі Вітаўта. Мужам адной зь іх — Ульляны — быў віленскі ваяво-

да Альбэрт Манівід. Другая сястра звалася Агрыпінай і была жонкай князя Івана Альгімунтавіча Гальшанскага.

Жыльбэр дэ Лянўа не засьпеў Вітаўта і ў Троках, а таму яму давялося паехаць у замак над Нёманам, дзе вялікі князь адпачываў і займаўся паляваньнем. Францускі госьць апісаў таксама й гэты замак[12]. У ім дэ Лянўа пазнаёміўся ня толькі зь Вітаўтам, але таксама зь ягонай жонкай княгіняй Ганнай, іхнай дачкою Соф'яй, што прыехала з Масквы пагасьціць у бацькоў. Прысутнічала яшчэ ўнучка, якая звалася таксама Ганнай і была дачкой Соф'і й Маскоўскага вялікага князя Васіля I.

Паводле аўтара "Хронікі Быхаўца", першая жонка Вітаўта княгіня Ганна, якая памерла ў 1418 г., была дачкой Смаленскага князя Сьвятаслава Іванавіча. Як вынікае, такім чынам, пры сустрэчах у Вільні і ў гэтым замку над Нёманам Жыльбэр дэ Лянўа мог пачуць толькі славянскую або старабеларускую мову.

Але, скажуць, будучы "ліцьвінам", а не "русінам", сам Вітаўт мог карыстацца летувіскай ці жамойцкай мовай. Паспрабуем адказаць і на гэтую заўвагу.

### Сьведчаньні князёў

Паспрачаўшыся зь Ягайлам і ягоным братам Скіргайлам, князь Вітаўт Кестутавіч на пачатку 1390 г. другі раз уцёк у Прусію да крыжакоў. Там ён змушаны быў напісаць тлумачальную запіску, падаць прычыны гэтых сваіх уцёкаў і канфлікту з каралём Польшчы Ягайлам і ягоным намесьнікам у Вялікім Княстве вялікім князем Скіргайлам. Гісторыкі пішуць, што Вітаўт ведаў нямецкую мову, але тая запіска магла быць напісаная й пад ягоную дыктоўку. Дык Вітаўт апісваў тыя крыўды, што гэта пад ціскам Скіргайлы з "хрысьціянскай веры" ён перайшоў у "рускую веру", а Ягайла здрадным чынам спрычыніўся да сьмерці ягонага бацькі князя Кестута. Ягайла не вярнуў яму спадчынныя землі, што належалі Кестуту, адмаўляўся таксама пацьвердзіць прывілей на землі, дзе калісьці княжыў Вітаўтаў дзядзька Любарт ды якія ён, Вітаўт, атрымаў ад самога Ягайлы. Тычылася гэта Луцкай і Ўладзімірскай земляў на Валыні. Мала таго, без дазволу Вітаўта кароль Ягайла арыштоўваў ягоных баяраў, кідаў у цямніцы й катаваў іх рознымі спосабамі. Адным словам, у той нямецкі тэкст былі ўплеценыя гэткія беларускія тэрміны: "баяры", "ваявода", "цямніцы"[13].

Было яшчэ слова “jsen”, але ў слоўніку старанямецкай мовы аўтару не ўдалося адшукаць, што мог азначаць ужыты дзеяслоў “smitten”. У сувязі з тым што ў тэксьце была гаворка таксама пра катаваньне Вітаўтавых баяраў вадою, дык слова гэтае магло азначаць стараславянскае *ез* ці *яз* — запруду, плеценую перагародку папярок ракі для затрыманьня й лоўлі рыбы. Да гэтых язаў у вадзе й маглі прывязваць тых баяраў.

Або возьмем яшчэ дароўную грамату Вітаўта ад 20 красавіка 1411 г. Грамата давалася на просьбу Віленскага каталіцкага япіскапа Мікалая й была напісаная на лацінскай мове[14]. Як адзін зь сьведкаў грамату падпісаў віленскі ваявода Альбэрт Манівід і падпісаў якраз як *ваявода*, а не *palatinus*. Апрача таго, у грамаце былі ўжытыя тэрміны: “triginta *pudis* mellis”, “duabus pullis alias *stawna lukna* mellis”, “stacionis *poludze* appellato”.

Бясспрэчна, ёсьць яшчэ іншыя дароўныя граматы вялікага князя Вітаўта, і ня толькі Вітаўта, але таксама звычайных ліцьвіноў, пра што, аднак, будзе асобная гаворка. А тут растлумачым, што “30 пудоў мёду” — гэта было 30 *пудоў* мёду; “стаўное”, а праўдзівей, *устаноўнае лукно* таксама было адзінкай вымярэньня переважна мёду або падатку, які павінны былі сплочваць бортнікі. Вымяраўся гэты падатак якраз пудамі або “ўстаўнымі” (акрэсьленымі вагою) вёдрамі, вушаткамі ці бочкамі[15]. *Палюдзьдзе* (“полюдье”) — таксама стараславянскі тэрмін, што пазьней будзе называцца “стацыяй”, — гэта запазычаньне з лацінскай мовы праз польскую. Пра гэтае палюдзьдзе, якое зьбіралася ўсходнеславянскімі князямі, калісьці пісаў бізантыйскі імпэратар Канстантын Парфірародны[16], і яно пачаткова азначала збор даніны з насельніцтва й васалаў князя, а пазьней — забесьпячэньне прадуктамі харчаваньня й фуражом сьвіты вялікага князя ды іншых вялікіх афіцыйных асобаў, калі яны наведваліся ў тыя ці іншыя мясьціны свае дзяржавы.

Пячаткі вялікага князя Вітаўта з надпісамі на славянскай мове не захаваліся. Але такімі пячаткамі карысталіся Вітаўтаў бацька князь Кестут і вялікі князь Альгерд[17]. Акрамя гэтага, пячаткамі зь легендай-надпісам на старой беларускай мове (для прыкладу: “Печать Воидилова”) карысталіся, напрыклад, гэткія неаспрэчныя ліцьвіны: баярын Вайдзіла (1380 г.), які быў шваграм вялікага князя Ягайлы Альгердавіча ды якога ў 1382 г. пакараў вялікі князь Кестут Гедзімінавіч; баярын Станіслаў Чупурна Радзімавіч (1398 і 1410 гг.) —

маршалак дворны за часоў вялікага князя Вітаўта; баярын і вялікакняжы намесьнік у Полацку Мантыгерд (1396 г.); баярын і вялікакняжы намесьнік у Коўні Сунегайла (1410 г.)[18]. Захавалася яшчэ пячатка Вітаўтавага брата князя Жыгімонта з выявай Пагоні й надпісам вакол яе: "Печать Князя Жикгимонта". Гэтай пячаткай Жыгімонт змацоўваў сваю грамату для касьцёлу ў Геранёнах ад 11 лістапада 1411 г.[19] У той грамаце, таксама напісанай на лацінскай мове, былі ўжытыя наступныя тэрміны: "pullam mellis, que vulgariter dicitur *szesczipanthne pudlo*", "unum lapidem cere vulgariter dicitur *pud vosku*", "pullam mellis quinque palmorum vulgariter dicitur *panczipanthne pudlo*".

"Пуд воску" — зразумелы моўны выраз, а "пудла мёду" магло быць вытворным тэрмінам ад пуда, пудоўні ці пундзеля[20], бо й лацінскі выраз "pullam mellis" азначаў вымярэньне мёду на пуды: "duodecem pullas alias *pudow* mellis". Славянскімі мэтрычнымі адзінкамі былі таксама *чатырохпяднае* лукно або бочка, *пяціпяднае* лукно або бочка і *шасьціпяднае* лукно або бочка[21]. Прыметнік *пядны* ўтварыўся ад назоўніка *пядзя*, што было старой мерай даўжыні.

У князя Кестута Гедзімінавіча быў яшчэ сын Патрык або Патрыкій. Ён княжыў у Горадні. Пра яго й расказаў гэткі эпізод у сваёй "Прускай хроніцы" Віганд з Марбургу. Вялікі маршалак Прускага Тэўтонскага ордэну Генінг Шындэкопф зарганізаваў у 1364 г. напад на Гарадзенскую зямлю й самую Горадню, рабуючы й зьнішчаючы ўсё на сваім шляху. Князь Патрык уступіў у перамовы з маршалкам, выйшаў з сваёй жонкай і дзецьмі насустрач яму й запрапанаваў маршалку напітак зь мёду, пры гэтым выпіваючы першую чару сам. Як занатаваў Віганд, зрабіў гэта князь Патрыкій "паводле звычаю русінаў". Гэты ўчынак сына не спадабаўся Кестуту, і на другі год ён перавёў Патрыка далей "у Рускую зямлю"[22].

Як мы ўбачым далей, увогуле ў сваёй хроніцы Віганд з Марбургу часта не адрозьніваў "ліцьвіноў" ад "русінаў" і, напрыклад, Вільню таксама называў "рускім горадам"[23].

Захавалася пячатка вялікага князя Ягайлы, якою ён карыстаўся перад тым, як стаў каралём Польшчы. Пячатка мела выяву Пагоні, але з надпісам вакол Пагоні на лацінскай мове: "Jagal dey gracia rex in Lettov". Аднак жа вядома, што ў канцылярыі вялікага князя Ягайлы акты пісаліся на старабеларускай мове. Мы ўжо прыгадвалі кнігу "Уладыслаў II Ягайла", аўтары якой Я.Кшыжанякова й Е.Ахманьскі

пішуць, як на пачатку свайго гаспадараньня ў Польшчы Ягайла наведаўся ў Познань, дзе ўзяў удзел у набажэнстве. Паводле паданьня, занатаванага ў крыніцах, у караля запыталіся, чаму ён пажадаў Богу паставіць сьвечку, а д'яблу два агаркі. Ужываючы "рускую" прымаўку, Ягайла быццам адказаў на гэта: "Служы Богу, а д'ябла не гняві!"[24]

У 1420 г. пасьлядоўнікі Яна Гуса вырашылі запрапанаваць карону Чэхіі якраз Уладыславу Ягайлу й выслалі да яго адмысловае пасольства. Апрача іншых рэформаў у царкве, гусіты, як вядома, абаранялі таксама права свайго народу ў набажэнствах карыстацца роднай мовай. Дык у пасольскай інструкцыі была гаворка пра небясьпеку для славянскіх краінаў і славянскіх моваў нямецкага засільля, а зьвяртаючыся да Ягайлы, чэскія паслы характарызавалі яго як "прыроджанага прыхільніка" чэскай мовы й абаронцу славянскіх моваў увогуле[25].

Пад ціскам польскіх царкоўных герархаў Ягайла адмовіўся пайсьці насустрач чэхам, што, аднак, у згодзе зь ім зрабіў вялікі князь Вітаўт, неўзабаве накіраваўшы ў Чэхію ў якасьці свайго намесьніка князя Жыгімонта Карыбутавіча.

Польскі гісторык Ян Длугаш недалюбліваў Ягайлу. Але й ён пахваліў учынак Ягайлы, які з сваёй жонкай каралевай Ядвігай адважыўся заснаваць у Польшчы чыста славянскі манастыр. Гэта быў манастыр манахаў-бэнэдыктынцаў пад Кракавам, заснаваны ў 1390 г. на ўзор манастыра, што дасюль існаваў у Празе. І першыя манахі для манастыра Сьв. Бэнэдыкта каля Кракаву былі запрошаныя з Прагі. Длугаш з захапленьнем паведамляе, што ў тым, паводле яго, "славянскім манастыры" над ракой Рудавай усе абрады спраўляліся на славянскай мове: набажэнствы й малебны, тайныя прычасьці, чытаньне царкоўных кнігаў і царкоўныя сьпевы. Яшчэ Длугаш пісаў, што гэта было жаданьнем Бога ўшанаваць гэткім чынам годнасьць славянскай мовы ў царкоўным жыцьці[26], бо звычайна ў тагачасных польскіх касьцёлах панавала лаціна.

Напэўна, у той "славянскі манастыр" і ў царкву, якая існавала пры ім, неаднойчы наведваўся й сам Ягайла.

Дарэчы, прыгадваныя польскія аўтары Я.Кшыжанякова й Е.Ахманьскі назвалі шмат капліцаў у касьцёлах і замках Польшчы, што на жаданьне Ягайлы былі аздобленыя фрэскамі ў стылі, які яны называюць "бізантыйска-рускім".

## "Памылка" Энэя Сільвія Пікаляміні

Калісьці польскі гісторык Ян Фіялэк зрабіў закід вядомаму італійскаму гуманісту Энэю Сільвію Пікаляміні, што той фальшаваў рэчаіснасьць, калі пра Літву пісаў як пра славянскую краіну й мову ліцьвіноў залічаў да моваў славянскіх народаў. Маўляў, Пікаляміні толькі здалёку мог пачуць пра Літву, і ў гэтым кантэксьце Фіялэк прыгадаў паляка Эразма Цёлка[27], які ў якасьці сакратара вялікага князя Аляксандра ў 1501 г. наведаўся ў Рым і там — у Ватыкане — абвесьціў, што ліцьвіны захоўваюць уласную мову, але звычайна карыстаюцца мовай русінаў, бо яна больш зграбная й лёгкая для ўжытку. Да гэтага адкрыцьця Эразма Цёлка мы вернемся пазьней. Што да канцэпцыі Яна Фіялка, дык ён быў упэўнены ў тым, што Пікаляміні, гаворачы пра мову ліцьвіноў як мову славянскую, меў на ўвазе моўную сытуацыю ў Вялікім Княстве і канкрэтна ў Літве, якую ў Рыме намаляваў прыгаданы Эразм Цёлак. Інакш кажучы, італійскі гуманіст зыходзіў толькі з факту моўнай асыміляцыі тагачасных летувісаў.

У згодзе з паведамленьнем Пікаляміні Фіялэк зьвярнуў увагу на асобу доктара й прафэсара тэалёгіі Гераніма з Прагі. Гэта ня той Геранім з Прагі, які быў толькі магістрам тэалёгіі, належаў да пасьлядоўнікаў Яна Гуса і ў 1416 г. быў спалены на вогнішчы ў Канстанцы. Той "ерэтык"-гусіт у 1413 г. праз Кракаў прыехаў у Княства, дзе ў сьвіце вялікага князя Вітаўта наведаў таксама Віцебск і Полацак. Тое ягонае наведаньне, дыспуты ў праваслаўных цэрквах і выказваньне сымпатыяў да "праваслаўнай веры" таксама былі адным з пунктаў абвінавачаньня на Канстанцкім царкоўным саборы ў сьмяротнай "ерасі"[28].

Іншы Ян Геранім з Прагі быў заўзятым прапаведнікам хрысьціянства й каталіцтва ў прыватнасьці. Як меркаваў Фіялэк, зьявіўся ён у Кракаве блізу 1394 г., дзе пры каралеўскім двары стаў асабістым прапаведнікам і спавядальнікам Уладыслава Ягайлы. Адсюль празь нейкі час ён трапіў у Княства, каб тут, магчыма, на жаданьне Вітаўта, узяць удзел у хрысьціянізацыі яшчэ паганскага насельніцтва. Можна дадаць, звычайнага насельніцтва, бо баярскія сем'і былі ахрышчаныя раней. Як занатаваў у сваім трактаце Пікаляміні[29], гэты Геранім з Прагі нагэтулькі "шчыра" ўзяўся за справу хрышчэньня ліцьвіноў ды пачаў, напрыклад, выпальваць "сьвятыя лясы", што вялікі князь Вітаўт, палохаючыся абурэньня ў на-

родзе, змушаны быў папрасіць тэоляга пакінуць межы краіны.

Ян Фіялэк выказаў абгрунтаваную думку, што Ян Геранім з Прагі ў сваёй місіянэрскай дзейнасьці ў Літве мог карыстацца толькі славянскай ці "рускай" мовай або той мовай, якую ён ужываў у споведзях і ў магчымых гутарках на рэлігійныя тэмы з каралём Уладыславам Ягайлам. Дарэчы, у тым часе, калі Ян Геранім з Прагі знаходзіўся ў ВКЛ, справа хрышчэньня тычылася толькі ліцьвіноў, а не жамойтаў. Жамойць як "невялікую краіну" Пікаляміні прыгадваў у іншых сваіх трактатах, прысьвечаных Прусіі й Лівоніі. Зьмяшчаў ён яе паміж Лівоніяй і Прусіяй бліжэй узьбярэжжа Балтыйскага мора, а жамойтаў называў "масагетамі"[30].

Італійскі гуманіст Энэй Сільвій Пікаляміні нарадзіўся ў 1405 г. Ад 1458 да 1464 г. гэта Папа Пій II. Пікаляміні пакінуў пасьля сябе шмат трактатаў, напісаў у тым ліку "Гісторыю Аўстрыі" й "Гісторыю Чэхіі". Меў таксама трактаты, прысьвечаныя Польшчы й Маскові. З Геранімам з Прагі ён пазнаёміўся пад час Базэльскага царкоўнага сабору, які зь перапынкамі працягваў сваю працу ад 1432 да 1439 г. Але што датычыла Літвы, Ян Геранім з Прагі, які знаходзіўся тады ў манастыры над Рэйнам, ня мог быць адзіным інфарматарам для італійскага гуманіста. Япіскап, а пазьней кардынал Энэй Сільвій быў знаёмы з кардыналам Ізідарам — былым нашым праваслаўным, а затым вуніяцкім мітрапалітам, які ад імя Вялікага Княства ў 1439 г. падпісаў акты вядомай Флярэнцкай царкоўнай вуніі. Калі ў 1454 г. пачалася чарговая вайна паміж Польшчай і крыжакамі Прусіі, Энэй Сільвій у якасьці легата Ватыкану браў удзел у спробах неяк замірыць праціўнікаў. А ў 1457 г. ён стаўся яшчэ япіскапам прускай зямлі Варміі.

Такім чынам, Фіялэк ня меў слушнасьці, мяркуючы, нібы пра Літву й Вялікае Княства Пікаляміні мог пачуць толькі здалёку. Дарэчы, будучы ўжо кіраўніком Ватыкану, Папа Пій II мог мець і напэўна меў беспасярэднія кантакты зь Вільняй.

Дык вось што пісаў пра Літву Пікаляміні:

"Літва з сваімі шырокімі прасторамі мяжуе з Польшчай ад усходу. Краіна багатая на балоты й лясістая... У Ліцьвіноў рэдкія гарады, няшмат таксама й вёсак. Асноўнае багацьце народу — скуры зьвяроў, якіх у нашым часе называюць сабалямі й гарнастаямі... Шмат у іх воску й мёду, што даюць дзікія пчолы ў лясах. Віно ўжываюць рэдка, а хлеб у іх чорны. Прадукты харчаваньня дае гадоўля свойскай

жывёлы, а таму насельнікі спажываюць шмат малака. *Мова народу славянская.* Яна вельмі разьлеглая й падзеленая на розныя адгалінаваньні. Сярод славянаў адныя належаць да Рымскае царквы, як Далматы, Харваты, Карнійцы й Палякі. Іншыя трымаюцца памылак Грэкаў, як Баўгары, Русіны і многа зь Ліцьвіноў. Зноў жа іншыя выдумалі свае ўласныя ерасі, як Чэхі, Маравы й Басьнякі... Некаторыя дасюль яшчэ жывуць у сьлепаце паганскай, напрыклад, шматлікія зь Ліцьвіноў пакланяюцца ідалам. У нашым часе вялікая частка іх прымкнула да вучэньня Хрыста, калі Ўладыслаў (Ягайла), які паходзіў з гэтага народу, атрымаў карону Польшчы"[31].

Пра Літву як славянскую краіну пісалі таксама Гартман Шэдэль у "Сусьветнай хроніцы"[32], Ян Коклес у "Апісаньні Германіі"[33] і Ян Багемскі ў працы "Звычаі ўсіх народаў"[34]. Мову ліцьвіноў яны аднолькава залічалі да сям'і славянскіх моваў. Але гэтыя аўтары, уводзячы ў свае трактаты новыя моманты, усё ж пераклікаліся зь Пікаляміні.

## Пра "італійскае паходжаньне" ліцьвіноў

Невядомы сучасьнік Длугаша, які жыў, магчыма, у Гданьску, у 1464 г. зрабіў для польскага гісторыка недасканалыя пераклады на лацінскую мову рыфмаваных хронікаў МікалаяЯрошына й Віганда з Марбургу, што былі напісаныя на старанямецкай мове. Паміж рукапісамі гэтых перакладаў захаваўся асобны трактат або кампіляцыя таго перакладніка пад назовам "Terra Pomerania quomodo subjecta est Ordini Fratrum Theutonicorum". Гаворачы пра славянскае паходжаньне памаранаў, невядомы аўтар гэтай кампіляцыі пісаў, што "мову памаранаў аднолькава могуць разумець палякі, русіны, ліцьвіны й прусы"[35]. Пад "прусамі", напэўна, тут разумелася польскае насельніцтва, якое ў тым часе пражывала ў нізавіне Віслы на ейным правым узьбярэжжы. Дарэчы, грунтуючыся на архіўных матэрыялах, нямецкі гісторык XVII ст. Хрыстаф Гарткнох даказваў, што мова старажытных прусаў была славянізаваная, збліжалася з мовамі ліцьвіноў, палякаў і рускіх[36].

У дачыненьні да аўтараў хронікаў XVI ст. абмяжуемся агульнымі заўвагамі. Бо, напрыклад, польскія храністы Мацей зь Мехава[37] й Марцін Кромэр[38] свае канцэпцыі чэрпалі ў асноўным з працаў Длугаша. Мацей Стрыйкоўскі, які сваю "Кроніку польскую, літоўскую, жмудзкую і ўсёй Русі" апублікаваў у 1582 г. у Каралеўцы[39], увогуле быў фантазёрам і кампілятарам. Усьлед за Длугашам і фантазіямі та-

гачасных беларускіх летапісаў паходжаньне ліцьвіноў і жамойтаў ён выводзіў ад італійцаў, называючы і мітычных князёў накшталт Палемона ці Лібона, пісаў, што продкамі ліцьвіноў і жамойтаў былі і аланы, і кімбры, і гепіды, і готы або нават і печанегі[40].

Гэтак і хочацца прыгадаць "Аналы" польскага палітыка й публіцыста Станіслава Ажэхоўскага, якія ён апублікаваў у 1554 г. і прысьвяціў Жыгімонту Аўгусту. Паходжаньне славянаў Ажэхоўскі выводзіў ад ваяўнічых македонцаў часоў Аляксандра Македонскага. Даказваў, што палякі, хоць яны й былі "славянскай нацыяй", належалі да "народу грэкаў". Пісаў, нарэшце, што Польшча была "пупам і цьветам усяго славянства"[41].

Падобныя былі таксама канцэпцыі М.Стрыйкоўскага. Дарэчы, у адных мясьцінах свае хронікі Стрыйкоўскі радніў ліцьвіноў з жамойтамі, а ў іншых адрозьніваў іх як асобныя народы. Апісваючы, напрыклад, якім чынам у кантактах зь іншымі народамі славяне страчвалі свае звычаі й мову, а таксама паведамляючы ў іншай мясьціне, да якога веравызнаньня ("грэцкага" ці "рымскага") належалі асобныя славянскія народы, М.Стрыйкоўскі *залічаў ліцьвіноў* проста *да сям'і славянскіх народаў*[42].

Міхалён Літвін (ён жа Міхал Тышкевіч), які ганарыўся сваёй *"Харобрай Літвой"* і свае "гістарычныя фрагмэнты" напісаў дзесьці неўзабаве пасьля 1555 г., быў больш канкрэтны й проста пісаў, што, маўляў, "мы, Ліцьвіны, паходзім ад Італійцаў і ў нашых жылах цячэ італійская кроў. Маем ці мелі рымскія звычаі й абрады, маем уласную, напалову лацінскую, мову, што адрозьніваецца ад русінскай мовы"[43].

Міхалён Літвін дакладна ведаў, у якім часе рымскія каляністы або ваяры апынуліся на ўсходнім узьбярэжжы Балтыйскага мора, у Жамойцi, — яшчэ за часоў рымскага імпэратара Гая Юлія Цэзара Актавіяна (Аўгуста), калі рымская флятылія, якая накіроўвалася ў Брытанію, была адкінутая штормам у Балтыйскае мора[44]. Ён проста паўтараў аргумэнты польскіх храністаў Я.Длугаша, М.Мяхоўскага й М.Кромэра наконт таго, напрыклад, што мова ліцьвіноў была "напалову лацінскай". Гэта датычыла й так званых "рымскіх звычаяў і абрадаў".

Зацытаваны моўны выраз "Харобрая Літва" Міхалён Літвін тут жа перадаў у лацінскім перакладзе: "ferox Lituania".

Мусіць, магнаты Радзівілы, напрыклад, пачувалі сябе ня мен-

шымі патрыётамі свае краіны, чым Міхал Тышкевіч. Але вось як характарызаваў Радзівілаў Сымон Будны — таксама "ліцьвін". З даручэньня й на кошт тагачаснага канцлера Вялікага Княства і віленскага ваяводы Мікалая Радзівіла Чорнага ў 1562 г. Сымон Будны выдаў у Нясьвіжы свой "Катэхізіс", створаны ім "для простых людей языка руского". У прадмове-прысьвячэньні кнігі князям Радзівілам Сымон Будны пісаў: "К тому тежь и для того, абы ся ваши княжацские милости не только в чужоземскихъ языцехъ кохали, але бы ся тежь ваши Княжацские милости *и того здавна славного языка словенъского розмиловати и онымъ ся бавити рачили.* Слушная бо речь естъ, абы ваши Княжацские милости *того народу язык миловати рачили, въ которомъ давъные предъки и ихъ Княжацъские милости панове отци вашихъ Княжецскихъ милости славне преднейшие преложеньства несуть*"[45].

Звернемся тут да хронікі Тамаша Гіерна, бо адным зь першых гэты аўтар слушна крытыкаваў прыгадваныя канцэпцыі наконт "італійскага" або "рымскага" паходжаньня ліцьвіноў, жамойтаў і латышоў. Швэд Гіерн быў урадоўцам у той частцы Лівоніі, якая знаходзілася пад уладай Швэцыі. Сваю хроніку, якая не выдавалася пры жыцьці аўтара, ён напісаў дзесьці пасьля 1649 г., бо карыстаўся працамі, выданьне якіх пазначалася гэтым годам. Аўтар быў знаёмы з творамі Я.Длугаша, М.Мяхоўскага, М.Кромэра, М.Літвіна, А.Гваніні, Я.Ласіцкага, але не прыгадваў М.Стрыйкоўскага.

Тамаш Гіерн саркастычна пісаў, што несур'ёзна рабіць высновы пра паходжаньне гэтых народаў ці плямёнаў, грунтуючыся на некалькіх словах-тэрмінах, гучаньне або сэнс якіх нечым нагадваюць мову лацінскую. У народных мовах латышоў, жамойтаў, старажытных прусаў або ліцьвіноў таксама можна адшукаць шмат сьлядоў і мовы славянскай, і моваў швэдаў і фінаў. Такім чынам, паводле паходжаньня іх аднолькава можна было б залічыць да швэдаў або фінаў, русінаў ці палякаў.

Што да "рымскіх звычаяў і абрадаў", дык, як адзначыў Гіерн, такія паганскія звычаі й абрады, як спальваньне трупаў памерлых, ушанаваньне сьвятасьці лясоў і зьмеяў, варажба й прадказаньні (пры назіраньні за палётам птушак), былі, да прыкладу, ня толькі ў кельтаў, але таксама ў швэдаў і готаў[46].

Спасылаючыся на трактат Яна Ласіцкага (трактат пісаўся пасьля 1582 г.), які апісаў паганскіх багоў Жамойці, Гіерн зацытаваў вы-

трымку, у якой апавядалася пра іншую вэрсію “рымскага” паходжаньня жамойтаў. Паводле гэтай вэрсіі, жамойты паходзілі ад тых рымлянаў або італікаў, якія за часоў рымскага імпэратара Нэрона за нейкую правіну былі сасланыя на пустынны востраў Гіярас у Эгейскім моры.

Імпэратар рыхтаваўся да ваеннага паходу, а таму меўся ўключыць у свае легіёны й гэтых выгнанцаў. Тры разы ён пасылаў да іх сваіх эмісараў і караблі. Выгнанцы нарэшце згадзіліся ўзыйсьці на гэтыя караблі, але тут жа перабілі Нэронавых эмісараў, захапілі караблі й паплылі ў адваротным кірунку — у Чорнае мора. Адсюль, зь берагоў Чорнага мора, і пачалася эпапэя вандроўкі тых італікаў-жамойтаў на поўнач да берагоў Балтыйскага мора. Як доўга працягвалася гэтая эпапэя? Паданьне, якое, паводле Ласіцкага, пераказвалася ў Жамойці старымі людзьмі, казала, што тыя “італікі-выгнанцы” праходзілі праз дрымучыя лясы, дзе калісь былі паляўнічыя ўгодзьдзі рымлянаў. Цяпер гэтыя лясы амаль усе высечаныя, і “там атрымалі свае назовы Русь, Падольле й Літва”. Продкі ж жамойтаў дасягнулі ўзьбярэжжа Балтыйскага мора, якое “русіны называюць Варажскім”[47].

Іншы польскі храніст Станіслаў Сарніцкі, які свае “Аналы” апублікаваў у 1587 г., прыгадаў яшчэ трэцюю вэрсію. Паводле яе, гэта італікі-каляністы, якія жылі ў вусьці Дунаю, з сваім правадыром Лібонам прыйшлі ў Літву праз Валахію[48].

Можна яшчэ дадаць, што Аляксандар Гваніні, грунтуючыся на канцэпцыях Я.Длугаша і М.Мяхоўскага, а таксама на трактатах нямецкага аўтара Эразма Стэлы[49], “рымскае паходжаньне” прыпісваў толькі шляхце й магнатам Вялікага Княства Літоўскага. Продкамі ж звычайных ліцьвіноў, простага народу былі, паводле яго, готы[50]. Прыгадваны Эразм Стэла атаясамліваў старажытных прусаў з гэтымі готамі, паходжаньне ліцьвіноў высноўваў ад іранскага племя аланаў, якіх ён таксама радніў з готамі[51]. Што ж датычыць А.Гваніні, які сваю “Хроніку Эўрапейскай Сармацыі” напісаў на лацінскай мове й выдаў у 1578 г., дык ён сьцьвярджаў яшчэ, што “...усе іншыя найбольшыя й найхрабрэйшыя народы ўсходніх і паўночных краінаў, якія ўжываюць славянскую мову, ёсьць Баўгары, Басьнякі, Сэрбы,... *Ліцьвіны*, што пануюць размашыста, Кашубы... Чэхі, Палякі, Мазуры... Ва ўсіх гэтых краінах, ад Ледавітага акіяну... да Міжземнага й Адрыятычнага мораў, жывуць народы *славянскай*

*мовы*... Хоць многія зь іх свой бацькоўскі спосаб жыцьця зьмянілі на звычаі іншых народаў. Гэтак Басьнякі, Баўгары, Сэрбы, Рацы і Далматы пераналі звычаі Туркаў і Вугорцаў... *Ліцьвіны*, Русіны й Мазуры зблізіліся з Палякамі... Па-за гэтым, аднак, усе яны, хоць расьсяліліся сярод іншых народаў, гутараць, асабліва ў вёсках, на сваёй роднай, хай сабе адметнай, *славянскай мове*"[52].

Італіец з паходжаньня А.Гваніні ў часе напісаньня хронікі ў якасьці чужаземнага найміта ўзначальваў гарнізон у Віцебску.

Тамаш Гіерн у першай кнізе сваёй хронікі пісаў, што латыскія плямёны латгалы, зэмгалы й куршы, старажытныя прусы, а таксама ліцьвіны, жамойты й яцьвягі паходзілі ад аднаго кораня. Яны былі адным народам і мелі адну мову[53]. У гэтым разе доказам для швэдзкага храніста былі адпаведныя выказваньні М.Мяхоўскага, М.Кромэра, А.Гваніні й М.Літвіна, якіх ён цытаваў. Далей, аднак, Гіерн адзначыў, што "народ можа складацца з шматлікіх нацыяў"[54], і павёў гаворку пра групу заходнеславянскіх плямёнаў вялетаў-вільцаў-люцічаў[55], якую ён працягнуў таксама ў другой кнізе свае хронікі[56]. Крыніцай для яго была тут у асноўным хроніка Філіпа Мэлянхтана — нямецкага рэфарматара й паплечніка Марціна Лютэра.

Падкрэсьлім, што сваю канцэпцыю пра этнічную роднасьць латышоў і ліцьвіноў зь люцічамі Гіерн не разьвіў і пакінуў яе адкрытай. Ён пісаў, што вільцы-люцічы й латышы калісьці былі адным народам. Паводле Гіерна, пасьля таго як народы мовы, роднаснай для ліцьвіноў і латышоў, з Дакіі ці Валахіі перасяліліся на поўнач, у рэгіён паміж Лабай і Одрай, там яны пачалі называцца люцічамі, або вільцамі. У сувязі з гэтым ён паспрабаваў даказаць, што латгалы раней называліся *радарамі*. Радары — найбольшы этнічны кампанэнт аб'яднаньня плямёнаў вільцаў-люцічаў, сьляды якіх засталіся ў Беларусі ў назовах такіх паселішчаў, як Радагошч. Таксама там, дзе жылі латгалы, было паселішча Люцын. Дарэчы, латгалы жылі ўперамешку са славянамі й былі славянізаваныя.

Філіп Мэлянхтан[57] пасяляў продкаў ліцьвіноў, латышоў і прусаў на тэрыторыі колішняй Дакіі або пазьнейшых Валахіі й Малдавіі — паміж рэкамі Днястром і Дунаем, дзе побач зь імі жылі валахі й сарматы. Але гэта таксама чыстыя домыслы. Таму важней адзначыць, што Літву, Вялікае Княства Ф.Мэлянхтан залічваў да славянскіх краінаў. У першай кнізе свае хронікі ён пісаў пра *вэнэдаў* і тлумачыў, што пад вэнэдамі разумеў усе тыя народы, якія карысталіся славян-

скай мовай, а дакладней, якія "гутараць на польскай мове". Але тут жа ўдакладняў, што вэнэды мелі агульную мову, якая магла адрозьнівацца асаблівасьцямі маўленьня ў залежнасьці ад мясьцінаў, дзе яны расьсяліліся. У пераліку краінаў, дзе жылі вэнэды, Ф.Мэлянхтан вылучыў Русь, Літву й Польшчу[58].

Дадамо, што ў чацьвертай кнізе свае хронікі Ф.Мэлянхтан адрозьніваў ліцьвіноў і жамойтаў. Ён робіць высновы пра этнічнае паходжаньне жамойтаў, якіх ён памяшчаў побач з куршамі, судавамі й ліцьвінамі, ад ілірыйска-фракійскага племя гетаў[59]. Далей Ф.Мэлянхтан расказаў гісторыю, як калісьці жамойты, паводле яго — Samogeti, пасоўваючыся па сьлядах готаў, апынуліся на Балканах і там доўгі час трывожылі бізантыйскіх імпэратараў.

Нагадаем, што ў лацінскай транскрыпцыі, а таксама ў актах Княства, пісаных на лацінскай мове, жамойты й Жамойць таксама называліся "gens Samagitarum", "Samagitia" ці "Samogitia".

Вернемся яшчэ да Яна Длугаша, якога можна назваць бацькам тэорыі гэтак званага "рымскага" паходжаньня ліцьвіноў і жамойтаў. Праўда, ён ня быў арыгіналам, бо карыстаўся "Хронікай Прускай зямлі" Пётры Дузбурга.

Пётра Дузбург пісаў сваю хроніку за часоў вялікага князя Гедзіміна й закончыў яе ў 1326 г. Ён апісаў асобныя землі Прусіі й паганскіх багоў старажытных прусаў. Прыгадаў таксама культ паганскага сьвятара Крывэ-Крывэйта й абрадавы цэнтр гэтага культу Ромаў. Паводле крыжацкага храніста, усё гэта было запазычана ад Рыму. Пётра Дузбург пісаў, што культ і ўлада прускага "папы Крывэ" распаўсюджваліся ня толькі ў Прусіі, але й сярод ліцьвіноў і народаў Лівоніі[60].

Інакш кажучы, падмурак для канцэпцыі пра "рымскае" паходжаньне старажытных прусаў, ліцьвіноў і латышоў быў закладзены ўжо Пётрам Дузбургам.

Вось што пісаў Ян Длугаш у другой кнізе сваіх хронікаў: "Прусы мелі ўласную мову, часткова зродненую з лацінскай, а крыху падобную да літоўскай, і бадай тых сама багоў, абрады і ўрачыстасьці. Мелі аднаго найвышэйшага сьвятара зь сядзібай у Ромаве, названай ад Рыму. Ягоныя наказы ўсе змушаныя былі паслухмяна выконваць пад пагрозай сьмяротнай кары. У іхнай мове называўся ён Крывэ. Прусаў, Ліцьвіноў і Жамойтаў аб'ядноўвала супольнасьць тых сама звычаяў, мовы й паходжаньня. У часе разгулу міжусобных войнаў у Італіі паміж Цэзарам і Пампеем яны, пакінуўшы старыя мясьціны,

перасяліліся ў надморскі край, які цяпер засяляюць. Сялібы свае заснавалі сярод пушчаў і пустэчаў, абароненых рэчкамі, азёрамі й балотамі. Таксама на ўзор Рыму заснавалі галоўны горад Ромаў і там пасялілі свайго найвышэйшага святара. Хоць гэтыя народы адрозьніваюцца ў вымаўленьні словаў, напрыклад, як Палякі, Чэхі й Русіны, але шмат у чым збліжаюцца між сабою.

Не ўважаю іх за выхадцаў з аднаго кораня й аднае моўнае сям'і. Наадварот, паходжаньне Прусаў іншае, чымся Ліцьвіноў і Жамойтаў. Прусіяс, кароль Бітыніі, у якога пасьля паразы ў вайне з Рымлянамі і ўцёкаў знайшоў прытулак пуніцкі палкаводзец Ганібал, на параду гэтага Ганібала цішком распачаў вайну супраць Рымлянаў... Будучы разьбітым і пераможаным, Прусіяс, уцякаючы ад Рымлянаў, прыбыў са сваім бітынскім народам на паўночнае ўзьбярэжжа (Балтыйскае мора) і назваў яго (бітынскі народ) сваім уласным імем — Прусамі"[61].

Сапраўды, такі кароль малаазіяцкай Бітыніі быў у рэальнасьці — Прусіяс (Prousias, Prusias) II (192—148 гг. да нашай эры). Да яго і была просьба з Рыму пазбавіцца ад прытуленага Ганібала шляхам забойства. У сувязі з гэтым былы пуніцкі палкаводзец Ганібал прыняў атруту і памёр у 183 г. да нашай эры.

Длугаш дадаваў, што тыя прусы, якія захавалі сваю старую мову, "добра разумелі" мову грэкаў.

Як бачым, Ян Длугаш далей разьвіў вымысел Пётры Дузбурга, але й сам быў супярэчлівы, што вынікае хоць бы з гэтай ягонай "разгубленасьці" ў пошуках продкаў старажытных прусаў, ліцьвіноў і жамойтаў.

Да праблемы паходжаньня ліцьвіноў і жамойтаў Длугаш вярнуўся ў дзесятай кнізе сваіх хронікаў, прысьвяціўшы ёй два вялікія разьдзелы. Але цяпер ён адзначыў, што пра іхнае паходжаньне мала што вядома, бо ніводзін аўтар не пакінуў зьвестак, калі й якім шляхам ліцьвіны й жамойты прыйшлі ў паўночныя мясьціны. Аднак, зыходзячы з таго, быццам мова "літоўскага і жамойцкага народу" захавала асаблівасьці лацінскай мовы, Длугаш выказаў упэўненае дапушчэньне, што ліцьвіны й жамойты паходзілі ад рымлянаў. Паводле Длугаша, яны пакінулі Італію за часоў рымскага імпэратара Аўгуста Актавіяна (у 714 г. пасьля заснаваньня Рыму) і на новым месцы пасяленьня назваліся "Літаламі", краіна таксама пачала называцца "Літалія". Зьмены на "Літву" й "Ліцьвіноў" адбыліся пад уплывам

суседніх народаў — палякаў і русінаў. Тыя італійскія прышэльцы мелі князя Вілія, адкуль і назвалася Вільня. Жамойць атрымала свой назоў ад "зямлі, якая ляжала ніжэй". Былая *лацінская* мова гэтых прышэльцаў пад уплывам шчыльных кантактаў з суседнімі народамі "*набыла асаблівасьці славянскай мовы*"[62].

Апошняе датычыла, напэўна, ліцьвіноў. Мы ўжо казалі, што, апісваючы эпізоды хрышчэньня ліцьвіноў і жамойтаў, Длугаш сьцьвярджаў: пры хрышчэньні ліцьвіноў польскія сьвятары ня мелі патрэбы ў перакладніках, якія спатрэбіліся ім пры хрышчэньні жамойтаў.

Дарэчы, Длугаш пакінуў яшчэ гэткую неспадзеўку. У адзінаццатай кнізе сваіх хронікаў ён прыгадаў першага каталіцкага япіскапа для Жамойці: "На першага япіскапа катэдры ў Медніках быў высьвячаны Мацей, з паходжаньня Немец, які, аднак, нарадзіўся ў Вільні. Ён добра ведаў мовы літоўскую й жамойцкую"[63].

## Ліцьвіны й жамойты

У афіцыйным акце вялікага князя Вітаўта аб заснаваньні Медніцкай каталіцкай япархіі япіскап Мацей характарызаваўся як чыстакроўны ліцьвін: "...ad quem venerabilem virum magistrum Mathiam origine Lytwanum, praepositum Wilnensem ydoneum et discretum postulamus..."[64]

Такім чынам, Длугаш змушаны быў прызнаць, што йснавалі дзьве мовы: "мова літоўская" й "мова жамойцкая". Хоць адасабленьне мовы ліцьвіноў ён бачыў як вынік моўнай асыміляцыі: "лацінская мова ліцьвіноў пад уплывам шчыльных кантактаў з суседнімі народамі набыла асаблівасьці славянскай мовы". Пра тое, што "ліцьвіны былі славянізаваныя" або "славянізуюцца", пісаў таксама іншы польскі храніст Мацей Мяхоўскі ў сваім "Апісаньні сарматаў азіяцкіх і эўрапейскіх".

Нам могуць запярэчыць, маўляў, ёсьць яшчэ афіцыйны дакумэнт — пасланьне вялікага князя Вітаўта імпэратару Сьвятой Рымскай імпэрыі Жыгімонту Люксэмбурскаму. Тое пасланьне ад 11 сакавіка 1420 г. датычыла якраз праблемы Жамойці, і зь ягонага кантэксту вынікае, што ліцьвіны й жамойты радніліся этнічна й моўна: "Вы выказаліся й прынялі пастанову наконт зямлі Жамойтаў, якая ёсьць нашай спадчынай і ўласнасьцяй як законная спадчына ад прадзедаў і дзядоў нашых, якою валодаем і цяпер ды якая ёсьць і

заўсёды была адзінай зь зямлёю Літвы, бо ж адна тая самая гаворка й тыя самыя людзі. Але дзеля таго, што зямля Жамойтаў ёсьць зямля ніжэйшая ў параўнаньні зь зямлёю Літвы, дык называецца Жамойцяй, што ў літоўскай мове перакладаецца як зямля ніжэйшая. Жамойты, папраўдзе, Літву называюць Аўкштотай, што значыць зямля вышэйшая ў параўнаньні зь зямлёй Жамойтаў. Насельнікі Жамойці ад даўнейшых часоў называюць сябе Ліцьвінамі і ніколі — Жамойтамі. З прычыны гэткай ідэнтычнасьці ў нашым тытуле мы ня згадваем Жамойць, бо ўсё належыць да аднаго: зямля адна і людзі адны"[65].

Перад тым як запярэчыць гэтым сьцьверджаньням Вітаўта, варта зьвярнуць увагу на той факт, як было цяжка вялікаму князю юрыдычна даказаць сваё спадчыннае права на Жамойць. Варта таксама прыгадаць тыя палітычныя ўмовы, якія спрычыніліся да напісаньня Вітаўтам гэтага пасланьня й прадыктавалі ягоны своеасаблівы зьмест.

У міжусобным змаганьні за ўладу ў Княстве яшчэ вялікі князь Ягайла адмовіўся ад Жамойці на карысьць Тэўтонскага ордэну. Адпаведнае пагадненьне з крыжакамі было аформленае 31 кастрычніка 1382 г. Паводле яго Жамойць перадавалася Прускаму й Лівонскаму ордэнам па раку Дубісу. Праўда, Ягайла марудзіў змацаваць тое пагадненьне сваёй пячаткай, а таму крыжакі ўхапіліся за князя Вітаўта, які пайшоў далей, чымся Ягайла. Уласнае пагадненьне з крыжакамі князь Вітаўт падпісаў 31 студзеня 1384 г., і цяпер мяжою станавілася рака Нявяжа. Прускі й Лівонскі ордэны атрымлівалі ўсю Жамойць, а таксама некаторыя землі ўласна Літвы, што ляжалі на правым беразе Нявяжы й вышэй ейных вытокаў. Апрача таго, Прускаму ордэну перадаваліся пушчанскія масывы крыху далей на захад ад Нёмана, дзе ўперамешку зь іншымі перасяленцамі жылі рэшткі колішніх судаваў.

Князь Вітаўт гандляваў землямі Жамойці або трымаўся свайго ранейшага пагадненьня, калі ў 1390 г. другі раз апынуўся ў Прусіі. Але важнейшым зь юрыдычнага гледзішча было вядомае Салінскае пагадненьне, якім фактычна пацьвярджаліся ранейшыя тэрытарыяльныя ўступкі Вітаўта. Гэтае пагадненьне, якое звалася "вечным мірам", было падпісанае й змацаванае пячаткамі 12 кастрычніка 1398 г. на нёманскім востраве Саліне. Афармлялася яно пры ўрачыстых абставінах: прысутнічалі сам вялікі князь Вітаўт, вялікі

магістр Прускага й магістр Лівонскага ордэнаў, а таксама маршалкі, комтуры й браты-рыцары гэтых ордэнаў, а ў сьвіце Вітаўта — паны-радцы, князі й баяры-рыцары.

Нарэшце, у траўні 1404 г. у польскім горадзе Рацёнжу было аформленае чарговае мірнае пагадненьне з Прускім Тэўтонскім ордэнам. Паводле гэтага пагадненьня кароль Уладыслаў Ягайла на карысьць крыжакоў адрокся ад польскага Памор'я, а вялікі князь Вітаўт пацьвердзіў умовы прыгадванага Салінскага "вечнага міру". Жамойць зноў жа заставалася разьменнай манэтай.

Дарэчы, выдатная перамога 1410 г. у Грунвальдзкай бітве належным чынам не была выкарыстаная, што знайшло адлюстраваньне ў Торуньскім мірным пагадненьні 1411 г. Паводле гэтага пагадненьня Жамойць адыходзіла да Вялікага Княства толькі на час жыцьця вялікага князя Вітаўта або польскага караля Ўладыслава Ягайлы.

Гэткая была рэчаіснасьць. Падтрымліваючы палітычныя інтарэсы крыжакоў, ёю вельмі добра маніпуляваў прыгадваны рымскі імпэратар Жыгімонт Люксэмбурскі. У тых палітычных спрэчках яму былі даручаныя абавязкі вышэйшага арбітра. Як у 1412 г., так і ў студзені 1420 г. на арбітражным судзе ў сілескім горадзе Вроцлаве Жыгімонт Люксэмбурскі вынес прысуд на карысьць Тэўтонскага ордэну. Гэта датычыла й жамойцкай праблемы. Адсюль у адказ была вострая рэакцыя вялікага князя Вітаўта або ягоная згода падтрымаць рух гусітаў у Чэхіі. Было ягонае пасланьне Жыгімонту Люксэмбурскаму, вытрымку зь якога мы ўжо цытавалі.

Увогуле ад 1410 г. і да часу падпісаньня Мельніцкага пагадненьня ў 1422 г. адбывалася зацятае дыпляматычнае змаганьне, якое ў сваёй кнізе "Уладыслаў II Ягайла" грунтоўна апісалі Я.Кшыжанякова й Е.Ахманьскі. Прыгадалі яны таксама той факт, што, каб вярнуць Польшчы землі польскага Памор'я, польскім дыпляматам давялося выкарыстоўваць якраз этнічна-моўны фактар. За гэты фактар, відаць, ухапіўся й вялікі князь Вітаўт.

Аднак жа ў тым сваім пасланьні Вітаўт скардзіўся, што ягоныя пасланцы, якія прысутнічалі на арбітражным працэсе ў Вроцлаве, не маглі толкам растлумачыць, што такое Жамойць, і гэтым самым увялі імпэратара ў аблуду. Яны гаварылі перад судом, быццам існавала ажно "тры зямлі Жамойтаў", і тут Вітаўт яшчэ раз тлумачыў, што ёсьць толькі "адна зямля Жамойтаў" і "ў літоўскай мове" яна называецца "Жамойць" і значыць "зямля ніжэйшая". А польскія па-

сланцы яшчэ тлумачылі на тым працэсе, што “Жамойць... гучыць у літоўскай мове ніжэйшая Літва”[66].

Гэта па-першае. Па-другое, у тым сваім пасланьні Вітаўт скардзіўся, што імпэратар, насуперак разьвіцьцю падзеяў, перадаў крыжакам таксама зямлю судаваў. Тым часам гэтыя крыжакі, у абмен на Жамойць, выказалі згоду, што зямля гэтых судаваў можа адысьці да Літвы. І тут Вітаўт ужыў гэткую фармулёўку: “terra Sudorum sive Gettarum, qua mediat inter terram Lythwaniam et Prussiam”.

Судавы — гэта тыя ж яцьвягі. Яны належалі да групы заходнебалцкіх плямёнаў. А *“гетамі”* іх называў яшчэ польскі храніст Вінцэнт Кадлубэк. Чаму ж тады вялікі князь Вітаўт (або ягоныя сакратары) гэтых судаваў-яцьвягаў не залічыў да быццам “роднасных” ім ліцьвіноў, як гэта зрабіў ён у выпадку жамойтаў?

Па-трэцяе, вялікі князь Вітаўт няслушна сьцьвярджаў, што “Жамойты з даўнейшых часоў называлі сябе Ліцьвінамі і ніколі Жамойтамі”. Але ж такія акрэсьленьні, як “народ Жамойтаў” — “gens Samagitarum”, можна знайсьці, напрыклад, у пасланьнях самога Вітаўта й польскага караля Ўладыслава Ягайлы да валадароў (каралёў і князёў) краінаў Заходняй Эўропы. Тыя пасланьні былі датаваныя 9 верасьня 1409 г., і ў іх была гаворка пра злачынныя ўчынкі крыжакоў у Жамойці, а таксама ў дачыненьні да земляў Польшчы й Вялікага Княства[67]. Як мы ўбачым далей, гэткія акрэсьленьні (“народ Жамойтаў”) паўтараліся ў фундацыйных актах пры заснаваньні Медніцкай каталіцкай япархіі для Жамойці, а таксама ў дакумэнтацыі накont гэтай справы, якая ў 1417 г. высылалася на Канстанцкі царкоўны сабор. Можна прыгадаць яшчэ скаргу на крыжакоў жамойцкай дэлегацыі, якая пры канцы 1415 г. завітала на гэты сабор. Дык і ў гэтым выпадку жамойты трымаліся як асобны народ, хоць, праўда, маючы, напэўна, павучальнае настаўленьне ад Вітаўта, яны і паведамлялі, што стрыжнёва, “целам і касьцямі”, былі зродненыя з “народам Літоўскім”[68].

Па-чацьвертае, ня вельмі пераканальна гучаў аргумэнт вялікага князя Вітаўта, быццам ліцьвіны й жамойты былі народам *аднае мовы*. У тым сваім пасланьні побач з лацінскім назовам Жамойці й жамойтаў Вітаўт ужываў яшчэ тэрміналёгію: “Samoyth”, “terra Samaytarum”, “Szomoyth”, “Samoyte”. І вось чаму. Заснаваньне ў 1417 г. Медніцкай каталіцкай япархіі для Жамойці ўзгаднялася з пастановамі Канстанцкага царкоўнага сабору. Сабор даручыў гэ-

тую справу спэцыяльнай камісіі, якую ўзначальвалі львоўскі архіяпіскап Ян і віленскі япіскап Пётра. Камісія прыбыла ў Вільню дзесьці ў кастрычніку 1417 г., бо 23 і 24 кастрычніка датаваліся два фундацыйныя акты вялікага князя Вітаўта[69] і паведамленьні ў Канстанцу, аўтарамі якіх былі прыгадваныя архіяпіскап Ян і япіскап Пётра[70].

У фундацыйных актах Вітаўта адзначалася, што Медніцкая каталіцкая япархія засноўвалася для *"народу Жамойтаў"*, а пробашч зь Вільні магістр Мацей, які быў кандыдатам на пасаду Медніцкага япіскапа, характарызаваўся як чыстакроўны ліцьвін[71]. Дарэчы, як асобны народ, "gens Samaytarum", жамойты ажно тры разы характарызаваліся ў пастанове наконт Жамойці Канстанцкага царкоўнага сабору ад 11 жніўня 1416 г.[72]

Пра тое, што Медніцкая каталіцкая япархія засноўвалася для "народу Жамойтаў", была гаворка таксама ў дакумэнтацыі, высланай для азнаямленьня Канстанцкага царкоўнага сабору ўвогуле і да кангрэгацыі кардыналаў Рымскай курыі, якая працавала тады ў Канстанцы. У гэтых паведамленьнях-пасланьнях адлюстраваліся яшчэ й гэткія немалаважныя рэчы:

"Дастойнага мужа магістра Мацея, пробашча Віленскага, мы высьвяцілі на катэдру ў Медніках, чалавека чыстага жыцьця, беззаганных звычаяў і навукі дый іншых шматлікіх цнотаў, які выдатна валодае жамойцкай гаворкай..."[73]

Зноў жа ў пасланьні да кардыналаў Рымскай курыі львоўскі архіяпіскап Ян і віленскі япіскап Пётра пісалі: "Дастойнага спадара Мацея, магістра вольных навук, пробашча Віленскага, *Ліцьвіна*, які *поўнасьцяй валодае жамойцкай гаворкай*... мы высьвяцілі на катэдру..."[74]

Япіскап Мацей зь Меднікаў перайшоў на віленскую катэдру ў траўні 1422 г. Таму ў студзені 1423 г. вялікі князь Вітаўт зьвярнуўся з просьбай да Папы Марціна V, каб ён даў згоду прызначыць на пасаду Медніцкага япіскапа ягонага кандыдата Мікалая, які дагэтуль быў пробашчам фарнага касьцёлу ў Новых Троках. Дык і ў гэтым выпадку Вітаўт паведамляў у Ватыкан, што пробашч Мікалай, апрача іншых годнасьцяў і цнотаў, ведаў яшчэ "гаворку народу жамойцкага": "sciensque gentis Samaitice ydioma"[75].

Вось тут узьнікае вельмі важнае пытаньне: чаму "Ліцьвіны", атрымліваючы катэдру Медніцкай каталіцкай япархіі ў Жамойці,

павінны былі ведаць "гаворку народу жамойцкага"? Падобна да таго, што меў слушнасьць італійскі гуманіст Пікаляміні, калі пісаў пра Літву як славянскую краіну і мову народу адназначна залічаў да славянскіх моваў.

Дарэчы, гэтае меркаваньне або канстатацыю Энэя Пікаляміні выразна пацьвярджае яшчэ адзін факт. Пасьля сьмерці першага віленскага каталіцкага япіскапа Андрэя (1388—1398) кандыдатам на гэтую пасаду быў абраны Якуб Пліхта, які ў тым часе ўзначальваў ордэн манахаў-францішканцаў у Літоўскай правінцыі. Гэтае абраньне было пацьверджанае папскай булай з Ватыкану ў траўні 1399 г. Прозьвішча другога віленскага каталіцкага япіскапа Якуба Янавіча Пліхты, які памёр 2 лютага 1407 г., сьведчыць пра ягонае славянскае паходжаньне. Магчыма, у ягоных жылах цякла кроў ліцьвіноў. Аднак, як меркаваў Ян Фіялэк, Якуб Пліхта мог быць таксама чэхам або палякам-мазурам. Сапраўды, у грамаце мазавецкага князя Земавіта ад 21 жніўня 1415 г. прыгадваўся ў якасьці прысутнага сьведкі ягоны (Земавіта) маршалак дворны Павал Пліхта.

У віленскім акце ад 1 сьнежня 1398 г., які датычыў абраньня Якуба Пліхты кандыдатам на пасаду чарговага віленскага каталіцкага япіскапа, адзначалася, што гэты манах і вікарый ордэну францішканцаў у Літве паходзіў з *"народу й мовы літоўскай"*[76]. Напэўна, гэткай характарыстыкай будучага віленскага каталіцкага япіскапа падкрэсьлівалася ягоная прыдатнасьць займаць гэтую герархічную пасаду ў Вільні. Але, маючы на ўвазе, што манах Якуб Янавіч Пліхта сапраўды паводле паходжаньня мог быць чэхам або палякам-мазурам, такая характарыстыка дае таксама падставы сьцьвярджаць, што з гледзішча этнасу і мовы Літва й ліцьвіны ў тым часе аднолькава атаясамліваліся зь іншымі славянскімі краінамі й народамі.

Пятае, ці можа адпавядаць праўдзе, што жамойты, як кажа Вітаўт, Літву называлі *Аўкштотай*? А калі й называлі, дык якую ейную тэрытарыяльную частку? Але пра гэта будзе гаворка крыху пазьней. Бо важна яшчэ абмеркаваць дзіўныя фармулёўкі Лівонскай рыфмаванай хронікі. Важна таксама ўдакладніць, што мог мець на ўвазе паляк Эразм Цёлак, які ў якасьці пасланца вялікага князя Аляксандра заявіў у 1501 г. у Рыме, быццам ліцьвіны захоўвалі ўласную мову, але звычайна карысталіся "мовай русінаў".

## Лівонская рыфмаваная хроніка

Ёсьць падставы меркаваць, што Лівонская рыфмаваная хроніка была напісаная ня ў 1296 г., а толькі канчалася на гэтым годзе. 1296-м годам пазначалася напісаньне хронікі ў далёка ня поўным львоўскім рукапісе, дзе называўся яшчэ ўяўны аўтар і адзначалася, што яна была напісаная ў Рэвэльскім комтурстве. Усё гэта адсутнічала ў поўным пэргамэнтным рукапісе, які спачатку захоўваўся ў Рыме й трапіў пазьней у бібліятэку Гайдэльбэргу.

На гэтыя рэчы зьвярнулі ўвагу яшчэ першыя выдаўцы хронікі ў цэлым або ейных асобных частак. Яны ж адзначылі, што Рэвэльскае комтурства было створанае толькі ў 1346 г. пасьля таго, як з-пад улады Даніі Эстонія перайшла пад уладу Лівонскага ордэну. Беглы аналіз апісаньня падзеяў у Лівонскай рыфмаванай хроніцы й параўнаньне з тым, як тыя сама падзеі апісваліся ў іншых, блізкіх да яе хроніках, таксама дазваляюць зрабіць выснову наконт таго, што Лівонская рыфмаваная хроніка пісалася шмат пазьней 1296 году.

Напрыклад, калі б аўтар яе быў сучасьнікам вялікага князя Віценя, ён ня мог бы выдумляць для яго імя Масэка[77], што нагадвае Мешку ці Мечаслава. Іншыя хронікі пісалі толькі пра князя Вялікага Княства Літоўскага Віценя. Таксама, калі б аўтар гэтай хронікі быў сучасьнікам падзеяў другой паловы XIII ст., ён ня мог бы ўпэўнена пісаць пра тое, што жамойцкі князь Транята жыў пры двары вялікага князя Міндоўга і меў моцны ўплыў на апошняга. Маўляў, толькі пад узьдзеяньнем Траняты Міндоўг адважыўся ажыцьцявіць разрыў з каталіцкай царквой і спыніў свае прыязныя дачыненьні з Прускім і Лівонскім ордэнамі[78].

Між іншага, грунтуючыся ў асноўным на Лівонскай рыфмаванай хроніцы, у сваёй кнізе пра Жамойць польскі гісторык Станіслаў Заянчкоўскі з гэтага жамойцкага князя Траняты зрабіў галоўнага героя тых падзеяў. Паводле Заянчкоўскага, Транята сапраўды мог знаходзіцца пры двары Міндоўга, у 1261 г. ён змусіў вялікага князя адмовіцца ад Хрыстовай веры й перакінуцца на бок паганцаў. Пасьля, да часу забойства Міндоўга, Транята, маўляў, ня толькі трымаў у сваіх руках палітычную ўладу, але быў таксама галоўным арганізатарам ваенных паходаў[79].

Насьцярожвае й яшчэ адна мясьціна Лівонскай рыфмаванай хронікі, што датычыла 80-х гадоў XIII ст. (у хроніцы адсутнічала датаваньне падзеяў). Аўтар хронікі пісаў, што дзеля чарговай абароны ад

паўстанцаў Зэмгаліі да братоў-рыцараў Лівоніі далучыліся блізу сотні апалчэнцаў з гораду Вэндэн пад сваім "чырвона-бел-чырвоным" сьцягам. Прыгадаў, што жанчыны гэтай мясцовасьці нараўне з мужчынамі зь ліхацтвам езьдзілі на конях. Гэта, магчыма, тыя "амазонкі", пра якіх пісалі аўтары старых заходнеэўрапейскіх хронікаў. Але справа ў іншым. Аўтар хронікі дадаваў, што выступленьне ў паход пад чырвона-бел-чырвоным сьцягам, які ёсьць сьцягам латышоў, належыць да "сёньняшніх вэндэнскіх звычаяў"[80]. Горад Вэндэн быў заснаваны славянамі — вэнэдамі, якія раней жылі ў зямлі куршаў.

Дык калі б аўтар хронікі быў сучасьнікам апісанага эпізоду, ён ня меў бы патрэбы ўдакладняць, што гэта "сёньняшнія звычаі".

З апісаньнем падзеяў у Лівонскай рыфмаванай хроніцы шмат у чым пераклікаецца апісаньне падзеяў у "Старажытнай хроніцы Прусіі й Лівоніі"[81], "Найноўшай хроніцы вялікага магістра"[82] і "Хронікі рыцараў Тэўтонскага ордэну"[83]. Менавіта "пераклікаецца", а не супадае, і ня толькі ў дэталях. Таму можна дапусьціць, што для ўсіх гэтых чатырох хронікаў існаваў калісьці адзіны пратограф. Арыгінальная рыфмаваная хроніка Віганда з Марбургу зьнікла, і застаўся толькі яе недакладны лацінскі пераклад.

Дык вось у гэтых іншых хроніках адзначалася, што вялікі князь Міндоўг, будучы яшчэ хрысьціянінам, патаемна падтрымліваў паганцаў. Дзеля гэтага, магчыма, першы "Літоўскі" каталіцкі япіскап Хрысьціян пакінуў Княства яшчэ ў 1259 г. і больш туды не вярнуўся. Вынікае таксама, што ў бітве з крыжакамі, якая адбылася 13 ліпеня 1260 г. над ракой Дурбай, бралі ўдзел ня толькі жамойты, але й ліцьвіны, прысланыя на дапамогу князем Міндоўгам. Разам яны й перамаглі ў той бітве крыжацкае войска.

Што да жамойцкага князя Траняты, дык у прыгаданых іншых хроніках ён характарызаваўся як "верхавода" ў Жамойцкай зямлі. Паводле гэтых хронікаў, якраз Транята ўзначальваў пасольства жамойтаў, якое завітала да князя Міндоўга, каб схіліць яго на шлях змаганьня з пагрозай Прускага й Лівонскага ордэнаў. Стаяла й пытаньне адрачэньня Міндоўга ад Хрыстовай веры. Нагадаем, што ў Лівонскай рыфмаванай хроніцы была гаворка пра тое, што, прыбыўшы ў Літву, жамойцкае пасольства спачатку зьвярнулася да Траняты, просячы яго падтрымаць справу жамойтаў і пасольства. Транята згадзіўся, паабяцаўшы дзейнічаць рашуча, і разам з жамойцкімі пасламі наведаўся да князя Міндоўга[84].

Мы ўжо казалі, што аўтар Лівонскай рыфмаванай хронікі ўжыў дзіўныя фармулёўкі. У трох розных мясьцінах сваёй хронікі ён рыфмаваў: *“ліцьвіны, якія называюцца жамойтамі”*, а ў чацьвертай мясьціне пісаў: *“жамойты, якіх называюць таксама ліцьвінамі”*[85]. Усё гэта адсутнічае ў згаданых намі іншых хроніках. У іх пры апісаньні тых сама падзеяў Жамойць выразна адрозьнівалася ад Літвы.

Магчыма, аўтар Лівонскай рыфмаванай хронікі ўжываў гэткія фармулёўкі проста дзеля захаваньня рытмікі вершу. Вось прыклад: “Eines nachtes spate / Wart der meister zu rate / Das er zu kurlande / Wolde bie des meres strande / Und wolde beschowen / Die burc, die den lettowen / Die sameiten sin genant / Tet vil we. Er hies zu hant / Des morgens zu bereiten”. Аднак можа быць яшчэ іншае тлумачэньне, чаму аўтар імкнуўся атаясамліваць ліцьвіноў з жамойтамі або жамойтаў — зь ліцьвінамі.

У студзені і ў лютым 1337 г. тагачасны вялікі магістр Тэўтонскага ордэну зарганізаваў вялікі напад на землі Вялікага Княства. Зваўся вялікі магістр Дытрыхам з Альтэнбургу і быў князем Сьвятой Рымскай імпэрыі. У тым “крыжовым паходзе” ўдзельнічала бадай уся Заходняя Эўропа, а паход узначальвалі кароль Чэхіі Ян Люксэмбурскі й герцаг Ніжняй Баварыі Генрых II. Праўда, у тым крыжовым паходзе на Княства згадваны кароль Чэхіі Ян Люксэмбурскі асабіста ня ўдзельнічаў. Крыжакі пабудавалі тады моцны замак над Нёманам крыху далей на ўсход ад упадзеньня ў Нёман ракі Дубісы. Гэта быў *Баернбург*, названы гэтак у гонар Баварыі. Ён меўся стацца *“новай сталіцай Літвы”* пасьля падпарадкаваньня Тэўтонскаму ордэну ўсіх земляў Княства.

Пра ўсё гэта была гаворка ў дзьвюх *дароўных* граматах, якія вялікі магістр Дытрых з Альтэнбургу атрымаў ад тагачаснага імпэратара Сьвятой Рымскай імпэрыі Людовіка Баварскага. Нямецка-рымскія імпэратары не скупіліся на такія “дароўныя граматы”, калі справа датычыла чужых земляў. Граматы гэтыя былі ад 15 лістапада і 12 сьнежня 1337 г.[86]

Паводле зьместу граматы крыху розьніліся між сабою. Першая зь іх была нібы чарнавым праектам для другой. Аднак абедзьве яны былі выдадзеныя ў Мюнхене й замацаваныя подпісам і пячаткай імпэратара. У якасьці “дарунку” крыжацкаму ордэну перадавалася “Літва” оптам — “з усімі ейнымі землямі й народамі”: “cum omnibus

suis pertinenciis et partibus cuiuscumque ydiomatis”. З гэтых “земляў і народаў Літвы” ў ранейшай грамаце канкрэтна былі названыя Жамойць, Каршоўская зямля й Русь. А ў другой грамаце вылучалася яшчэ Аўкштота, якая была названая перад Жамойцяй.

Як ужо адзначалася, пра Аўкштоту будзе асобная гаворка, а Каршоўская зямля ляжала крыху далей на захад ад ракі Дубісы, там, дзе былі рэчкі Мітва, Юра і Шашува. Каршоўская зямля належала да Жамойці. У ліку першых жамойцкіх земляў яе перадаў Тэўтонскаму ордэну яшчэ вялікі князь Міндоўг.

Зьмест гэтых дароўных граматаў мог быць падставай для аўтара Лівонскай рыфмаванай хронікі атаясамліваць ліцьвіноў з жамойтамі.

Зьвесткі пра гэтыя граматы меў Віганд з Марбургу, які пісаў у сваёй прускай хроніцы, што прыгадваны замак Баернбург атрымаў баварскія герб і сьцяг ад герцага Ніжняй Баварыі Генрыка II[87]. Якраз пра гэтыя рэчы была таксама гаворка ў тых дароўных граматах нямецка-рымскага імпэратара Людовіка Баварскага.

Дарэчы, пра тыя “дароўныя граматы” не маглі ня ведаць у самым Вялікім Княстве. Таму, згаджаючыся на хрышчэньне яшчэ паганскага насельніцтва сваёй краіны, вялікі князь Альгерд і ягоны брат князь Кестут у 1358 г. высунулі гэткія перадумовы: заснаваньне асобнай каталіцкай мітраполіі для ВКЛ; далучэньне да Княства земляў Прусіі, што ляжалі на ўсход ад рэкаў Прэголя, Лына й Алла, а таксама земляў куршаў і зэмгалаў па раку Дзьвіну, а на поўнач ад Дзьвіны — земляў Латгаліі па раку Айвіекстэ і возера Лубанас (у тым часе яно называлася Любанія ці Любня); перамяшчэньне Тэўтонскага ордэну на тэрыторыю прычарнаморскіх стэпаў, дзе ён, падлягаючы юрысдыкцыі Вялікага Княства, мог бы праявіць сябе ў змаганьні з мангольска-татарскай пагрозай[88].

Фактычна гэтыя перадумовы скіроўваліся на ліквідацыю крыжацкага ордэну й былі адказам на тыя “дароўныя граматы” імпэратара Людовіка Баварскага.

### Згадка Эразма Цёлка

Паляк Эразм Цёлак, або Вітэліюс, быў пробашчам у Вільні й лацінскім сакратаром пры дзяржаўнай канцылярыі Вялікага Княства Літоўскага. У якасьці пасла вялікага князя Аляксандра на пачатку 1501 г. ён наведаўся ў Рым і там на аўдыенцыі ў Папы Аляксандра VI

выступіў 31 сакавіка зь вялікай прамовай, у якой зрабіў экскурс у гісторыю Княства, апісаў ягоныя прыродныя багацьці. Гаворачы пра вонкавапалітычную сытуацыю ВКЛ, ён зьвярнуў увагу на вайну, распачатую маскоўскім вялікім князем Іванам III, на хаўрус Івана III з крымскім ханам Мэнглі-Гірэем. Эразм Цёлак шмат казаў таксама пра пагрозу для народаў і краінаў Эўропы з боку Турэцкай імпэрыі[89].

У кантэксьце свае прамовы Эразм Цёлак яшчэ нагадаў, што, паводле ягонага меркаваньня, ліцьвіны захоўвалі ўласную мову. Аднак у сувязі з тым, што русіны засялялі амаль палову Княства, дык агулам карысталіся іхнай мовай, бо яна зграбная й лёгкая да ўжытку[90]. Для "мовы русінаў" Эразм Цёлак ужыў лацінскі тэрмін "loquela", які мог азначаць і пісьмовую літаратурную мову, і народную гаворку.

Што ж было прычынай для гэткага вылучэньня "ўласнай мовы ліцьвіноў"? Першае, паміж Вялікім Княствам і Масковіяй працягвалася зацятая вайна, якая ў разуменьні маскоўскага вялікага князя Івана III была яшчэ й "рэлігійнай вайной". Таму шукалася палітычная падтрымка на Захадзе, галоўным чынам у Польшчы, Чэхіі й Вугоршчыны, а таксама ў Ватыкане. Другое, маючы падтрымку з боку паноў Сапегаў ды іншых праваслаўных дзеячоў, тагачасны мітрапаліт Княства Іосіф Баўгарыновіч быў згодны аформіць з Ватыканам на пэўных умовах царкоўную вунію або аб'яднаньне Праваслаўнай і Каталіцкай цэркваў. Насельніцтва ўласна Літвы ў складзе Княства было пераважна каталіцкага веравызнаньня. У гэткай даволі складанай палітычнай і рэлігійнай сытуацыі трэба было неяк вылучыць уласна ліцьвіноў-каталікоў, і тут зноў прыдаўся моўны фактар.

Вось яшчэ адзін факт, які ў пэўным сэньсе можа сьведчыць пра тое, што, кажучы ў Ватыкане пра "ўласную мову ліцьвіноў", Эразм Цёлак меў на ўвазе народную мову, простую гаворку звычайнага насельніцтва. У верасьні таго ж 1501 г. віленскі каталіцкі япіскап Альбэрт Табар атрымаў ад вялікага князя Аляксандра грамату. Справа датычыла таго, што, ня ведаючы "літоўскай гаворкі", сьвятары парафіяльных касьцёлаў Віленскай япархіі не маглі як належыць навучыць сваіх парафіянаў слову Божаму. Вядома, што ў гэтых касьцёлах набажэнствы й казані праўляліся на лацінскай мове. Япіскап Альбэрт (Войцех) атрымліваў права на свой погляд прызначаць ксяндзоў, пажадана такіх, якія валодалі б вось гэтай "літоўскай гаворкай"[91].

У грамаце былі пералічаны 28 парафіяльных касьцёлаў або,

праўдзівей, каталіцкіх парафіяльных цэнтраў. Сярод іх былі названыя: Рудаміна, Ліда, Беліца, Дубінкі, Пабойск, Быстрыца, Сьвяньцяны, Даўгі, Мерач, Слонім, Дубічы, Краснае Сяло, Валожын, Маладэчна, Радашкавічы, Койданава, а на Падляшшы ў сучасным Беластоцкім ваяводзтве яшчэ Трысьцянка, Далістаў і Ганязь.

Узьнікае, такім чынам, пытаньне: на якой мове маглі гутарыць у 1501 г. парафіяне каталіцкіх касьцёлаў, напрыклад, у Лідзе або Беліцы, у Слоніме або Валожыне, у Маладэчне або ў Радашкавічах і Койданаве? Каталіцкія парафіі былі яшчэ ў Гайне й Абольцах.

Справа, аднак, яшчэ і ў тым, што гэтая пажаданая ў тым часе "моўная рэформа" ў касьцёлах не пакінула аніякіх сьлядоў, якія б маглі пацьвердзіць факт ужыцьця *жамойцка-летувіскай* мовы ў набажэнствах у названых тут дый іншых каталіцкіх парафіяльных цэнтрах. Тым часам добра вядомы той факт, што малітоўнікі й катэхізісы, перакладзеныя на жамойцкую мову, пачалі выкарыстоўвацца ў Жамойці ў другой палове XVI ст. Гэтыя малітоўнікі й катэхізісы, дарэчы, спачатку друкаваліся ў Прусіі, у Кёнігсбэргу, а ня ў Вільні. Дзякуючы тым кніжнікам-перакладнікам і мова жамойтаў атрымала тады статус "літоўскай мовы"[92].

## Дзе знаходзілася Аўкштота?

Ужо прыгадваны гісторык С.Заянчкоўскі зьмясьціў у сваім дасьледваньні гісторыі Жамойці карту, на якой больш-менш дакладна акрэсьлівалася тэрыторыя Аўкштоты. Аўкштота ў яго памяшчалася на поўнач ад ракі Вяльлі крыху вышэй Вількаміра паабапал ракі Сьвятой. Тым ня менш, у кантэксьце свайго дасьледваньня С.Заянчкоўскі Аўкштоту атаясамліваў з уласна Літвой. Тое ж рабіў У.Пашута. М.Ермаловіч не пагадзіўся з гэтым і пісаў у сваёй кнізе, што "Літва й Аўкштайція — розныя ў той час геаграфічныя паняцьці"[93]. Аднак і М.Ермаловіч на сваёй схематычнай карце "Аўкштайцію" памясьціў у сэрцы Віленшчыны — на поўдзень ад ракі Вяльлі, дзеля чаго Вільня й Трокі апынуліся на тэрыторыі Аўкштоты.

Цікава, што гісторыкі, якія Аўкштоту атаясамлівалі з уласна Літвой і падкрэсьлівалі ня толькі геаграфічную, але й дзяржаўную ідэнтычнасьць гэтых паняцьцяў, не маглі назваць аніводнага архіўнага дакумэнту, дзе хоць бы адзін зь вялікіх князёў ВКЛ характарызаваўся як "князь" ці "кароль" Аўкштоты. Наадварот, ёсьць акты, напрыклад, часоў вялікага князя Гедзіміна, у якіх прыгадваліся так-

сама землі Аўкштоты й Жамойці, але сам Гедзімін тытулаваўся ў тых актах як "кароль Літвы".

Дзе знаходзілася Аўкштота, дазваляюць удакладніць паведамленьні нямецкага храніста з Рыгі Германа Вартбэрга. Сваю "Хроніку Лівоніі" ён пісаў у другой палове XIV ст. і закончыў яе на 1378 годзе. У ягоным разуменьні гэта была "вышэйшая зямля Літвы"[94]. Вартбэрг канкрэтна два разы назваў Аўкштоту, апісваючы напады ў 1373 і 1374 гг. на гэтую зямлю прускіх крыжакоў. Першы з гэтых нападаў узначальваў вялікі магістр Тэўтонскага ордэну Вінрых з Кніпроду, а другі — вышэйшы маршалак Рудыгер з Эльнэру[95]. Напэўна, Вартбэрг меў на ўвазе якраз Аўкштоту, паведамляючы пра напад у 1375 г. на "зямлю Ліцьвіноў" лівонскага магістра Вільгельма з Урымэрсгайму, бо назваў гэткія мясцовасьці: Уцяну, Таўрагіні, Больнікі, Малаты, Шашолы, Дубінкі й Гедройці[96].

Але, каб акрэсьліць, дзе, паводле Вартбэрга, ляжала Аўкштота, дастаткова зьвярнуцца да ягоных паведамленьняў пра напад крыжакоў канкрэтна на зямлю Аўкштоту, а таксама на "вышэйшую зямлю Літвы". У першым выпадку Герман Вартбэрг назваў *Вількамір* і *Жэймы*. Другі выпадак датычыў 1367 г., калі, паводле Вартбэрга, вышэйшы маршалак Тэўтонскага ордэну Генінг Шындэкопф спустошыў і спаляліў у "вышэйшай зямлі Літвы" мясцовасьці *Шаты* й *Ворлава* і з поўначы прыйшоў да *Коўні*[97].

Дарэчы, захавалася арыгінальная справаздача наконт таго, як дайшло да вядомай бітвы 2 лютага 1448 г. над ракой Стрэвай. Напярэдадні гэтай крывавай сутычкі крыжацкае войска 8 дзён пустошыла "зямлю Літвы, што звалася Аўкштотай"[98]. Праўда, не гаварылася, дзе яна знаходзілася. Але ўдакладніць яе месца дапамагае іншы дакумэнт, таксама крыжацкі, які датычыў акрэсьленьня межаў Жамойці й выкарыстоўваўся Тэўтонскім ордэнам на арбітражным працэсе 1412 г. Дакумэнт грунтаваўся на апытаньнях пажылых людзей, пераважна былых служкаў крыжацкага ордэну, сярод якіх былі немцы-рыцары й іхныя пахолкі, прадстаўнікі старажытных прусаў, жамойтаў і куршаў. У тым дакумэнце згадваўся таксама замак Вялёна, што ляжаў у Жамойці крыху далей на захад ад упадзеньня ракі Дубісы ў Нёман. Пажылыя людзі сьведчылі, што гэты замак 40 гадоў таму трымалі паны Сурмін, Матэйка й Гаштоўт. Яны, аднак, былі *ліцьвінамі*, якіх звалі яшчэ *аўкштотамі*. Нашчадкі гэтых паноў *ліцьвіны* яшчэ цяпер жывуць у Літве (у землях *Кульвы* й *Вількаміра*),

а не ў жамойцкай зямлі. Вялёну, якая была перададзеная крыжакам, калісьці трымалі й абаранялі *ліцьвіны*, а не жамойты, і тых *ліцьвіноў* (трэба разумець — паноў Сурміна, Матэйку й Гаштоўта дый іхных нашчадкаў) звалі й цяпер яшчэ называюць *аўкштотамі*[99].

Сапраўды, ня маючы магчымасьці абараніць замак Вялёну, абложаны крыжакамі, ягоны каштэлян пан Гаштоўт у 1363 г. аддаў яго крыжакам. Рэшта абаронцаў замку й сам каштэлян Гаштоўт, якія добраахвотна здаліся ў палон, па дарозе ў Прусію здрадным чынам былі перабітыя крыжацкай аховай[100].

Аўкштоту згадваў таксама Пётра Дузбург у сувязі з агульным апісаньнем падзеяў 1294—1300 гг. Паводле яго, Аўкштота была толькі адной зь земляў "караля Літвы" (Віценя). Пётра Дузбург пісаў, што, напаўшы на "зямлю Аўкштоту", комтур Рагнеты Людовік Лібэнцэль здабыў "сьвятое для паганцаў" паселішча Рамэны, спаліў яго, а запалоненых жыхароў перабіў[101]. Храніст не ўдакладняў, дзе знаходзілася ў Аўкштоце гэтае "сьвятое для паганцаў" паселішча. Аднак "зямлю Раманы" (Рамны?) прыгадаў Віганд з Марбургу, апісваючы напад крыжакоў у 1388 г. на Вількамір і замак князя Скіргайлы, які ў лацінскай транскрыпцыі быў названы Вышэвальдам. Магчыма, гэта быў той неназваны яшчэ "новы горад", які кароль Ягайла ў 1387 г. пабудаваў для вялікага князя Скіргайлы "над ракой Вяльлёй насупраць Шатаў". Паводле Віганда, напад на "зямлю Раманы", Вількамір і замак князя Скіргайлы ўзначальвалі вялікі магістр Канрад Цёльнэр, маршалак Энгельгард Рабэ й вялікі комтур Канрад Валенрод[102].

Значыцца, Рамэны Дузбурга й Раманская зямля Віганда з Марбургу знаходзіліся ў тым часе дзесьці на поўнач ад Коўні паміж рэкамі Нявяжай і Вяльлёй, якраз у Аўкштоце.

Можна яшчэ адзначыць, што невядомы аўтар прыгадванай "Хронікі рыцараў Тэўтонскага ордэну" сапраўды назваў вялікага князя Гедзіміна *"каралём Аўкштоты й Жамойці"*. Але й для гэтай ягонай памылкі ёсьць тлумачэньне. Недакладна датуючы падзеі, аўтар хронікі пісаў, што пасьля спусташэньня земляў Дубінскай і Шашолскай магістр Лівонскага ордэну Эвэргард з Мунгайму дзесьці пасьля 1342 г. аформіў мірнае пагадненьне з гэтым "каралём Аўкштоты й Жамойці"[103].

Аднак справа тычылася ў гэтым выпадку гандлёвага пагадненьня 1338 г., бо й Лівонскі магістр Эвэргард з Мунгайму памёр у 1340 г.

Гандлёвае пагадненьне ад 1 лістапада 1338 г. было афармленае з "магістрам Лівоніі" якраз ад імя "Гедзіміна, *караля Літвы*" (у адпаведніку пагадненьня для Княства імя тагачаснага магістра Лівонскага ордэну Эвэргарда з Мунгайму не называлася). Пагадненьне змацавалі сваімі пячаткамі таксама Полацкі япіскап Грыгор, полацкі й віцебскі князі Глеб-Нарымунт і Альгерд. Без згадкі пра Аўкштоту ў пагадненьні адзначалася, што да мірных земляў у Літве належаць Больнікі, Гедройці й Немянчын. Такое акрэсьленьне "мірных земляў" датычыла ўласна Літвы, бо пра мірныя гандлёвыя зоны па Дзьвіне для Полацкага й Віцебскага княстваў у пагадненьні была асобная гаворка[104].

Як мы ўжо заўважылі, аўтар "Хронікі рыцараў Тэўтонскага ордэну" пісаў, што перад афармленьнем згаданага гандлёвага пагадненьня лівонскі магістр Эвэргард з Мунгайму нападаў на землі з цэнтрамі ў Дубінках і Шашолах. Пра гэта пісаў таксама Герман Вартбэрг у сваёй Лівонскай хроніцы, дадаючы яшчэ, што лівонскі магістр у 1333 г. падыходзіў пад умацаваныя сьцены Вількаміру. Гарады Вількамір, Больнікі й Шашолы ляжалі якраз у Аўкштоцкай зямлі, што, напэўна, і дало падставы аўтару "Хронікі рыцараў Тэўтонскага ордэну" характарызаваць вялікага князя Гедзіміна як "караля Аўкштоты й Жамойці".

Дарэчы, пра Аўкштоту й Жамойць была гаворка ў мірным пагадненьні 1323 г. вялікага князя Гедзіміна з Прускім і Лівонскім нямецкімі ордэнамі, намесьнікам караля Даніі ў Эстоніі й рыскім архіяпіскапам. Тое пагадненьне трывала нядоўга. Яно, аднак, да "мірных земляў" у Літве залічала якраз Аўкштоту й Жамойць, хоць сам Гедзімін у гэтым выпадку тытулаваўся як *"кароль Літвы"*[105].

Дакладна не датуючы падзеі, але якраз перад 1357 г. згадваны ўжо нямецкі храніст Герман Вартбэрг, які сваю "Лівонскую хроніку" пісаў у Рызе, паведаміў пра такую рэч: "У гэтым часе Ліцьвіны мясьцінаў Стрыпейкі, Упіта, Вайсьвільцы, *Аўкштота* хацелі перасяліцца ў Літву, што не дазволіў ім зьдзейсьніць магістр"[106].

Тут маецца на ўвазе магістр Лівоніі Гасьвін (Goswinus de Herike, 1345—1359), а паселішча Вайсьвільцы (Wiswilten) згадвалася ў мірным пагадненьні 1398 г. вялікага князя Вітаўта з тэўтонскімі ордэнамі Прусіі і Лівоніі (у цытаванай спасылцы Mezevilte, але пад 1368 г. Вартбэрг удакладніў: Wysevilte; гэта пазьнейшыя Weiszwilce). Паселішча Вайсьвільцы (Белавільцы?) ляжала на згібе ракі

Нявяжы паблізу гарадоў-замкаў Упіта і Панявеж. З цытаванага паведамленьня вынікае, што там непадалёку, у кірунку Вількаміра, знаходзілася таксама *Аўкштота*. Напэўна, калі б Аўкштота ў тым часе *дзяржаўна* атаясамлівалася з уласна Літвой, дык, як кажа Вартбэрг, *"Ліцьвіны з Аўкштоты"* проста ня мелі б патрэбы з гэтай "Аўкштоты-Літвы" зноў перасяляцца ў Літву.

Можна меркаваць, што названыя Вартбэргам Стрыпейкі, Упіта, Вайсьвільцы і нейкая тэрыторыя зямлі Аўкштоты блізу 1357 г. трапілі пад уладу згаданага лівонскага магістра, адкуль і жаданьне жыхароў гэтых мясьцінаў "перасяліцца ў Літву". Справа ў тым, што ад 1356 г. вялікі князь Альгерд быў заняты ўладкаваньнем справы Бранску, а браты Альгерда князі Кестут і Любарт ад 1355 г. былі ўцягнутыя ў вайну з каралём Польшчы Казімірам Вялікім. Мірнае пагадненьне паміж Княствам і Польшчай было афармленае толькі ў чэрвені 1358 г.

Зрэшты, у тым 1357 г. крыжакі Прусіі зьдзейсьнілі набег і спустошылі жамойцкую Каршоўскую зямлю[107], што ляжала на захад ад ракі Дубісы. Магчыма, у згодзе з гэтым нападам на Каршоўскую зямлю Жамойці на поўначы Княства пачаў дзейнічаць тады і магістр Лівоніі Гасьвін.

Можна, такім чынам, сьцьвердзіць, што Аўкштота была асобнай зямлёй і ніколі не атаясамлівалася з уласна Літвой. Аўкштоцкая зямля ляжала на поўнач ад ракі Вяльлі, паабапал ракі Сьвятой, дзе былі паселішчы, гарады або замкі Вількамір, Уцяна, Таўрагіні, Больнікі, Малаты, Дубінкі, Гедройці, Немянчын, Кернава, Шашолы, Пабойск, Рогава, Кейданы, Шаты, Жэймы, Кульва, Ворлава й Коўня. Магчыма, да Аўкштоты належалі яшчэ Ўпіта й Сьвянцяны. Сваё найменне яна атрымала ад мясцовых насельнікаў балцкага паходжаньня або, паводле вялікага князя Вітаўта, яе гэтак называлі жамойты. Аўкштота — гэта высокая гарыстая мясцовасьць, бо ў мове балтаў "аўкштас" азначаў "высокі". Чаму ў Аўкштоце засноўваліся паселішчы й гарады з характэрнымі славянскімі назовамі (Вількамір, Больнікі, Дубінкі, Пабойск, Рогава, Шаты), гаворка будзе пазьней.

### Славянскія словы ў лацінскіх тэкстах

У мірным пагадненьні 1398 г. вялікага князя Вітаўта з Прускім і Лівонскім нямецкімі ордэнамі згадваўся "камень *Род*" — у якасьці памежнай прыкметы дзесьці ў вышнявіне ракі Нявяжы, крыху далей

на поўнач ад паселішча Вайсьвільцы (Белавільцы?). Магчыма, гэты "камень Род" знаходзіўся ў тым часе каля паселішча Падлясьсе. Але ж Род калісьці належаў да найвышэйшых нябесных багоў у славянаў і адпавядаў, магчыма, багам Сварогу або Стрыбогу. Культ бога Рода шанаваўся ўсходнімі славянамі ў дахрысьціянскія часы. Над ракой Рось існаваў гарадок Родня — праўдападобны цэнтр культу гэтага паганскага бога[108].

Можна меркаваць, што той памежны "камень Род" таксама быў зьвязаны з ушанаваньнем культу бога Рода.

Дасьледнікі гісторыі Вялікага Княства Літоўскага не маглі не заўважыць таго факту, што ў старых хроніках, пісаных у Прусіі й Лівоніі, заўсёды паўтаралася гэткая тэрміналёгія: *баяры караля Віценя, баяры караля Гедзіміна, кароль Альгерд са сваімі баярамі й сьмердамі*. У старых актах, пісаных на лацінскай і нямецкай мовах, ужываліся яшчэ тэрміны *ваявода, намесьнік, гараднічы, ціўны, дзяржаўцы, дзецкія, старосты*. Або: *серабшчына, палюдзьдзе, падводы, устаў, устаўное лукно, устаўная бочка, бортны лес, прысёлкі, саха, сябрына-сябрычы*. Ня трэба тлумачыць, зь якой мовы маглі быць запазычаныя гэтыя тэрміны.

Згаданае гандлёвае пагадненьне 1338 г. з магістрам Лівонскага ордэну Эвэргардам з Мунгайму і Радай месьцічаў Рыгі Гедзімін падпісаў якраз у згодзе са сваімі *баярамі*, а таксама маючы на гэта згоду Полацкага япіскапа Грыгора й сваіх сыноў Альгерда й Глеба-Нарымунта. Гэтае пагадненьне, як і папярэдняе мірнае пагадненьне 1323 г., змацоўвалася яшчэ *цалаваньнем крыжа* — добра вядомым рытуалам, які належаў да старой славянскай традыцыі. Якраз полацкі князь Усяслаў Чарадзей здрадным чынам быў палонены ў 1067 г. пад Воршай пасьля таго, як кіеўскія князі Ізяслаў, Сьвятаслаў і Ўсевалад "целовавше крест честный к Всеславу, рекше ему: приди к нам, яко не створим ти зла". Дарэчы, гэткім рытуалам — цалаваньнем крыжа — змацоўваліся граматы вядомых гандлёвых пагадненьняў XIII ст. князёў Смаленскага, Полацкага й Віцебскага княстваў з Рыгай і "Готскымь берегомь"[109]. Або вось яшчэ формула дагаворнай граматы гандлёвага пагадненьня полацкага князя Ізяслава з Рыгай і магістрам Лівоніі, аформленага блізу 1265 г.: "На семь же целуйте ко мне крест, по любьви в правду без всякого извета"[110].

У вялікага князя Гедзіміна быў дыплямат Лесій, які ўважаў сябе за "ліцьвіна", а сваіх калегаў, іншых паслоў, называў "русінамі". Пад

прысягай у 1326 г. Лесій зрабіў у Рызе заяву, у якой абвінавачваў крыжакоў у тым, што яны парушылі ўмовы мірнага пагадненьня 1323 г., усяляк паклёпнічаюць на Гедзіміна, перахопліваюць ягоных паслоў і чыняць рабункі. Паведамляючы пра адзін з такіх рабункаў караблёў, якія з таварамі плылі па Дзьвіне далей "у Русь" (у Полацкую зямлю), Лесій палічыў патрэбным да лацінскага назову тых караблёў дадаць яшчэ славянскі — *"ладзьдзі"*. Ладзьдзямі ("ладьями") называліся якраз вялікія ветразьні або вёславыя лодкі[111]. Як ведама, такія "ладьи", званыя інакш, былі ў скандынаўскіх вікінгаў.

Адсюль вынікае, што вялікі князь Гедзімін нездарма запрашаў у сваё Княства манахаў-прапаведнікаў зь веданьнем польскай і русінскай моваў.

Зьвернемся да архіўных актаў Віленскай каталіцкай япархіі. Першы том публікацыі гэтых актаў ахоплівае гістарычны пэрыяд ад 1387 да 1507 г. У ім сабраныя ў асноўным дароўныя граматы ня толькі самога Ягайлы, вялікіх князёў Вітаўта й ягонага брата Жыгімонта, Казіміра Ягайлавіча й ягонага сына Аляксандра. У масе гэтых дакумэнтаў большую колькасьць складаюць дароўныя граматы звычайных ліцьвіноў, да якіх належалі баяры-паны, вядомыя магнаты Кязгайлы, Радзівілы, Саковічы, Гедыгольдавічы, Судзівоі-Судзімонтавічы, Мантыгердовічы, Забярэзінскія або князі Сьвірскія й Гальшанскія.

Мы зьвернем увагу толькі на граматы, пісаныя на лацінскай мове, у тэкстах якіх ужываліся славянскія тэрміны match рознага значэньня. Каб унікнуць масы спасылак, у тэксьце агляду, у дужках, будуць пазначаныя нумары дакумэнтаў і старонкі, на якіх яны публікаваліся ў цытаваным ужо намі выданьні: "Codex diplomaticus Ecclesiae Cathedralis necnon Dioeceseos Vilnensis" (Vol. 1).

Наконт славянскіх тэрмінаў *баяры, сьмерды, кметы, палюдзьдзе, устаўное лукно, падводы, дзецкія, конюхі*, якія траплялі ў лацінскія або старанямецкія тэксты, расейскі гісторык У.Пашута зрабіў такую заўвагу: "Заимствование русских терминов... не должно нас удивлять; это готовая юридическая форма, в которую удобно облекались сложившиеся в Литве общественные отношения"[112].

Як бачым, тлумачэньне даволі простае. Маўляў, справа датычыла толькі "запазычаньняў", і з гэткім тлумачэньнем можна было б пагадзіцца, калі б прыгадваныя дароўныя граматы пісаліся толькі сакратарамі вялікіх князёў у дзяржаўнай канцылярыі Княства. Аднак

тыя дароўныя граматы афармляліся яшчэ па-за гэтай канцылярыяй і пісаліся звычайнымі ліцьвінамі, хай сабе панамі, магнатамі й князямі. Яны свабодна маглі б аздобіць лацінскія тэксты сваіх граматаў яшчэ тлумачальнымі тэрмінамі, скажам, *жамойцка-летувіскага* паходжаньня. Гэтага, аднак, ня здарылася, а таму няма падставаў казаць, быццам тыя ліцьвіны карысталіся чужымі моўнымі выразамі.

У вядомых актах караля Ўладыслава Ягайлы 1387 г., да якіх належалі ягонае забавязаньне наконт хрышчэньня ліцьвіноў, а таксама дароўныя граматы для заснаванай тады Віленскай каталіцкай япархіі і ў прыватнасьці для віленскага япіскапа, былі ўжытыя гэткія тэрміны: *устаўное лукно* мёду, *серабшчына, падводы, дзецкія, палюдзьдзе, дзякла*. У тых Ягайлавых дароўных граматах была яшчэ гаворка пра *гаі, бары* і *яз* у Нёмане (№ 1, 6, 9; с. 1—9, 11—15, 17—19).

Мы ўжо казалі, што "ўстаўное лукно" было адзінкай вымярэньня пераважна мёду й азначала таксама падатак мёдам, які браўся ад пчаляроў-бортнікаў. Пад "палюдзьдзем" разумелася ў тым часе забесьпячэньне прадуктамі харчаваньня й фуражом вялікага князя й ягонай сьвіты пры аб'езьдзе ім краіны. На гэтае палюдзьдзе мелі таксама права вышэйшыя дзяржаўныя ўрадоўцы й духоўныя асобы. "Яз у Нёмане" азначаў плеценую перагародку папярок ракі для затрыманьня й лоўлі рыбы, дзесяціна рыбы, якая лавілася тут, перадавалася віленскаму япіскапу. Пад "падводамі" разумеўся сялянскі транспарт, а "серабшчынай" называўся грашовы падатак, які пазьней зьбіраўся толькі на ваенныя патрэбы. "Дзецкія" — таксама стараславянскі тэрмін, гэта пасыльныя пры вялікакняскім двары, а пазьней яшчэ й судовыя выканаўцы. А "дзякла" азначала ў асноўным падатак усялякай збажынай і сенам.

У 1423 г. Вітаўт пацьвердзіў дароўную грамату былога віленскага ваяводы й каштэляна Альбэрта Манівіда, на той час нябожчыка. Манівід быў пабудаваў капліцу ў Віленскім катэдральным саборы й дзеля ўтрыманьня гэтае капліцы запісаў сабору некаторыя свае дары. У пацьвярджальнай грамаце Вітаўта гаварылася, што апрача дзесяціны з плёну працы сялянаў трох вёсак Альбэрт Манівід на ўтрыманьне капліцы запісаў яшчэ штогадовы дар мёдам: *лукно шасьціпяднае*, якое павінны пастаўляць шэсьць *сем'яў* Львовічаў і Небутовічаў, і *лукно пяціпяднае*, што належыць браць з трох *сем'яў* Цярэньцівічаў (№ 86, с. 744—745).

Свае зямельныя ўладаньні Альбэрт Манівід меў на Ашмяншчыне

паміж рэкамі Ашмянкай і Бярэзінай з галоўнай сядзібай у Вішневе. У Альбэрта Манівіда быў брат Юры Гедыгольд, які займаў пасады маршалка дворнага, кіеўскага ваяводы й старасты Падольскай зямлі. Ад 1425 да 1432 г. ён быў віленскім ваяводам. Але гаворка пойдзе пра ягонага сына Сямёна Гедыгольдавіча зь Вішнева, які ў 1451 г. займаў пасады віленскага каштэляна й намесьніка смаленскага. Ягоныя дароўныя граматы датычылі каталіцкіх парафіяў у Радашкавічах і Вішневе. У гэтых граматах 1451 г. Сямён Гедыгольдавіч тытулаваў сябе *намесьнікам* смаленскім і ўжываў яшчэ тэрміны: *устаў* мёду, *пашня* й *сенажаці* (№ 202, 203; с. 228—231).

Гэткім жа магнатам быў Андрэй Саковіч — уладальнік Немянчына, Сьвяньцянаў, Груздава, Дубравы й Мядзелу. Сын баярына Сакі, прыгадванага ў вядомых актах Гарадзельскай вуніі 1413 г., Андрэй Саковіч ад 1440 г. быў вялікакняжым намесьнікам у Смаленску, затым ад 1444 г. займаў пасаду полацкага намесьніка. У 1460 г. ён згадваўся на пасадзе ваяводы троцкага. Захаваліся тры ягоныя дароўныя граматы — ад 9 чэрвеня 1434 г., 3 лютага 1443 г. і 21 лютага 1457 г. У першай грамаце была гаворка пра дар Віленскаму катэдральнаму сабору; у другой — парафіяльнаму касьцёлу ў Груздаве, што знаходзіўся на поўнач ад Мядзелу; у трэцяй — заснаванаму ім парафіяльнаму касьцёлу ў Мядзеле. Вось славянскія тэрміны ў тых граматах: 5 і 20 *пудоў* мёду, *яз* у рацэ Бярэзіне, чатыры *сохі* ворнай зямлі, *сябрылы* й *сябрычы* (сябрына або аб'яднаньне бортнікаў-пчаляроў, якія ўсьлед за ляснымі пчоламі самі вандравалі з адной пушчанскай мясьціны ў другую); чатыры *ўшаткі* мёду, рэчка Княгініца *зь язам*, дзесяціна ўсялякай збажыны з *пашні* (поля) Чарнічка, 12 чалавек *чэлядзі*, дзесяціна ўлову рыбы *зь дзяльніцы нашай* (№ 132, 175, 226; с. 149—150, 199—201, 252—253).

Тэрмін "саха", або "рала", азначаў і прыладу апрацоўкі зямлі, і адзінку вымярэньня зямлі, і адзінку падатковага абкладаньня. "Ушатка", як і бочка, — гэта вядро, падобнае на даёнку з ручкай. Яна была адзінкай вымярэньня вадкасьці, у тым ліку й мёду. Да "чэлядзі" залічаліся дваровыя людзі й слугі заможных уладальнікаў, а калі гэтая чэлядзь была несвабодная, дык у разгляданых актах дадавалася: "чэлядзь нявольная". Юрыдычнае паняцьце "дзяльніца" й "дзельнік" увогуле азначала падзел у сям'і маёмасьці або папярэдняе ўдакладненьне, каму што павінна належаць. Моўны выраз "дзесяціна ўлову рыбы зь дзяльніцы нашай" тлумачыцца наступным чынам: па-

рафіяльнаму касьцёлу ў Мядзеле належала дзесяціна рыбы ня толькі з улову двара Андрэя Саковіча, але яшчэ й з улову рыбы напарніка, якім быў нейкі пан Скяміна.

У грамаце Андрэя Саковіча для парафіяльнага касьцёлу ў Мядзеле згадваўся маёнтак, званы *Родам*. Магчыма, што, як і прыгадваны ўжо намі Вітаўтаў "пагранічны камень Род", найменьне маёнтку нейкім чынам было зьвязанае з паганскім богам славянаў Родам.

У родзе магнатаў Кязгайлаў былі ня толькі Міхалы, Станіславы і Яны. У старога Міхала Кязгайлы, жамойцкага старасты (1412—1432), былі тры браты: Жалібор, Судзівой і Шадзібор, а таксама сын Дабяслаў. Гэта, фактычна, стараславянскія імёны яшчэ паганскіх часоў.

Дарэчы, у Віленскім музэі старажытнасьцяў, стваральнікам якога быў граф Яўстах Піевіч Тышкевіч, калісьці экспанаваўся царкоўны звон з надпісам на старой беларускай мове: "В лето 6000-е 9 сот 28-е (1420 г.) создан бысть сей святой Троицы повелением раба Божего *пана Шедибора Валимонтовича*, а мастер Устьек"[113].

Таксама захаваліся дзьве дароўныя граматы братоў Міхала й Яна Кязгайлавічаў (Кязгайлаў) ад 22 і 29 лютага 1476 г. Міхал Кязгайла ад 1446 да 1476 г. займаў пасады канцлера Вялікага Княства і віленскага ваяводы. Нейкі час, у 50-х гадох, быў вялікакняжым намесьнікам у Смаленску. Памёр ён у 1476 г. Ян Кязгайла ад 1451 г. у якасьці старасты кіраваў Жамойцкай зямлёю. У адной з гэтых граматаў запісваўся дар на ўтрыманьне сямейнай капліцы ў Віленскім катэдральным саборы, а ў іншай — для парафіяльнага касьцёлу ў Дзявілтаве. Дзявілтаў знаходзіўся недалёка ад Вількаміру.

У гэтых дароўных граматах таксама былі ўжытыя тэрміны: 5 і 40 *пудоў* мёду, *устаў* мёду, чатыры *ўшаткі* мёду, чатыры *кулі ліпцу* (ліпавага мёду), тры дзесяціны ўсялякай збажыны з трох двароў, у тым ліку *грачыхі* (грэчкі), сем *конюхаў* (№ 296, 297, с. 348—352).

Тэрмін "куль" азначаў адзінку вымярэньня пераважна збожжа, аднак, як і мэтрычная адзінка "кубел", ужываўся таксама ў якасьці адзінкі вымярэньня мёду[114].

У дароўнай грамаце парафіяльнаму касьцёлу ў Дзявілтаве згадвалася яшчэ запруда ў рацэ Стара (Старая?), званая ў тым часе "Прайкунаў Пруд".

Ёсьць яшчэ дароўная грамата Мікалая Іванавіча Кязгайлы, сына згаданага жамойцкага старасты Яна Кязгайлы. Яму належалі маён-

ткі на поўдзень ад Наваградку: Ельня, Дварэц і Жалезьніца. Мястэчка Дварэц у грамаце называлася "Дварцом Сьвідрыгайлы". Дароўная грамата Мікалая Кязгайлы датавалася 9 траўня 1498 г., а дар запісваўся парафіяльнаму касьцёлу ў Ельні, у якім ён пабудаваў новы алтар. Дык і ў гэтай грамаце гаворка йшла пра тры меркі сырога мёду, званыя *ўшаткамі*, *пуд* масла й тры *ялавіцы* — каровы-ялаўкі (№ 452, с. 529—530).

Цікавая таксама дароўная грамата маці яшчэ малалетняга ў тым часе Яна Юравіча Забярэзінскага. Дзесьці блізу 1484 г. ён стаў вялікакняжым намесьнікам у Полацку, пазьней, ад 1498 г., займаў пасады троцкага ваяводы, намесьніка гарадзенскага, быў адначасна найвышэйшым маршалкам Княства. Магнат Ян Юравіч Забярэзінскі быў замардаваны ў лютым 1508 г. на пачатку бунту князя Міхайлы Львовіча Глінскага. Ягоная маці звалася Аляксандрай. Згодна з тэстамэнтам свайго мужа Юрыя Рымавідавіча, яна запісвала дар парафіяльнаму касьцёлу родавага маёнтку Беразяны, да якога належалі яшчэ двары Забярэзьзе (Забрэзьзе) й Шастова. Усе яны знаходзіліся ў вышнявіне нёманскай Бярэзіны. Дароўная грамата Аляксандры датавалася 13 чэрвеня 1456 г., і ў ёй згадваўся таксама ейны сын Ян. Апрача знаёмай ужо нам тэрміналёгіі (12 *пудоў* мёду, 10 чалавек *чэлядзі*, *яз* у рацэ) ужывалася і іншая. Напрыклад, у грамаце адзначалася, што парафіяльнаму касьцёлу ў Беразянах запісваюцца яшчэ поле й *пашня* (зямля, прыгодная для ворыва) на 40 і 60 *бочак*. Дарыўся таксама лес, званы *Сьвятым лесам*, і луг *з прудам* (сажалкай), названым *ніжнім Міхалам* (№ 224, с. 248—250).

Дарэчы, славянскі назоў лесу *Сьвяты лес,* але ў раёне Вількаміру над возерам Шашолы, прыгадаў віленскі каталіцкі япіскап Ян. Яму належаў маёнтак Шашолы. Дароўная грамата япіскапа датавалася 14 траўня 1478 г., а пэўны ўчастак ворнай зямлі й вось гэты "Сьвяты лес" "на другім беразе возера Шашолы" ён дарыў сялянскай сям'і свайго вернага слугі Мігуса (№ 309, с. 364—365), які, паводле япіскапа Яна, быў *кметам*.

У дароўных граматах часта згадваўся дар ворнай зямлі на пэўную колькасць "бочак". Бочка была адной з асноўных адзінак вымярэньня сыпкіх і вадкіх рэчываў у мэтрычнай сыстэме мераў Вялікага Княства[115]. Але ў дадзеным канкрэтным выпадку разумелася вымярэньне ў бочках меркаванага збору ўраджаю збожжавых культураў з дараванай ворнай зямлі.

Мікалай Радзівіл, пра дароўную грамату якога пойдзе гаворка, быў сынам Радзівіла Осьцікавіча. У 1481 г. ён у якасьці вялікакняжага намесьніка быў накіраваны ў Смаленск. Ад 1486 г. займаў пасады каштэляна троцкага, намесьніка наваградзкага, намесьніка ў Бельску на Падляшшы. Пры канцы 1491 г. ён стаў віленскім ваяводам і вялікакняскім канцлерам і гэтыя пасады займаў да 1510 г.

Мікалаю Радзівілу (у грамаце сам сябе ён зваў Мікалай Радзівілавіч) належалі ў тым часе Кейданы, Жмуйдкі, Упнікі й Дубінкі. Усе яны ляжалі вакол гораду Вількаміру. У сваёй дароўнай грамаце ад 15 кастрычніка 1482 г. Мікалай Радзівіл пацьвярджаў дар сваіх продкаў для парафіяльнага касьцёлу ў родавым маёнтку Упнікі і з свайго боку запісваў яшчэ больш маёмасьці, у тым ліку й дзесяціны ўсялякай збажыны. У ягонай грамаце была, напрыклад, гаворка пра ворную зямлю *на чатыры сохі*, а таксама пра луг *на тры сьцірты сена*. Лацінскі моўны выраз "decem *pudos* mellis" тлумачыўся адназначна: дзесяць пудоў мёду (№ 324, с. 381—382).

Тлумачэньні тагачаснай сыстэмы мераў мы знаходзім ва ўжо цытаванай кнізе Кіма Скурата "Даўнія беларускія меры"[116]. Сьцірта — гэта вялікі стог сена, саломы або снапоў збожжа, прызначаны для захаваньня пад адкрытым небам. У некаторых іншых дароўных граматах замест сьцірты называўся "стог" (№ 152, 303, с. 170—171, 358—359).

Дагэтуль мы зьвярталі ўвагу на беларускую тэрміналёгію, якая ўжывалася ў лацінскіх тэкстах ліцьвінамі-магнатамі. Цяпер жа спынімся на асобах ніжэйшага рангу.

Напрыклад, пан Станіслаў Марціновіч з гораду Мерач над Нёманам у сваім тастамэнце ад 26 верасьня 1479 г. кажа пра завяшчаньне маёмасьці ўласнай жонцы Ганне, а ў выпадку сьмерці абодвух запісвае яшчэ дар касьцёлам у Вільні і ў Мерачы. У грамату трапілі тэрміны: *усё іменіе рушаёнцэ і лезонцэ* (тут відавочны польскі моўны ўплыў), людзей Заслаўскіх *чатыры сьляды... з службаю і з данюю*, рыбны стаў, званы *Верхнім прудам* (№ 313, с. 370—371).

Пра дар ворнай зямлі, якую апрацоўвалі двое братоў Радковічаў, або *два сьляды*, сказана ў дароўнай грамаце пана Якуба Раловіча з Гарадзілава ў вышнявіне нёманскай Бярэзіны. Ягоная грамата была датаваная 2 лютага 1443 г., а дар запісваўся пабудаванаму ім у Гарадзілаве парафіяльнаму касьцёлу (№ 174, с . 197—199).

"Дань" (даніна) й "служба" ў тым часе азначалі сялянскія падаткі

й выкананьне сялянамі, калі яны былі панскія, а не вольныя, усіх іншых павіннасьцяў на карысьць пана. Пад "службай" яшчэ разумелася й пэўная плошча зямлі зь ейнымі ўладальнікамі. Тэрмін "сьлед-сьляды" таксама мог азначаць меру зямлі, зямельную плошчу й сялянскія сем'і, якія яе апрацоўвалі. Калі супольная зямля дзялілася на аднаасобныя гаспадаркі, дык казалі, што гэтая зямля дзялілася на "сьляды". Тэрмін "сьлед" паходзіў ад спосабу разьмежаваньня зямлі знакамі ці сошным сьледам[117].

Захаваўся таксама тастамэнт пані Соф'і, удавы пана Аляксея Дылы. Яны мелі маёнтак у Новай Вавёрцы — на захад ад Ліды. Грамата была датаваная 8 красавіка 1478 г., і ў ёй зроблены запіс дару парафіяльнаму касьцёлу, які ў Новай Вавёрцы заснаваў гэты пан Аляксей Дыла. Вось тэрміналёгія таго тастамэнту: дару ворную зямлю на 40 *бочак*, два лугі на адну й дзьве *сьцірты* (№ 306, с. 360—361).

Пан Вайдзіла быў уладальнікам маёнтку й мястэчка Ўшакова над ракой Нарачай. У гэтым мястэчку ён заснаваў на свае сродкі каталіцкую парафію й пабудаваў касьцёл. Каб забясьпечыць існаваньне гэтай парафіі, пан Вайдзіла й шэраг ягоных сваякоў ды напарнікаў ахвяравалі дары для гэтай парафіі. Дароўная грамата датавалася 13 студзеня 1460 г. У пераліку дароў былі названыя пяць *копаў* пшаніцы й тры *пуды* мёду, ворная зямля на дзьве *бочкі* (№ 232, с. 258—260).

У грамаце Вайдзілы выступаў таксама пан Радзівіл Ядаговіч, які, праўда, сваё прозьвішча пісаў па-рознаму: Ядаговіч і Ядалговіч. Ён жыў у мястэчку Ўшакова, дзе меў свой двор або панскую рэзыдэнцыю. Захаваліся дзьве дароўныя граматы таго пана Ядаговіча-Ядалговіча, хрышчонае імя якога было Сьцяпан, а бацька зваўся Андрушкам. Граматы датаваліся 1483 г. і 30 траўня 1491 г. Як вынікае з гэтых граматаў, пан Радзівіл Ядаговіч быў заможным чалавекам, бо ягоныя двары й зямельныя ўладаньні знаходзіліся ня толькі *на Русі*, але яшчэ й *на Ашмяншчыне*. Двары й зямельныя ўладаньні ў граматах пералічваліся паймення.

У абодвух выпадках свой шчодры дар гэты пан запісваў парафіяльнаму касьцёлу Сьвятога Юр'я ў мястэчку Ўшакова. Сярод дароў былі названыя: ворная зямля на 10 *бочак* і луг, дзе стаіць *пуня*; першае поле каля касьцёлу, дзе знаходзіцца *дварэц*; другое поле ў Дубровах; трэцяе поле каля *сасонк*і; чацьвертае поле паблізу майго двара Седлішча; дзесяціну з усяе збажыны, што вырошчваецца ў маім маёнтку Нарач; дзесяціну свойскай жывёлы й птушкі *перша-*

*роднага ажарэбу* з двух маіх двароў; 8 чалавек сялянаў у Сьвіранах з падаткамі й павіннасьцямі. Апошняе датычыла гаспадароў сялянскіх сем'яў.

У дароўнай грамаце ад 1483 г. удакладнялася, якія падаткі належалі з тых сялянскіх сем'яў: *пуд* мёду, *два бязьмены* мёду або *тры бязьмены* мёду, па *два дзяклы* пшаніцы (№ 331, с. 387—388). Быў яшчэ й грашовы падатак.

У дароўна-завяшчальнай грамаце ад 30 траўня 1491 г. састарэлы ўжо пан Радзівіл Ядаговіч таму ж Ушакоўскаму касьцёлу запісваў чатыры сялянскія сям'і, якія належалі да панскага двара ў мястэчку Ўшакова й жылі каля ракі Вяльлі. Запісваў яшчэ чатыры сялянскія сям'і, а таксама ворную зямлю Седлішча, дзе знаходзіўся стары палац і якая ляжала *подле дарогі*, што праходзіла *міма касьцёлу нашага ад* Гарколы і *да* Дубатолкаў. У парафіяльным Ушакоўскім касьцёле пан Ядаговіч-Ядалговіч пабудаваў на свае сродкі алтар. Адсюль ягоныя шчодры дар і просьба: маліцца й памінаць ягоную душу і *на каждым месёнцу мшы Сьвятое Хрыстыны одправоваць* (№ 370, с. 433—434). Апошнюю польскамоўную фразу мог напісаць парафіяльны ксёндз польскага паходжаньня, хоць ён ня згадваўся сярод прысутных сьведкаў.

Тэрмін "бязьмен" азначаў адзінку вагі, прыладу важаньня й адзінку падатковага абкладаньня, напрыклад, мёдам[118].

Але хопіць прыкладаў беларускай тэрміналёгіі ў тых лацінскамоўных граматах. Дарэчы, трэба яшчэ ўлічваць мноства сьведкаў, якія заўсёды прысутнічалі пры афармленьні гэтых граматаў або змацоўвалі іх сваімі пячаткамі.

З усіх гэтых прыкладаў зразумела, на якой мове маглі размаўляць ліцьвіны ў XV ст.

## Імёны старажытных ліцьвіноў

Літаратар Іван Ласкоў захапіўся тэорыяй гэтак званага "угра-фінскага паходжаньня" Літвы або, прынамсі, імёнаў ліцьвіноў і "літоўскіх князёў". У яго атрымліваецца, быццам імёны накшталт Сьвялкеній, Лясота, Любарт, Жыгімонт, Монтвіл, Нарымунт, Радзівіл і г.д. тлумачацца запазычаньнямі з комі-пярмяцкай мовы[119]. На жаль, ня ўсе дасьледнікі маюць доступ да старых заходнеэўрапейскіх хронікаў. Напрыклад, хронікаў Адама Брэмэнскага, Тытмара Марзэбурскага,

Гельмольда з Бузава або польскага храніста Гала Ананіма й чэскага Козьмы Праскага. Ёсьць яшчэ асабліва каштоўная крыніца — публікацыя архіўных дакумэнтаў XII—XIV стст., якія датычаць пасоўваньня нямецкай калянізацыі паміж рэкамі Лабай (Эльба) і Одрай (Одэр), у Сілезіі, Польшчы і ў Чэхіі, а таксама на поўдні пазьнейшай Аўстрыі[120].

Найперш спынімся на імёнах сыноў вялікага князя Гедзіміна — Альгерд і Любарт. Хронікі сьведчаць, што гэтыя імёны не адзінкавыя. Да прыкладу, паведамляючы пра падзеі 1391 г., калі ў міжусобным змаганьні зь Ягайлам і ягоным братам Скіргайлам князь Вітаўт меў падтрымку ад крыжакоў, прускі храніст Віганд Марбурскі пісаў, што ў адной з крывавых сутычак пад Вількамірам ці Трокамі загінуў герцаг *Альгерд* з Гогенштайну[121]. Герцагства Гогенштайн знаходзілася ў Заходняй Саксоніі (цяпер Ніжняя Саксонія). Пра аднаго з каралёў Англіі Альгерда (Алегард) VIII ст. пісаў таксама аўтар хронікі Ўсходняй Фрызіі. Пад 1422 г. ён прыгадаў яшчэ нобіля з Шмаленбургу, які зваўся *Любартам*[122]. Апісваючы падзеі 1417 г., іншага Любарта, які належаў да патрыцыяў гораду Мюнстэру, прыгадаў іншы храніст[123]. Дарэчы, у Нідэрляндах у горадзе Утрэхт знаходзілася адна з філіяў Тэўтонскага ордэну, у якой дзесьці пасьля 1328 г. дзейнічаў магістр *Любарт* Бол[124].

Дадзеныя прыклады пацьвярджаюць, што імёны Альгерд і Любарт або той жа Жыгімонт мелі лучнасьць зь імёнамі англа-саксонска-фрызскага — германскага паходжаньня. Тое, аднак, зусім не азначае, што паміж носьбітамі гэтых імёнаў мелася яшчэ нейкая этнічная лучнасьць. Да імёнаў германскага паходжаньня можна залічыць імёны Вітаўт (Вітольд), Уладзімер (Вальдэмар), Рагвалод (Рэгінальд), Рагнеда (Райнільда), Валамір, Гунцэлін і г.д.

Зь імем Любарт пераклікаюцца імёны *Любамір*, *Люб* і *Любка*. Князі зь імем Любамір былі ў абадрытаў і ў чэхаў. Любам называўся князь вільцаў-люцічаў. Ён быў сынам Драгавіта, князя ваяўнічых вільцаў, і загінуў недзе перад 823 г. у змаганьні з абадрытамі, якіх звалі яшчэ бодрычамі. Той князь Люб меў двух сыноў Мілагаста і Чаладрага[125]. Любкам называўся сын полацкага князя Войны, а гэты Война ў сваю чаргу быў братам вялікіх князёў Віценя й Гедзіміна. Князь Любка загінуў пад Псковам у 1342 г., калі, адлучыўшыся ад войска князёў Альгерда, Кестута й Андрэя Полацкага, наткнуўся з сваімі ваярамі на вартавы полк рыцараў Лівонскага ордэну[126]. Можна

меркаваць, што імёны Любарт, Люб, Любка й Любамір паходзілі ад аднаго кораня.

Імя *Война* сустракалася сярод польскіх імёнаў. Пра чэскага князя Войну пісаў таксама Козьма Праскі[127], і, здаецца, гэтае імя выснoўвалася ад поўнага славянскага імя *Войслаў*. Напрыклад, Войслаў Дабрыніч згадваўся пад 1220 г. сярод уплывовых баяраў Вялікага Ноўгараду, Войслаў з Усерадзіцы выступаў у дакумэнце 1343 г. бургамістра Прагі. Дарэчы, Козьма Праскі пісаў яшчэ пра *Гасьцівіта*, бацьку князя *Баржывоя*, згадаў таксама вяльможу Грдоня, сына Янека[128]. Імя Грдонь супадае зь імем князя Гердзеня. Нальшчанскі князь Гердзень дзесьці ад 1264 г. княжыў у Полацку і загінуў у 1267 г., маючы збройны канфлікт з Ноўгарадам і Псковам.

Але вернемся яшчэ да імя Альгерд. Германскімі паралелямі для яго могуць быць імёны: Адальгард, Альбэрт, Вілібэрт, Дальбэрт, а зь імёнаў ліцьвіноў — Даўгерд. Адпаведнікам для імя Альгерд было чэскае Ольдржых.

Для высьвятленьня паходжаньня імя *Вітаўт* ёсьць канкрэтныя крыніцы — юрыдычныя акты караля Чэхіі Пшэмысла Атакара I і ягонага сына маркграфа Маравіі Ўладыслава. У гэтых актах, якія былі датаваныя 1213, 1223 і 1234 гг., згадваліся гэткія імёны тагачасных чэска-мараўскіх вяльможаў: Вітка сын Віткі, *Вітаслаў*, Зазема і ягоны брат Вітка, Генрык сын Вікты і Вікта, малодшы брат гэтага Генрыка[129]. Пра князя *Вітаслава* ў Мараўскай дзяржаве пісаў таксама пад 872 г. аўтар Фульданскіх аналаў[130].

Імя Вікта магло адпавядаць Віктару, а ймёны Вітка й Вітаслаў поўнасьцю супадаюць зь імем Вітаўт. Дарэчы, у дароўнай грамаце князя Міхала, сына вялікага князя Жыгімонта Кестутавіча, ад 9 ліпеня 1437 г. была гаворка пра сьведкаў Віту Радчынскага й Мікалая Вітанскага[131].

Для ймя Вітаўт германскімі адпаведнікамі маглі быць імёны Віта й Вітас (Вітус). Напрыклад, у Фульданскіх аналах пад 878 г. была гаворка пра нейкага Лантбэрта, сына Вітаса, які браў удзел у захопе Рыму і ў паланеньні Папы Яна VIII, а пад 883 г. згадваўся яшчэ Віта, граф Тасканы[132].

У князя Вітаўта былі яшчэ браты Бутаўт і Войдат. Зыходзячы з таго факту, што імя Вітаўт паходзіла ад імя Вітаслаў, можна меркаваць, што адпаведнікам для Войдата было імя Войслаў або Вайдзіла, а для Бутаўта — Будзівой, Буйвід, Будзівід або Бутумер. Дарэчы, у

князя абадрытаў Готшалка (параўнайце з Войшалкам, сынам вялікага князя Міндоўга) быў сын Бутуй[133], імя якога супадае зь імем Бутаўт. Можна адзначыць, што ўласныя імёны з кампанэнтам -т сустракаліся ў славянскіх плямёнаў, якія ў VI ст. пачалі трывожыць Бізантыйскую імпэрыю на Балканах: Барут, Даўрыт, Ардагаст, Парагаст.

Увогуле імёны з кампанэнтамі -вой, -від або -віт, -мер ці -мір належалі да імёнаў славянскага паходжаньня. Мы ўжо згадвалі першага, занатаванага ў хроніках князя вільцаў-люцічаў *Драгавіта*. У старых заходнеэўрапейскіх хроніках была таксама гаворка пра князя балканскіх славенцаў *Людавіта*. Якраз гэты князь у 819—823 гг. ставіў супраціў пасоўваньню заваёваў Франкскай імпэрыі ў Заходняй Панонii. У мазураў таксама былі князі зь імем *Земавіт*. Сярод першых князёў у Ноўгарадзе, апрача Гастамысла (Гастамыслам зваўся таксама адзін зь першых князёў абадрытаў, які загінуў у 844 г.), у летапісах называўся князь *Барывой*. У Вялікім Ноўгарадзе ў XII ст. пасады тысяцкіх і пасаднікаў займалі баяры зь імёнамі Судзіла (Судзівой) і Завід: Дзьмітры Завідзіц, Завід Дзьмітравіц і Завід Нераверніц.

Магчыма, ад імя Вітаслава паходзіла імя вялікага князя Віценя. Аднак і для імя Віцень ёсьць сваё тлумачэньне. Адзін зь першых князёў абадрытаў ці бодрычаў зваўся гэтым імем: Вітцан або Віцан. У найбольш старых заходнеэўрапейскіх хроніках у лацінскай транскрыпцыі ягонае імя пісалася: Witzan, Witsan і *Witzin*.

Першы раз князь Віцан прыгадваўся пад 789 г., калі ён быў альянтам франкскага караля Карла Вялікага і ўзяў удзел у паходзе франкскага войска супраць князя вільцаў Драгавіта. Загінуў Віцан у 795 г. у паходзе войска Карла Вялікага супраць саксаў[134].

Дык няцяжка ўдакладніць, што той Віцан або Вітцан, колішні князь славянскага племя абадрытаў-бодрычаў, называўся *Віценем*. Ён таксама меў двух сыноў — Драга, які зваўся яшчэ Дражкам, і Славаміра. У дароўных граматах XIII ст. славянскіх князёў Мэкленбургу, Памараніі й вострава Руген два разы згадваўся замак *Віцень*, ды яшчэ адзін раз пад назовам Вітэнборх[135]. Гэта мог быць сучасны гарадок Вітэнбург, які знаходзіцца недалёка ад Швэрыну, там, дзе і сёньня захаваліся гарадкі з назовамі Крывіч і Крэва (Criwitz, Greven).

Маючы на ўвазе кампанэнт -ень, імя князя Віценя можна параўнальна спалучыць зь імем вялікага князя Тройдзеня, які памёр або загінуў у 1282 г. А князь Тройдзень, бясспрэчна, меў чыста сла-

вянскае імя й сам быў славянскага, а ня балцкага паходжаньня.

Для ймя вялікага князя *Гедзіміна* могуць быць гэткія германскія паралелі: Піпін (так называліся бацька і адзін з сыноў Карла Вялікага), Адальвін, Альквін, Бальдвін, Валквін, Гунцэлін. Аднак для таго ж імя Гедзімін аднолькава можна адшукаць і славянскія паралелі. У XII—XIII стст. сярод славянскіх князёў Мэкленбургу, якія маглі паходзіць ад люцічаў, і Памараніі называліся князі Барвін, Барнім і Мяствін. Грынам называўся адзін з князёў абадрытаў XI ст. Дарэчы, невядомы бізантыйскі аўтар "Жыція Стэфана Суражскага" пісаў пра князя *Браўліна* з Ноўгараду, які, узначальваючы "рускую рацьˮ, дзесьці на пачатку IX ст. напаў на Крым і зваяваў яго ад Херсанесу да Керчанскага паўвостраву й абрабаваў там праваслаўныя цэрквы[136].

У Сэрбскім каралеўстве таксама былі каралі-браты Драгуцін (1276—1282) і Мілюцін (1282—1321). А іхны далёкі прапрадзед зваўся Завідам. Гэтак жа й басьнякі мелі князя Куліна (1180—1204), а чарнагорцы свайго караля Бодзіна (1081—1101).

Дык чаму ж і імя вялікага князя Гедзіміна не магло быць славянскага паходжаньня?

Пётра Дузбург, які быў сучасьнікам Віценя й Гедзіміна, бацьку Віценя называў *Пукуверам*. Той князь Пукувер у адной з рукапісных копіяў Прускай хронікі Дузбурга зваўся яшчэ *Лютуверам*. Грунтуючыся на даступных яму крыніцах — нейкіх трактатах Антона Корсака (1488 г.) і Пётры, "япіскапа Камераценскага" (?), Тэадор Нарбут пісаў, што бацькам князя Віценя быў князь *Лютавор*[137]. Дарэчы, аднекуль павінна была ўзяцца другая частка складовага імя магната Івашкі *Літавора* Багданавіча Храптовіча. Гэты беларускі магнат ад 1482 г. займаў пасады падскарбнага дворнага, намесьніка слонімскага і наваградзкага. Ён браў удзел у вядомай бітве 1500 г. над ракой Вядрошай і трапіў тады на шмат гадоў у маскоўскі палон.

Хто быў бацькам князёў-братоў Віценя, Войны й Гедзіміна — невядома. Апрача згаданага сьцьверджаньня Пётры Дузбурга, адсутнічаюць верагодныя зьвесткі іншых аўтараў. Ва ўсялякім разе — зваўся ён Пукуверам, Лютуверам ці Лютаворам або, як мяркуюць некаторыя гісторыкі, меў яшчэ імя Будзівід і быў сынам вялікага князя Тройдзеня, — ягонае славянскае паходжаньне не выклікае сумневу.

Мы ўжо прыгадвалі дыплямата часоў вялікага князя Гедзіміна Лесія. Імя *Лесій* меў таксама адзін з чатырох братоў вялікага князя

Тройдзеня. Іншыя тры браты Тройдзеня зваліся Борза, Сірпуцій і Сьвелькеній.

Паводле аўтара Іпацеўскага летапісу, гэтыя чатыры браты былі праваслаўныя. Трое зь іх загінулі ў войнах з валынскім князем Васількам, а чацьверты памёр яшчэ пры жыцьці вялікага князя Тройдзеня.

Але ў дароўнай грамаце польскага караля Казіміра Вялікага ад 25 ліпеня 1361 г.[138] знаходзім пана *Лясоту*, крамянецкага ваяводу, які называўся ў якасьці аднаго зь сьведкаў. Сьведкам быў і ягоны брат пан Вярбота Ставішын.

У выніку войнаў Вялікага Княства Літоўскага з Польшчай і Вугоршчынай, якія пачаліся ў 1349 г. і закончыліся мірным пагадненьнем 1358 г., горад Крамянец адышоў да Польшчы. Дык тыя паны Лясота й Вярбота належалі, напэўна, да ўкраінскіх баяраў.

Можна яшчэ спаслацца на прывілейную грамату Баляслава, князя Кракаву й Сандаміру, ад 5 чэрвеня 1257 г., якая давала Магдэбурскае права Кракаву. І ў той грамаце ў якасьці аднаго зь сьведкаў быў названы Лясота — пробашч з Шкалмежу[139].

Лесій і Лясота — адно імя, і яно, магчыма, адпавядала Алесю або Алексу. Імя Алекса сустракалася сярод баяраў Вялікага Ноўгараду. Былі яшчэ славянскія ймёны накшталт Базата, Вайдота, Вышата, Гюрата, Зьбялюта, Зядлюта, Няжата, Прандота, Пуцята, Радзята, Ярота.

Адпаведнікам для ймя Сьвелькеній можа быць імя Зьвініке. Зьвінікем называўся сын князя абадрытаў Сьвятаполка. Сьвятаполк быў забіты здрадным чынам у 1128 г., а князь Зьвініке загінуў у 1129 г.[140]

Ёсьць таксама адпаведнік для ймя Борза. У Чэхіі былі князі *Баржывоі*. Князь Баржывой І, які памёр каля 894 г., быў ахрышчаны ў 873 г. славянскім асьветнікам архіяпіскапам Мяфодзіем[141]. У чэхаў былі яшчэ князі Брачыславы, але быў таксама й полацкі князь Брачыслаў — бацька князя Ўсяслава Чарадзея.

Імёнам князёў Вігунт, Жыгімонт, Карыбут, Карыят, Кестут, Яўнут можна знайсьці цэлы шэраг германскіх паралеляў. Назавем найбольш характэрныя: Вігунд, Дамарат, Друдмунт, Лютмунд, Сігімунд або Сігізмунд. Таксама для імёнаў Ягайла, Сьвідрыгайла й Скіргайла ёсьць германскія паралелі: Анула, Вязіла, Віціла, Равіла, Тасіла, Таціла, Турдзімула, Хадала.

Названым тут імёнам князёў Вялікага Княства аднолькава можна адшукаць славянскія паралелі. Напрыклад, сярод князёў абадрытаў

XI—XII стст. былі Крут, Кнут і Ніклот. Пад 990 г. згадваўся князь стадаранаў Балілют. У чэхаў быў князь Баржут, імя якога, напэўна, высноўвалася ад поўнага йимя Баржывой (параўнайце зь імем Борза). Сустракаліся яшчэ славянскія імёны Барут, Блуд, Дабрыт, Палюд, Славут-Славуціч, Бядыгаст, Дабрагаст, Радагаст.

Што да імёнаў з кампанэнтам -л або -ла (у лацінскай транскрыпцыі пісалася: Ягал-Ягел, Сьвідрыгал, Скіргал), дык іх было шмат: Багуміл, Багуфал, Гнязьдзіла, Гудзіла, Завіла, Куціла, Няжыла, Нязьдзіла, Пятрыла, Судзіла, Твардзіла. А там былі яшчэ Вайдзіла, Вайшыла, Сурвіла й г.д.

Пра тое, што імя вялікага князя Ягайлы адпавядала славянскім імёнам, можа сьведчыць і ўласнае імя *Івайла*. Так зваўся баўгарскі народны герой, які ў 1277 г. узначаліў паўстаньне супраць засільля ў Баўгарыі мангольска-татарскага панаваньня. Тое паўстаньне было скіраванае адначасна й супраць царскай дынастыі Асэнідаў, бо пачынаючы ад 1242 г. баўгарскія цары гэтай дынастыі поўнасьцю залежалі й былі васаламі Залатой Арды ці Арды тагачаснага хана Нагая. У адной зь бітваў паўстанцаў з царскай арміяй загінуў і баўгарскі цар Канстанцін Асэн, пасьля чаго Івайла ажаніўся з царыцай-удавой Марыяй і сам стаўся царом Баўгарыі. Бізантыя тым часам падтрымлівала іншага прэтэндэнта на баўгарскі трон — Івана Асэна. Але ў 1280 г. Івайла разьбіў бізантыйскую армію, у сувязі з чым кандыдат Бізантыі цар Іван Асэн III змушаны быў уцякаць з Баўгарыі ў Канстантынопаль. Здарылася, аднак, тое, што пасьля гэтых перамогаў паўстанцкая армія Івайлы пачала разбрыдацца. Сам жа цар Івайла быў замардаваны ў качэўным лягеры нагайскіх татараў, куды ён прыбыў, жадаючы атрымаць збройную падтрымку ад татараў дзеля далейшага змаганьня зь Бізантыяй[142]. Зрэшты, у Другім Баўгарскім царстве быў яшчэ цар Барыл (1207—1218).

У беларускіх летапісах XVI ст. князь *Гольша* называўся як заснавальнік Гальшанаў і роду вядомых гальшанскіх князёў. Але, пішучы пра гусіцкі рух у Чэхіі, польскі гісторык Ян Длугаш прыгадаў пад 1420 г. чэскага магната Гальша з Штэрнбэргу, які быў сынам Олдржыха Ўладыслава й паходзіў з старога чэскага княскага роду. У якасьці аднаго зь сьведкаў саноўнік Голяш быў названы ў прывілейнай грамаце 1223 г. караля Чэхіі й Маравіі Пршэмысла Отакара I[143]. Вынікае, што й той князь Гольша, заснавальнік роду гальшанскіх князёў, меў славянскае імя.

У Лаўрэнцеўскім і Радзівілаўскім летапісах пад 1147 г. згадваўся кіеўскі ўплывовы баярын Радзіла. Менавіта *Радзіл Осьцікавіч* быў названы сярод прысутных сьведкаў у адной з дароўных граматаў вялікага князя Казіміра Ягайлавіча. Дар прызначаўся аднаму з касьцёлаў Вільні, а грамата была датаваная 16 красавіка 1444 г.[144]

Бацька гэтага Радзіла Осьцік Радзівілавіч быў заснавальнікам вядомага магнацкага роду Радзівілаў. У актах Гарадзельскай вуніі 1413 г. быў названы Радзьвіл (Rodwil), і ён атрымаў тады ад палякаў герб "Суліма". Гэта, напэўна, быў сын пана Вайшвіда з паручальнай граматы 1401 г., і ён у 1434 г. займаў пасаду маршалка земскага (Radwil terrae Lithwaniae marschalcus). Гэта была іншая галіна паноў Радзівілаў, а праўдзівей — Радзьвілавічаў, бо гэтак называлі сябе сыны і ўнукі згаданага маршалка земскага Радзьвіла: "quod nos dominus Georgius et Stanislaus filii domini Radwylonis" (1439); "dominus Stanislaus Radwilowicz" (1440); "dominus Georgius Radwylowicz" (1444).

Варта зьвярнуць увагу на дароўную грамату Кацярыны Мантушаўны ад 15 лютага 1484 г. Дар запісваўся манастыру францішканцаў у Вільні, а ў якасьці сьведкаў згадваліся два браты — Глеб і Радзьвіл, родным братам якіх называўся яшчэ Міцька — муж тае пані Мантушаўны[145]. У грамаце: "Hlieb et Radwil".

Радзіл Осьцікавіч пазьней сваё імя пісаў: Радзівіл. Бацька гэтага Радзівіла Осьцік яшчэ ў 1401 г. згадваўся на пасадзе каштэляна ашмянскага, пазьней, дзесьці ад 1421 і да 1440 г., быў віленскім каштэлянам. Дарэчы, Осьцікам зваўся таксама сын полацкага князя Андрэя Альгердавіча. З прычыны канфлікту зь вялікім князем Ягайлам у Маскву ён трапіў разам з бацькам і загінуў там у 1382 г., узначаліўшы абарону гораду пры аблозе Масквы войскам хана Залатой Арды Тахтамыша. У маскоўскіх крыніцах князь Осьцік выступаў пад імем А с ь ц е й і называўся "ўнукам" вялікага князя Альгерда.

Роднаснымі для імя Радзівіл маглі быць імёны Будзьвіл, Вайшвіл або Таўтвіл. Таўтвілам называўся адзін з братоў вялікага князя Вітаўта, а таксама колішні полацкі князь Таўтвіл, замардаваны ў 1263 г. Аднолькава імя Радзівіл (Радзіл) можа мець роднасную сувязь зь імёнамі Радзім, Радзівон і Радаслаў, гэтак жа як імя Будзьвіл магло паходзіць ад імя Буйвід або Будзівой.

Перад тым як спыніцца на іншых імёнах, характэрных ліцьвінам, варта назваць шэраг стараславянскіх імёнаў, пакідаючы збоку добра

вядомыя й больш пашыраныя: Баляслаў, Баржывой, Барыслаў, Брачыслаў, Валадар, Дабраслаў, Ізяслаў, Казімір, Любамір, Мсьціслаў, Пшэмыслаў, Рагвалод, Расьціслаў, Сабяслаў, Славамір, Сьвятаполк, Сьвятаслаў, Уладзімер, Уладыслаў, Усевалад, Усяслаў, Ярамір, Яраслаў.

Апрача ўжо згадваных у абадрытаў-бодрычаў былі князі, якія зваліся Анадраг, Будзівой, Гастамысл, Дабамысл, Жалібор, Мсьціграг, Мсьцівой, Прыбіслаў, Рацібор, Ратша, Рохель, Чадраг.

У тых славянскіх плямёнаў, якія перасяліліся на Балканскі паўвостраў, а таксама ў мараваў і чэхаў, у палякаў і памаранаў, сілезцаў, стадаранаў і люцічаў былі гэткія ўласныя імёны: Ардагаст, Багуслаў, Балілют, Барут, Барывой, Бластымір, Бодзін, Бузабут, Бурвід, Бутуй, Бядыгаст, Бястрым, Вайнамір, Валук, Ванімір, Вацлаў, Вацэлін, Віціслаў (Віцень? Вітаслаў?), Воймір, Война, Веліслаў, Вукашын, Вышаслаў, Гадалюб, Гарывой, Гасьцівіт, Гаціслаў, Гедамір, Гнеў, Гойнік, Горазд, Госьцік, Дабамысл, Дабрагаст, Дабрагез, Дамагой, Дамаслаў, Даўрыт, Дзяржыкрай, Дзяржыслаў, Дзярван, Драгамір, Дражка, Думар, Душан, Званамір, Земавіт, Зьвяслаў, Зьдзіслаў, Зяміслаў, Лех, Лешка, Людавіт, Людамысл, Людзіслаў, Лютабор, Лютавід, Лютавой, Лютамір, Лютастрах, Лютагнеў, Моймір, Мешка, Мілагаст, Міласлаў, Мірагнеў, Мішуй, Мойслаў, Мутымір, Нажыслаў, Недамір, Незымысл, Нінагнеў, Няклан, Нямір, Прадвой, Парагаст, Паржай, Прасігой, Прыбігнеў, Прыбіна, Прыбіслаў, Ракела, Рацібор, Рацімір, Раўлін, Росьціц, Сабебор, Самбор, Сьвятабор, Сьцібор, Сьпіцімір, Сьпіцігнеў, Стойгнеў, Страймір, Сялібор, Таліслаў, Таміслаў, Таціслаў, Твардаслаў, Тройдзень, Тугамір, Туцімір, Уладзівой, Усегард (Всегард), Хацібор, Хацімір, Хваламір, Цярпімір.

Цяпер вернемся да імёнаў ліцьвіноў, якія ў XV ст. побач з прадстаўнікамі магнацкіх родаў Гаштоўтаў (Гаштольдаў), Кязгайлаў і Радзівілаў стаялі пры ўладзе, займалі пасады ваяводаў, дзяржаўцаў, каштэлянаў і намесьнікаў, а таксама ўваходзілі ў склад Дзяржаўнай рады Княства.

Мы ўжо казалі, што ў родзе Кязгайлаў былі Шадзібор і Дабяслаў. У прыгадваным акце 1401 г. сын пана Гаштоўта называўся Талівушам, а сам Гаштоўт у тым часе займаў пасаду каштэляна ў Крэве. Але ж імя Талівуш, як і імя Завіш(а), сустракалася таксама ў палякаў. Дарэчы, адпаведнікамі для ймя Гаштоўт маглі быць імёны згадваных

князёў абадрытаў Гастамысла й Готшалка або імя чэскага князя Гасьцівіта (зноў параўнайце: Готшалк — Войшалк; Вітаслаў — Вітаўт).

Мы згадвалі таксама Альбэрта Манівіда й ягонага брата Юрку Гедыгольда, якія за часоў вялікага князя Вітаўта займалі высокія пасады. Для ймя Манівід ёсьць пэўныя славянскія адпаведнікі: Будзівід або Буйвід. У дароўнай грамаце Памаранскага князя Казіміра ад 1174 г. сярод сьведкаў называліся *Дабяслаў*, а яшчэ Запаха і ягоны брат *Гольдан*[146]. Магчыма, адсюль, ад імя *Гольдан* і паходзіць імя *Гедыгольд*.

За часоў вялікага князя Вітаўта жыў магнат Рамбольд Валімунтавіч, імя якога ў лацінскай транскрыпцыі пісалася яшчэ як Румбольд або Румпольд. Пасьля перамогі ў 1410 г. у Грунвальдзкай бітве пан Рамбольд быў старастам Жамойці, але ўжо ад 1412 г. згадваўся на пасадзе найвышэйшага маршалка земскага Вялікага Княства. Гэтую пасаду ён займаў яшчэ ў 1432 г. Але звернемся да прывілейнай граматы князя Заходняй Памараніі Барніма, у якой ён тытуляваўся "князем Славянаў". Князь Барнім заснаваў горад Прэнцлаў, вызваляў яго на тры гады ад падаткаў і даваў яму Магдэбурскае права. У грамаце, датаванай канцом 1234 г., у якасьці сьведкаў побач з Далімарам, Прыснаборам, Суліславам і Яраславам называўся яшчэ чашнік князя Рымбольд[147].

Дарэчы, Рымбольдам зваўся і канцлер князёў Польшчы й Сілезіі Баляслава й ягонага брата Генрыка. Іхная пацьвярджальная грамата для Аўгустынскага манастыру ў Вроцлаве была датаваная 1247 г. Апрача канцлера Рымбольда ў ёй у якасьці сьведкаў называліся Рацібор, Мілаш, Дабэзій, Прадвой і Сабяслаў, сын Забэзія[148].

Узнікае пытанне: ці славянскія імёны Рымбольд і Рамбольд? Але ж і славяне маглі называцца гэткім чынам: Даніла Дажбогавіч, Рэкнольт Івашка Данаславіч. Таксама й адзін з паноў Нарбутаў меў імя Дабрагаст Нарбутавіч[149].

У ліцьвіноў было таксама імя Рымавід, і яно часта сустракалася ў XV ст. У магната Яна Юравіча Забярэзінскага дзед зваўся Рымавідам. Пан Ян Рымавідавіч згадваўся ў актах Гарадзельскай вуніі 1413 г. Іншы пан, Алехна Рымавідавіч, у адной з дароўных граматаў 1456 г. быў названы маршалкам дворным вялікага князя Казіміра Ягайлавіча.

Праўдападобна, што братам магната Рамбольда быў пан Судзівой

Валімунтавіч, які выступаў у прыгадваным акце 1434 г. вялікага князя Жыгімонта Кейстутавіча. Гэтым актам Жыгімонт пацьвярджаў умовы Гарадзельскай вуніі. Пан Судзівой Валімунтавіч на пачатку 40-х гадоў быў канцлерам Княства, затым — вялікакняжым намесьнікам у Коўні. Ад 1451 г. ён займаў пасаду каштэляна віленскага. У лацінскай транскрыпцыі імя Судзівой пісалася: Sudziwoy, Sudiwogius і Sandiwogius. Але гэткім чынам пісалася ў лацінскай транскрыпцыі таксама імя паляка Судзівоя з Астрарогу, які доўгі час быў познаньскім ваяводам і браў удзел у бітве пад Грунвальдам[150].

Сын гэтага Судзівоя зваўся Станіславам. Пісаўся ён як Станіслаў Судзівоевіч і дзесьці ад 1469 г. займаў пасады вялікакняжага намесьніка ў Горадні й найвышэйшага маршалка земскага Вялікага Княства. Нейкі час быў ваяводам троцкім.

Зь імем Судзівой пераклікаецца імя Судзімунт. Магнат Алехна Судзімунтавіч у 40-х гадох быў падчашым, затым ад 1469 г. згадваўся на пасадзе вялікакняжага намесьніка ў Полацку, ад 1478 г. быў віленскім ваяводам і канцлерам Вялікага Княства. Гэтыя пасады ён займаў да 1491 г.

Паны Няміры або Няміровічы паходзілі, хутчэй за ўсё, ад таго Няміры, імя якога сустракалася ў прыгадванай паручальнай грамаце 1401 г., а таксама ў актах Гарадзельскай вуніі 1413 г. Гэта быў Іван Няміра, які жыў яшчэ ў 1452 г. У дзяржаўных актах XV ст. называлася шмат Няміраў. Да прыкладу, пан Андрэй Няміравіч згадваўся ў Жыгімонтавым акце 1434 г., ён быў маршалкам дворным. Пан Мікола Іванавіч Няміра ў 1440 г. браў актыўны ўдзел у абраньні на вялікага князя Казіміра Ягайлавіча. Пазьней, прынамсі ў 1469 г., Мікола Няміра згадваўся на пасадзе вялікакняжага намесьніка ў Віцебску. Ягоны брат Якуб Іванавіч Няміра ў 70—80-х гадох займаў пасаду дзяржаўнага пісара, быў таксама берасьцейскім намесьнікам.

Невядомы аўтар "Хронікі Быхаўца" тлумачыць паходжаньне імя Няміры тым, што, бяручы ўдзел у паходзе вялікага князя Вітаўта да ракі Угры, нейкі пан Андрэй быў незадаволены афармленьнем мірнага пагадненьня з маскоўскім вялікім князем Васілём І. Гэта магло датычыць вялікага паходу, які адбыўся ў 1408 г. Маўляў, пан Андрэй "рекл велікому князю Вітольту: "Не ест правы мір, где кровопролітія межы господоры не было". Аўтар гэтай хронікі далей пісаў: "І так для тое прычыны того пана Андрэя прозвалі Неміром".

Адразу сьцьвердзім, што паны Няміры шмат раней сустракаліся ў

Польшчы. Напрыклад, у прывілейнай грамаце польскіх князёў Баляслава й Пшэмысла ад 1253 г., якой давалася "нямецкае" права гораду Сьрэм, сярод сьведкаў, якія прысутнічалі пры афармленьні гэтай граматы, быў названы Нямір, сын Дзяржыкрая[151]. Яшчэ ў другой палове IX ст. Нямірай звалася маці аднаго з харвацкіх жупанаў Госьціка. Гэтыя свае імёны яны пакінулі нашчадкам у надпісах у адной з цэркваў Харватыі[152] (параўнай зь ліцьвінскім імем Осьцік — Astik, Ostik, Hostic).

У гістарычнай літаратуры панам Нямірам прыпісвалася жамойцка-летувіскае паходжаньне. Да гэтага ж паходжаньня залічаліся, напрыклад, Войны й Давойны. Маўляў, гэтыя паны выступалі ў паручальнай грамаце 1401 г. і ў акце 1434 г. вялікага князя Жыгімонта. Гісторыкі пісалі, што ўсе баяры і паны з тых дакумэнтаў належалі да "літоўскіх фэадалаў". Але, як адзначалася, і ў славянаў былі пашыраныя імёны Война або Войнамір. Там, дзе было імя Война, магло быць таксама імя Давойна. Дарэчы, у паручальнай грамаце 1401 г. і ў актах Гарадзельскай вуніі 1413 г. былі названыя яшчэ гэткія паны й баяры: Войдзіч, Войнад Русіловіч, Вайдзіла Кушаловіч, Войшнар Віркалевіч і Войшын Данейкавіч. Імя Вайдзіла сустракалася часта, так зваўся таксама брат магната Андрэя Саковіча.

Але вернемся да паноў Войнаў і Давойнаў. Пан Война, які згадваўся ў Жыгімонтавым акце 1434 г., займаў пасаду дзяржаўцы ў Кернаве. Акт Мельніцкай вуніі 1501 г. падпісалі ключар берасьцейскі Война і яшчэ нейкі пан Война Філіневіч. Аднак паны Войны ўзьняліся палітычна ў другой палове XVI ст. За часоў канцлерства Астапа Валовіча й Льва Сапегі Гаўрыла Война быў дзяржаўным пісарам, Лаўрэн Война — падскарбіем земскім, а Грычун Война займаў пасаду каштэляна Мсьціслаўскага.

Баярын Андрэй Давойнавіч, які згадваўся ў Жыгімонтавым акце 1434 г., і ягоны брат Алехна Давойнавіч былі, праўдападобна, сынамі Давойны Вышгердавіча з паручальнай граматы 1401 г. У пераліку іншых магнатаў Андрэй Давойнавіч быў названы ў адной з дароўных граматаў вялікага князя Казіміра Ягайлавіча ад 23 кастрычніка 1452 г. Якую ён займаў пасаду, пра гэта ў грамаце не гаварылася. Пан Ян Давойнавіч, які быў дыпляматам і ў якасьці пасла ў 80-х гадох наведваўся ў Маскву й Крым, у 1492—1500 гг. займаў пасаду намесьніка драгічынскага. Да прыхільнікаў Мельніцкай вуніі 1501 г. належалі й падпісалі акт гэтай вуніі дзяржаўца даўгастайскі Юры Да-

войнавіч і пан Андрэй Давойнавіч. Нарэшце, Станіслаў Станіслававіч Давойна ў 1542—1563 гг. быў полацкім ваяводам і намінальна заставаўся ім да 1573 г.

У ліцьвіноў былі пашыраныя яшчэ імёны накшталт Будвід і Будзьвіл, Буйвід і Буйвіл, Волчка (Воўчка), Завіша, Неруш, Някраш, Прокша, Радуш, Рымша або яшчэ Бартош і Данейка. Але гэткія ці падобныя імёны былі таксама ўласьцівыя славянам: тыя ж Бартош і Будзівой, Богша-Богуш (Багуслаў), Борша (Баржывой), Бартоша (Браціслаў), Данейка (Даняхслаў), Драгуш (Драгамір), Мілаш (Міласлаў), Завіша (Завіслаў), Радоша (Радаслаў), Яроша (Яраслаў або Ярамір). Сярод імёнаў баяраў Вялікага Ноўгараду згадваліся Паўша, Прокша, Ратша (Рацібор) і Войборза. Другі кампанэнт апошняга імя — Войборзы — нагадвае імя Борза, якім зваўся адзін з братоў вялікага князя Тройдзеня.

Дарэчы будзе прыгадаць тут, якімі імёнамі зваліся сяляне Случчыны. Тагачасны слуцкі князь Сямён Міхалавіч і ягоная маці, жонка пакаранага ў 1481 г. князя Міхала Аляксандравіча (Алелькі), былі абрэзалі маёмасьць двух каталіцкіх касьцёлаў у Слуцку. У гэтую справу на просьбу Слуцкага пробашча Мацея ўмяшаўся вялікі князь Аляксандар, які й выдаў адпаведную грамату 12 траўня 1494 г. Дык у пераліку сялянскіх сем’яў, якія павінны былі належаць да тых касьцёлаў, называліся імёны сялянаў: Волаш, Мілаш, Нераш і Цімош, а таксама Ярошка[153].

Бясспрэчна, у ліцьвіноў былі таксама імёны балцкага паходжаньня, бо ліцьвіны сутыкаліся з балцкімі плямёнамі, жылі побач або ўперамешку зь імі. Таксама й прадстаўнікі балцкіх плямёнаў маглі запазычыць імёны ліцьвіноў.

## Пра паходжаньне найменьня “Літва”

Усе дадзеныя факты даюць, па-першае, падставы сьцьвярджаць, што ад даўнейшых часоў ліцьвіны карысталіся славянскай мовай. Нездарма ж, як адзначалася, дзеля хрышчэньня ліцьвіноў вялікі князь Гедзімін запрашаў з Захаду ў Вялікае Княства Літоўскае манахаў-прапаведнікаў, якія валодалі “польскай” і “русінскай” мовамі. Пра гэта сьведчаць і прыклады ўжываньня ліцьвінамі славянскіх тэрмінаў у сваіх дароўных граматах, што пісаліся на лацінскай мове. Адсюль зразумела, чаму Медніцкую каталіцкую япархію, заснава-

ную ў 1417 г. у Жамойцкай зямлі, павінны былі ўзначальваць ліцьвіны, якія свабодна карысталіся жамойцкай мовай.

Другое, мы маглі таксама сьцьвердзіць, што для імёнаў князёў і ўласных імёнаў звычайных ліцьвіноў аднолькава знаходзіліся славянскія аднайменныя адпаведнікі. Гэтыя два важныя моманты — моўны фактар і фактар супадзеньня ўласных імёнаў — змушаюць паставіць пытаньне наконт этнічнага паходжаньня ліцьвіноў і іхнага этнічнага найменьня.

У "Аповесьці мінулых гадоў" ліцьвіны, або "літва", з гледзішча мовы вылучаліся з асяродзьдзя ўсходнеславянскіх плямёнаў. Але ж аўтар гэтага летапісу ды ягоныя бліжэйшыя пасьлядоўнікі і "русь" вылучалі з асяродзьдзя славянаў ды прыпісвалі гэтай "русі" так званае скандынаўска-нарманскае паходжаньне. Хоць, папраўдзе, цяжка паверыць, каб аўтары кіеўскіх летапісаў, якія пісаліся ў другой палове XI — першай палове XII ст., маглі штосьці ведаць пра гэтак званае запрашэньне князёў-варагаў Рурыка, Сінеуса і Трувара ды што ад таго часу (862 г.) "и от тех Варяг прозвася Руская земля".

Мы ня будзем заглыбляцца ў сутнасьць "нарманскай тэорыі паходжаньня Русі". Аднак зьвернем увагу на ўласныя імёны, якія спакон веку былі характэрныя жыхарам Ноўгарадзкай зямлі. Сюды, паводле паданьня, занатаванага ў "Аповесьці мінулых гадоў", былі запрошаныя "княжыць" "варагі-русь", якія да таго ж прыйшлі з сваімі "родамі". Вось гэтыя імёны: князь Барывой, князь Гастамысл, Астрамір, Багаміл, Багуслаў, Богша, Боўша, Войборза, Войслаў, Гарыслаў, Дамажыр, Даняслаў, Дзяржыкрай, Дарагаміл, Жыраслаў, Завід, Збыслаў, Міланег, Міраслаў, Неравін, Няжата, Няжыла, Нязьдзіла, Палюд, Прокша, Рагуіл, Ратша, Рацібор, Рацімір, Станамір, Судзіла, Сядзіла, Тварымір, Твардаслаў, Твардзіла, Уладыслаў[154].

Бясспрэчна, у бальшыні сваёй названыя тут імёны першых князёў, а таксама баяраў Ноўгарадзкай зямлі адпавядалі найперш імёнам заходніх славянаў. Там жа, на паўднёвым узьбярэжжы Балтыйскага мора, улучаючы таксама востраў Руген, жыла гэтая *славянская* "русь" — рутэны, якія зваліся яшчэ руянамі. Была там і краіна "Рутэнія"[155]. Цытаваны ў спасылцы манах Гербордус свой "Дыялёг-хроніку" напісаў блізу 1159 г. Ён быў сучасьнікам і спадарожнікам Бамбэрскага япіскапа Оты, які валодаў славянскай мовай і браў актыўны ўдзел у хрысьціянізацыі люцічаў і руянаў-русаў. Аўтар "Дыялёгу" Гербард пісаў таксама пра Русь і ведаў, што гэтая

іншая Русь знаходзілася на ўсход ад Прусіі, Польшчы й Вугоршчыны.

Як бачна, некаторыя зь пералічаных уласных імёнаў ноўгарадзкіх баяраў, асабліва з кампанэнтамі -іл або -ла, супадалі з падобнымі імёнамі ліцьвіноў.

Цьвярскі летапіс канстатуе, што ліцьвіны, або "літва", належалі да славянскіх плямёнаў: "...а от Ляхов прозвашася Поляне, Ляхове же друзіи Лютици, *а иніи Литва*, иніи Мозавшене, иніи Поморане". Як і іншыя славянскія плямёны, ліцьвіны й люцічы, паводле гэтага летапісу, калісьці жылі над Дунаем. Зноў жа ў Цьвярскім летапісе адзначалася: "А Лутичи и Тиверичи приседааху кь Дунаеви, и бе множество их, седяаху по Днестру... до моря"[156]. Пра тое, што калісьці "Лютичи и Тиверци приседяху к Дунаеви, и бе множество их, седяху по Днестру и до моря", была гаворка і ў Ніканаўскім летапісе[157].

Сапраўды, у сярэднім цячэньні Дунаю, у рэгіёне ракі Маравы, гарадоў Вены й Брацыславы, захаваліся гэткія назовы рэчак: Літава й Літавіца[158]. Ёсьць там і рака Ляйта, па якой у 1043 г. праходзіла мяжа паміж Вугоршчынай і Сьвятой Рымскай імпэрыяй. У лацінскай транскрыпцыі гэтая рака звалася Літагай[159]. Калі ўлічыць, што ў старых заходнеэўрапейскіх хроніках вільцы-люцічы называліся яшчэ лёйтыцамі[160], дык назоў ракі Ляйты, або Літагі, можна высноўваць ад назову гэтых лёйтыцаў.

Дарэчы, дасьледнікі зьвярнулі ўвагу на тое, што яшчэ ў XIII ст. дзесьці ў Трансыльваніі або далей за Дунаем на Балканскім паўвостраве існавалі: "kenezat Lytwa" і "terra Lytwa", г.зн. Літоўскае княства й Літоўская зямля[161].

Такім чынам, зьвесткі Цьвярскога й Ніканаўскага летапісаў пра тое, што "літва" й люцічы калісьці жылі над Дунаем, а зноў люцічы разам зь ціверцамі ад вусьця Дунаю засялялі прычарнаморскія землі й землі абапал Днястра, маюць пад сабой пэўны гістарычны грунт. Напрыклад, у дароўнай грамаце луцкага і ўладзімірскага князя на Валыні Любарта Гедзімінавіча, якая, магчыма, памылкова была датаваная 8 сьнежня 1322 г., дзесьці ў вышнявіне ракі Стыру згадвалася рэчка Лютыца[162].

Адным словам, можна меркаваць, што калісьці значная частка вільцаў-люцічаў з поўначы перасялілася на Дунай, адкуль зноў жа пазьней трапіла ў рэгіён ракі Днястра. Вядома ж, што значная частка дрыгавічоў таксама перасялілася на Балканы.

У Цьвярскім летапісе гаворка вялася пра "літву" й люцічаў. Ці было выпадковым гэтае спалучэнне? Мы тут зьвярнулі ўвагу на тое, што люцічы зваліся яшчэ лёйтыцамі. Кажучы пра "рымскае" паходжаньне ліцьвіноў, Ян Длугаш назваў іх *"лютвой"*. Ёсьць яшчэ арыгінальныя дакумэнты, якія пацьвярджаюць, што Літва магла называцца *Лютвой*. Гэта перапіска Папы Інакеньція IV зь вялікім князем Міндоўгам, Хэлмнскім япіскапам Гайдэнрайхам, а таксама зь япіскапамі Лівоніі. Адзначым, што ў 1251 г. у Рым да Папы Інакенція IV наведалася афіцыйнае пасольства вялікага князя Міндоўга. Такім чынам, там, у Рымскай папскай курыі, павінны былі ведаць, як у тым часе магла яшчэ называцца Літва. Неўзабаве пасьля прыняцьця гэтага пасольства Папа накіраваў свае булы вялікаму князю Міндоўгу і япіскапу Гайдэнрайху. Справа датычыла хрышчэньня ліцьвіноў, каранацыі самога Міндоўга. Тыя дзьве булы Папы былі датаваныя 17 ліпеня 1251 г. і ў іх паўтаралася: "Regnum Luthawie"; "Carissimo in Christo filio nostro Mindowi Illustri Regi Luthawie, salutem"; "Multa cor nostrum est... super carissimum in Christi filium nostrum Mindowin Illustrem Luthowie Regem"[163]. Між іншага, у "Аналах каралеўства Франкаў" пад 806 г. згадваўся князь лужыцкіх сербаў зь імем Мілідуох ("Miliduoch Sclavorum dux interfectus est"), што можа адпавядаць імю вялікага князя Міндоўга.

Праўда, Папа Інакенцій IV ужываў яшчэ й гэткія фармулёўкі: "in totius *Lithowie*", "Sane de Carissimo in Christo filio nostro Mindowe Illustri Rege *Lithovie* spiritu exultante percepimus", што адлюстравалася, напрыклад, у іншай папскай буле ад 15 ліпеня 1251 г., якая была накіраваная япіскапу Гайдэнрайху[164]. Аднак, відаць, і назоў *Лютва* ня быў вынайдзены ў Рыме. Бо, напрыклад, прускі храніст Пётра Дузбург пісаў толькі: "Lethowia", "Lethowini", "Vithenus rex Lethowinorum".

Цікавай тэрміналёгіяй карыстаўся Генрых Латвійскі, які сваю "Хроніку Лівоніі" напісаў у 1226 г.: "Proxima hyeme Lettones vastata Lyvonia plurimos in captivitatem abducunt"; "Leththones eciam Deo sic disponente pacem querentes eodem anno Rigam veniunt, ubi statim pace facta cum christianis amicicie fedus ineunt... Sed ante ingressum terre audientes regem de Plosceke cum exercitu Leththoniam intrare Semigallis relictis cum festinatione redeunt"; "De captivitate sacerdotum et pecorum ablatione a rege Wiscewalde cum Letonibus"; "de *utroque populo, Lethonum videlicet et Estonum*"; "Erat autem inter eos Ako, princeps ac

senior eorum, qui tocius traditionis et omnium malorum exstiterat auctor, qui regem de Ploceke concitaverat ad bellandum contra Rigenses, qui *Lethones* collegerat, qui Thoredenses et totam Lyvoniam convocaverat contra nomen christianum"; "Post hec recordati Leththones omnium occisorum suorum a Rigensibus et Semigallis ante duos annos miserunt per totam *Lethoniam*, colligentes exercitum magnum"[165].

"Lethones" і "Lethonia" — гэтак называў Генрых Латвійскі ліцьвіноў і Літву. Зрэдку сустракалася ў яго яшчэ тэрміналёгія: "Litowini" і "Litowia" (Lithowia). У іншых старых лацінскамоўных хроніках ліцьвіны і Літва яшчэ называліся: "*Litwini* congregato exercitu vastaverunt terram Culmensem"; "Fuit magna expedicio in *Littovia* in die Mauricii"; "Eodem anno Litwini per cives Rigenses evocati districtum in Karthus graviter in circuitu vastaverunt"; "Eodem anno magister Lyvonie cum exercitu terram Littowie, que Sameiten vocatur, intravit, postque rapinas et incendia illata ad propria cum spoliis revertentes Litwini occurrentes subito invaserunt"[166]. "In hoc eciam tempore intravit rex Letwinorum nomine Vyten terram Pruzie et vastabat eam per XVIII dies"; "Audientes autem Litwini exercitum de Pruzia tam validum super se venire congregaverunt omne robur suum et medio tempore, quo eorum terra vastaretur, ipsi vastare terram Sambiensem et alias Christianorum terras disponebant"; "Circa idem eciam tempus nobilis comes Hollandie, qui ob honorem virginis gloriose Marie partes Pruzie sepius visitaverat pro fide katholica ad impugnandum Litwinos, fuit a Frisonibus occisus in bello"[167].

Пра што могуць сьведчыць усе гэтыя варыянты назоваў Літвы й ліцьвіноў? Lethonia і Lethoni, Luthawia і Luthawi, Lethowia і Lethiwini, Littowia і Litwini! Ці не прасочваецца ў гэтых варыянтах трансфармацыя этнічнага найменьня: пераход ад назову *люцічаў* да назову *ліцьвіноў*?

Вяртаючыся да прыгадванай канстатацыі Цьвярскога летапісу наконт таго, што літва-ліцьвіны былі славянскім племем, можна адзначыць, што Цьвярское княства заўсёды мела шчыльныя кантакты з Вялікім Княствам Літоўскім. Другой жонкай вялікага князя Альгерда была якраз цьвярская князёўна Ульляна. Таксама, напрыклад, у першым Ноўгарадзкім летапісе адзначалася, што ў 1245 г. на службе ў цьвярскіх князёў знаходзіліся князі-ліцьвіны Явід і Эрбэт. Пазьней, ад 1289 г., цьвярскім япіскапам быў Андрэй, сын колішняга полацкага князя Гердзеня. У даўнейшыя часы летапісы пісаліся звы-

чайна пры дварах і на замову япіскапаў, архіяпіскапаў і мітрапалітаў. Адсюль можна меркаваць, што зьвесткі пра тую славянскую "літву" маглі трапіць у Цьвярскі летапіс ад згаданых ліцьвіноў і япіскапа Андрэя Гердзеневіча.

У сваім трактаце "De administrando imperio" бізантыйскі імпэратар Канстантын Парфірародны, кажучы пра даньнікаў усходнеславянскіх земляў, сярод усходнеславянскіх плямёнаў у дзьвюх мясьцінах прыгадаў *лензанінаў*, або *ленцанінаў*. Польскія гісторыкі мяркуюць, што ён меў на ўвазе польскае племя "лендзанінаў", ці "лендзянаў", якое ў тым часе магло жыць на ўсход ад Віслы паміж рэкамі Вепшам і Санам. Але пра такое польскае племя ў гэтым рэгіёне не было гаворкі ў старых польскіх хроніках. Адпадае, здаецца, і дапушчэньне, што тое паведамленьне Канстантына Парфіроднага датычыла "ляхаў", як называлі ўсходнія славяне палякаў. Таму бліжэй прыгледзімся да гэтага паведамленьня бізантыйскага імпэратара.

Як мяркуюць дасьледнікі, свой трактат ён пісаў паміж 948 і 952 гг., а магчыма яшчэ й пазьней, бо памёр ён у 959 г. Вось вытрымка: "Аднадрэўкі, якія прыходзяць у Канстантынопаль з вонкавай Русі, ідуць з Ноўгараду, у якім княжыў Сьвятаслаў, сын князя Русі Ігара. Ідуць таксама з гарадоў Смаленску, Любеча, Чарнігаву й Вышгораду. Усе яны спускаюцца па рацэ Дняпру і зьбіраюцца пад горадам Кіевам, званым яшчэ Самбата. Іхныя (русаў) даньнікі Славяне, што называюцца *Крывічамі* і *Лензанінамі*, дый іншыя Славяне майструюць аднадрэўкі ў сваіх горах у зімовую пару, апрацоўваюць іх, а з надыходам вясны сплаўляюць іх вазёрамі ў Дняпро. Гэтай ракою прыходзяць у Кіеў, выцягваюць лодкі на бераг, аснашчаюць іх і прадаюць Русам"[168].

Значыцца, "лензаніны" знаходзіліся дзесьці на поўнач ад Кіеву й жылі побач з крывічамі. Таму, аналізуючы гэтую дый іншыя мясьціны трактату бізантыйскага імпэратара, дзе згадваліся й іншыя ўсходнеславянскія плямёны, акадэмік Барыс Рыбакоў прыйшоў да высновы, што пад "лензанінамі" Канстантын Парфірародны мог разумець палачанаў або полацкіх крывічоў[169].

Аднак магчыма й іншае, больш адэкватнае тлумачэньне назову таго ўсходнеславянскага племя лензанінаў-ленцанінаў, калі мець на ўвазе вільцаў-люцічаў і лютву-ліцьвіноў. Добра вядомая гэтакая летапісная фармулёўка: "бе бо Рогволод пришел из заморья, имяше власть свою в Полотьске". У сваім артыкуле "Загадкі старажытных

паданьняў" А.Рогалеў слушна пісаў, што полацкі князь Рагвалод, бацька князёўны Рагнеды, меў празрыстае славянскае імя. Без сумневу, ён "прыйшоў" з славянскіх краёў блізу 945 г., адтуль, дзе на паўднёвым узьбярэжжы Балтыйскага мора жылі славянскія палабска-паморскія плямёны[170].

Але пакінем пакуль князя Рагвалода і зьвернемся да плямёнавага аб'яднаньня вільцаў-люцічаў. Яно, відавочна, умацавалася з часоў нямецкіх каралёў і імпэратараў Сьвятой Рымскай імпэрыі Генрыха I (919—936) і Оты I (936—973). Якраз тады пачалася нямецкая экспансія на поўнач, дзе жылі славяне паміж рэкамі Лабай і Одрай. У старых заходнеэўрапейскіх хроніках да гэтага аб'яднаньня звычайна залічаліся чатыры плямёны: далянчанаў, радараў, хіжанаў і чэразпенянаў. У аб'яднаньне вільцаў-люцічаў яшчэ ўваходзілі ўкране, што жылі па рацэ Укра, і стадаране, цэнтрам якіх быў горад Бранібор (Брандэнбург), а таксама ліняне, якія ў лацінскай транскрыпцыі называліся лінонамі. У аб'яднаньні вільцаў-люцічаў палітычную перавагу мелі радары, а іхным культавым цэнтрам быў горад Радагошч[171].

Нямецкі наступ на палабскіх славянаў пачаўся пасьля 926 г., калі было аформленае на 9 гадоў замірэньне з мадзярамі-вугорцамі. Узімку 927—928 гг. войска караля Генрыха I здабыло горад Бранібор, а князь стадаранаў Тугамір трапіў у палон. Некаторыя гісторыкі меркавалі, што Тугамір паходзіў з дынастыі колішняга князя вільцаў Драгавіта. Далей, саксонскі граф Бернгард у шэрагу паходаў падпарадкаваў нямецкаму ўплыву зямлю радараў і землі некаторых іншых плямёнаў, што ўваходзілі ў аб'яднаньне вільцаў-люцічаў. Аднак, калі ў 929 г. кароль Генрых I адправіўся ў паход на Прагу, успыхнула паўстаньне палабскіх славянаў, якое ўзначалілі радары. Справа задушэньня гэтага паўстаньня была даручаная графам Бернгарду й Тытмару, якія ў верасьні таго ж 929 г. аблажылі горад Лончын, што ляжаў на правым беразе ракі Лабы ў ейным сярэднім цячэньні. У лацінскай транскрыпцыі яго называлі "Люнкіні" і "Люнцыні", а цяпер гэта горад Ленцэн, які знаходзіцца недалёка ад Вітэнбэргу.

Апалчэньне славянскіх плямёнаў, якое пасьпяшыла на выручку, было разьбітае перад горадам, папярэдне загнанае ў багністыя мясьціны. Гэта спрычынілася да капітуляцыі абаронцаў гораду, якіх налічвалася 800 чалавек і якіх там жа напаткала сьмерць. Жыхары мясцовасьці, што шукалі паратунку за мурамі гораду, былі палоненыя й трапілі ў нямецкую няволю.

Чаму атрымалася такая лёгкая перамога? А таму, што немцы кінулі ў бой конных рыцараў, закаваных у жалеза.

Пасьля той перамогі пад Лончынам нямецкая экспансія не спынялася: у 932 г. былі падпарадкаваныя лужыцкія сэрбы, а ў 934 г. у выніку перамогі над укранамі нямецкае панаваньне пашырылася да вусьця Одры.

Тым ня менш другое вялікае паўстаньне славянскіх палабска-паморскіх плямёнаў успыхнула ў 936 г. пасьля сьмерці імпэратара Генрыха I. Паўстаньне гэтае зноў узначальвалі радары, і якраз у асноўным супраць радараў у верасьні і ў кастрычніку 936 г. была скіраваная карная экспэдыцыя, якую ўзначальваў сам новаабраны кароль і пазьней імпэратар Ота I.

Цяпер, аднак, хваляваньні й адкрытыя збройныя сутычкі не спыняліся, тым больш што ў самой Атонскай імпэрыі пачалася грамадзянская вайна. Супраць нямецкага засільля ўзбунтаваліся тады й абадрыты-бодрычы, якія засялялі землі далей на захад ад вільцаў-люцічаў.

Але ў тым часе здарыліся дзьве рэчы, неспрыяльныя для палітычнага самавызначэньня й кансалідацыі палабска-паморскіх славянаў. Фронт змаганьня й падпарадкаваньня іх нямецкаму ўплыву ў 937 г. быў даручаны графу Геру, які меў цэнтральную сядзібу ў Паўночнай Турынгіі. Пазьней гэты граф атрымаў тытул маркграфа і ўзначальваў Усходнюю нямецкую памежную марку.

Нейкім чынам, маўляў, дзеля перамоваў, графу Геру ўдалося заманіць у адзін з сваіх замкаў 30 князёў, большыня якіх былі правадырамі вільцаў-люцічаў. Пасьля добрага пачастунку зь віном уначы яны ўсе былі перабітыя. Нямецкі храніст манах Відукінд, які апісаў гэты эпізод, не паведамляў, у якім годзе здарылася гэта, не называў таксама ніводнага зь імёнаў тых замардаваных князёў славянскіх палабска-паморскіх плямёнаў[172]. Аднак з кантэксту паведамленьняў храніста Відукінда можна зрабіць выснову, што тое забойства адбылося дзесьці перад 940 г.

Другім неспрыяльным фактарам была здрада прыгадванага князя стадаранаў Тугаміра. У лацінскіх тэкстах стадаране называліся яшчэ гавэлянамі, ад назову ракі Гавэлі. Князь Тугамір быў падкуплены нямецкім каралеўскім урадам і вызвалены з шматгадовага палону. У сваю зямлю, у горад Бранібор, ён вярнуўся пад выглядам уцекача з нямецкага палону. Там ён і быў абраны князем. Другім адзіным прэ-

тэндэнтам на княжы пасад быў ягоны пляменьнік, якога Тугамір забіў. Пасьля гэтага ўся зямля стадаранаў была перададзеная пад апеку немцаў. Здрада князя Тугаміра здарылася ў 941 г.

Бясспрэчна, і пазьней узьнікалі хваляваньні й паўстаньні, а, напрыклад, вялікае паўстаньне вільцаў-люцічаў у 983 г. на нейкую сотню гадоў прыпыніла нямецкую калянізацыю земляў палабска-паморскіх славянаў. Цяжкі ўдар гэтыя славяне атрымалі ў 955 г. Тады паўстаньне абадрытаў і люцічаў успыхнула ў сувязі з вайной караля Оты I з мадзярамі-вугорцамі, войска якіх было разьбітае 10 жніўня 955 г. Пасьля гэтай перамогі над ракой Лех кароль Ота I праз нейкі час рушыў з сваім войскам на поўнач. У тым паходзе ўдзельнічаў таксама прыгадваны граф Гера, якога асабліва ненавідзелі славяне. Апалчэньне славянскіх плямёнаў узначальваў князь абадрытаў Стойгнеў. Вялікая бітва, а фактычна разьня адбылася 16 кастрычніка 955 г. над ракой Рэкніца. Тую бітву, у якой, між іншага, на баку нямецкага войска супраць славянаў змагаліся славяне руяны-русы, таксама падрабязна апісаў храніст манах Відукінд[173]. Апынуўшыся ў акружэньні, частка нямецкага войска наладзіла праз раку тры масты, па якіх і пераправілася. Гэты манэўр славянскае апалчэньне, у асноўным пяхота, заўважыла з спазьненьнем і ў бой уступіла пасьпешліва й разрозьнена. Адсюль і атрымалася разьня, у якой загінуў таксама князь Стойгнеў. Не было літасьці й да тых славянскіх ваяроў, якія трапілі ў палон: ім тут жа адсеклі галовы.

Гэткім цяжкім быў той пэрыяд для палабска-паморскіх славянаў[174]. Але вернемся да 40-х гадоў. Забойства князёў і пераход на нямецкі бок князя Тугаміра значна аслабілі здольнасьць да супраціву славянскіх палабска-паморскіх плямёнаў, якія варагавалі яшчэ й між сабою, пра што сьведчыць той факт, што ў 948 г. у землях заходніх славянаў былі заснаваныя ажно тры каталіцкія біскупствы з цэнтрамі ў Старгардзе, Гавэльбэргу й Браніборы.

Можна меркаваць, што нейкая частка вільцаў-люцічаў, да якіх, магчыма, належаў і князь Рагвалод, пакінула тады свае ранейшыя мясьціны жыхарства й перасялілася на ўсход. Таксама з захаду, "зь ляхаў", прыблізна ў тым часе перасяліліся на ўсход вяцічы й радзімічы з сваімі князямі Вячкам і Радзімам. Гэткае ж перасяленьне на ўсход ахапіла й валынянаў. Раней валыняне жылі на востраве Воліні, дзе знаходзіўся калісьці вялікі й славуты горад Волін. Горад Валынь быў таксама пабудаваны гэтымі валынянамі над ракой Бу-

гам. Зь нейкіх прычынаў за часоў бізантыйскага імпэратара Канстантына Парфірароднага адно з харвацкіх племяў, якое жыло на ўсход ад вышнявіны Віслы, перасялілася на Балканскі паўвостраў у Захлумскі край. Магчыма, што да гэтага перасяленьня спрычынілася сутычка тых харватаў зь перасяленцамі вільцамі-люцічамі й валынянамі.

Этнічны назоў "люцічы" — патранімічнага паходжаньня. Ён запазычаны ад імя князя Люта, або Лютаміра. У старой Польшчы часоў Баляслава Храбрага быў горад, які называўся Лютамірскам. Цяпер гэта, напэўна, гарадок Літамержыцы над Лабай, на поўначы Чэхіі. Назоў для ўсходнеславянскага племя *лензанінаў* ці *ленцанінаў* Канстантын Парфірародны мог узяць з заходніх крыніцаў. Якраз у 945 г., а затым яшчэ ў 949 г. да нямецкага караля Оты I наведаліся два вялікія пасольствы гэтага бізантыйскага імпэратара. А ў 949 г. у Канстантынопаль завітала таксама пасольства караля Оты I, да якога, між іншага, належаў у якасьці перакладніка Людпранд, пазьнейшы крэмонскі япіскап. У сваіх трактатах, прысьвечаных Бізантыйскай імпэрыі й ейным дачыненьням з Захадам, Людпранд апісаў няўдалы паход на Канстантынопаль у 941 г. кіеўскага вялікага князя Ігара[175].

Напэўна, у выніку абмену гэтымі пасольствамі Канстантын Парфірародны й мог даведацца пра лёс ваяўнічых вільцаў-люцічаў або пра іхны пагранічны горад Лончын (Ленчын?), што ляжаў над Лабай і які ў лацінскай транскрыпцыі называўся Lunkini і Lunzin. Апрача гэтага, на тэрыторыі, дзе калісьці жылі вільцы-люцічы, захаваліся яшчэ гарадкі з назовамі Лютцаў і Ляйцэн.

Калісьці ня толькі паасобныя плямёны, але й плямёны, аб'ядналыя ў межах адной дзяржавы, маглі называцца абагулена, зыходзячы з уласнага імя князя. Гэтак узьнік этнічны назоў палякаў "ляхі" — ад імя легендарнага князя Леха. Таксама ў сярэдзіне X ст. палякаў называлі яшчэ "ліцікамі", або "ліцікавікамі". Гэтыя назовы, якія адпавядалі імю польскага князя Лесткі, занатавалі Канстантын Парфірародны й саксонскі храніст манах Відукінд.

Аднак свае найменні плямёны маглі атрымліваць яшчэ ад назоваў рэкаў і гарадоў. Возьмем, да прыкладу, нашых палачанаў, якіх у старых летапісах адрозьнівалі ад крывічоў як асобнае племя. Радары, якія належалі да аб'яднаньня плямёнаў вільцаў-люцічаў, бясспрэчна, маглі запазычыць свой назоў ад гораду Радагошч. Жыло на захадзе яшчэ славянскае племя любушанаў, у якіх галоўным культавым цэнтрам быў горад Любуш.

Магчыма, згадваючы пра ўсходнеславянскае племя *лензанінаў-ленцанінаў*, бізантыйскі імпэратар меў на ўвазе якраз *люцічаў*, але іхны назоў высноўваў ад пачутага ім найменьня пагранічнага гораду вільцаў-люцічаў Ленчына або Люнцына. Дарэчы, у мясцовасьці гэтага гораду жыло невялікае племя лінянаў, што таксама належала да аб'яднаньня плямёнаў вільцаў-люцічаў й называлася Linones, Lingones і Linagga. У лацінскай транскрыпцыі краіна люцічаў і люцічы называліся Leutici (Leuticia), Lutici (gens Luticiorum, terra Luticiorum), Liutici (terra Liuticiorum), Liutizi, Liuzici, Luidici, Luidizi ("Hos quattuor populos a fortitudine Wilzos appellant vel Leuticos", "Carolus gentem Vulzorum subegit, qui Lutici vocantur", "Wilzi, a nobis dicuntur Leutici", "ultra Leuticios, qui alio nomine Wilzi dicuntur", "Wilzi sive Lutici appellantur", "qui Lutici sive Wilzi dicuntur"). Таксама яшчэ ў 12 — на пачатку 13 ст. некаторыя з памаранскіх князёў і біскупаў ужывалі тытул (замест "dux Pomeranorum", "dux Slavorum"): "dux Liuticiorum", "Leuticiorum episcopus" (1219).

Апрача культавага цэнтру Радагошча ў вільцаў-люцічаў быў горад Драгавіт, які ляжаў над ракой Пенай. У грамаце нямецкага караля Канрада III ад 1150 г. пацьвярджаліся ранейшыя прывілеі для Гавэльбэрскай каталіцкай япархіі, побач зь іншымі паселішчамі славянаў-радараў згадваліся Драгавічы й Людзіны. Паводле гэтага дакумэнту, паселішча Драгавічы знаходзілася на поўдзень ад Гавэльбэргу, а Людзіны — гэта цяперашні гарадок Людзеніц. Сярод земляў Гавэльбэрскай япархіі былі названыя таксама землі Linagga, Liezici і Nielietizi. Мяркуем, што пад "лецічамі" і "нялецічамі" трэба разумець зьмененыя формы назоваў люцічаў і нялюцічаў[176].

Мы ўжо казалі, што ў мясьцінах, дзе калісьці жылі плямёны аб'яднаньня вільцаў-люцічаў, захаваліся тапанімічныя назовы Крывіч і Крэва, а таксама назовы гарадкоў: Баседаў, Любц, Любтэн, Міраў і Цяцераў. У дагаворнай грамаце мэкленбурскага князя Гэнрыха Барвіна ад 1222 г. згадваліся паселішчы, якія знаходзіліся, праўда, на тэрыторыі абадрытаў: Brizen, Lubimari, Mirisdorp і Wizendorp[177]. Няцяжка здагадацца, што гэта былі Берасьце, Любаміры, Мір і Віцень.

Цяпер перанясем прыгадваныя тут тапанімічныя назовы на тэрыторыю, скажам, Заходняй Беларусі. Два Радагошчы захаваліся ў Янаўскім і Навагрудзкім раёнах. З Радагошчам супадаюць назовы Радзеж і Радашкавічы. Маюцца два Драгічыны, назоў якіх мог па-

ходзіць ад племя дрыгавічы, але гэткі назоў яны маглі атрымаць таксама на ўзор гораду Драгавіт і паселішча Драгавічы. Рака Пена адмяжоўвала чэразпенянаў ад радараў і далянчанаў, і Пінай называецца прыток Прыпяці. Не гаворачы ўжо пра назовы Крывіч і Крэва, для Баседаў ёсьць адпаведнікі Бяседа, Бяседнікі, Бяседнае, Бяседы; для Любца й Любтэна — Любча, Любатынь, Любач, Любань, Любна, Любель, Любейкі, Любашава, Любашкі, Любята; для Людзінаў — Людзьвінава; для Мірава — Мір; для Цяцерава — Цяцераў, Цецяроўка, Цецеравец, Цецяровінцы, Цяцеры.

Прасочым таксама, якія спэцыфічныя сьляды з гледзішча тапанімії дадаткова маглі пакінуць перасяленцы часткі вільцаў-люцічаў: Вількамір, Ваўковічы, Ваўкалата, Валкінікі, Вількія, Вількі, Вільча, Вільканцы, Вілкавішкі, Воўчын, Ваўкавыск; Люта, Лютая, Лютаўка, Люцін, Люцын, Люцец, Лютавень, Лютыня, Лютыніца, Лютэйка, Летаўка. Можна далучыць сюды Людалішкі і Люцынішкі, што знаходзяцца каля Вільні й Трокаў.

Перад тым як у X ст. вільцаў пачалі называць яшчэ й люцічамі, у старых заходнеэўрапейскіх аналах паўтаралася: "His motibus ita conpositis, Sclavis, qui nostra consuetudine Wilzi, proprie vero, id est sua locutione, Welatabi dicuntur, bellum inlatum est"; "Sclavi, qui dicuntur Wilzi"; "Carlus pugnavit contra Wilzis in Wenedonia"; "Karolus rex cum exercitu Francorum perrexit ad Sclavos in Wilcia, et conquisivit ipsam patriam cum ipso rege nomine Dragovit, et reversus est cum pace".

Магчыма, што найменьне вільцаў і краіны Вільцыі было татэмнага паходжаньня — ад татэму ваўка. У стараславянскай мове воўк зваўся "влъкъ", у старой мове ўсходніх славянаў і баўгараў — "вълкъ" і ў мове заходніх славянаў — "вільк" і "вельк".

У прыгадваных намі хроніках Тытмара Марзэбурскага, саксонскага манаха Відукінда, Адама Брэмэнскага й Гельмольда з Бузава не было гаворкі ні пра Літву й ліцьвіноў, ні пра люцічаў, частка якіх магла перасяліцца на ўсход. Аднак, гаворачы пра народы й плямёны, якія жылі на ўсход ад Балтыйскага мора, там, дзе была Русь, Адам Брэмэнскі прыгадаў яшчэ гэткі народ: "Ibi sunt etiam, qui dicuntur Alani vel Albani, qui lingua eorum *Wizzi* dicuntur, crudelissimi ambrones". Гэтых "віццаў" перакладнікі й дасьледнікі звычайна атаясамліваюць з фінскім племем *весь*. Але камэнтатар Адама Брэмэнскага, які апрацаваў чарнавы рукапіс храніста, гэтую мясьціну ўдакладніў так:

"...Alani vel Albani, qui lingua eorum *Wilzi* dicuntur, crudelissimi

ambrones"[178]. Гэта значыць, тыя "албані-вільцы" былі ўсёедным, лютым народам.

У лацінскай мове рака Лаба (Эльба) называлася Альбай і пісалася: Альбіс, Альба і Альбія, што значыла рака Белая. Альбіяй, асабліва ў старых дацкіх хроніках (напрыклад, Саксона Граматыка) называлася таксама краіна, што ляжала на поўнач ад ракі Лабы. Там жа былі "Вэнэдыя" й "Славія", жыхары якіх часта называліся агульным найменьнем трансальбіянцаў ("tres episcopatus in transalbina Sclavia ad propagandum christiane religionis cultum deo adiutore instituimus" — Heinricus, dei gratia Bawarie et Saxonie dux, 1169). Другі назоў Адама Брэмэнскага для тых усходніх *вільцаў* — "албані" — быццам падказвае меркаваньне, што яны маглі перасяліцца на ўсход з краіны Альбіі.

Між іншага, атаясамліваючы заходніх вільцаў зь люцічамі, Адам Брэмэнскі люцічаў называў: "Ultra Leuticios, qui alio nomine Wilzi dicuntur", "Wilzi, a nobis dicuntur Leutici"[179]. Найменьне "леўтыцы" бліжэй супадае з назовамі ліцьвіноў і Літвы.

Зьвернем увагу на "Сагу пра Тыдрэка Бэрнскага", якая была запісаная ў Скандынавіі ў XIII ст. і ў якой напластавалася шмат сюжэтаў і падзеяў розных эпохаў. Дарэчы, у асобе галоўнага героя гэтай сагі заўважаецца далёкі гістарычны пэрсанаж: кароль остготаў Тэодарых, які пры канцы V ст. заваяваў землі Італіі, стварыў там дзяржаву остготаў і сваю рэзыдэнцыю меў у Вэроне. Памёр ён у 526 г. Тым ня менш у сазе адлюстраваліся зусім рэальныя гістарычныя факты. Напрыклад, пра гарады Ноўгарад, Полацак і Смаленск, пра "караля Русі" Ўладзімера, які тут называўся яшчэ "каралём Ноўгараду". "Гуналанд" сагі і кароль "краіны гунаў" Атыла ўвасаблялі Вугоршчыну, а ня колішні гунскі хаўрус плямёнаў. У старых заходнеэўрапейскіх аналах мадзяры-вугорцы называліся гунамі. Дарэчы, паводле гэтай сагі, кароль гунаў Атыла таксама паходзіў з Фрызіі, а каралём гунаў ён стаўся пасьля заваяваньня краіны гунаў.

Дык у "Сазе пра Тыдрэка Бэрнскага"[180] апавядалася пра тое, як "конунг", або князь, Вількін стварыў магутную дзяржаву, якая пачала называцца "Вількінландам", а народ гэтай дзяржавы — "вількінамі". Празь нейкі час пачаўся канфлікт князя Вількіна з Польшчай, у які ўмяшаўся князь Русі Гертніт. Пасьля спусташэньня Польшчы князь Вількін рушыў з сваім войскам на ўсход, дзе ня толькі здабыў Полацак і Смаленск, але авалодаў таксама Ноўгарадам —

сталіцай "рускага" князя Гертніта. Пазьней дайшло да замірэньня з ноўгарадзкім князем Гертнітам, а князь Вількін, пакінуўшы "войска вількінаў на Русі", сам вярнуўся ў "краіну Вількінланд"[181].

Ня будзем пераказваць аповяд сагі пра тое, што здарылася пасьля сьмерці князя Вількіна. Але адзначым, што далей гаворка ішла пра дзьве краіны вількінаў. Аналіз кантэксту сагі дазваляе сьцьвярджаць, што адна зь іх знаходзілася на захад ад Польшчы. Знаходжаньне другой краіны вількінаў, або вільцаў, акрэсьлівалася гэткім чынам: "І калі ён (конунг Атыла) падрыхтаваўся, дык дзеля помсты рушыў у Рускую зямлю. І як толькі ён увайшоў у царства Вількінланда і Руціланда, апустошваў і спальваў усё на сваім шляху і прычыніў ім вялікую шкоду. Конунг Вальдэмар даведаўся пра тое, што натварыў Атыла-конунг, сабраў да сябе людзей з усяе свае дзяржавы й паслаў супраць яго. Яны сустрэліся ў зямлі вількінаў, і было там у Вальдэмара шмат больш войска"[182].

Перад гэтым у сазе апавядалася, што "конунг Вальдэмар" княжыў у Ноўгарадзе. Дарэчы, у сазе згадваўся й іншы паход Атылы й Тыдрэка Бэрнскага супраць караля Русі Ўладзімера, і тут зноў канкрэтна называліся гарады Полацак і Смаленск[183]. Так што ў гэтых выпадках не магло быць гаворкі пра "іншую Русь" — тую Русь, якая знаходзілася на ўзьбярэжжы Балтыйскага мора. Названая ў цытаваным эпізодзе "зямля вількінаў", або "Вількінланд", не магла быць зямлёй заходніх вільцаў-люцічаў.

Якую можна зрабіць выснову? Мабыць, толькі адну: у "Сазе пра Тыдрэка Бэрнскага" адлюстраваныя паданьні пра колішняе перасяленьне часткі вільцаў-люцічаў з захаду на ўсход. У гэтым выпадку заміж конунга Вількіна правадыром мог быць і князь Рагвалод. У сагах, якія даўжэйшы час пераказваліся з вуснаў у вусны, адны імёны герояў маглі заменьвацца іншымі. Можна меркаваць, што й князю Рагвалоду, які, паводле летапісаў, "прыйшоў з-за мора", было нялёгка асталявацца ў Полацку й пашырыць сваю ўладу на іншыя гарады: "Рогволод... имяше власть свою в Полотьске, а Тур Турове: от него же и Туровци прозвашася". Інакш кажучы, умацаваньне Рагвалодам сваёй улады не адбылося бяз збройных сутычак з Ноўгарадам і Кіевам, хоць пра гэта й не гаворыцца ў кіеўскіх летапісах. Дарэчы, грунтуючыся на нейкіх даступных яму крыніцах, расейскі гісторык Васіль Тацішчаў пісаў, што канфлікт паміж Ноўгарадам і Полацкам здарыўся ў 978 г. не таму, што Рагнеда не пажадала стацца жонкай

князя Ўладзіміра, але таму, што князь Рагвалод "повоева волости новогородские"[184].

Між іншага, ёсьць яшчэ аповесьць пра ўчынкі легендарнага князя вільцаў-люцічаў Вілька, або Воўка. Яна трапіла ў так званыя "Пегаўэрскія аналы", што былі напісаныя ў палове XII ст. Аднак, паводле паданьня, занатаванага ў гэтых аналах, князь Вільк дзейнічаў на захадзе. Страціўшы зь нейкіх прычынаў падтрымку ў землях вільцаў-люцічаў, ён уцёк у Данію. Пазьней зноў імкнуўся з дапамогай зброі замацавацца ў сваіх ранейшых землях. Падзеі, зьвязаныя з учынкамі таго князя Вілька, можна датаваць пачаткам XI ст., калі яны толькі не належаць да паданьняў, пазбаўленых гістарычнай праўдзівасьці[185].

Што ж датычыць пэрсанажу "Сагі пра Тыдрэка Бэрнскага" ў асобе "конунга ноўгарадзкага Вальдэмара", дык кіеўскі вялікі князь Уладзімір Сьвятаслвіч сапраўды меў збройныя канфлікты ня толькі з Польшчай, але таксама з Вугоршчынай — у Закарпацьці, дзе ў тым часе жылі белыя харваты.

## Культы старажытных ліцьвіноў

Мы ўжо казалі пра камень Род, што ў якасьці межавай прыкметы згадваўваўся ў мірным пагадненьні вялікага князя Вітаўта зь вялікім магістрам Тэўтонскага ордэну Конрадам Юнгінгенам. Камень гэты ляжаў у вышнявіне ракі Нявяжы ў рэчцы Аа[186]. Падобна да таго, што ў якасьці межавага знаку ён быў абраны ня толькі дзеля сваіх вялікіх памераў. Больш верагодна, што ён належаў да культавых камянёў і быў добра вядомы ў далёкім навакольлі. Магчыма, ён быў апрацаваны ў форме ідала, стаяў калісьці ў цэнтры капішча, прысьвечанага культу бога Рода. Да гэткіх каменных ідалаў належаў, напрыклад, вядомы Збруцкі ідал, які ўзвышаўся калісьці на капішчы над ракой Збруч (левы прыток Днястра) і меў выявы Рода й Сьвятавіта дый іншых падпарадкаваных ім паганскіх бостваў[187].

Адрозна ад міталёгіі грэкаў і рымлянаў славянская міталёгія не зусім ясная. Як мяркуюць дасьледнікі, бóства Род належала да найвышэйшых нябесных багоў-тварцоў і валадароў сусьвету. Азначала яно пачатак нараджэньня ўсяго жывога, пачатак чалавечага роду. Апрача Рода гэткімі валадарамі сусьвету былі яшчэ Сварог, Сьвятавіт і Стрыбог. Стрыбог быў богам вятроў. Сьвятавіт аднолькава ўвасабляў першасную творчую сілу, сьвятасьць сьвятла й жыцьця.

Мабыць, у якасьці бога вайны й дастатку гэтае боства асабліва ўшаноўвалася на востраве Руген, дзе ў Арконе існавала для яго адмысловая сьвятыня-сьвяцілішча, а сам Сьвятавіт выступаў у абліччы чатырохгаловага ідала. Сварог быў богам неба й тварцом сонца, жыватворнага сонечнага сьвятла. Гэтай сваёй сілай ён збліжаўся й атаясамліваўся з богам Родам. Сынам нябеснага бога Сварога быў Даждбог-Сонца, які ўшаноўваўся ў якасьці стваральніка неабходных умоваў жыцьця[188].

У вільцаў-люцічаў, а канкрэтна ў радараў, галоўным боствам быў Сварожыч, культавы цэнтр і сьвятыня якога знаходзіліся ў горадзе Радагошч. Гэты горад і сьвятыню, прысьвечаную Сварожычу, апісаў у сваёй хроніцы Тытмар Марзэбурскі[189]. Няцяжка здагадацца, што Сварожыч вільцаў-люцічаў быў сынам бога Сварога й адпавядаў Даждбогу. Паводле Адама Брэмэнскага, галоўным богам у радараў і вільцаў-люцічаў увогуле быў Радагост, ці Радагаст, культавы цэнтр і сьвятыня якога месціліся ў горадзе Рэтра[190]. Сваю хроніку Адам Брэмэнскі пісаў шмат пазьней, перад 1080 годам.

З гэтых зьвестак Тытмара Марзэбурскага й Адама Брэмэнскага можна зрабіць выснову пра тоеснасьць бостваў Сварожыча й Радагоста. Гэтая тоеснасьць пацьвярджаецца яшчэ роднаснымі сувязямі з багамі Сварогам і Родам. Бо першы кампанэнт найменьня Радагоста супадае з найменьнем Род, а другі можа тлумачыцца славянскім тэрмінам "госьць", які азначаў ня толькі госьця-наведніка або госьця ў значэньні купца ці гандляра. З паняцьцямі "госьць" і "гасьціннасьць" былі зьвязаныя, напэўна, яшчэ паняцьці дабрыні й дабрадзейнасьці. Менавіта Даждбог быў тым дабрадзеем для чалавека, які пасылаў на зямлю сьвятло й цяпло, ствараў умовы для жыцьця. Даждбог, мабыць, не што іншае, як Дар Божы або Добры Бог. Гэткім дабрадзеем аднолькава быў Радагост, якога можна атаясамліваць з тым жа Дарам бога Рода або з пасланцом-"госьцем" гэтага бога Рода. Мы ўжо гаварылі, што Даждбог усходніх славянаў адпавядаў боству вільцаў-люцічаў Сварожычу-Радагосту (Радагасту).

Можна меркаваць таксама, што ранейшы культавы цэнтр вільцаў-люцічаў горад Радагошч атрымаў свой назоў ад Радагоста-Сварожыча або ад назову сьвятыні, прысьвечанай гэтаму богу.

Магчыма, што найменьні паселішчаў накшталт Родава, Радаван і Радгаціца таксама мелі нейкую сувязь з ушанаваньнем у заходніх славянаў культу бога Рода. Паселішчы з гэткімі славянскімі назовамі

згадваліся, напрыклад, у граматах Наўмбурскіх япіскапаў, што былі датаваныя 1121, 1145 і 1146 гг.[191] Паселішчы гэтыя знаходзіліся ў тым часе на ўсход ад ракі Заале.

Апрача каменя Рода мясьцінамі для ўшанаваньня культу бога Рода маглі быць у нас ня толькі паселішчы Радагошчы, але яшчэ й паселішча Радунь.

У стадаранаў, якія належалі да аб'яднаньня плямёнаў вільцаўлюцічаў, ушаноўваўся культ бога Яравіта. А Яравіту адпавядаў Ярыла — бог веснавога сонца, урадлівасьці й ярыны або бурлівага маладога жыцьця.

З культам бога Рода неадлучна былі зьвязаныя жаночыя боствы Лада й Лёля, калісьці званыя "ражаніцамі". Гэта былі багіні вясны, веснавых земляробчых працаў і ўрадлівасьці. Яны таксама ўшаноўваліся як заступніцы жанчынаў і апякункі каханьня й шлюбу. Просьбы-заклікі, зьвернутыя да гэтых багіняў, захаваў наш фальклёр у песьнях-вясьнянках. Між іншага, пра колішняе ўшанаваньне культу багіні Лады апавядалася ў вядомай "Хроніцы Літоўскай і Жамойцкай". Згадваючы пра падпарадкаваньне вялікім князем Гедзімінам Кіеву й Кіеўскай зямлі з усімі іншымі ейнымі гарадамі, аўтар гэтай хронікі пісаў: "Гедимин, великий князь литовский, преложивши на Киеве наместником Мендогова (сына), а иншие замки также старостами своими осадивши, вернулся до Литвы з великим звитязством и был от всех з великою радостю и з великими поклоны, 'лада, лада' спеванем и труб долгих гученем принятый"[192].

Якраз веснавое й восеньскае сьвяты, якія наладжваліся ў гонар Лады й Лёлі, а таксама бога Рода, адзначаліся сьпевамі й гульнямі пад гучаньне жалейкі, трубы й гусьляў. Вітаньне князя й ягонага пераможнага войска песенным зваротам "Лада-Лада" магло азначаць выказваньне падзякі, што багіня Лада пачула голас жанок і ўратавала сына, мужа або каханага. Як вядома, аўтар "Слова пра паход Ігаравы" паняцьце "лада" ўжыў у кантэксьце плачу Яраслаўны й ейнай просьбы-мальбы аб уратаваньні жыцьця князя й мужа Ігара. "Лада" ў гэтым выпадку разумеецца перакладнікамі ў значэньні "каханы" або "любы". Аднак і М.Стрыйкоўскі пісаў у сваёй "Кроніцы" пра тое, што яшчэ ў ягоным часе ў карагодных песьнях ліцьвіноў Лада ўшаноўвалася як багіня вясны. Мы ўжо адзначалі, што ліцьвіноў М.Стрыйкоўскі атаясамліваў з жамойтамі і адначасна залічаў іх да сям'і славянскіх народаў.

Пра тое, што ў славянаў багіня Лада ўвасабляла багіню вясны, можа сьведчыць і фальклёр харватаў:

"Sejala sem lena, Lado,
Na Ivanje, lenek, Lado,
Lenek, moj lenek, Lado,
Svilica moja, Lado,
Lenek, moj lenek, Lado..."[193]

Можна не пагадзіцца з тымі аўтарамі, якія легендарнага князя Сьвятарога залічаюць да пэрсанажаў жамойцка-летувіскай міталёгіі. Пра яго пішуць як пра "князя-жраца" й заснавальніка традыцыі спальваньня трупаў у пэўным месцы і з захаваньнем пэўнай рытуальнай цырымоніі[194]. Гэты міталягічны пэрсанаж князь Сьвятарог згадваўся якраз у беларускіх летапісах XVI ст., у якіх удакладнялася таксама, што рытуальным месцам спальваньня князёў была даліна Сьвятарога, якая знаходзілася пры ўпадзеньні рэчкі Вільні ў раку Вяльлю, там, дзе пазьней узьніклі Ніжні замак і ніжні горад Вільні.

На карысьць жамойцка-летувіскага паходжаньня гэтага міталягічнага пэрсанажу быццам сьведчыць той факт, што ў летапісах яго-нае імя звычайна пісалася *Швінтарог.* Маўляў, першы кампанэнт імя адпавядаў жамойцка-летувіскаму тэрміну "швентас" (сьвяты), адсюль і сам гэты пэрсанаж належаў да жамойцка-летувіскай міталёгіі й гісторыі. Аднак, напрыклад, у прыгадваных беларускіх летапісах уласнае імя князя Сьвідрыгайлы Альгердавіча таксама пісалася звычайна Швітрыгайла. Другое, у "Хроніцы Літоўскай і Жамойцкай" міталягічны пэрсанаж князь Сьвятарог выступаў ужо пад імем "Свиндорог" (Сьвіндарог). Значыцца, той Швінтарог мог яшчэ называцца *Сьвентарогам* — на ўзор таго, як у старых заходнеэўрапейскіх аналах пісаліся ўласныя імёны князёў накшталт Сьвентаслаў, Сьвентаполк, Сьвентабор або імя бога Сьвентавіта.

Калісьці ўласьцівыя для мовы ўсіх славянаў насавыя галосныя "ен" і "он" затрымаліся ў мове заходніх славянаў, асабліва польскай, а ў мове ўсходніх славянаў яны перажылі дэназалізацыю й перайшлі ў "я" і "у". Сьвентаполк, напрыклад, пачаў называцца Сьвятаполкам, бог Сьвентавіт — Сьвятавітам. Што да імя міталягічнага пэрсанажу Сьвятарога, дык, відаць, дастасоўна да яго захоўвалася заходнеславянская форма вымаўленьня і ў народзе яго працягвалі называць Сьвентарогам.

Не выглядае арыгінальным і тэзіс пра абсалютную ўнікальнасьць

дахрысьціянскіх культаў, якую прыпісваюць свайму народу летувіскія дасьледнікі. Маўляў, ушаноўваўся культ каня, а таму ваяроў і князёў хавалі ў курганох або спальвалі на рытуальных вогнішчах разам з баявым канём; ушаноўвалася сьвятасьць вечнага агню; ушаноўваўся культ сьвятых дубоў, сьвятых гаёў і лясоў, сьвятых крыніцаў, рэкаў і вазёраў; ушаноўваўся культ сьвятых камянёў...[195]

Пэўна, што гэтыя культы ўшаноўваліся і ўсімі іншымі індаэўрапейскімі народамі. Апрача Пётры Дузбурга й Яна Длугаша пра культавыя абрады заходніх славянаў пісалі ў сваіх хроніках Марзэбурскі япіскап Тытмар, Адам Брэмэнскі, Гельмольд з Бузава, Саксон Граматык або Козьма Праскі, прычым ня толькі пра ўшанаваньне славянамі культу сьвятых дубоў, гаёў і лясоў, крыніцаў, рэкаў і вазёраў або камянёў-ідалаў. Пісалі яшчэ й пра тое, што, напрыклад, у паганскіх сьвятынях вільцаў-люцічаў і руянаў-русаў, прысьвечаных боствам Сварожычу-Радагосту й Сьвятавіту, прыслужвалі коні, якіх уважалі за сьвяшчэнныя істоты. Апрача таго, у Арконе на востраве Руген сьвятыню найвышэйшага бога Сьвятавіта, які меў у сваім распараджэньні каня белай масьці, ахоўвалі й забясьпечвалі матэрыяльным утрыманьнем 300 конных ваяроў. Грунтуючыся на паведамленьнях Пётры Дузбурга наконт паганскіх звычаяў старажытных прусаў, а таксама й ліцьвіноў, можна дадаць, што і ў заходніх палабска-паморскіх славянаў жрацы галоўных сьвятыняў карысталіся большым аўтарытэтам, чымся князі, і гэтыя галоўныя сьвятыні атрымлівалі трэцюю частку ўсялякай ваеннай здабычы. Гэта апрача ахвяраваньняў і пэўнага невялікага падатку з насельніцтва.

Дарэчы, што маглі азначаць словы, выказаныя Сьв. Кірылам Тураўскім: “Обновися тварь; уже бо не нарекуться богомь стихия: ни солнце, ни огнь, ни источници, ни древеса”?

Яшчэ перад Янам Длугашам паганскія вераваньні ліцьвіноў апісаў Энэй Сільвій Пікаляміні. Ён грунтаваўся на зьвестках, пачэрпнутых з аповядаў чэскага тэоляга Яна Гераніма з Прагі, які асабіста браў удзел у масавым хрышчэньні ліцьвіноў і зьнішчаў там усялякія культы й атрыбуты паганства, у тым ліку й сьвяцілішча зь вечным і сьвятым агнём. Але пра ліцьвіноў Пікаляміні пісаў як пра народ славянскай мовы, а польскі гісторык Ян Длугаш тых жа ліцьвіноў залічаў да *славянізаваных* балтаў гэтак званага “італійскага паходжаньня”.

Пётра Дузбург таксама пісаў пра асобных ліцьвіноў, якія вало-

далі, паводле яго, "польскай" мовай. Пад 1290 г. ён апісаў эпізод, як абхітрылі на Нёмане водны разьведвальны патруль крыжакоў. Гаворка йшла пра замак Калайна й ягоны гарнізон, якім камандаваў каштэлян Сурмін. Каб заманіць крыжакоў падысьці бліжэй да берагу, сярод абаронцаў замку быў абраны чалавек, што ведаў польскую мову, які, прыкінуўшыся палоненым хрысьціянінам, мусіў прасіць паратунку ў крыжацкага патруля. Чалавек гэты, які валодаў польскай мовай, мог быць ліцьвіном, бо, паводле Дузбурга, яшчэ аднаму ліцьвіну Надаму была даручаная справа атакаваць пры нагодзе той крыжацкі водны патруль. Дарэчы, замак Калайна знаходзіўся над Нёманам у жамойцкай Каршоўскай зямлі і ў тым часе ягоны гарнізон мог складацца пераважна з жамойтаў.

Яшчэ адно паведамленьне Пётра Дузбург занатаваў пад 1302 г. Тут згадваўся адзін з нападаў на землі Пruскага Тэўтонскага ордэну невялікіх рабаўніцкіх казацкіх адзьдзелаў, якія, пэўна, карысталіся падтрымкай з боку ўрадавых колаў. У гэтым месцы сваёй хронікі Дузбург пісаў, што, перад тым як ажыцьцявіць напад на Любаўскую зямлю, ліцьвіны былі выслалі сюды папярэдне свайго выведніка, які валодаў польскай мовай[196].

Любаўская зямля з цэнтрам у Любаве знаходзілася ў комтурстве Астэродэ і ляжала, такім чынам, у цэнтры крыжацкай Прусіі. У тым часе польскага элемэнту там не было, але пасьля спусташэньняў, прычыненых паўстаньнямі прускіх плямёнаў і карнымі экспэдыцыямі крыжакоў, сюды завозіліся нямецкія каляністы. Польскіх сялянаў крыжакі пачалі запрашаць на пасяленьне ў Прусіі толькі дзесьці пасьля 1310 г.[197] Дык там, у гэтай Любаўскай зямлі, для збору зьвестак веданьне польскай мовы ліцьвіну-выведніку не было патрэбнае.

Можна меркаваць, што, гаворачы пра "польскую" мову, Пётра Дузбург меў на ўвазе славянскую мову ўвогуле, у тым ліку й мову "русінскую".

Аднак загадкавасьць гэтага сьцьверджаньня Дузбурга хаваецца ў іншым. Сапраўды, калі б ліцьвіны належалі да сям'і балцкіх плямёнаў, дык і той ліцьвін-выведнік увогуле ня меў бы патрэбы ведаць "польскую" мову. У крыжацкай Прусіі жылі ягоныя агульнамоўныя суродзічы, для кантактаў і паразуменьня зь якімі ён, будучы ліцьвінам, ня мог мець аніякіх моўных перашкодаў. Бо нельга дапусьціць, што ўжо ў тым часе ў Прусіі, а разам і ў Любаўскай зямлі, дашчэнту было зьнішчанае ўсё насельніцтва старажытных прусаў.

На фоне гэтай загадкавасьці зноў прыгадаем выказваньне вялікага князя Вітаўта, паводле якога судавы-яцьвягі залічаліся да гетаў ці готаў і гэтым самым этнічна супрацьпастаўляліся ліцьвінам. Праўда, той жа Вітаўт жамойтаў моўна й этнічна радніў зь ліцьвінамі, хоць гэтых жамойтаў зноў жа вылучаў як асобны народ. Дык мабыць, ліцьвіны належалі да народаў славянскай мовы, былі адгаліненьнем колішніх вільцаў-люцічаў?!

Возьмем для прыкладу адзін з атрыбутаў паганскіх вераваньняў ліцьвіноў *Зьніч*. Яго прыгадаў Длугаш, апісваючы эпізод першага хрышчэньня ліцьвіноў і зьнішчэньня ў Вільні ў 1387 г. паганскага сьвяцілішча, дзе гарэў сьвяты й вечны культавы агонь. Длугаш памылкова меркаваў, быццам у мове ліцьвіноў Зьнічам зваўся галоўны сьвятар-жрэц, які падтрымліваў гэты агонь і быў адначасна вешчуном. Гэткім найвышэйшым паганскім "капланам", супольным для прусаў, ліцьвіноў і жамойтаў, у іншым месцы Длугаш называў Крывэ-Крывэйта. Зьніч азначаў вечны й сьвяты агонь якраз у славянаў-паганцаў, і гэткае значэньне яго яшчэ й сёньня захавалася ў называньні *зьнічам* алімпійскае паходні, надмагільнай сьвечкі або агню над магілай невядомага жаўнера. Тэрмін "Зьніч" у значэньні сьвятога агню пайшоў, відаць, ад стараславянскага дзеяслова "знети — знити" — гарэць.

### Герб дзяржавы й назоў сталіцы

Пашыранае меркаваньне, што гістарычны герб з выявай *Пагоні* належыць да нацыянальна-дзяржаўных набыткаў толькі сучаснага летувіскага народу. Аднак жа этымалёгія слова "пагоня" сьведчыць пра тое, што ў якасьці эмблемы князёў або дзяржаўнага гербу Пагоня магла ўзьнікнуць толькі ў славянскім моўна-палітычным асяродзьдзі. Вось што азначала Пагоня паводле Ягайлавай граматы 1387 г. (на жаль, даводзіцца цытаваць у сучасным рускім перакладзе, бо пад рукой мы ня маем арыгіналу):

"Согласно древнему обычаю, — адзначалася ў той Ягайлавай грамаце, — военный поход остается обязанностью, которая осуществляется собственными затратами и расходами. В том же случае, если придется преследовать врагов, неприятелей наших, которые бы убегали *с нашей литовской земли*, то для этого рода преследования, которое *по-народному* называется *погоней*, обязуются отправляться

не только рыцари, но и каждый мужчина, какого бы он ни был происхождения или состояния, только бы он был способен носить оружие"[198].

Гэтая грамата вялікага князя і ў тым часе ўжо польскага караля Ўладыслава Ягайлы была датаваная 20 лютага 1387 г. Паводле яе князі й баяры Княства, якія пераходзілі ў каталіцтва, атрымлівалі на ўзор польскіх магнатаў адмысловыя прывілеі й больш асабістых правоў. Упершыню ў пісьмовай форме гэтай граматай акрэсьлівалася сымболіка Пагоні, а Пагоняй называлася ў народзе паспалітае рушаньне або ўсенародны абавязак збройна абараняцца ад ворагаў. І тут ня гэтак важнае пытаньне, калі й пры якім князі Пагоня сталася дзяржаўным гербам Вялікага Княства. Важнейшы той факт, у мове якога народу Пагоняй было названае тое паспалітае рушаньне. Нагадаем, што ў іншай Ягайлавай грамаце, ад 22 лютага 1387 г., была гаворка пра асобную *"нацыю ліцьвіноў"*, якая, паводле забавязаньня караля Ўладыслава Ягайлы, павінна была прыняць хрышчэньне каталіцкага абраду.

Да гэтага можна дадаць, што, напрыклад, у XIV ст. пячаткамі з адлюстраваньнем Пагоні карысталіся ня толькі князі Гедзімінавічы. У якасьці княжай эмблемы Пагоню ўжывалі таксама друцкія князі, што паходзілі ад колішняга полацкага князя Рагвалода Барысавіча. Мы ўжо казалі пра пагадненьне, якое князь Вітаўт аформіў 30 студзеня 1384 г. зь вялікім магістрам Тэўтонскага ордэну Канрадам Цёльнерам. Тое пагадненьне змацоўвалася таксама пячаткай друцкага князя Льва, на якой, як і на пячатцы самога Вітаўта, аднолькава фігуравала выява Пагоні.

Для вызначэньня нацыянальнага характару дзяржавы важна ведаць ня толькі паходжаньне дзяржаўнага гербу й мова якога народу была дзяржаўнай мовай. Вялікае значэньне мае ў гэтым выпадку таксама назоў сталіцы дзяржавы. Ад пачатку свайго заснаваньня сталіца Княства звалася *Вільняй* і ніколі *Вільнюсам*. Звернемся хоць бы да лацінскамоўных актаў, якія пісаліся ў канцылярыі вялікага князя Гедзіміна й датаваліся 1323 або 1324 гг. Яны былі равесьнікамі самога акту заснаваньня гораду Вільні. Дык у тых Гедзімінавых актах, улучаючы сюды й ягоныя пасланьні, паўтаралася: "Datum in civitate nostra Vilnia"; "ereximus duas ecclesias, unam in civitate nostra regia, dicta Vilna, aliam in Novgardia"; "Datum Wilno in die sancte trinitatis"; "Desse bref is utgegeven uppe unseme hus to de Vilne"[199]. Апошні з гэ-

тых прыкладаў узяты з тэксту мірнага пагадненьня ў перакладзе на старанямецкую мову.

Калі чытаеш матэрыялы расейскіх і летувіскіх дасьледнікаў, прысьвечаныя тапаніміцы й праблемам лінгвістыкі, дык ствараецца ўражаньне, быццам уся тэрыторыя Беларусі пакрытая тапанімічнымі назовамі пераважна балцкага паходжаньня[200]. Гэта датычыць і рэкаў Вяльлі й Вільні дый нават назову гораду Вільні. Быццам рака Вяльля (Вілія?) сваё найменьне не магла атрымаць ад старaславянскіх лексэмаў "велий" (вялікі) або "виляти" (віляць, круціцца)? Другое, горад Вільня быў заснаваны пры ўпадзеньні рэчкі Вільні ў раку Вяльлю. Адсюль узяўся і назоў Вільня, пераняты ад назову рэчкі Вільні. Інакш кажучы, у назове Вільні нічога жамойцка-летувіскага няма. Сваё найменьне яна атрымала на ўзор іншых беларускіх гарадоў: Бабруйск, Вялейка, Віцебск, Менск, Мерач, Пінск або Полацак ці Горадня.

### Сьціраньне мяжы паміж ліцьвінамі й русінамі

Па-за ўвагай дасьледнікаў гісторыі Вялікага Княства Літоўскага не магла застацца зьява, якую можна назваць сьціраньнем этнічнай мяжы паміж ліцьвінамі й русінамі (мы тут абстрагуемся ад пазьнейшых ліцьвіноў, скажам, эпохі Адама Міцкевіча або ад той зьявы, што, напрыклад, у Масковіі ўсё жыхарства Княства называлі ліцьвінамі). Напрыклад, у "Хроніцы Быхаўца" чытаем пра князя Вітаўта: "а колі русіном остал, далі былі імя ему Юрій"; пра князёўну Соньку Гальшанскую: "а з поколеня руского"; пра ўяўнага полацкага князя Барыса: "і будучы ему русіном, был вельмі набожон". У хроніцы гэты князь Барыс называўся ліцьвінам. Зрэшты, нямецкі храніст Герман Вартбэрг таксама пісаў пра сына Міндоўга князя Войшалка: "cum esset Rutenus".

Атрымаўшы перамогу ў змаганьні за ўладу, вялікі князь Вітаўт у 1392 г. выдаў грамату-наказ для сваіх намесьнікаў і цівуноў. Справа датычыла працэдуры далейшага хрышчэньня ліцьвіноў, і цяпер каталіцкаму япіскапу дазвалялася ажыцьцяўляць абрады хрышчэньня толькі ліцьвіноў-паганцаў. Што да ўжо праваслаўных ліцьвіноў, дык забаранялася перахрышчваць іх з ужыцьцём гвалту. Арыгінал гэтай Вітаўтавай граматы, пісаны на старабеларускай мове, не захаваўся і маецца толькі польскі пераклад: "A ktory Russyn badze a bądze chczyal po swey woly szya krczycz, ten szyą nyechay krczy; a ktory nyechcze, on bądze w swey wyerze"[201].

А вось яшчэ крыжацкі дакумэнт 1409 г., складзены ў выглядзе "Памяткі", якая распаўсюджвалася на Захадзе й мела за мэту скампрамэтаваць палітыку польскага караля Ўладыслава Ягайлы й вялікага князя Вітаўта. У гэтым дакумэнце была гаворка пра колішнюю "здраду хрысьціянству" князя Міндоўга, а таксама пра "крывадушнасьць" у памкненьнях ахрысьціць Літву князёў Гедзіміна, Альгерда й Кестута. Такая "крывадушнасьць" аднолькава прыпісвалася Ягайлу й Вітаўту, бо, маўляў, і яны патуралі "русінам", а Ягайла прыняў хрышчэньне толькі дзеля таго, каб стаць каралём Польшчы, каб дзеля змаганьня з хрысьціянствам патэнцыйна ўмацаваць Літву й Русь. Нарэшце, тая крыжацкая "Памятка" канчалася гэткім абвінаваўчым акордам: "Таксама ёсьць фактам, што праз добрыя 23 гады валадараньня караля Польшчы ў землях Літвы й Русі вельмі мала ўзрос культ Хрыста. А гэта таму, што там у адной царкве маецца два япіскапы, адзін зь якіх, будучы Хрысьціянінам, існуе бедна й мізэрна, а іншы, Русін, ёсьць багаты й заможны. І там, дзе адзін сярод Ліцьвіноў ("літоўскай мовы" ці нацыі) ахрышчаны паводле хрысьціянскага абраду (закону), там, магчыма, добрая сотня будзе знарок ахрышчаных паводле русінскага абраду, і дагэтуль у Літве вялікая колькасьць сярод знатных (уплывовых князёў і паноў) ёсьць Русіны"[202].

Можна дадаць, што ў гэтым крыжацкім дакумэнце і брат караля Ўладыслава Ягайлы князь Скіргайла аднолькава залічаўся да "русінаў".

Дык чаго было больш у тых акрэсьленьнях, ужываных у дачыненьні да ліцьвіноў і якія сьцьвярджалі: "будучы яму русінам"; "а хто будзе ўжо русінам, той можа перахрышчвацца згодна ўласнай волі або заставацца пры сваёй веры": веравызнаўчай характарыстыкі й сутнасьці або сьціраньня этнічнай мяжы паміж ліцьвінамі й русінамі? У тыя далёкія часы, напрыклад, ліцьвіноў каталіцкага веравызнаньня ніколі не называлі палякамі. Таксама ліцьвіны праваслаўнага ("рускага") веравызнаньня, напрыклад князі Гальшанскія й князі Гедзімінавічы й Альгердавічы, аднолькава й пераважна заставаліся ліцьвінамі.

Перад тым як паспрабаваць знайсьці адпаведны адказ на гэтае пытаньне, зьвернемся яшчэ да характарыстыкаў прускага храніста Віганда з Марбургу. Ён быў сучасьнікам князёў Ягайлы, Кестута й Вітаўта, а сваю прускую хроніку пісаў у 1393—1394 гг. Лацінскі пе-

раклад гэтай хронікі, які дайшоў да нас, быў зроблены з пропускамі. Шмат хапае й абагульненьняў, а таму страчаныя характарыстыкі й дэталі ў апісаньні падзеяў. Аднак яшчэ пры канцы XVI ст. арыгіналам гэтай хронікі карысталіся нямецкія гісторыкі Станіслаў Борнбах і Каспар Шутц, якія жылі ў Гданьску.

З гэтае прычыны выдаўцы лацінскага тэксту хронікі Віганда палічылі патрэбным дапоўніць ейныя адпаведныя мясьціны вытрымкамі з працаў гданьскіх гісторыкаў.

Напрыклад, гаворачы пра часы вялікага магістра Тэўтонскага ордэну Лютара з Браўншвайгу (1331—1335), Борнбах адзначыў, што ў апісаньні Віганда магістр гэты шмат меў збройных канфліктаў "з русінамі, гэта значыць зь ліцьвінамі, а таксама з палякамі"[203]. Тое сама і, як вынікае, сьледам за Віґандам паўтарыў сам Борнбах — у кантэксьце апісаньня хаўрусу вялікага князя Гедзіміна з польскім каралём Уладыславам Лакеткам і паведамленьня пра сьмерць папярэдняга вялікага магістра Вэрнэра з Арсэльну (1324—1330) дый абраньне на гэтую пасаду Лютара з Браўншвайгу[204].

Значыцца, паводле Борнбаха, вялікія магістры Вэрнэр з Арсэльну й Лютар з Браўншвайгу варагавалі не зь ліцьвінамі, а з русінамі. Таму адзначым, дзе, з гледзішча Борнбаха, жылі русіны й знаходзілася Русь. Паведамляючы пра спусташэньне ў 1391 г. навакольля Трокаў войскам вялікага магістра Канрада Валенрода, Борнбах пісаў, што магістр гэты напаў на землі Русі[205]. У тым часе Канрад Валенрод быў альянтам і збройна падтрымліваў князя Вітаўта, які, змагаючыся за ўладу ў Княстве, меў канфлікт з каралём Ягайлам і ягоным братам вялікім князем Скіргайлам. Паводле таго ж Борнбаха, Русь гэтая знаходзілася яшчэ далей на поўнач і на захад ад Трокаў — над Вяльлёй і каля Коўні, ахопліваючы таксама паласу правага ўзьбярэжжа Вяльлі й Нёману да ўпадзеньня ў Нёман ракі Нявяжы[206]. Прыгаданы Борнбахам горад "Койна" — гэта Коўня, а замак Новая Коўня ляжаў на нёманскім востраве насупраць вусьця ракі Нявяжы. Названы ў спасылцы "брат" Генінг Шындэкопф быў у тым часе маршалкам Прускага Тэўтонскага ордэну.

Разьмяшчаючы Русь у навакольлі Трокаў і над ракой Вяльлёй, Борнбах, праўдападобна, ня быў фантазёрам. Магчыма, ён грунтаваўся на зьвестках нямецкамоўнага арыгіналу хронікі Віганда. Бо ж і ў лацінскім перакладзе гэтай хронікі захавалася характарыстыка Вільні як "civitas Rutenica" або горада, што быў заснаваны "ру-

сінамі". Пра гэта Віганд Марбурскі пісаў у кантэксьце паведамленьня пра аблогу крыжацкім войскам і спаленьне Вільні ў верасьні 1383 г.[207] Тое спаленьне таксама здарылася пры ўдзеле князя Вітаўта, што было вынікам ягонага "антыягайлаўскага" альянсу з тагачасным вялікім магістрам Тэўтонскага ордэну Канрадам Цёльнэрам.

Віганд Марбурскі яшчэ сьцьвярджаў, што Русь знаходзілася й каля Трокаў — там, дзе недалёка ад Валкінікаў над ракой Мерачанкай калісьці існаваў замак Дрэўнікі. У 1372 г. гэты замак зьведаў напад крыжакоў. Ён, паводле Віганда, знаходзіўся на тэрыторыі Русі[208].

Пад 1364, 1367, 1372, 1376 і 1382 гг. Віганд пісаў пра крыжацкія напады на замкі й землі, што ляжалі каля Трокаў і над ракой Стрэвай, паабапал Вяльлі й над Нёманам крыху далей на захад ад упадзеньня ў яго Вяльлі. Віганд паведамляў, што пры кожным з гэткіх рабаўнічых нападаў крыжакі зьнішчалі цывільнае насельніцтва або бралі ў палон і гналі ў Прусію "ліцьвіноў-паганцаў" і "рутэнаў". Прычым першае месца сярод палоненых займалі "рутэны", а ліцьвіноў Віганд звычайна называў "паганцамі"[209].

Дык што меў на ўвазе Віганд, калі нават сталіцу, здавалася б, уласна Літвы Вільню характарызаваў як "рускі горад" або горад русінаў? Або тое, што ў сэрцы гэтай уласна Літвы русіны жылі ўперамешку зь ліцьвінамі, або ня бачыў этнічнай розьніцы паміж імі. Да русінаў, як выглядае, Віганд залічаў праваслаўнае насельніцтва, а ліцьвіноў, якія трымаліся паганства, ён пераважна й называў "паганцамі".

І тут можна прыгадаць крыху кур'ёзны дакумэнт польскага паходжаньня. Маецца на ўвазе пасольская інструкцыя для польскага пасольства, якое ў 1505 г. наведалася ў Рым дзеля перамоваў з нова-абраным Папам Юліюсам II. Гэтае пасольства ўзначальваў згадваны ўжо намі Эразм Цёлак, які на той час меў тытул плоцкага япіскапа. Дакумэнт быў складзены ад імя польскага караля й вялікага князя ВКЛ Аляксандра Казіміравіча, але ягоным сапраўдным аўтарам, хутчэй за ўсё, быў канцлер Польскага каралеўства Ян Ласкі. Бо й акрэдытыў для таго польскага пасольства ад 6 сьнежня 1504 г. таксама быў напісаны канцлерам Янам Ласкім.

Палітычная тэндэнцыйнасьць гэтага дакумэнту, пра што будзе гаворка, тлумачылася тагачаснымі спрэчкамі вакол Мельніцкай вуніі 1501 г., паводле актаў якой Княства мелася страціць свой дзяржаўны сувэрэнітэт і стацца звычайнай правінцыяй Польскага каралеўства. Польшча мела таксама праблемы з Прускім Тэўтонскім ор-

дэнам, у сувязі з чым шукала падтрымку ў Ватыкане. Што да польскага канцлера Яна Ласкага, дык ён быў заядлым абаронцам Мельніцкай вуніі, зьліцьця Вялікага Княства з Польшчай, што й засьведчыў сваімі выступленьнямі й прапановамі на Берасьцейскім сойме, які адбыўся ў лютым 1505 г. Насуперак польскім пажаданьням Берасьцейскі сойм, як вядома, увогуле скасаваў Мельніцкую вунію.

У згаданай пасольскай інструкцыі рабілася дзіўнае адкрыцьцё: маўляў, гэта не вялікія князі Гедзімін і Альгерд ставілі супраціў татарскім заваёвам і вызвалілі шмат земляў Русі з-пад татарскага панаваньня, а... каралі Польшчы. Другі кур'ёз, якім пачыналася тая пасольская інструкцыя, палягаў у тым, што быццам Вялікае Княства спрадвеку існавала як правінцыя Польскага каралеўства і ўсе землі Польскага каралеўства, улучаючы сюды "Літоўскае княства" і землі Русі (Галіцкай) і Прусіі, ад даўнейшых часоў *засяляюць палякі*[210].

Такія дзівосныя на той час прэтэнзіі маглі датычыць гэтак званых "Каралеўскіх Прусаў" або той часткі Прускага Тэўтонскага ордэну, якая ў выніку вайны 1454—1466 гг. адышла да Польшчы й дзе ў складзе насельніцтва ўзрос польскі элемэнт, а часткова й былой Галіцкай Русі, куды таксама адбываўся наплыў польскага элемэнту. Аднак гэтыя прэтэнзіі ніяк не маглі датычыць Вялікага Княства Літоўскага, дзе палякаў у тым часе не было, з выняткам некалькіх дзясяткаў каталіцкіх ксяндзоў польскага паходжаньня.

Тады пра што можа сьведчыць факт гэткага этнічнага "апалячваньня" насельніцтва Княства і ў прыватнасьці насельніцтва ўласна Літвы? Пэўна, у далёкім Ватыкане можна было расказваць пра палітычную дый польскамоўную этнічную веліч Польскага каралеўства. Але рызыкоўна было б гэтак свабодна засяляць палякамі землі ўласна Літвы дый Русі. Нагадаем яшчэ раз, што пры сваім першым дыпляматычным візыце ў Ватыкан у 1501 г. той сама Эразм Цёлак меў нагоду паведаміць там, што ліцьвіны, паводле яго, захоўвалі ўласную мову, але звычайна карысталіся мовай русінаў. Таму падобна да таго, што адзначаны тут кур'ёз тагачаснай польскай дыпляматыі можна тлумачыць ня толькі павевамі вялікадзяржаўных амбіцыяў. *Большую вагу ў гэтым выпадку мелі погляды на ліцьвіноў і русінаў Княства як на народы, этнічна блізкія палякам.*

У гэтым дакумэнце, а таксама ў іншай пасольскай інструкцыі, выдадзенай пасольству Эразма Цёлка, якая датычыла дыпляматычных

захадаў у Вэнэцыі, была гаворка й пра Маскоўскую дзяржаву. У абедзьвюх пасольскіх інструкцыях Масковія характарызавалася як "Белая Русь"[211].

Менш празрыстай была інструкцыя, напісаная ў Вільні ў сакавіку 1503 г. і прызначаная для польскага сойму, які склікаўся ў Пётракаве. Інструкцыя была складзеная ад імя польскага караля й вялікага князя Аляксандра, і ў ёй, апрача іншых праблемаў, закраналася магчымасьць засяленьня новымі пасяленцамі Галіцкай Русі, спустошанай і абязьлюдненай турэцка-татарскімі рабаўнічымі набегамі. Відаць, праект гэты, які прадугледжваў і арганізацыю абароны ад далейшых турэцка-татарскіх нападаў, датычыў таксама іншых украінскіх паўднёва-заходніх земляў, што ўваходзілі ў склад Княства. Гэтае пытаньне й павінны быў абмеркаваць Пётракаўскі сойм, у працы якога мелася ўзяць удзел і дэлегацыя з Княства. У інструкцыі пытаньне ставілася гэткім чынам: ці варта ўвогуле запрашаць на пасяленьне хай сабе й рыцарскі, але прыгодніцкі й разнастайны чужаземны элемэнт або прадстаўнікоў якога-небудзь з эўрапейскіх народаў, што сваімі звычаямі й характарам аднолькава адрозьніваліся ад народаў Польскага каралеўства й Вялікага Княства. У кантэксьце гэтага выбару ў інструкцыі асаблівая ўвага была зьвернутая на чэхаў як на народ адначасна адважны й рыцарскі, прадпрымальніцкі й славянскі[212].

Значыцца, і ў справе засяленьня земляў новымі пасяленцамі тагачасныя дзяржаўныя дзеячы Польскага каралеўства й Княства перавагу аддавалі славянскаму элемэнту.

Факт сьціраньня межаў паміж ліцьвінамі й русінамі, факт іхнай этнічнай інтэграцыі вельмі добра сфармуляваў Леў Сапега ў сваёй прадмове да Статуту ВКЛ рэдакцыі 1588 г. (тут і далей цьвёрды знак на канцы слова апушчаны): "А если которому народу встыд прав своих не умети, поготовю нам, которые не обчым якым языком, але своим власным права списаные маем и каждого часу чого нам потреба ку отпору всякое кривды ведати можем".

Далей, у тым трэцім Літоўскім Статуце, у 1-м артыкуле 4-га разьдзелу, дэкляравалася: "А писар земский маеть по руску, литерами и словы рускими, вси листы, выписы и позвы писати, а не иншим езыком и словы".

Для ілюстрацыі гэткай рэчаіснасьці варта яшчэ зацытаваць адзін абзац з прывілейнай граматы ад 1 лютага 1588 г., якой новаабраны

польскі кароль і вялікі князь ВКЛ Жыгімонт III Ваза пацьвярджаў усе ранейшыя правы й прывілеі жыхароў Княства: "На-первей, Статут прав В. К. Литовского, тепер новопоправленый через депутатов, от станов Великого Князства на то обраных, а на том сойме коронацыи нашей для потверженья нам поданый, змоцняем и до ужыванья даем *(якож о том привилей наш, водле права их Руского, писмом Руским обывателем великого князства Литовского выдати росказали есьмо)*, и к ужыванью яко наборздей привести обецуем, заховываючи им завжды вольности прав их и Статуту поправу, ведьже так, иж тое напротив списом уніи, яко и тот Статут, звязку уніи ничого шкодити не мает"[213].

Дарэчы, працэс сьціраньня этнічных межаў паміж ліцьвінамі й русінамі адлюстравалі нашмат ранейшыя дзяржаўныя акты. Гэта дагаворныя граматы наконт мірных пагадненьняў 1440 г. з Ноўгарадзкай і Пскоўскай рэспублікамі, якія афармляліся ад імя вялікага князя й "каралевіча" Казіміра Ягайлавіча. Вось вытрымка з дагаворнай граматы, што датычыла Пскоўскай зямлі: "... а коньчали (мир) есмо так: што ж послу из нашее земли из Литовское, и гостю — или Литвин, или Русин, или Полочанин, или Витеблянин, или Смолнянин, — тым путь чыст изо всее моее отчыны в Псковскую землю... Також и Псковичом, послу и гостю, изо всее отчины Псковское тым всим путь чыст во всю мою отчину, в Литовскую землю; а гостю торговати во всей Литовской земли по старыне... *А мне великому князю Казимиру блюсти Псковитина, как и своего Литвина; також и Псковичом блюсти Литвина, как и Псковитина...* Аже вчыниться пеня гостю в Литве Псковскому, коньчать по великого князя правде и по целованію; аже вчыниться пеня нашым, или Литвину, или Полочанину, или Витьбляном, или Смолняном во Пскове, коньчати по Псковьской правде и по целованію"[214].

Цытуем таксама адпаведную вытрымку з дагаворнай граматы, якая датычыла Ноўгарадзкай зямлі: "...докончал есми мир вечный со владыкою Новгородским с Евфимьем... А што моих людзей, или Литвин, или Витблянин, или Полочанин, или Смолнянин, или с иных нашых Руских земль, тым путь чыст изо всее моее отчыны... Також и Новгородцом изо всее Новгородское волости торговати, без пакости, по всей Литовской земли. *А мне великому князю Казимиру, королевичю, блюсти Новгородца, как и своего Литвина; також и Новгородцом блюсти Литвина, как и своего Новгородца...*

А вчыниться пеня гостю Новгородцу в Литве, тамо ему и кончати, по княжой правде и по хрестному целованію; или вчыниться пеня в Новегороде Полочанину, или Витблянину, или Литвину, или Русину з нашого великого княженья, кончати в Новегороде, по княжой правде и по хрестному целованью"[215].

## Дачыненьні з Жамойцяй

Цяпер прасочым, як на фоне этнічнай інтэграцыі ліцьвіноў і русінаў паводзілі сябе жамойты. У актах вядомай Літоўскай мэтрыкі захаваліся пэтыцыі Жамойцкай зямлі, што разглядаліся на вальных соймах, і адказы на іх вялікіх князёў Жыгімонта Казіміравіча й ягонага сына Жыгімонта Аўгуста. Вось адзін з пунктаў у адказах вялікага князя Жыгімонта Старога на пэтыцыі Жамойцкай зямлі 1542 г.: "При том што они мовили, иж над права и привилья их, *Литве и Руси и Ляхом вряды, тивунства суть розданы*, чого за предков его милости господарских не бывало; а их братье, тамошним родичом и обывателем, за их прозбою, за ким бы они просили, мели быть вряды там в Жомойти розданы: король его милость росказал на тое им поведити, иж што ся дотычет тых тивунов, не тамошних родичов, тогды тое не от короля его милости походило, але з них же самых; а ведьже впредь хочет его милость водлуг прав и привильев их в том заховати".

Гэта быў 7-ы пункт, а 4-ы пункт у адказах Жыгімонта Старога датычыў яшчэ гэткай скаргі жамойтаў: "За тым, што ся дотычет границ Лифлянтских, иж они панов комисаров потыкали на границы, где ся з Жомойтскою границою Литовская сняла, а границою Литовскою николи не езжывали. Ино король его милость росказал на то им поведити, иж и теперь далей границ своих не мають они панов комисаров потыкати: одно мають они своих границ водлуг давного обычаю пильновати и на них стояти, и оттоль с тых границ ити и их выводити, поки граница земли Жомойтское лежит, а далей через свои границы не повинны они ездити"[216].

Зьвернемся яшчэ да пэтыцыяў Жамойцкай зямлі, што разглядаліся ў 1554 г. пад час працы Віленскага сойму і на якія даваў адказ вялікі князь Жыгімонт Аўгуст: "(12). *Прозьба*: За тым теж просили есте е. к. м., *абы вряды в земли Жомойтской не были даваны ани Литве, ани Руси, а не оселым, одно Жомойти*, которые з отцов и з родичов своих суть тамошніе обыватели оселые, и то за причыною старосты, тивунов и шляхты. *Одказ*: То господар е. м. хочет опа-

тровати по тому, яко за отца его милости славное памяти, и вже за шчастливого панованья его к. м. бывало"[217].

Такім чынам, вынікае, што самі жамойты не раднілі сябе зь ліцьвінамі, і гэтая тагачасная рэчаіснасьць адлюстраваная яшчэ ў пашыраным прывілеі для Жамойцкай зямлі, які ў 1574 г. на каранацыйным сойме ў Кракаве пацьвердзіў Генрык Валуа Анжуйскі. Як вядома, гэты новаабраны кароль Польшчы й вялікі князь ВКЛ доўга не затрымаўся на ўсходзе й хутка вярнуўся ў Францыю, што, аднак, ня можа зьмяніць сутнасьць справы і зьмест таго жамойцкага юрыдычнага акту. Вось два артыкулы з той прывілейнай граматы Генрыка Валуа Анжуйскага для Жамойцкай зямлі:

"(1). Иж продки обывателей земли Жомойтское их милости продком нашим в. кн. Литовским сами добровольне под панованье ся поддали, а не мечом, а ни кгвалтом до того притеснены, и абы в доброй славе их мнеманья злого нихто чинити не смел; и яко то на привильях от их милостей князей Литовских им есть варовано, так и мы господар то признаваем, иж они яко до продков наших в. кн. Литовских, так и до нас господаря, за добровольным обраньем, *яко вольный народ*, приступили.

(3). Тым же теж способом и иныи достоенства и вряды, тивунства, хоружства и державы, не маем никому иншому в земли Жомойтской давати, одно родичом тое земли, которые с продков своих, здавна, там засели и урожены суть, и которых они на тые вряды межи собою оберут, а нам их через посланцы альбо листы свои наменять, тым вряды тые давати повинни будем; а мимо властных родичов Жомойтских, на вряды и достоинства *иншого народу людей* не маем в той земли Жомойтской прекладати"[218].

У 17-м артыкуле той прывілейнай граматы адзначалася: "Права и вольности хрестіянскіе всему рыцерству, шляхте, бояром и всему посполъству земли Жомойтской поступаем и даем такіе, якіе обывателем великого князства Литовского от продков наших суть наданы".

Пэўна ж, гэты артыкул адлюстроўваў рэакцыю жамойтаў на Статут Вялікага Княства рэдакцыі 1566 г. Сапраўды, Статут гэты вылучаў Жамойць як асобную палітычна-этнічную адзінку й абмяжоўваў правы жамойтаў. Статут абвяшчаў, што "вси обыватели великого князства Литовского одним правом писаным... сужоны быть мают". Але тут жа, у 1-м артыкуле разьдзелу І, вылучаў Жа-

мойць і называў яе сярод земляў, “прыслухаючых” або “належачых” Княству. Апрача Жамойці да гэткіх “прыслухаючых земляў” залічаліся яшчэ Кіеўская, Валынская й Падляшская.

Фактычнае абмежаваньне правоў жамойтаў вынікала са зьместу 9-га артыкулу разьдзелу III. Цытуем адпаведныя мясьціны:

“Иж достоенств врядов в дедицтво чужоземцом давано быти не маеть. Так теж мы господар обецуем и шлюбуем под присегаю, которую учынили есьмо великому князству Литовскому и всим станом и обывателям его... штож в том панстве в. к. Литовском и во всих землях ему прислухаючых достойностей духовных и свецких городов дворов и кгрунтов староств в держаньи и пожываньи и вечностей жадных чужоземцом и заграничником ани суседом того панства давати не маем; але то все мы и потомки наши великіе князи Литовскіе давати будуть повинни только Литве а Руси, родичом старожитым и врожонцом великого князства Литовского и иных земль тому великому князству належачих...

А хотя бы хто обчого народу за свои заслуги в той речы посполитой пришол ку оселости з ласки и данины нашое, альбо которым иншим правом; тогды таковые толко оселости оное ужывати мають будучы обывателем обецным великого князства и служачы службу земскую томуж панству. Але на достоенства и всякій вряд духовный и свецкій не маеть быти обиран, ани от нас господаря ставлен, *толко здавна продков своих урожонец великого князства Литовского Литвин и Русин.* А где бы одержал обчого народу человек который кольвек вряд духовный и свецкій против сему статуту напомненый того пустити не хотел; тогды таковый маетность свою на нас великого князя Литовского тратит, кгдыж около того и в статуте судейском Польском ест описано”.

Інакш кажучы, жамойты мелі падставы адчуваць сваю палітычную й этнічную “адчужанасьць”. Мелі таксама падставы ставіцца да ліцьвіноў як да “людзей іншага народу” і характарызаваць сябе як асобны “вольны народ”.

У сувязі з гэтым варта зьвярнуць увагу на гэткі факт. Вялікі князь ВКЛ і кароль Польшчы Аляксандар Казіміравіч сутыкнуўся з праблемамі ў дачыненьнях з Прускім Тэўтонскім ордэнам. Вялікі магістр гэтага ордэну Фрыдрых Саксонскі (1498—1510) марудзіў з пацьверджаньнем Торуньскага мірнага пагадненьня 1466 г.; ён адмаўляўся таксама пацьвердзіць прысягай сваю васальную залеж-

насьць ад Польскага каралеўства. З гэтае прычыны адрадзіўся праект, які прадугледжваў або перамяшчэньне Тэўтонскага ордэну ў Нямеччыну, або перасяленьне яго на тэрыторыю прычарнаморскіх стэпаў, дзе ён мог бы праявіць сябе ў змаганьні з экспансіяй Турэцкай імпэрыі й рабункавымі набегамі татараў Крымскага ханства. Гэтую справу й мелася абмеркаваць у Ватыкане згадванае ўжо намі польскае пасольства, якое было даручанае плоцкаму япіскапу Эразму Цёлку. Аднак Ватыкан, у прыватнасьці Папа Юліюс II, згадзіўся толькі паспрыяць, каб вялікі магістр Фрыдрых Саксонскі пацьвердзіў нарэшце ўмовы Торуньскага мірнага пагадненьня й склаў прысягу сваёй васальнай залежнасьці ад польскай кароны.

Адсюль пайшоў іншы праект: на ўсёй тэрыторыі Прусіі заснаваць штосьці накшталт асобнага царкоўнага княства або незалежную каталіцкую мітраполію. Каталіцкія япархіі Прусіі вызваляліся б з-пад юрысдыкцыі Рыскага архіяпіскапа і тым самым з-пад кантролю Прускага Тэўтонскага ордэну. Гэты апошні праект асабліва падтрымліваў тагачасны япіскап Варміі (адной зь земляў Прусіі) Лукаш Ватцэльродэ.

Да асаблівасьцяў праекту належала тое, што прапанавалася й Жамойць улучыць у склад гэткага царкоўнага княства або незалежнай каталіцкай мітраполіі. Пра ўсё гэта й была гаворка ў адпаведным дакумэнце, які быў ухвалены на Люблінскім сойме і ад імя польскага караля й вялікага князя Аляксандра Казіміравіча накіраваны ў Ватыкан дзеля апрабацыі Папам Юліюсам II[219]. Дакумэнт быў датаваны 28 лютага 1506 г.

Дык як тлумачыць гэты факт, маючы на ўвазе яшчэ тую акалічнасьць, што цытаваны тут дакумэнт Люблінскага сойму ўласнаручна падпісаў вялікі князь Аляксандар Казіміравіч, які быў "кроўным" ліцьвінам? Названая ў дакумэнце прычына, што, маўляў, Жамойцкая каталіцкая япархія аддаленая ад цэнтру Польскай каталіцкай мітраполіі, ад Гнезны, і бліжэй знаходзіцца ці сутыкаецца з Прусіяй, не магла быць пераканальнай. Гэтак аддаленай ад Гнезны была й Віленская каталіцкая япархія. Просьба ж, зьвернутая да Папы Юліюса II, заснаваць асобную Прускую каталіцкую мітраполію і далучыць да яе таксама Жамойцкую каталіцкую япархію азначала й вылучэньне самой Жамойцкай зямлі са складу Княства. Бо, як адзначалася, дзеля палітычнага аслабленьня Тэўтонскага ордэну ў Прусіі тая Пруская каталіцкая мітраполія мелася

быць чымсьці большым за звычайную царкоўна-адміністрацыйную тэрытарыяльную адзінку — царкоўным княствам накшталт, скажам, былой Ноўгарадзкай рэспубліке, дзе архіяпіскапу належала фактычная палітычная ўлада.

Мабыць, факт гэты або праект грунтаваўся на той рэальнасьці, што Жамойць у складзе ВКЛ была нібы “іншародным целам”, а жамойты этнічна адчувалі сябе больш зьліжанымі з карэнным насельніцтвам Прусіі.

Дарэчы, у гэтым дакумэнце Жамойць была ахарактарызаваная ў даволі непрывабным сьвятле. Маўляў, дзеля кантактаў з цэнтрам Рыскай мітраполіі праз тэрыторыю Жамойці было небясьпечна падарожнічаць з Прусіі ў Рыгу[220]. Гэткая характарыстыка Жамойці адназначна можа сьведчыць пра ейны асобны статус у складзе Вялікага Княства Літоўскага.

## ЗАЎВАГІ

1 Krzyżaniakowa J., Ochmański J. Władysław II Jagiełło. Wrocław, 1990; Tyszkiewicz J. Tatarzy na Litwie i w Polsce. Warszawa, 1989; Łowmiański H. Prusy — Litwa — Krzyżacy. Wyboru dokonał M.Kosman. Warszawa, 1989.

2 Ермаловіч М. Па слядах аднаго міфа. Мінск, 1991; Чаропка В. Праўда “неабвержных фактаў” // Полымя. 1990. № 12. С. 202—208; Лыч Л. Рэлігія і мова // ЛіМ. 1991. 19 ліп.

### Япіскап Хрысьціян і Лукаш Давід пра Літву (с. 5—7)

3 Boockmann H. Der Deutsche Orden. München, 1989. S. 76—96.

4 Johannes Voigt. Geschichte Preussens. Bd.I. Königsberg, 1827. S. 621.

5 Preussische Chronik von M. Lucas David / Herausgegeben von D. Ernst Hennig. Königsberg, 1812—1813.

6 Ibidem. Bd.1. S. 61.

7 Ibidem. S. 58—59, 79—80.

### Нататкі Жыльбэра дэ Лянўа (с. 7—9)

8 Oeuvres de Ghillebert de Lannoy. Recueillies et publiées par Ch. Potvin. Louvain, 1878.

9 Ibidem. C. 28—29.

10 Ibidem. C. 39—40.

11 Ibidem. C. 41.

12 Ibidem. C. 42.

## Сьведчаньні князёў (с. 9—12)

13 SPR. T.2. Leipzig, 1863. P. 712—714.

14 Codex Ecclesiae Vilnensis. Nr. 55. P. 84—86.

15 Скурат К. Даўнія беларускія меры. Мінск, 1974.

16 Constantine Porphyrogenitus. De administrando imperio / Edited by Gy. Moravcsik & R.J.H. Jenkins. Budapest, 1949. P. 63.

17 Румянцева В. Эмблемы земель и гербы городов Левобережной Украины периода феодализма. Киев, 1986. С. 33, 36.

18 Semkowicz W. Braterstwo szlachty polskiej z bojarstwem litewskim w unii Horodelskiej 1413 roku // Polska i Litwa w dziejowym stosunku. Kraków, 1914. S. 410—412.

19 Codex Ecclesiae Vilnensis. Nr. 56. P. 86—88.

20 Скурат К. Цыт. пр. С.113—115.

21 Тамсама. С. 17—19, 72—73.

22 Die Chronik Wigands von Marburg // SPR. T. 2. Leipzig, 1863. P. 544—545.

23 Ibidem. P. 623.

24 Krzyżaniakowa J., Ochmański J. Op. cit. P. 13.

25 Ibidem. P. 266—267.

26 Jana Długosza Roczniki czyli Kroniki sławnego Królestwa Polskiego. Ks. 10. Warszawa, 1981. P. 238—240.

## "Памылка" Энэя Сільвія Пікаляміні (с. 13—15)

27 Fijałek J. Kościół Rzymsko-katolicki na Litwie // Polska i Litwa w dziejowym stosunku. Kraków, 1914. S. 47—52.

28 Das Conzil zu Konstanz in den Jahren 1414—1418. Nach Ulrich von Richentals handschriftlicher Chronik bearbeitet von J.Barmor. Konstanz, 1874. S. 88—115.

29 Aeneas Sylvius. De Lituania regione // SRP. T. 4. Leipzig, 1870. P. 237—239.

30 Ibidem. P. 231—235.

31 "Lituania et ipsa late patens regio Polonis ad orientem connexa est, palustris ferme omnis ac nemorosa... Rara inter Lituanos oppida neque frequentes villae. Opes apud eos praecipuae animalis pelles, quibus nostra aetas zibellinis armellinisque nomina indidit... Multum his cerae ac mellis est, quod sylvestres in sylvis apes conficiunt. Vini rarissimus usus et panis nigerrimus. Armenta victum praebent multo lacte utentibus. *Sermo gentis Schlavonicus est;* latissima est enim haec lingua et in varias divisa sectas. Ex Schlavis enim alii Romanam ecclesiam sequuntur ut Dalmatae, Croatini, Carni ac Poloni. Alii Graecorum sequuntur errores ut Bulgari, Rutheni et multi ex Lituanis. Alii proprias haereses invenere ut Bohemi, Moravi et Bosnenses, quorum magna pars Manichaeorum imitatur insaniam. Alii gentili adhuc caecitate tenentur quemadmodum multi ex Lituanis idola colentes. Horum magna pars aevo nostro ad Christum conversa est, postquam Vladislaus ex ea gente Poloniae regnum accepit" (Ibidem. P. 237—238).

32 Hartmann Schedel. Das Buch der Cronicken und Geschichten (Nachdruck der Ausgabe 1493, Nürnberg). München-Allach, 1965. S. 278—278a.

33 Johannes Cochlaeus. Brevis Germanie descriptio (1512) // Quellen (der Neuzeit). Bd.l. Darmstadt, 1960. P. 120—123.

[34] Joannis Boemi Omnium Gentium Mores. Antverpiae, 1538. P. 80v—81v.

## Пра “італійскае паходжаньне” ліцьвіноў (с. 15—22)

[35] SRP. T. 1. Leipzig, 1861. P. 806—808.

[36] Christoph Hartknoch. Alt- und Neues Preussen oder preussischen Historien. Frankfurt-Leipzig, 1684. S. 3, 9—10, 35, 86.

[37] Matthias de Miechowia. Descriptio Sarmatiarum Asianae et Europianae. Cracoviae, 1521.

[38] Martinus Cromerus. De origine et rebus gestis Polonorum. Basileae, 1555.

[39] Stryjkowski M. Kronika polska, litewska, żmódzka i wszystkiej Rusi. T. 1—2. Warszawa, 1884.

[40] Ibidem. T. 1. P. 21, 26—28, 33—38, 43 50, 65.

[41] Stanislai Orichovi Annales Polonici ab excessu Sigismundi // Joannis Dlugossi Historiae Polonicae. Lipsiae, 1712. Col. 1477—1480.

[42] Stryjkowski M. Op. cit. T. 1. P. 107—108, 111.

[43] Michalonis Lituani De moribus Tartarorum, Lituanorum et Moscorum. Vilnius, 1966. P. 23.

[44] Ibidem. P. 24.

[45] Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры / Склаў А.Коршунаў. Мінск, 1959. С. 191; Прадмовы і пасляслоўі паслядоўнікаў Францыска Скарыны: Укладанне, уступны артыкул і каментарыі У.Кароткага. Мінск, 1991. С. 25.

[46] Thomas Hiärn. Ehst-, Lyf- und Lettländische Geschichte // MLA. Bd.1, Riga, Dorpat und Leipzig, 1835. S. 21.

[47] Ibidem. P.20.

[48] Stanislai Sarnicii Annales sive de origine et rebus gestis Polonorum et Litvanorum // Joannis Dlugossi Historiae Polonicae. Lipsiae, 1712. Col. 1082.

[49] Erasmi Stellae. De Borussiae antiquitatibus libri duo // SRP. T. 4. Leipzig, 1870. P. 275—298.

[50] Kronika Sarmacyi Europeskiey Alexandra Gwagnina // Zbior Dziejopisów Polskich. T. IV. Warszawa, 1768. P. 222—223.

[51] Erasmus Stella. Op. cit. P. 285—287, 294—295.

[52] Alexandr Gwagnini. Op. cit. P. 11.

[53] Thomas Hiärn. Op. cit. Bd.1. P. 15—16.

[54] Ibidem. P. 25.

[55] Ibidem. P. 24—26.

[56] Ibidem. Bd. 2. P. 57.

[57] Chronica Carionis gantz new geschrieben vom Herrn Philippo Melanthon. Verdeutscht durch M. Eusebium Menium. Bd. 1—4. Franckfurt am Meyn, 1566.

[58] Ibidem. Bd. 1. S. 16a.

[59] Ibidem. Bd. 4. S. 15a.

[60] Petri de Dusburg Chronica terre Prussie // Quellen (des Mittelalters). Bd.XXV. Darmstadt, 1984. P. 102—107.

61 Długosz J. Op. cit. Ks. 1—2. Warszawa, 1962. P. 285—286.

62 Ibidem. Ks. 10. P. 215—221.

63 Ibidem. Ks. 11. Warszawa, 1985. P. 86.

## Ліцьвіны й жамойты (с. 22—27)

64 Codex Ecclesiae Vilnensis. Nr. 70. P. 737.

65 "Sentenciastis enim et pronuncciastis primo in terra Samaytarum, que est hereditas et patrimonium nostrum ex legittima attavorum et avorum nostrorum successione, quam et nunc possidemus, que eciam est et semper fuit unum et idem cum terra Lythwanie, nam unum ydeoma et uni homines. Sed quod terra Samaytarum est terra inferior ad terram Lythwanie, ideo Szomoyth vocatur, quod in lythwanico terra inferior interpretatur. Samoyte vero Lythwaniam appelant Auxstote, quod est terra superior respectu terre Samaytarum. Samagitte quoque homines se Lythwanos ab antiquis temporibus et nunquam Samaytas appelant, et propter talem ydemptitatem (sic! indemnitas? identitas?) in titulo nostro non de Samagicia nos scribimus, quia totum unum est, terra una et homines uni" (Codex epistolaris Vitoldi. Pars I, Nr. 861. P. 467).

66 Zajączkowski St. Studya nad dziejami Żmudzi wieku XIII. Lwów, 1925. S. 9.

67 Codex epistolaris Vitoldi. Pars I, Nr. 426—427. P. 194—201.

68 Ibidem. Pars II. Appendix. Nr. VI. P. 1018—1024.

69 Codex Ecclesiae Vilnensis. Nr. 70, 72. P. 737, 739—740.

70 Ibidem. Nr. 70—73, 71. P. 101—103, 738—739.

71 "Ne igitur sicut navis sine remige relicta de facili periclitatur, sic gens ista Samagittarum nondum in fide sancta instructa et firmata deficiente pastore in errores priores paganicos et revera peiores recidivare videretur, nos igitur huiusmodi pericula evitare... episcopatum seu ecclesiam kathedralem ibidem in terra Samagittarum in districtu Medinicensi dignum duximus erigendum et fundandum et de facto erigimus et fundamus, ad quem venerabilem virum magistrum Mathiam origine Lytwanum, praepositum Wilnensem ydoneum et discretum postulamus..." (Ibidem. Nr. 70. P. 737).

72 Ibidem. Nr. 68. P. 735—737.

73 "Venerabilem virum magistrum Mathiam prepositum Wilnensem de vite puritate, morum venustate et sciencia ceterisque virtutibus multipliciter commendatum ac de ydiomate Samagitico sufficientissime institutum, ex hominibus assumptum et pro hominibus in pontificem constitutum Medinicensem ad instanciam prefatorum clarissimorum principum in virtute Trinitatis vivifice consecravimus" (Ibidem. Nr. 73. P. 103).

74 "Venerabilem dominum Mathiam magistrum arcium, prepositum Wilnensem Lythwanum necnon ydiomate Samagitico plenissime eruditum, virum utique et morum eminencia stabilem et virtutum laudabili venustate redimitum, cuius merita brevitate contenta, que plus luce lucent meridiana, hominum subiecta sunt oculis testimoniis (!) relinquimus, consentientibus prefatis serenissimis principibus in episcopum Mednicensem, qui in dicta Samagittarum terra situs est locus et dictorum dominorum regis et ducis Withowdi benignitate pro ecclesia cathedrali cum sufficienti dotatione deputatus et a nobis consecratus iuxta mandati nobis a beatissima paternitate exhibiti formam et decretum" (Ibidem).

75 Napiersky K.E. Russisch-Livländische Urkunden. St. Petersburg, 1868. Nr. 214. S. 176; Fijałek J. Op. cit. P. 114—115.

[76] "...Defuncto igitur reverendo patre fratre Andrea ordinis Minorum, predicte ecclesie nostre (Vilnensis) episcopo et pastore... omnes unanimiter... ex consensu serenissimi principis domini Vladislai Dei gracia regis Polonie, summi principis Lythuanie et heredis Russie et fundatoris, ac illustris Allexandri alias Vitowti ducis Lythuanie et Russie terrarum etc., in devotum virum fratrem Jacobum ordinis Minorum, natum quodam Joannis dicti Plychta quondam lectorem Cracoviensem, nunc vero vicarium *Lythuanie, eiusdemque nacionis et lingue,* qui hucusque laudabiliter vixit in eodem officio, discretum, idoneum, de legitimo thoro procreatum, moribus et sciencia illuminatum... duximus vota nostra et in nomine Patris et Filii et Spiritus Sancti ipsum postulavimus et presentibus postulamus in episcopum ecclesie nostre supradicte et pastorem..." (Codex Ecclesiae Vilnensis. Nr. 34. P. 60—61).

## Лівонская рыфмаваная хроніка (с. 28—31)

[77] Livländische Reimchronik // SRL. Bd.1. Riga und Leipzig, 1853. S. 724—727.

[78] Ibidem. P. 630—634.

[79] Zajączkowski St. Op. cit. P. 63, 96—107.

[80] Livländische Reimchronik. S. 679—680.

[81] Uralte Preusische und Lifflendische Cronike // SRL. Bd. 1. Riga und Leipzig, 1853. S. 842—866.

[82] Die Jüngere Hochmeisterchronik // SRP. Bd. 5. Leipzig, 1874. S. 36—159.

[83] Chronicon Equestris Ordinis Teutonici Incerti Auctoris // Antonii Matthaei Veteris Aevi Analecta. Editio secunda. T. V. Hagae-Comitum, 1738. P. 615—818.

[84] Livländische Reimchronik. S. 630—632.

[85] Ibidem. P. 580, 598, 615, 692.

[86] Preussisches Urkundenbuch. Bd.3, 1. Lieferung (1335—1341). Herausgegeben von Dr. Max Hein (Nachdruck der Ausgabe 1944). Scientia Aalen, 1961. Nr. 134, 135. S. 96—101.

[87] Die Chronik Wigands von Marburg. S. 490—494.

[88] Hermanni de Wartberge Chronicon Livoniae // SRP. T. 2. Leipzig, 1863. P. 79—80; Manfred Hellmann. Grundzüge der Geschichte Litauens und des litauischen Volkes. 4. Auflage. Darmstadt, 1990. S. 29.

## Згадка Эразма Цёлка (с. 31—33)

[89] Vetera Monumenta Poloniae et Lithuaniae... Edita ab Augustino Theiner. Vol. 11. Romae, 1861. Nr. 299. P. 277—280.

[90] "(Lithuani) linguam propriam observant. Verum quia Rutheni medium fere Ducatum incolunt, illorum loquela, dum gracilis et facilior sit, utuntur communius" (Ibidem. P. 277).

[91] Codex Ecclesiae Vilnensis. Nr. 507. P. 616—617.

[92] Анушкин А. На заре книгопечатания в Литве. Вильнюс, 1970.

## Дзе знаходзілася Аўкштота? (с. 33—37)

[93] Ермаловіч М. Цыт. пр. С. 27—28.

[94] Hermanni de Wartberge Chronicon Livoniae. P. 88.

[95] Ibidem. P. 104.

[96] Ibidem. P. 105—106.

[97] Ibidem. P. 88.

[98] Die Chronik Wigands von Marburg. P. 510—511. Fußnote 413.

[99] SRP. T. 2. Leipzig, 1863. P. 709—711.

[100] Die Chronik Wigands von Marburg. P. 539—540, 546—547.

[101] Petri de Dusburg Chronica terre Prussie. P. 374—375.

[102] Die Chronik Wigands von Marburg. P. 633—635.

[103] Chronicon Equestris Ordinis Teutonici Incerti Auctoris. P. 778 (Cap. CCCXII).

[104] Послания Гедимина. № 18. С. 186—195.

[105] Тамсама. № 8. С. 64—75.

[106] "Hoc tempore Letwini de Stripeyke, Opythen (Upita), Mezevilte (Wysevilte), **de Austeyten** volebant se a Lethowia transferre; sed refutati per magistrum" (Hermanni de Wartberge Chronicon Livoniae // SRP. Band II. Leipzig, 1863. P. 78).

[107] Die Chronik Wigands von Marburg // SRP. Band II. Leipzig, 1863. P. 523—524.

## Славянскія словы ў лацінскіх тэкстах (с. 37—46)

[108] Рыбаков Б. Язычество древней Руси. Москва, 1987. С. 755—765.

[109] Смоленские грамоты XIII—XVI веков / Подготовили к печати Т.Сумникова и В.Лопатин. Москва, 1963.

[110] Полоцкие грамоты XIII — начала XVI веков / Составитель А.Хорошкевич. Москва, 1977. № 2. С. 36—37.

[111] Послания Гедимина. № 17. С. 174—187.

[112] Пашуто В. Образование Литовского государства. Москва, 1959. С. 308.

[113] Каханоўскі Г., Каханоўскі А. Руплівец нашай старасветчыны (Яўстах Тышкевіч). Мінск, 1991. С. 32.

[114] Скурат К. Цыт. пр. С. 67—68, 85—86.

[115] Тамсама. С. 48—52.

[116] Тамсама. С. 38—39, 171—172.

[117] Тамсама. С. 36—37.

[118] Тамсама. С. 109—111.

## Імёны старажытных ліцьвіноў (с. 46—58)

[119] Ласкоў І. Нашчадкі таямнічае Літвы // Полымя. 1991. № 8. С. 204—228; Яго ж. Племя пяці родаў // ЛіМ. 1989. 18 жн.

[120] Urkunden und erzählende Quellen zur deutschen Ostsiedlung im Mittelalter // Quellen (des Mittelalters). Bd. 26a—26b. Darmstadt, 1968, 1970.

[121] Die Chronik Wigands von Marburg. P. 645.

[122] Eggeriks Beninga Historie van Ostfrieslant // Antonii Matthaei Veteris Aevi Analecta. Editio secunda. T. IV. Hagae-Comitum, 1738. P. 67, 214.

[123] Arnoldi de Bevergerne civis Monasteriensis Chronicon Monasteriense // Antonii

Matthaei Veteris Aevi Analecta... T. V. P. 75—76, 97.

124 Ibidem. P. 872 (Praefecti Utrajectini).

125 Annales regni Francorum // Quellen (des Mittelalters). Bd. V. Darmstadt, 1962. P. 130—133; Anonymi vita Hludowici imperatoris. Ibidem. P. 316—317.

126 Патриаршая или Никоновская летопись // ПСРЛ. Т. 10. Москва, 1965. С. 214.

127 Козьма Пражский. Чешская хроника. Москва, 1962. С. 47.

128 Тамсама. С. 47—48, 148.

129 Urkunden und erzählende Quellen zur deutschen Ostsiedlung im Mittelalter. Bd. XXVIb. Nr. 101, 103, 104. S. 384—389, 390—399.

130 Annales Fuldenses // Quellen (des Mittelalters). Bd. VII. Darmstadt, 1964. P. 84—85.

131 Codex Ecclesiae Vilnensis. Nr. 151. P. 168—169.

132 Annales Fuldenses. P. 106—109, 136—137.

133 Adami Bremensis Gesta Hammaburgensis ecclesiae Pontificum // Quellen (des Mittelalters). Bd. XI. Darmstadt, 1961. P. 392—393.

134 Annales regni Francorum. P. 56—59, 64—65; Annales Laureshamenses & Enhardi Fuldensis annales // MGH. Scriptorum. T.I. Hannoverae, 1826. P. 34, 350—351.

135 Urkunden und erzählende Quellen zur deutschen Ostsiedlung im Mittelalter. Bd. XXVIa. Nr. 73, 88, 107. S. 294—297, 332—335, 400—405.

136 Откуда есть пошла Русская земля. Кн. 2. Москва, 1986. С. 549—550.

137 Narbutt T. Dzieje starożytne narodu Litewskiego. T. 1. Wilno, 1835. S. 156—159, 386—391.

138 Грамоти XIV ст. / Упорядкування і коментарі М.Пещак. Київ, 1974. № 17. С. 35—36.

139 Urkunden und erzählende Quellen zur deutschen Ostsiedlung im Mittelalter. Bd. XXVIb. Nr. 77. P. 291—297.

140 Helmoldi presbyteri Bozoviensis Chronica Slavorum // Quellen (des Mittelalters). Bd. XIX. Darmstadt, 1963. P. 184—187.

141 Хроповский Б. Славяне. Историческое, политическое, культурное развитие и значение. Прага, 1988. С. 230—232.

142 Skowronek J., Tanty M., Wasilewski T. Historia słowian południowych i zachodnich. Warszawa, 1988. S. 86—87.

143 Urkunden und erzählende Quellen zur deutschen Ostsiedlung im Mittelalter. Bd. XXVIb. Nr. 103. P. 390—393.

144 Codex Ecclesiae Vilnensis. Nr. 179. P. 204—206.

145 Ibidem. Nr. 339. P. 392—393.

146 Urkunden und erzählende Quellen zur deutschen Ostsiedlung im Mittelalter. Bd. XXVIa. Nr. 71. P. 284—291.

147 Ibidem. Nr. 87. S. 328—333.

148 Ibidem. Bd. XXVIb. Nr. 28. S. 160—163.

149 Codex Ecclesiae Vilnensis. Nr. 273. P. 319—320.

150 Jana Długosza Banderia Prutenorum. Kraków, 1851. P. 32.

151 Urkunden und erzählende Quellen zur deutschen Ostsiedlung im Mittelalter. Bd.

XXVIb. Nr. 63. P. 250—251.

[152] Welt der Slawen. Geschichte, Gesellschaft, Kultur / Herausgegeben von Joachim Herrmann. München, 1986. S. 99.

[153] Codex Ecclesiae Vilnensis. Nr. 413. P. 478—480.

## Пра паходжаньне найменьня "Літва" (с. 58—72)

[154] Новгородская первая летопись по Синодальному списку. Verlag Otto Sagner. München, 1971.

[155] "Ruthenia vero Danos adiunctos habet, porro archiepiscopo Danorum etiam Ruthenia subiecta esse debuit"; "At illi de origine Ruthenae gentis, de feritate animorum, et de instabilitate fidei et bestiali eorum conversatione multa ei narrantes, etiam hoc quod archiepiscopo Danorum subiecti esse debuerint, non tacebant"; "Rutheni autem crebris insultibus Pomeranos lacessunt, et stetinensium fines armatis navibus perturbant" (Herbordi Dialogus de vita Ottonis episcopi Babenbergensis // Scriptores rerum Germanicarum. Nachdruck ex MGH. Hannoverae, 1937. P. 142—145).

[156] Летописный сборник, именуемый Тверскою летописью // ПСРЛ. Т. 15. Москва, 1965. С. 18—23.

[157] Патриаршая или Никоновская летопись // ПСРЛ. Т. 9. Москва, 1965. С. 5.

[158] Кобычев В. В поисках прародины славян. Москва, 1973. С. 57—59.

[159] Herimanni Augiensis Chronicon // Quellen (des Mittelalters). Bd.XI. Darmstadt, 1961. P. 676—677.

[160] Brüske W. Untersuchungen zur Geschichte des Lutizenbundes. Münster-Köln, 1955. S. 6.

[161] Кобычев В. Цыт. пр. С. 133; Ермаловіч М. Старажытная Беларусь: Полацкі і Навагародскі перыяды. Мінск, 1990. С. 19.

[162] Грамоти XIV ст. № 6. С. 20—22.

[163] Vetera Monumenta Poloniae et Lithuaniae... Edita ab Augustino Theiner. Vol. 1. Romae, 1860. Nr. 102, 104. P. 49—50.

[164] Ibidem. Nr. 101. P. 49.

[165] Heinrici Chronicon Livoniae // Quellen (des Mittelalters). Bd. XXIV. Darmstadt, 1959. P. 4, 22, 28, 38, 54, 72.

[166] Canonici Sambiensis Epitome gestorum Prussie // SRP. Bd. I. Leipzig, 1861. P. 272—290.

[167] Die ältere Chronik von Oliva // SRP. Bd. V. Leipzig, 1874. P. 591—623.

[168] Constantine Porphyrogenitus. Op. cit. P. 56—59.

[169] Рыбаков Б. Киевская Русь и русские княжества XII—XIII вв. Москва, 1982. С. 318—322.

[170] Рогалеў А. Загадкі старажытных паданняў // Голас Радзімы. 1991. 16 тр.

[171] Kronika Thietmara (Thietmari Merseburgensis episcopi Chronicon). Z tekstu łacińskiego przetłumaczył Marian Zygmunt Jedlicki. Obok tłumaczenia tekst oryginału. Poznań, 1953. S. 344—351.

[172] Widukindi Res gestae Saxonicae // Quellen (des Mittelalters). Bd.VIII. Darmstadt, 1971. P. 106—107.

[173] Ibidem. P. 160—165.

[174] Brüske W. Op. cit. S. 16—28; Łowmiański H. Początki Polski. T. V. Warszawa, 1973. S. 262—290.
[175] Liudprandi Opera // Quellen (des Mittelalters). Bd. VIII. Darmstadt, 1971. P. 460—463.
[176] Urkunden und erzählende Quellen zur deutschen Ostsiedlung im Mittelalter. Bd. XXVIa. Nr. 31. P. 140—147.
[177] Ibidem. Nr. 62. S. 256—259.
[178] Adami Bremensis Gesta Hammaburgensis ecclesiae Pontificum. P. 458—459.
[179] Ibidem. P. 252, 354.
[180] Откуда есть пошла Русская земля. Кн. 1. Москва, 1986. С. 573—632.
[181] Тамсама. С. 573—577.
[182] Тамсама. С. 610.
[183] Тамсама. С. 624—627.
[184] Татищев В. История Российская. Т. 1. Москва—Ленинград, 1962. С. 111.
[185] Brüske W. Op. cit. S. 227—229.

## Культы старажытных ліцьвіноў (с. 72—78)

[186] "Insuper limites et terminos inter nostras et ordinis terras distingui fecimus... Ab hinc dictum fluvium (Naweze) sequendo in mediis fluctibus usque in Wiswilten ascentendo. Adhinc linealiter et directe eundo ad quendam lapidem magnum, dictum Rode, jacentem in fluvio dieto A, et Rode vulgariter nuncupatum. Ab isto lapide ascendendo super stagnum dictum Smarden..." (Narbutt T. Dzieje narodu Litewskiego. T. V. Wilno, 1839. Dodatek IX. S. 34—41). Параўнай з адпаведнай мясьцінай у старанямецкім тэксьце прэлімінарнага пагадненьня 1398 г., апублікаванага ў: Codex epistolaris Vitoldi. Pars I. Nr. 179. P. 51—54.
[187] Рыбаков Б. Язычество древней Руси. С. 236—244.
[188] Тамсама. С. 245—251, 418—446, 641—642, 755—770; Welt der Slawen. S. 277—283; Vana Z. Die Welt der alten Slawen. Praha, 1983. S. 83—100. Глядзі яшчэ каштоўнае дасьледваньне: Leszek Pawel Slupecki. Slavonic Pagan Sanctuaries. Warsaw, 1994.
[189] Kronika Thietmara. S. 344—351.
[190] Adami Bremensis Gesta Hammaburgensis ecclesiae Pontificum. P. 250—253, 390—393.
[191] Urkunden und erzählende Quellen zur deutschen Ostsiedlung im Mittelalter. Bd. XXVIa. Nr. 39—41. P. 172—185.
[192] ПСРЛ. Т. 32. Москва, 1975. С. 38—39.
[193] Славянский и балканский фольклор / Отв. Ред. Н.И.Толстой. Москва, 1994. С. 143.
[194] Топоров В. Язык и культура: об одном слове-символе (к 1000-летию христианства на Руси и 600-летию его в Литве) // Балто-славянские исследования 1986. Москва, 1988. С. 26.
[195] Gimbutas M. Die Balten. Geschichte eines Volkes im Ostseeraum. Frankfurt/M—Berlin, 1991.

[196] Petri de Dusburg Chronica terre Prussie. P. 354—355, 400—401.

[197] Łowmiański H. Polityka ludnościowa Zakonu niemieckiego w Prusach i na Pomorzu. Gdańsk—Bydgoszcz—Szczecin, 1947. S. 24—27.

## Герб дзяржавы й назоў сталіцы (с. 78—80)

[198] Хрестоматия по истории Белоруссии. С древнейших времен до 1917 г. / Составители: А.Игнатенко, В.Сидорцов. Минск, 1977. № 3. С. 24—25.

[199] Послания Гедимина. № 3, 6, 8, 16. С.35, 53, 75, 171.

[200] Балто-славянские исследования 1986: Сборник научных трудов / Отв. редактор Вяч. Вс. Иванов. Москва, 1988.

## Сьціраньне мяжы паміж ліцьвінамі й русінамі (с. 80—87)

[201] Codex Ecclesiae Vilnensis. Nr. 23. P. 39.

[202] "Item eciam manifestum est, circa tempus regis Polonie bene XXIII annis quod in partibis Litauwie et Russie modicum valde accrevit Cristi cultus, quia sunt in una ecclesia duo episcopi quorum unus Christianus est qui pauper et miser existit, alter autem Rutenus qui dives et benehabens est, et ubi de Litauwica lingua juxta legem christianam unus baptizatur ibi fortassis bene centum secundum legem rutenicam intencione erunt baptizati et multi de solemnioribus in Litauwia adhuc sunt Ruteni" (Codex epistolaris Vitoldi. Pars II. Appendix IV. P. 999).

[203] Die Chronik Wigands von Marburg. P. 478. Fußnote 162.

[204] "(Do das Gedemin horte?) kwam er mit heres krafft, robte und brante er die lenge und die kwer... Do kwam auch hohemeister Werner von Orsela mit seinem volk (und erschlug die Reussen und Polen zu todt)"; "Noch seinem (Werners) tode woren alle gebitger versamlet: die von Almanien, von Rumenie, die ausz Lifflandt, die ausz Preussen und haben den bruder Loter, einen hertzog von Brunswig gekoren (zum 15. hohmeister). Er treib vil krig mit Reussen und mit Polen etc." (Ibidem. P. 471, 483).

[205] "Der hohmeister Conrad Walroder zog in Reussen vor Traken, robte und brante..." (Ibidem. P. 645).

[206] "Anno 1367 zog bruder Henynk Schindekop in Oberlandt der Reussen, verheerte und verbrante 8 stete als Slavosin, Powunden, Warlow, Swinar, Caleinen, Salvisone, Coyna, Calwisten und Neu-Cauen, treib 800 man an Littauen und Reussen herausz" (Ibidem. P. 559).

[207] "Altera die exercitus festinat prope Willam et premisit magister 4 commendatores, sc. de Elbingo, de Balga, de Brandenburg et Kirstburg, ut civitatem Rutenicam incinerarent modo quo possent, et fit ibidem conflictus in ponte. Lithwani quidem multi forte christianos propulerunt, sed et econtra christiani paganos in multis plagis et verberibus, 3a vice pagani confortant se hostiliter christianos repellentes, unusque frater transfixus est telo in mortem, alter vulneratus, civitas exusta est" (Ibidem. P. 623).

[208] "In authumpno frater Theodericus de Elner (Dietrich von Elner) statuit reysam in Rusiam, qui fuit collega commendatoris in Balga, prefectusque de Barten et de Girdowen, qui simul veniunt in castrum Drewik impugnantque circumvastantes totam noctem et redeunt domum" (Ibidem. P. 571).

[209] "Nec scitur numerus occisorum, sanique sunt reversi, ducentes secum Lithwanos et Rutenos"; "et sani revertuntur in Prusziam, adducentes Ruthenos et paganos"; "et convertit se in Pastow devastans terras, captivos Rutenos et paganos ducit domum"; "igne

consumunt, rapinam innumeram a paganis deferentes, leti repatriando cum captivis Rutenis et paganis"; "Et rediit in Prusziam cum suis marschalkus adducens captivos Rutenos etc." (Ibidem. P. 543, 559, 571, 579, 617).

210 "Beatissime Pater. Regnum Poloniae, m. ducatus Lithuaniae, regiones et ducatus Lithuaniae, Russiae et Prussiae, qui illi Regno subiecti sunt ab annis centenis, ab initio inhabitati per Polonos illius Regni et praesertim ab initio plantatae fidei in Regno illo, sicut nunquam cesserunt barbarorum gentium hostes vicini illud impugnare invadereque Regnum, sic nunquam requiem habere potuit usque in praesentia tempora a belligeratione continua" (Acta Alexandri. Nr. 270. P. 442—443).

211 Ibidem. Nr. 271. P. 448—450.

212 "... ut Bohemi, qui se ipsos militariores esse affirmant, quam alias nationes, qui propter mercandum honorem et gloriam, cuius semper sunt cupidi, non omnino illi novitati adversarentur, qui et ritus mutant communiter ad locaque novorum rituum venirent, et tanquam locis Slavonicis provicinarentur et tutarentur ea, praetendunt enim se Slavoniae nationum praecipuos et nobiliores esse" (Ibidem. Nr. 154. P. 248).

213 АЗР. Т. IV. 1851. С. 4.

214 Тамсама. Т. 1. 1846. С. 51—52.

215 Тамсама. С. 52—53.

## Дачыненьні з Жамойцяй (с. 87—90)

216 Тамсама. Т. II. 1848. С. 386—389.

217 Тамсама. Т. III. 1848. С. 50—66 (у комплексе пэтыцыяў іншых земляў Вялікага Княства; зьмест гэтага 12-га пункту ўзгоднены з 3-м пунктам аднолькавай пэтыцыі жамойтаў 1551 г.: Русская Историческая Библиотека. Т. 30. Петербург, 1914. С. 190).

218 АЗР. Т. III. С. 177—182.

219 "Beatissime pater et clementissime domine... Igitur expedit maxime, ut in his partibus Prussiae aliqua alia, saltern una ex supradictis quatuor suffraganeis ecclesiis, in metropolitanam erigatur, ad quam commodius in causis appellationum refugium haberi valeat oppressorum, ad quam etiam facilior visitatio fieri possit. Cum autem Varmiensis fere in medio illarum terrarum et diocesum situatur et aliis tribus longe opulentior, ideoque ad hoc ut in metropolim erigatur pre aliis magis aprior. Cui deputari possent suffraganei: Culmensis, Pomezaniensis, Sambiensis, *et si videretur et Mednicensis seu Samogittiensis,* quae licet subsit metropolitanae Gnesnensi, propter tamen valde magnam distantiam conveniens foret, ut etiam huic erigendae metropolitanae deputaretur; cum Rigensi vero remanerent aliae suffraganeae ecclesiae, videlicet Osiliensis, Trabetensis et Curonensis... Alexander m. p. subscripsit" (Acta Alexandri. Nr. 311. P. 520—521).

220 "Distant etenim predictae suffraganeae ecclesiae a Rigensi metropolitana sua, videlicet Sambigensis, quae adhuc Rigensi vicinior est, per octuaginta miliaria Almanica, Varmiensis per nonaginta. Pomezaniensis vero et Culmensis per centum similia miliaria, praeterea per vias multum insecuras, videlicet per Samogittiam et varia dominia barbaris vicina, per multa quoque flumina et vasta itinera" (Ibidem).

# МОВА СТАРАЖЫТНЫХ ЛІЦЬВІНОЎ

Пачнем ад таго, што, каб перашкодзіць захопніцкім плянам Тэўтонскага ордэну, вялікі князь Гедзімін меўся ажыцьцявіць хрышчэньне паганскага насельніцтва свайго Княства — уласна Літвы. Дзеля гэтага ён наладзіў кантакты з Папам Янам XXII, а таксама з манахамі ордэну францішканцаў і дамініканцаў. У адным з сваіх пасланьняў да манахаў-францішканцаў Саксоніі (26 траўня 1323 г.) Гедзімін прасіў накіраваць у Вялікае Княства чатырох манахаў-братоў, каб яны маглі заапекавацца дзьвюма цэрквамі, збудаванымі ў Вільні і ў Навагрудку. Гедзімін ставіў умову й пажаданьне, каб місіянэры абавязкова ведалі *польскую, зэмгальскую* й *русінскую* мовы. У пасланьні дадавалася, што гэтымі мовамі валодалі іншыя місіянэры, якія дасюль былі або яшчэ знаходзяцца ў Вялікім Княстве[1].

Напэўна, ад місіянэраў вымагалася веданьне ня ўсіх гэтых моваў, але хоць бы адной зь іх. Пажаданьне, каб яны ведалі зэмгальскую мову, дыктавалася, відаць, тым, што ў межах Княства жыло тады шмат зэмгалаў. Пасьля паразы паўстаньня супраць панаваньня Лівонскага ордэну мечаносцаў у 1289—1290 гг. зэмгалы зруйнавалі свае замкі й перасяліліся на землі Вялікага Княства Літоўскага. Было іх блізу 100 тысяч чалавек[2]. Апрача таго, Гедзімін прэтэндаваў на землі Зэмгаліі, у сувязі з чым да свайго тытулу “Кароль Ліцьвіноў і Русінаў” дадаваў яшчэ: “Гаспадар і князь Зэмгаліі”. Ён хацеў мець місіянэраў для зэмгалаў і эвэнтуальна для жамойтаў, мова якіх збліжалася з зэмгальскай.

Што да польскай мовы, дык у тым часе яна не шмат адрозьнівалася ад іншых славянскіх моваў. І на Захадзе, напэўна, лягчэй было знайсьці місіянэраў, якія ведалі польскую мову, чым тых, якія ведалі русінскую.

Застаецца яшчэ праблема: чаму тыя місіянэры-прапаведнікі, якія запрашаліся ў Вялікае Княства, павінны былі ведаць таксама й мову русінскую, але чамусьці не літоўскую (летувіскую)? (Дарэчы, у манаграфіі “Образование Литовского государства” расейскі гісторык У.Пашута ўхітрыўся гэтую “русінскую” мову з цытаванага пасланьня Гедзіміна назваць “літоўскай”[3].) Разьвязаць гэтую праблему даз-

валяе дапушчэньне, што й мова старажытных ліцьвіноў таксама належала да сям'і славянскіх моваў, інакш кажучы, не адрозьнівалася ад мовы "русінскай", або старабеларускай.

Зьвернем яшчэ ўвагу і на такія немалаважныя факты.

Ідэя хрысьціянізацыі ўласна Літвы ўзьнікала таксама ў 1349—1350 гг., а затым яшчэ ў 1358 г. Абмяркоўвалася яна і у 1373 г. У першым выпадку гэтую справу Ватыкан меўся даручыць Гнезьненскаму архіяпіскапу й польскім каталіцкім сьвятарам. У другім, у 1358 г., дзеля перамоваў у той жа справе ў Вільню наведалася адмысловая дэлегацыя, якую ўзначальваў Праскі архіяпіскап Эрнэст з Пардубіц[4]. Заўважым, што ў абодвух выпадках справа хрысьціянізацыі ўласна Літвы даручалася прадстаўнікам славянскіх народаў. Адсюль няцяжка зрабіць выснову, што дзеля хрышчэньня ліцьвінам была патрэбная зразумелая для іх славянская мова.

Польскі гісторык Ян Длугаш апісаў эпізод абраду першага масавага хрышчэньня ліцьвіноў у 1387 г., у якім бралі ўдзел сам Ягайла, Гнезьненскі архіяпіскап і цэлая сьвіта польскіх сьвятароў. Паводле Длугаша, ліцьвіны былі навучаныя Слову Божаму й малітвам гэтымі сьвятарамі дый самым Ягайлам, які "ведаў мову свайго народу"[5]. Длугаш апісаў таксама эпізод удзелу Ягайлы ў абрадзе хрышчэньня жамойтаў у 1413 г. Але ў гэтым разе гісторык сьцьвярджаў, што, ня ведаючы жамойцкай мовы, польскія сьвятары карысталіся паслугамі перакладнікаў[6].

Длугаш пісаў пра гэтак званае "італійскае" паходжаньне ліцьвіноў і пра тое, што ў іх была "сапсаваная" лацінская мова. Але ён жа сьцьвярджаў, што з прычыны шчыльных кантактаў з суседнімі народамі мова ліцьвіноў "набыла асаблівасьці славянскае мовы"[7].

Фармулёўка наконт ліцьвіноў, якая трапіла ў вядомае пасланьне 1420 г. вялікага князя Вітаўта нямецка-рымскаму імператару Жыгімонту Люксэмбурскаму, яшчэ дасюль успрымаецца гісторыкамі як доказ этнічнай тоеснасьці ліцьвіноў і жамойтаў, тоеснасьці Літвы і Аўкштоты. Зьмест гэтай Вітаўтавай фармулёўкі[8] зводзіцца да чатырох галоўных высноваў: 1) этнічна і моўна ліцьвіны і жамойты былі адным народам; 2) Літва і Жамойць — ідэнтычныя паняцьці; 3) жамойты ад даўнейшых часоў называлі сябе ліцьвінамі і ніколі — жамойтамі; 4) для жамойтаў уласна Літва была Аўкштотай. Вялікі князь Вітаўт асабліва падкрэсьліваў яшчэ сваё "спадчыннае права" на Жамойць.

У фармулёўцы ёсьць супярэчнасьці, і ў ёй заўважаецца палітычны падтэкст. Гэты падтэкст дыктаваўся тагачаснымі палітычнымі спрэчкамі вакол самой Жамойці, вакол таго, каму яна павінна была належаць. Бо вялікі князь Вітаўт у іншых сваіх ранейшых і пазьнейшых пасланьнях і граматах казаў таксама пра асобны "народ жамойтаў", які, паводле Вітаўта, меў яшчэ і сваю "адметную мову".

Што да гэтак званай "тоеснасьці" ці "ідэнтычнасьці" Літвы і Аўкштоты, дык гэтай канцэпцыі зь нейкай асаблівай упартасьцю трымаецца, напрыклад, сёньня вядомы польскі гісторык Марцэлі Косман. У сваёй кнізе, выдадзенай у Варшаве, дзесяткі разоў ён паўтарае ў розных варыянтах амаль адну і тую ж фразу накшталт: Тэўтонскі ордэн "usiłował zagarnąć ziemie Żmudzinów, a następnie Litwę właściwą, czyli Auksztotę"; "na terenie Auksztoty, czyli Litwy właściwej"[9].

Быццам Марцэлі Косман ня мог не заўважыць адну важную "драбніцу", што ў старых архіўных актах і хроніках пра гэтую "Аўкштоту" заўсёды была гаворка як пра адну зь земляў уласна Літвы.

Сваё асабістае ўяўленьне пра "Аўкштоту" мае іншы, таксама сучасны, польскі гісторык Гэнрык Віснэр. На пачатку сваёй кнігі[10] Віснэр апублікаваў схэматычную карту, на якой пазначаныя мясьціны расьсяленьня ў XIII ст. важнейшых балцкіх плямёнаў. Дык "Аўкштота" там зьмешчаная на поўдзень ад самой "Летувы", а гэта на поўнач ад Наваградку адразу на правым узьбярэжжы Нёману паміж нёманскай Бярэзінай і гарадамі Горадняй і Мерачам.

Але памыляецца таксама і Гэнрык Віснэр, бо тут, над Нёманам, ніякай Аўкштоты ня было. Пры падтрымцы папскіх легатаў з Авіньёну 2 кастрычніка 1323 г. вялікі князь Гедзімін аформіў мірнае пагадненьне з магістрам Лівонскага ордэну, з рыскім арцыбіскупам і месьцічамі Рыгі, а таксама з намесьнікам караля Даніі ў Эстоніі. У гэтым пагадненьні, дзе Гедзімін выступаў як "*кароль Літвы*", была гаворка пра "мірныя", у тым ліку і гандлёвыя, зоны, да якіх залічаліся Жамойць і *Аўкштота*, Пскоўская зямля ды яшчэ іншыя "землі русаў" (der Russen), "падпарадкаваныя" Гедзіміну[11]. У Пскове сядзеў тады намесьнік Гедзіміна князь Давыд Гарадзенскі[12], а пад гэтымі іншымі "землямі русаў" разумеліся, напэўна, Полацкае і Віцебскае княствы. Полацак і Віцебск былі якраз зацікаўленыя ў мірным сужыцьці з Рыгай.

З гэтага мірнага пагадненьня вынікае, што Аўкштота не атаясамлівалася з уласна Літвой (Гедзімін — "кароль Літвы") і, будучы адной зь пералічаных "мірных зонаў", знаходзілася бліжэй да межаў крыжацкага Лівонскага ордэну.

Нагадаем, што паводле мірнага пагадненьня з крыжакамі Прусіі, афармленага ў Троках пры канцы верасьня 1379 г., да "мірных зонаў" у Літве залічаліся "землі Русі" з гарадамі Драгічын, Мельнік, Бельск, Сураж, Берасьце, Камянец, Ваўкавыск і Горадня[13].

Зрэшты, ёсьць таксама больш канкрэтнае акрэсьленьне месцазнаходжаньня Аўкштоты. Нямецкі храніст Герман Вартбэрг сваю "Хроніку Лівоніі" пісаў у Рызе, і ён, пэўна, добра ведаў, дзе магла знаходзіцца Аўкштота. Апісваючы падзеі жніўня 1373 г. і Называючы канкрэтна Аўкштоту, на тэрыторыі гэтай Аўкштоты Вартбэрг зьмяшчаў якраз гарады-замкі Вількамір і Жэймы. З гэтых ягоных зьвестак вынікае яшчэ, што названая ім "*зямля Аўкштота*" ляжала на поўнач ад ракі Вяльлі, бо ўжытыя Вартбэргам тэрміны "Nergha" і "Nerga" азначалі Павільле і самую Вяльлю[14]. Напад гэты на Аўкштоцкую зямлю, які апісаў Герман Вартбэрг, зьдзейсьніў з войскам крыжакоў Прусіі вялікі магістр Тэўтонскага ордэну Вінрых фон Кніпродэ. Каб трапіць у "зямлю Аўкштоту", вялікі магістр Вінрых быў змушаны дзесьці перайсьці Вяльлю, пераправы праз якую абараняліся войскам князя Кестута Гедзімінавіча.

Усё гэта кажа, што спробы вялікага князя Вітаўта атаясаміць Літву з Аўкштотай былі звычайнай палітычнай нацяжкай. Дарэчы, як усе іншыя вялікія князі, сам Вітаўт ніколі не тытулаваў сябе "князем Аўкштоты". Дзеля палітычных матываў Вітаўт схітрыў, калі тлумачыў, быццам "этнічна і моўна ліцьвіны і жамойты былі адным народам", пра што, аднак, гаворка будзе наперадзе.

За часоў вялікага князя Вітаўта нам проста невядомы саманазоў Жамойці і жамойтаў. Невядома, ці маглі яны называцца сучаснымі тэрмінамі: "Žemaitija" і "Žemaičiai". У лацінскіх тэкстах да іх звычайна дастасоўваліся назовы "Samogitia (Samogithia)" і "Samogiti (Samogithi)", а ў старамоўнанямецкіх тэкстах — "Samaythen (Samaiten)" і "Samaythen (Samaiten)". У згаданым пасланьні 1420 г. нямецка-рымскаму імпэратару Жыгімонту Люксэмбурскаму вялікі князь Вітаўт, дзеля тлумачэньня, два разы ўжыў яшчэ *славянскія* тэрміны ў называньні Жамойці і жамойтаў, кажучы, што іх гэтак называлі "*ўлітоўскай мове*": "Sed quod terra Samaytarum est terra inferior

ad terram Lythwanie, ideo Szomoyth vocatur, quod in lythwanico terra inferior interpretatur"; "...quum una est tantum terra Samaytarum et non plures, que terra **in Lythwanico Somoyth** quasi terra inferior appelatur".

Як вядома, у славянскамоўных летапісах Жамойць і жамойты ўпершыню былі згаданыя ў Галіцка-Валынскім летапісе (у складзе Іпацеўскага летапісу), дзе Жамойцкая зямля і жамойцкі народ называліся аднолькава: "Жемойть" і "жемойть". Накшталт: краіна "Русь" і народ "русь"; краіна "Літва" і народ "літва". Гэткая тэрміналёгія Галіцка-Валынскага летапісу сустракаецца таксама ў беларускіх летапісах XVI ст., але тут пераважаюць назвы "Жомойть" і "жомойть". У беларускамоўных юрыдычных дый іншых дзяржаўных актах Вялікага Княства Літоўскага XV—XVI стст. у дачыненьні да Жамойці і жамойтаў ужывалася ўнармаваная форма гэтай тэрміналёгіі: "Жомойтская земля" або "Жомойть" і зноў жа "жомойть" для абазначэньня народу.

Калі-нікалі гісторыкі згадваюць, што аднаго разу Вітаўт і Ягайла гаварылі на роднай "літоўскай мове", і з гэтага робяць выснову, што Вітаўт і Ягайла ведалі *гутарковую летувіскую мову.* Здарылася гэта ў студзені 1429 г. на зьезьдзе ў Луцку трох манархаў — нямецка-рымскага імпэратара Жыгімонта Люксэмбурскага, польскага караля Ўладыслава Ягайлы і вялікага князя Вітаўта. На тым зьезьдзе якраз Ягайла падтрымаў ідэю каранаваць Вітаўта каралеўскай каронай, ад якой неўзабаве катэгарычна адмовіўся, бо сустрэўся з рэзкай апазыцыяй з боку польскіх магнатаў і духавенства. З гэтае прычыны ўжо 17 лютага 1429 г. Вітаўт піша іранічна-зласьлівы ліст Ягайлу, у якім нагадвае, што ў Луцку ў прысутнасьці толькі імпэратара Жыгімонта і ягонай жонкі ён, Вітаўт, зьвярнуўшыся да Ягайлы ў "*літоўскай мове*", парадзіў Ягайлу не вельмі сьпяшацца зь ідэяй каранацыі, а найперш абмеркаваць гэтую справу з дарадцамі, што зробіць і сам Вітаўт[15].

Якая была тая "літоўская мова"? Абмен думкамі зь Ягайлам на той "літоўскай мове" Вітаўт пераказаў на лацінскай мове.

Пэўна ж, Ягайла і Вітаўт ведалі беларускую мову і карысталіся ёю. Напрыклад, прапануючы ў 1420 г. карону Чэхіі Ягайлу, чэскія паслы рабілі стаўку на "*славянскую еднасьць*" ды падкрэсьлівалі яшчэ гэткую акалічнасьць (цытуем вытрымку з пасольства ў польскім перакладзе): "Dostojności Waszej jako władcy sprawiedliwemu, a *z przyrodzenia przychylnemu językowi naszemu czeskiemu*, żałośliwie i ciężko skarżymy się na wielkie, niesłychane, nieludzkie i niechrześ-

cijańskie okrucieństwa wyrządzane przez Zygmunta, krola węgierskiego, wbrew Panu Bogu Wszechmogącemu i jego świętym prawdom a Zakonowi, dokonywane *na ludziach języka czeskiego i słowiańskiego*"[16]. Сытуацыя зьмянілася пасьля таго, як на пачатку траўня 1424 г. Польшча, паддаўшыся ціску Ватыкану, абвесьціла вайну чэскім гусітам[17]. Тым ня менш чэскі пасол з Прагі Ян Адляр, неўзабаве зьявіўшыся ў Кракаве, тут на аўдыенцыі ў караля Ўладыслава Ягайлы зноў рабіў намёк на гэтую "прыроджаную прыхільнасьць" Ягайлы да чэхаў дый іншых народаў славянскай мовы, хоць мэта пасольства Яна Адляра абмежавалася да просьбы паспрыяць, каб чэская дэлегацыя магла сустрэцца дзеля перамоваў зь нямецка-рымскім імпэратарам Жыгімонтам Люксэмбурскім[18].

"Прыроджаная прыхільнасьць" — моўны зварот, які азначаў, што ў Чэхіі Ягайла ўспрымаўся як носьбіт славянскай мовы або чалавек, народжаны ў славянскамоўным асяродзьдзі.

У справе атрыманьня каралеўскай кароны канфлікт паміж Вітаўтам і Ягайлам нарастаў, што з боку Ягайлы вылілася ў інтымную перапіску зь Вітаўтам і перасыланьне лістоў праз сваіх "давераных людзей". Адной з такіх "давераных" асобаў-пасланцоў быў Андрэйка, якога Вітаўт жартаўліва называў набліжаным "улюбёнцам" Ягайлы. Перапіска гэтая вялася якраз *на беларускай мове*, пра што могуць сьведчыць гэткія заўвагі ў адказах Вітаўта: "Quod autem scripsistis in littera ruthenica"[19]; "Insuper scribit nobis Vestra fraternitas in ruthenico"[20]. Або вось яшчэ нататка перакладніка да беларускага ліста Ягайлы ад 26 траўня 1429 г.: "Copia littere domini regis Polonie, scripte domino magno duci in ruthenico, translate in latinum"[21].

Вялікі князь Вітаўт, пэўна, ня вельмі шанаваў прыгаданую "інтымнасьць" Ягайлы. Ягайлавы лісты, пісаныя на беларускай мове, перакладаліся на лацінскую або старанямецкую мову і кур'ерам разам з тлумачальнымі лістамі самога Вітаўта накіроўваліся ў Будапешт ці Вену да імпэратара Жыгімонта Люксэмбурскага, а таксама ў Мальбарк да вялікага магістра Тэўтонскага ордэну.

Але вернемся да праблемы: ці сапраўды была нейкая моўная розьніца паміж нюансамі: "Insuper scribit nobis Vestra fraternitas in ruthenico" (Ягайла) — "Nos vero in lithwanico diximus ad vos" (Вітаўт)? Напрыклад, Статуты Вялікага Княства называліся "літоўскімі", хоць яны, кажучы словамі Францішка Скарыны, былі "*тиснутые рускими словами а словенскым языком*".

У сувязі з гэтым цікава найперш адзначыць тлумачэньне жамойтамі сваёй “этнічнай” роднасьці зь ліцьвінамі, якое адлюстравалася ў гэтак званай “Proposicio Samagitarum” для Канстанцкага царкоўнага сабору. Жамойцкую дэлегацыю (60 чалавек) на гэты сабор узначальвалі ліцьвіны — падольскі намесьнік Юры Гедыгольд і Юры Балімін Надабовіч, а таксама лацінскі сакратар Вітаўта паляк Мікалай Сапеньскі, які 13 лютага 1416 г. і выступіў перад саборам з прыгаданай “Жамойцкай прапановай”. У прапанове, а фактычна скарзе адзначалася, што хрысьціянства для жамойтаў ня было навіной і чужым, бо шмат хто з жамойтаў меў кантакты з “хрысьціянскім літоўскім народам”. Тут і была ўжытая біблейная формула наконт этнічнай роднасьці жамойтаў зь ліцьвінамі (напрыклад, у тэксьце Бібліі, дзе апавядалася пра цара Давыда): “Мы косьць твая і цела тваё”[22].

Прыгледзімся бліжэй да гэтае праблемы. На жаль, дзеля паўнаты гістарычнага малюнку давядзецца часткова паўтарыць тое, пра што была гаворка ў нашай кнізе[23]. Асабліва гэта датычыць цытаваньня вытрымак з арыгінальных тэкстаў. Неабходнасьць гэтага паўтору кампэнсуецца далучэньнем новага цікавага матэрыялу.

11 жніўня 1416 г. Канстанцкі царкоўны сабор прыняў пастанову наконт хрышчэньня жамойтаў і даручыў гэтую справу львоўскаму арцыбіскупу Яну Рашоўскаму і віленскаму біскупу Пётру Ястрабцу. У пастанове гэтай падкрэсьлівалася і чатыры разы паўтаралася, што хрышчэньне датычыла Жамойцкай зямлі і “народу жамойтаў”[24]. Гэта, пэўна, не магло супадаць з крыху пазьнейшай формулай вялікага князя Вітаўта пра тое, быццам “*жамойты ад даўнейшых часоў называлі сябе ліцьвінамі, і ніколі — жамойтамі*”.

25 жніўня 1417 г. кароль Польшчы Ўладыслаў Ягайла і вялікі князь Вітаўт, знаходзячыся ў Троках, афармілі супольнае пасланьне ўдзельнікам Канстанцкага царкоўнага сабору. У ім паведамлялася пра першыя крокі на шляху хрышчэньня жамойтаў, якія з даручэньня Сабору рабіліся ў Жамойцы прыгадванымі львоўскім арцыбіскупам Янам і віленскім біскупам Пётрам. У пасланьні гэтым зноў была гаворка толькі пра “народ жамойтаў”[25].

23 кастрычніка 1417 г. вялікі князь Вітаўт выдае ў Троках першы фундацыйны акт наконт заснаваньня ў Жамойцкай зямлі Медніцкай каталіцкай япархіі. У гэтым акце выразна рабілася этнічнае адрозьненьне паміж жамойтамі і ліцьвінамі, бо, паводле Вітаўта, прызнача-

ны ім віленскі пробашч Мацей на катэдру Медніцкай япархіі быў "ліцьвінам" — "origine Lytwanus"[26].

Між іншага, грунтуючыся толькі на пазьнейшых паведамленьнях Яна Длугаша[27], яшчэ і цяпер польскія гісторыкі мяркуюць, што віленскі пробашч Мацей, прызначаны Вітаўтам на пасаду першага біскупа ў Жамойці, быў немцам, народжаным у Вільні, а "ліцьвінам" яго называлі з тае прычыны, што быў грамадзянінам ВКЛ[28]. Аднак жа ў кракаўскіх "Календарах" (запісах магістрату Кракаву) блізу 1422 г. было запісана, што жамойцкі біскуп Мацей, пераведзены зь Меднікаў у Вільню, быў ліцьвінам: "nacione Lytwanus"[29]. Зь Меднікаў на катэдру Віленскай каталіцкай япархіі ён перайшоў у траўні 1422 г. Удакладнім: у тым запісе кракаўскіх "Календароў" адзначалася, што зь пераходам біскупа Мацея зь Меднікаў у Вільню катэдра Жамойцкай каталіцкай япархіі заставалася незанятай, "вакантнай" ("sede tunc vacante").

У першым сваім пасланьні ад 24 кастрычніка 1417 г., высланым для азнаямленьня ўдзельнікам Канстанцкага царкоўнага сабору, львоўскі арцыбіскуп Ян і віленскі біскуп Пётра паведамлялі, што дзеля справы хрышчэньня "жамойцкага народу" яны асабіста наведаліся ў "Жамойцкую зямлю", а затым на прапанову вялікага князя Вітаўта высьвяцілі на пасаду біскупа Медніцкай каталіцкай япархіі магістра вольных навук і віленскага пробашча Мацея[30].

Яшчэ два іншыя пасланьні гэтых герархаў удзельнікам Канстанцкага царкоўнага сабору ня маюць дакладнай даты, але яны былі напісаныя таксама ў Троках дзесьці пры канцы лістапада 1417 г. У гэтых пасланьнях былі вылучаныя якраз два вельмі важныя моманты: першае, што віленскі пробашч Мацей, высьвячаны на катэдру Медніцкай япархіі, досыць добра ведаў "жамойцкую гаворку"[31]; другое, што магістр вольных навук і віленскі пробашч Мацей быў "ліцьвінам" і дасканала валодаў "жамойцкай гаворкай"[32].

Мы ўжо казалі, што біскуп Мацей зь Меднікаў быў пераведзены на катэдру Віленскай каталіцкай япархіі ў траўні 1422 г. У сувязі з гэтым 20 студзеня 1423 г. вялікі князь Вітаўт піша ліст да Папы Марціна V, у якім просіць Папу пацьвердзіць прызначэньне на катэдру Медніцкай япархіі ў Жамойці для "жамойцкага народу" троцкага пробашча Мікалая. Паводле Вітаўта, троцкі пробашч Мікалай таксама ведаў "гаворку жамойцкага народу"[33].

Да гэтага можна дадаць, што пра існаваньне асобнай "жамойцкай

гаворкі" ведалі таксама ў Прусіі. Справа ў тым, што хоць вялікі князь Вітаўт імкнуўся вярнуць ад Тэўтонскага ордэну ў Прусіі ўсю Жамойць у ейных "старых межах па Нёмане"[34], ён, аднак, змушаны быў задаволіцца, як казаў сам Вітаўт у 1420 г., толькі тым, "чым валодаў"[35]. У выніку паводле Мельніцкага мірнага пагадненьня 1422 г. да Прусіі адышла значная частка тэрыторыі Жамойці — пачынаючы на ўсходзе ад замку Юрбарку над Нёманам да самой Палангі над Балтыйскім морам разам з горадам Клайпедай. Гэтая жамойцкая тэрыторыя, якая ўвайшла ў склад Самбійскай каталіцкай япархіі, у працах летувіскіх гісторыкаў названая "Малой Літвой".

Біскуп гэтай япархіі Міхаіл Юнге быў зьвярнуўся да Базэльскага царкоўнага сабору з просьбай дазволіць карыстацца ў царкоўным жыцьці ягонай япархіі мовамі мясцовых насельнікаў, у тым ліку і "*мовай жамойтаў*". Адпаведны дазвол Базэльскага царкоўнага сабору быў пазначаны датай 14 траўня 1435 г.[36] Адсюль вынікае, што ў Прусіі, а канкрэтна ў Самбіі таксама рабілася адрозьненьне паміж жамойцкай мовай і мовай уласна ліцьвіноў.

Каб не адрадзілася паганства (пра гэта крыху пазьней), тая ж праблема выкарыстаньня народнай гаворкі ў царкоўным жыцьці ўзьнікла ў 1503 г. перад вялікім князем Аляксандрам і біскупам жамойцкай Медніцкай япархіі Мартынам (1492—1515). У грамаце, якую біскуп Мартын атрымаў 5 студзеня 1503 г. ад вялікага князя Аляксандра, гаворка датычыла ня толькі нізкай рэлігійнай адукацыі парафіяльных ксяндзоў у Жамойці, але яшчэ і праблемы, што гэтыя сьвятары былі няздольныя карыстацца ў набажэнствах "гаворкай літоўскай або гэтай жамойцкай"[37].

Няведаньне там ксяндзамі "гаворкі літоўскай" можа тлумачыцца тым фактам, што Медніцкая каталіцкая япархія стваралася ў 1417 г. у тых межах Жамойці, якія паводле мірнага пагадненьня 1398 г. трапілі пад уладу Тэўтонскага ордэну. Дык у межах Медніцкай япархіі магло жыць таксама ліцьвінскае насельніцтва, асабліва далей на захад ад вусьця ракі Нявяжы ўздоўж Нёману. Зрэшты, у спрэчках з крыжакамі Прусіі за адноўлены Вітаўтам замак Вялёну вялікі князь Вітаўт даказваў у 1413 г., што гэты замак ён адбудаваў на тэрыторыі ўласна Літвы, а не Жамойці[38]. Горад Вялёна называўся таксама ў згаданай грамаце для жамойцкага біскупа Мартына, і ён у рэлігійным значэньні, парафіяльна знаходзіўся пад асабістым патранатам вялікага князя Аляксандра. Моцай гэтай гра-

маты біскуп Мартын атрымліваў права, якое дазваляла яму прызначаць ксяндзоў у сваёй япархіі, кіруючыся ўласным меркаваньнем.

У гэтым дачыненьні цікавая таксама фундацыйная грамата Барташа. Гэта, напэўна, Барташ Табаравіч — брат віленскага біскупа Аляксандра (Войцеха) Табара (1492—1507) і адзін з маршалкаў Княства. Аўтар граматы пан Барташ меў уласны дом у Вільні, а пры афармленьні граматы 21 сакавіка 1507 г. прысутнічалі ў яго гэткія высокія дзяржаўныя асобы: староста жамойцкі Станіслаў Янавіч Кязгайла, ваявода троцкі Мікалай Мікалаевіч Радзівіл, ваявода полацкі Станіслаў Глябовіч ды малады яшчэ тады падчашы Альбэрт Гаштоўт. Сярод сьведкаў, названых у грамаце, былі яшчэ канонікі Вільні.

Пан Барташ паходзіў зь Віленшчыны, а ягоная фундацыйная грамата датычыла Таўрогаў, што знаходзіліся ў Жамойці над ракой Юрай ды якія ён атрымаў у спадчыну (мабыць, ад маці або набыў у сваю ўласнасць). Якраз дзеля змаганьня з пагрозай адраджэньня паганства ў гэтых Таўрогах пан Барташ меў намер заснаваць касьцёл (каталіцкую парафію) з прызначэньнем сюды сьвятароў, якія ведалі б "гутарковую жамойцкую мову" і маглі б навучаць парафіянаў слову Божаму ў "мове жамойтаў"[39].

Тут яшчэ раз згадаем грамату вялікага князя Аляксандра віленскаму біскупу Альбэрту Табару. Яна аналягічная грамаце для жамойцкага біскупа Мартына[40].

Нагадаем, што ў тым часе ў касьцёлах Жамойцкай і Віленскай каталіцкіх япархіяў набажэнствы спраўляліся на незразумелай для насельніцтва лацінскай мове. Выняткам было, мабыць, пераказваньне, і то на польскай мове, галоўных малітваў: "Ойча наш", "Верую" і "Багародзіца". Якраз практыкавалася гэта ў лацінскамоўных касьцёлах самой Польшчы.

У грамаце, якую атрымаў біскуп Альбэрт Табар, акрамя 28 каталіцкіх парафіяльных цэнтраў была названая яшчэ і Вільня, у якой, як пісаў Жыгімонт Гербэртштайн, было нашмат больш праваслаўных цэркваў, чымся каталіцкіх касьцёлаў[41].

Аднак каталіцкія парафіі былі яшчэ, напрыклад, у Горадні, Наваградку, Ваўкавыску, Слуцку і ў далёкім Стрэшыне над Дняпром. Справа ў тым, што Віленская каталіцкая япархія ахоплівала першапачатковыя тэрыторыі Троцкага і Віленскага ваяводзтваў, а ў Віленскае ваяводзтва ў вайсковым дачыненьні ўваходзілі спачатку і На-

ваградчына, і Меншчына, і Падняпроўе. Зрэшты, на "чыста праваслаўных землях" ад пачатку XV ст. у Вялікім Княстве існавалі Кіеўская, Камянецкая і Ўладзімірская (пазьней Луцкая) каталіцкія япархіі.

Зноў паўстае пытаньне: на якой жа "літоўскай мове" ці "гаворцы" маглі гутарыць на пачатку XVI ст. парафіяне гарадоў і мястэчкаў, пералічаных у грамаце для біскупа Табара? Але пакуль што абмяжуемся канстатацыяй, што ў XV і на пачатку XVI ст., з гледзішча афіцыйнай Вільні, існавалі дзьве асобныя "народныя гаворкі" ці мовы: літоўская (ліцьвінская) і жамойцкая.

Для роздуму і каб адказаць на гэтае пытаньне, зацытуем найперш вытрымку зь вядомай "Размовы Паляка зь Ліцьвінам". Гэтая "Размова", напісаная на польскай мове, была выдадзеная брашурай у 1564 г. Яна зьявілася ў абставінах тагачасных палітычных спрэчак вакол мэтазгоднасьці дзяржаўнага аб'яднаньня Вялікага Княства Літоўскага з Польскім каралеўствам. Аўтар гэтага палітычнага твору невядомы, хоць ён прыпісваецца пяру тагачаснага віленскага войта Аўгустына Ратундуса.

Адразу адзначым, што аўтар "Размовы" зыходзіў з тэорыі "рымска-італійскага" паходжаньня старажытных ліцьвіноў. Гэтую тэорыю, пісаў аўтар, ён запазычыў "у старых рускіх летапісах". Грунтаваўся, адным словам, на беларускіх летапісах XVI ст., дзе шмат было прыдуманай фантазіі. Інакш кажучы, невядомы аўтар "Размовы Паляка зь Ліцьвінам" зыходзіў не з рэчаіснасьці, але, наадварот, рэчаіснасьць падганяў пад сваю тэорыю.

Цытуем у арыгінале: "...panował Liboniis et Sudinis. O tego Gnubuta wnuku abo potomku czcimy, Radywiłem go zwano, iż był poraźył Tatary i jął się podmykać dalej ku południu, a iż mu się Ruś dobrowolnie poddała i tu się już jął ruski język z litewskim mięszać, bo Ruś byli bojowi i ozdobni a wdzięczni u Litwy ludzie, przeto im kwoli jęła się Litwa po rusku mowić, bo ruski narod, który potym od sławy abo słowa Słowiany nazwano, był już się rozszyrzył po wielkiej części w Europie a litewski nie był użyteczny, jedno tu nad tym morskim brzegiem, gdzie teraz Prusy, Żmodź, Iflanty, aż po Wiliją"[42].

Адсюль вынікае, што былая "італійска-лацінская" мова "прышэльцаў" ліцьвіноў заставалася ва ўжытку толькі на ўзьбярэжжы Балтыйскага мора — у Жамойці таксама.

Зьмест гэтага выказваньня аўтара "Размовы Паляка зь Ліцьвінам"

дае падставы сьцьвярджаць, што ў выніку "зьмяшаньня рускай мовы зь літоўскай" ліцьвіны пераняли русінскую мову і спрадвеку карысталіся ёю. Пацьверджаньнем гэтай рэчаіснасьці можа быць згаданае вышэй пасланьне вялікага князя Гедзіміна да манахаў-францішканцаў Саксоніі, у якім Гедзімін запрашаў манахаў-прапаведнікаў у сваё Княства, але толькі тых, хто валодаў "польскай" і "русінскай" мовамі. Сюды трэба далучыць таксама выказваньне пра мову ліцьвіноў італійскага гуманіста Энэя Сільвія Пікаляміні ці Папы Пія II (1458—1464). У сваім трактаце пра Літву Пікаляміні якраз пісаў: "Sermo gentis Schlavonicus est"[43] — "Мова народу (літоўскага) славянская".

Можна яшчэ паразважаць над зьместам пасольскай інструкцыі, выдадзенай у сьнежні 1504 г. у канцылярыі Польскага каралеўства для Эразма Цёлка, які накіроўваўся ў Рым дзеля перамоваў з новаабраным Папам Юліюсам II. У гэтай пасольскай інструкцыі была гаворка пра тое, быццам "землі Літоўскага княства спакон веку былі заселеныя палякамі"[44]. Калі адкінуць палітычную тэндэнцыйнасьць, дык вынікае, што і ў Кракаве глядзелі на ліцьвіноў як на народ славянскі ці народ славянскай мовы. Інакш гэткае "засяленьне палякамі" земляў Вялікага Княства растлумачыць нельга.

Зьвернем яшчэ ўвагу на такі факт. У грамаце вялікага князя Аляксандра ад 7 верасьня 1503 г. для віленскага біскупа Альбэрта Табара пан Івашка Сямёнавіч Сапега характарызаваўся: "Praesentibus... et Joanne Sopiha secretario nostro **Litvano**" (secretarius noster Litvanus)[45]. Сапега належаў да Паноў-Рады ВКЛ, але вылучаць яго ў сэньсе "natione Lithuanus" было недарэчна, бо ў гэтай грамаце ўякасьці прысутных сьведкаў называліся яшчэ іншыя "ліцьвіны". Гэта віленскі ваявода Мікалай Радзівілавіч Радзівіл, стараста Жамойці Станіслаў Янавіч Кязгайла, троцкі ваявода Ян Юравіч Забярэзінскі, полацкі ваявода Станіслаў Глябовіч, нядаўні смаленскі ваявода Станіслаў Пятровіч Кішка, падчашы Мікалай Мікалаевіч Радзівіл дый іншыя.

Няма таксама падставаў меркаваць, што Сапега вылучаўся як "сакратар Літоўскі" (secretarius Lithuanicus), бо дзеля гэтага існавала іншая форма (месны склон): "Johanne Sopyha secretario nostro magni ducatus Lithvaniae". Грамату гэтую пісаў (per manus) у Вільні паляк і неўзабаве канцлер Польшчы Ян Ласкі, які таксама характарызаваўся як "**supremus** secretarius noster", але без дадатку "**Polonus**". Гэткі тытул быў таксама ў Вялікім Княстве (месны склон): "Phietko alias Janusko (Fiedzka Januševič) de cancellaria Ruthenorum notario **supre-**

**mo"** (1501). У тым часе вялікі князь Аляксандар Казіміравіч быў адначасна і каралём Польшчы. Бясспрэчна, пры ім павінны быў прысутнічаць і дзяржаўны сакратар Польшчы.

Так што адсутнічалі ў грамаце палітычныя матывы дзеля падзелу дзяржаўных сакратароў: "сакратар Літоўскі" і "сакратар Польскі" або "сакратар Літвы" і "сакратар Польшчы".

Пры дзяржаўнай канцылярыі Княства Івашка Сямёнавіч Сапега працаваў у славянскім сакратарыяце, што вынікае, напрыклад, з папскіх булаў 1501 г. У адной з гэтых булаў Папы Аляксандра VI нагадвалася, што Івашка Сапега — "secretarius Ruthenicus"[46] у вялікага князя Аляксандра. Другая папская була ў красавіку 1501 г. была адрасаваная віленскаму біскупу Альбэрту Табару, у якой канстатавалася: "Proinde petis, ut Johannem Sopega dilecti filii nobilis viri Alexandri magni ducis Lithuanie **in cancellaria Ruthenica secretarium et capitaneum** super hiis audire, et tibi, quod in hac re agendum sit, respondere velimus"[47].

Выконваючы місію мітрапаліта Вялікага Княства Іосіфа Баўгарыновіча, у другой палове 1500 г. Івашка Сапега наведаўся ў Ватыкан, дзе меў аўдыенцыю ў Папы. Адсюль у сваёй буле, накіраванай біскупу Альбэрту Табару, Папа Аляксандар VI тлумачыў, на якіх умовах магло адбыцца аб'яднаньне Каталіцкай і Праваслаўнай цэркваў — на ўмовах Фларэнцкай царкоўнай вуніі 1439 г.

Зусім верагодна, што характарыстыкі "secretarius noster Litvanus" і "secretarius Ruthenicus", якія датычылі Івашкі Сапегі, у нечым супадалі і разумеліся ў сэньсе "secretarius linguae lithuanicae". Івашка Сямёнавіч Сапега быў для тагачаснай Вільні проста сакратаром славянскай ліцьвінскай мовы, у тым ліку дзяржаўнай, пісьмовай (lingua ruthenica). А тое, што старабеларуская пісьмовая мова пачала спакваля называцца "літоўскай", пра гэта могуць сьведчыць "Лексікон" Памвы Бярынды і маскоўскія запісы 1627 г. ходу дыскусіі, тэмай якой быў "Катэхізіс" Лаўрэна Зізанія[48].

Гэткім можа быць адказ на раней пастаўленае пытаньне ў сувязі з задумай у 1501 г. у парафіях Віленскай каталіцкай япархіі палепшыць рэлігійнае выхаваньне парафіянаў на гутарковай "літоўскай" мове мясцовага насельніцтва. Мабыць, і тая "літоўская мова", прыгадваная ў 1429 г. вялікім князем Вітаўтам, была ўсяго толькі славянскай ліцьвінскай ці гутарковай беларускай мовай.

Зрэшты, у сваіх нататках, пакінутых у форме дзёньніка, у якіх

апісваліся абставіны мірных перамоваў у Вільні ўлетку 1397 г., крыжацкі дыплямат Канрад Кібург (якраз ён узначальваў тое крыжацкае пасольства) канстатаваў, што князь Вітаўт і ўвесь ягоны двор карысталіся "русінскай" мовай. Канрад Кібург занатаваў яшчэ, што Вітаўт някепска ведаў і нямецкую мову[49].

Граф Канрад фон Кібург — рэальная гістарычная асоба. Разам зь іншымі крыжацкімі пасламі ён прысутнічаў таксама ў Горадні, калі тут 23 красавіка 1398 г. было падпісанае прэлімінарнае мірнае пагадненьне паміж Вялікім Княствам і Прускім крыжацкім ордэнам[50].

Дзяржаўныя пячаткі, якімі карыстаўся вялікі князь Вітаўт, мелі лацінскамоўныя надпісы-легенды. Але захаваліся дзьве славянскамоўныя пячаткі брата Вітаўта князя і пазьнейшага вялікага князя Жыгімонта Кестутавіча (1432—1440). Адна зь іх — "ПЕЧАТЬ ЖИКГИМОНТОВА" — змацоўвала ліст самога Вітаўта, што 14 кастрычніка 1398 г. быў адрасаваны крыжацкаму вялікаму магістру[51]. Іншая — "ПЕЧАТЬ КНЯЗЯ ЖИКГИМОНТА" — прывешвалася да ўласнай граматы князя Жыгімонта Кестутавіча, якая 11 лістапада 1411 г. была выдадзеная ў Геранёнах[52].

## ЗАЎВАГІ

1 "Volumus enim episcopos, sacerdotes, religiosos ordinis cuiuscunque colligere, praecipue de vestris, quibus iam ereximus duas ecclesias, unam in civitate nostra regia, dicta Vilna, aliam in Novgardia, ad quas nobis hoc anno quatuor fratres scientes polonicum, semigallicum ac ruthenicum ordinetis, tales ut nunc sunt et fuerunt, et etiam de praedicatoribus, quibus dabimus ecclesiam tempore successivo" (Послания Гедимина / Подготовили В.Пашуто и И.Шталь. Вильнюс, 1966. № 6. С. 53—55).

2 Пашуто В. Образование Литовского государства. Москва, 1959. С. 411—412; Livländische Reimchronik // SRL. Bd.1. Riga und Leipzig, 1853. S. 716—724.

3 Пашуто В. Цыт. пр. С. 412.

4 Kaczmarczyk Z. Polska czasów Kazimierza Wielkiego. Kraków, 1964. S. 101.

5 Jana Długosza Roczniki czyli Kroniki sławnego Królestwa Polskiego. Ks. 10. Warszawa, 1981. S. 209—211.

6 Ibidem. Ks. 11. Warszawa, 1985. S. 19—21.

7 Ibidem. Ks. 10. S. 218—221.

8 "Sentenciastis enim et pronuncciastis primo in terra Samaytarum, que est hereditas et patrimonium nostrum ex legittima attavorum et avorum nostrum successione, quam et nunc possidemus, que eciam est et semper fuit unum et idem cum terra Lythwanie, nam unum ydeoma et uni homines. Sed quod terra Samaytarum est terra inferior ad terram Lythwanie, ideo Szomoyth vocatur, quod in lythwanico terra inferior interpretatur. Samoyte vero

Lythwaniam appelant Auxtote, quod est terra superior respecta terre Samaytarum. Samagithe quoque homines se Lythwanos ab antiquis temporibus et nunquam Samaytas appelant, et propter talem ydemnitatem (identitatem) in titulo nostro nos de Samagicia non scribimus, quia totum unum est, terra una et homines uni" (Codex epistolaris Vitoldi, magni ducis Lithuaniae. Collectus opera Antonii Prochaska. Reprint. New York, 1965. Pars I. Nr. 861. P. 467. Далей — CEV).

9 Marceli Kosman. Orzeł i Pogoń. Z dziejów polsko-litewskich XIV—XX w. Warszawa, 1992. S. 12, 18, 21, 49, 56, 81, 92, 99, 106, 149, 221, 241.

10 Henryk Wisner. Litwa i Litwini. Szkice z dziejów państwa i narodu. Olsztyn, 1991.

11 Послания Гедимина. № 8. С. 68—69.

12 Тамсама. № 7. С. 62—63.

13 Die Chronik Wigands von Marburg // Scriptores Rerum Prussicarum. Band II, Leipzig, 1863. P. 604—605; Franciscani Thorunensis Annales Prussici, Johann's von Posilge Chronik des Landes Preussen // Scriptores Rerum Prussicarum. Band III. Leipzig, 1866. P. 113.

14 "Eodem anno (1373) in octava assumptionis (22. August) frater Wynricus, generalis magister, edusit suos contra Letwinos in terram Austheithen, ubi rex Keinstut cum suo exercitu non permittens eum transire. Magister procedens ad terram Nerghe, ubi putabat se transiturum. Rex autem et ibi eum prohibuit, item eciam circa aliud vadum. Vastavit igitur magister generalis terram circa Nerge usque Valkenberge. Deinde direxit suos ad terram Seymen manens ad X noctes in terris infidelium, ipsis multa damna inferendo" (Hermanni de Wartberge Chronicon Livoniae // SRP. Band II. Leipzig, 1863, p. 104).

15 "Cum autem apud vos in cubiculo constitueremur, incepit dominus Romanorum rex cum Vestra Serenitate conferre, memorando hesternum factum; vestra vero serenitas adstatim dixit, quomodo placeret vobis et gauderetis. Nos vero **in lithwanico** diximus ad vos: domine rex, non festinetis in isto facto, consiliamur prius desuper cum prelatis et baronibus vestris, et nos similiter facturi sumus. Ad quod vos iterum dixistis: quomodo vobis placeret et gauderetis, immo ad hoc nimium essetis affecti; pro quo dominus Romanorum rex cum sua domina consorte vestre serenitati sunt regraciati, et ita a vobis decessimus, prelatis et baronibus consiliariis vestris ad vos in consilium intrantibus" (CEV. Pars II. Nr. 1345. P. 816).

16 Jadwiga Krzyżaniakowa, Jerzy Ochmański. Władysław II Jagiełło. Wrocław, 1990. S. 267.

17 CEV. Pars II. Nr. 1146. P. 637—638.

18 "Preconsules civitatum Nowe, Antique et Minoris Pragensium nec non barones, milites, nobiles et clientes, vestri humiles servitores, V. S. uberrimas et immensas referrimus graciarum acciones, de graciosissimis ipsis per litteras et nunccium eiusdem S. V. legacionibus et intimatis, et signanter de hoc, quod serenitas vestra ipsis audienciam obtinuit, per ipsos diu et affectuose desideratam et optatam, supplicantque humilliter et devote, quatenus V. S. amore Jeshu Christi et complacione ydiomatis bohemici, quem semper vestris regiis et graciosis favoribus prosequi consuevistis predictam audienciam, ut cepit, velit deducere ad effectum" (CEV. Pars II. Nr. 1149. P. 641).

19 CEV. Pars II. Nr. 1352. P. 827.

20 Ibidem. Nr. 1353. P. 831.

21 Ibidem. Nr. 1356. P. 833.

22 "Quia lux illa que illuminat omnem mundum, cecitatis nostre tenebras tunc illustrare inceperat, dum auctori lucis placuit gentem Littwanicam ad agnicionem vere lucis hoc est

fidei catholice invitare. Multi siquidem de fratribus nostris **cum eadem gente Lithwanica, cuius nos caro et ossa existimus**, sacro fonte baptismatis sunt renati, qui conversacionem habentes inter christianos ibidem in Lithwania quantum sapere poterant et quantum ipsis per predicatores fuerat declaratum, nobis indicabant nos docentes, quod salus, a summo rerum dependens opifice, nulli penitus provenire debet et poterit nisi viris catholicis Christi fidem devote colentibus" (Codex Mednicensis seu Samogitiae dioecesis // Fontes historiae Lituaniae. Roma, 1984. Pars I. Nr. 1. P. 2. Далей — CMSSD).

[23] Паўла Урбан. Да пытаньня этнічнай прыналежнасьці старажытных ліцьвіноў. Менск, 1994.

[24] "Est enim gens quedam Samaytarum aquilonarium parcium, ethnici et gentilitatis errore seducti, et si sonum illum audierint, minus tamen efficaciter retinentes, relicto Creatore creaturam adorantes in idolatria perstiterunt nostris temporibus permittente Domino, ad illius misericordiam reservati... Etenim Spiritus Sancti lumine eorum mentibus inspirante et operante gracia atque carissimis Ecclesie filiis Wladislao Polonie rege illustri et nobili viro Witoldo Lituanie duce cooperantibus, gens eadem Samaytarum cupit a squalore illius vetuste gentilitatis fonte sacri baptismatis ablui ac dyabolice captivitatis absolvi vinculis et redempcionis humani generis et inde felicitatis eterne fieri participem, prout prefacti principes nobis per suos solennes oratores intimarunt postulantes..." et etc. (CMSSD. Pars I. Nr. 7. P. 30).

[25] "...nos nempe e diverso in mari magno et spacioso terrarum nostrarum versus orientem reptilia, gentem scilicet Samagiticam noviter infidelitatis cecitate frementem de profundo aquarum extrahentes ad hauriendum aquas in gaudio conducimus salvatoris. Qua de re, ut gaudium vestrum plenum sit, clarius rem nuperrime gestam in sinceritate vestre fidei vestris reverendis paternitatibus declaramus predicte scilicet gentis Samagitice paucas iam et communes seu plebeias dicte gentis absque baptismate resultare reliquias, cum alii magnates nobiles et alii in multitudine milium fere numerabili divina vocati gracia vestraque ad hoc diligenti sollicitudine vestrorum iuxta mandatorum seriem incitati et allecti, graciam sacri gurgitis devotis mentibus susceperunt" (Ibidem. Nr. 11. P. 35—36).

[26] "Ne igitur sicut navis sine remige relicta de facili periclitatur, sic gens ista Samagittarum nondum in fide sancta instructa et firmata deficiente pastore in errores priores paganicos et revera peyores recidivare videratur, nos igitur huiusmodi pericula evitare et opus tam sanctum sollempniter inchoatum fine laudabili cupientes terminare, episcopatum seu ecclesiam kathedralem ibidem in terra Samagittarum in districtu Medinicensi dignum duximus erigendum et fundandum et de facto erigimus et fundamus, ad quem wenerabilem virum magistrum Mathiam **orogine Lytwanum**, praepositum Wilnensem ydoneum et discretum, postulamus..." (Ibidem. Nr. 13. P. 39).

[27] "Myednicensi autem ecclesiae cathedrali primus Mathias natione Almanus, in Wilno tamen natus, qui linguam Lithuanicam et Samagitticam norat, praefectus est et consecratus" (Joannes Długosz. Opera omnia. Vol. XIII, Liber XI, Cracoviae, 1877. P. 215).

[28] Grzegorz Błaszczyk. Diecezja Żmudzka od XV do początku XVII wieku. Poznań, 1993. S. 39—40.

[29] "Anno Domini MCCCC decimo septimo de licentia speciali sacri concilii Constanciensis, sede tunc vacante, fundata et erecta est ecclesia cathedralis Medniczensis in Samagicia cum aliis ecclesiis parochialibus ibidem, per illustres principes dominos Wladislaum regem Polonie et Alexandrum alias Wytawdum magnum ducem Lythvanie, plantata vero per dominos Johannem Leopoliensem archiepiscopum et Petrum Vylnensem episcopum... cui primus **episcopus dominus Mathias nacione Lythwanus** presidebat et hic postmodum translatus fuit de ecclesia Medniczensi ad Wylnensem" (CMSSD. Pars I. Nr. 10. P. 34).

[30] CMSSD. Pars I. Nr. 14. P. 40—42.

[31] "...venerabilem virum magistrum Mathiam prepositum Wilnensem, de vite puritate, morum venustate et sciencia ceterisque virtutibus multipliciter commendatum **ac de ydiomate Samagitico sufficientissime institutum,** ex hominibus assumptum et pro hominibus in pontificem constitutum Medinicensem ad instanciam prefatorum clarissimorum principum in virtute Trinitatis vivifice consecravimus..." (Ibidem. Nr. 18. P. 48).

[32] "...venerabilem dominum Mathiam magistrum arcium, prepositum Wilnensem **Lythwanum, necnon ydiomate samagitico plenissime eruditum,** virum utique et morum eminencia stabilem et virtutum laudabili venustate redimitum... a nobis consecratus" (Ibidem. Nr. 19. P. 50).

[33] "Beatissime Pater Domine benignissime. Quamvis post translacionem vestram in Christo patris domini Mathie episcopi alias Mednicensis in Samaicia novelle plantacionis ad ecclesiam Wilnensem, de qua sibi facta est dudum promissio, honorabilis N(icolaus) prepositus collegiate ecclesie Trocensis etatis mature, moribus compositus, de legittimo matrimonio natus, vita et sciencia commendabilis, sacerdos actu celebrans **sciensque gentis Samaitice ydioma**, ad eandem ecclesiam Mednicensem sit nominatus et vocatus" (Ibidem. Nr. 33. P. 72).

[34] CEV. Pars II. Nr. 1005. P. 551—552.

[35] Ibidem. Nr. 898. P. 494.

[36] "Sane pro parte venerabilis Michaelis episcopi Sambiensis nobis nuper exhibita peticio continebat, quod sepius contingit rectores parrochialium ecclesiarum in diocesi Sambiensi, quarum parrochiani neophiti et circa partes Samagitarum et aliarum diversarum linguarum constituti sunt, ipsorum parrochianorum ydeoma intelligibiliter loqui ignorantes, confessiones per interpretes audire presumunt,.. quare pro parte ipsius episcopi nobis fuit humiliter supplicatum, ut premissis periculis et scandalis per oportune provisionis remedium obviare dignaremur" (CMSSD. Pars I. Nr. 44. P. 85).

[37] "Quoniam coram nobis constitutus Reverendus in Christo pater dominus Martinus episcopus Mednicensis devote et sincere nobis dilectus exposuit et declaravit defectus nonnullos ecclesiarum parochialium dioecesis suae et collationis nostrae propter ecclesiarum huiusmodi rectores **idiomatis lituanici seu illius samogitiensis** ignaros et non bene in divinis leteris institutos, qui nec praedicationi, unde fides sancta catolica augmentum acciperet, sufficere possunt, sed nec sacramenta Ecclesiae maxime confessionis rite et debito modo administrare valent..." (Ibidem. Nr. 97. P. 151).

[38] CEV. Pars I. Nr. 532. P. 258—259.

[39] "Eam ob rem nos Bartosius palatinatus Wilnensis in terra Samogitarum super Taurogi haeres, sciens oppidanos et villicos gentilismi ac idolatriae erroribus usque adeo imbutos, ut perdifficile ab assueto larium deorum domesticorum cultu valeant advocari, neque illis alio consultum modo arbittrari, ecclesiam aedificandam et presbyterum **vernaculae samogitarum linguae** per Reverendissimum episcopum Samogitarum instituendum decrevimus... Porro curatus noster et successores illius legitimi ad dictam in Thaurogi ecclesiam investiti tenebuntur singulis diebus dominicis et fectis missam cantare et populum clara voce praecepta consequendae salutis **samogitarum lingua docere**" (CMSSD. Pars I. Nr. 106. P. 165—166).

[40] "...quomodo reverendus in Cristo pater dominus Albertus episcopus Vilnensis sincere et grate nobis plurimum dilectus certo ecclesiarum in diocesi sua collacionis vero nostre coram nobis exposuit propter huiusmodi ecclesiarum rectores **idiomatis Lythuanici ignaros** et aliquos non bene institutos divinis litteris, qui nec predicacioni, unde fides sancta augmentum acciperet, sufficere possunt sed nec rite sacramenta ecclesie, maxime

confessionis ministrare et procurare minime possunt et valent... donare volumus donamusque, et damus ad tempora duntaxat sue vite capellas et prebendas huiusmodi, quociens ipsas vaccare contingerit, posse ad easdem idoneos **et Lythuanici idiomatis** et divinarum litterarum presbiteros... impedire possit aut quovis modo valeat" (Codex Ecclesiae Vilnensis. Vol. I, Kraków. 1948, Nr. 507. P. 616—617).

41 Сигизмунд Герберштейн. Записки о Московии. Москва: Изд-во Московского университета, 1988. С. 187.

42 Rozmowa Polaka z Litwinem. 1564 / Wydał Jozef Korzeniowski. Kraków, 1890. S. 68.

43 Aeneas Sylvius. De Lituania // Scriptores Rerum Prussicarum. Band IV. Leipzig, 1870. P. 238.

44 "Beatissime Pater. Regnum Poloniae, magnus ducatus Lithuaniae, regiones et ducatus Lithuaniae, Russiae et Prussiae, qui illi Regno subiecti sunt ab annis centenis, ab initio inhabitati per Polonos illius Regni et praesertim ab initio plantatae fidei in Regno illo, sicut nunquam cesserunt barbarorum gentium hostes vicini illud impugnare invadereque Regnum, sic nunquam requiem habere potuit usque in praesentia tempora a belligeratione continua" (Acta Alexandri regis Poloniae, magni ducis Lithuaniae (1501—1506) / Wydał Fryderyk Papee. Kraków, 1927. Nr. 270. P. 442—443).

45 Codex Ecclesiae Vilnensis. Vol. 1. Kraków, 1948. Nr. 564. P. 676—679.

46 Ibidem. Nr. 484. P. 568—569.

47 Vetera monumenta Poloniae et Lithuaniae gentiumque finitimarum historiam illustrantia. Collecta ab Augustino Theiner. Vol. II. Romae, 1861. Nr. 300. P. 280.

48 Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии. Минск, 1962. С. 139—143.

49 Мікола Ермаловіч. Старажытная Беларусь // Маладосць. № 5. 1996. С. 193; Вітаўт Чаропка. Імя ў летапісе. Мінск, 1994. С. 331—336.

50 "Wir Alexander anders Wytawdt... thun kunt und offinbar allen den... das wir in der iarczal... uff unserm huse czu Garthen hilden einen tag mit den ersamen geistlichen mannen Wilhelm von Helfenstein groskomthur, grafen Konrad von Kyburg obirsten spittaler und komthur czum Elbinge, Marquart von Sultzbach komthur von Osterrode brudern deutsches ordens czu uns gesandt mit voller macht von dem erwirdigen herren herrn Conradt von Jungingen homeistere deutsches ordens czu machin und czu redin umb einen ewigen frede czwischen uns und unsern landen alze Littawen, Ruessen und anderswo wo si gelegen sint und von des vorgenanten ordens landen wegen, alze Prewsen und Lieflandt und anderswo wo sie gelegen sint..." (CEV. Pars I. Nr. 179. P. 51—54).

51 CEV. Pars I. Nr. 189. P. 56.

52 Codex Ecclesiae Vilnensis. Nr. 56. P. 86—88.

## Умоўныя скароты назоваў публікацыяў старых аналаў, хронікаў і дакумэнтаў

АЗР — Акты, относящиеся к истории Западной России. Т. I—V. СПб, 1846—1853.

ПСРЛ — Полное Собрание Русских Летописей.

Acta Alexandri — Acta Alexandrie, regis Poloniae, magni ducis Lithuaniae (1501—1506) / Wydał Fryderyk Papee. Kraków, 1927.

Codex Ecclesiae Vilnensis — Codex diplomaticus Ecclesiae Cathedralis necnon Dioeceseos Vilnensis / Wydali Jan Fijałek i Władysław Semkowicz. T. I (1387—1507). Kraków, 1948.

Codex epistolaris Vitoldi — Codex epistolaris Vitoldi magni ducis Lithuaniae, 1376—1430. Collectus opera Antonii Prochaska. Pars I—II. Reprint. New York & London, 1965.

Quellen — Ausgewählte Quellen zur deutschen Geschichte des Mittelalters (der Neuzeit).

MGH SS — Monumenta Germaniae Historica. Scriptorum (Scriptores rerum Germanicarum).

MLA — Monumenta Livoniae Antiquae. T. 1—5. Riga; Leipzig, 1835—1847.

SRL — Scriptores Rerum Livonicarum. T. 1—2. Riga; Leipzig, 1848—1853.

SRP — Scriptores Rerum Prussicarum. T. 1—5. Leipzig, 1861—1874.

# ДАДАТАК

## Матэрыялы да тлумачэньня славянскіх і ліцьвінскіх паганскіх імёнаў

Славянскія і ліцьвінскія паганскія імёны паходзілі ад агульных індаэўрапейскіх каранёў, але яны былі больш зьбліжаныя зь германскімі і кельцкімі імёнамі. Такое меркаваньне аўтара пацьвярджаюць кампаненты анамастыкі, пададзеныя пад імёнамі: АЛЬГЕРД, БАГУСЛАЎ, БАРЫСЛАЎ (БАРЫС), БУДЗІВОЙ, ВАЛАДАР, ВАЛІМУНТ, ВІТАЎТ, ВІЦЕНЬ, ГАШТОЎТ, ГЕДЗІМІН, ДАВОЙНА, ДАНІСЛАЎ, ДАЎГАЛЬ, ДАЎГЕРД, ДРАГАВІТ, ЖЫГІМОНТ, ЖЫРАСЛАЎ, КАЗІМЕР, КЕЗГАЙЛА-МІХАЛ, КЕСТУТ, ЛІНГВЕН-СЯМЁН, ЛЮБ (ЛЮБЪ), ЛЮБАРТ-ДЗІМІТРЫ, ЛЮТАВІТ, ЛЮТАГНЕЎ, МАНІВІД-АЛЬБЭРТ, МАНТЫГЕРД, МІРАСЛАЎ, НАРБУТ, НАРЫМУНТ-ГЛЕБ, РАГВАЛОД, РАГНЕДА, РАГУІЛ, РАДЗІВІЛ, СЬВЯТАПОЛК, СЬВЯТАСЛАЎ, СУЛІСЛАЎ, ТАЎТВІЛ, УЛАДЗІМІР, УСЕВАЛАД, УСЯСЛАЎ, ЯРАСЛАЎ.

Стараславянскія і стараліцьвінскія імёны складваліся з двух каранёў рознага значэньня, але былі рэдкія прыклады аднакаранёвых імёнаў: Витень, Глебъ, Гостилъ, Гринъ, Лехъ, Любъ, Остикъ (Astyk, Ostik, Gastik, Hostik), Славунъ, Славоунъ (Sklaboúnos, 764, 767). У кельтаў сустракаліся таксама трохкаранёвыя імёны: Andebrocirix (Ande-broci-rix), Catamantaloedes (Cata-mantal-oedes), Urogenonertus (Uro-geno-nertus), Vercingetorix (Ver-cingeto-rix), Vercombogios (Ver-com-bogios), Convictolitavis (Con-victo-litavis), Vercassivellaunus (Ver-cassi-vellaunus).

Стараславянскія імёны кшталту Богуславъ, Володимиръ, Мирославъ, Славомиръ (Slavomir, 810—819), Святополкъ, Святославъ ня былі абумоўленыя кампанентамі са значэньнем “бог” (богаў, божы, богабаязны), “мір” (згода, стан спакою, міралюбнасьць), “сьвятасьць” (сьветласьць, сьвятло). У эпоху, калі складваліся індаэўрапейскія імёны, было шмат войнаў, міжусобіцаў і жорсткасьці. Адсюль сваім складам славянскія і ліцьвінскія паганскія імёны ўвасаблялі таксама такія паняцьці, як “бітва” і “абарона”, “баец” і “воін”, “гнеў” і “лютасьць”, “воля” і “рашучасьць”, “веліч” і

"слава", "сіла" і "ўлада", "стойкасьць" і "цьвёрдасьць" (Твьрдиславъ, Твердиславъ), "кап'ё" і "меч" (Мечьславъ, Мечеславъ) дый іншыя.

"Матэрыялы", якія прапануюцца, адхіляюцца ад працаў чыста навуковага характару. Гэта найперш даведнік-дапаможнік дзеля далейшых пошукаў больш адэкватнага тлумачэньня імёнаў, названых у працы. Аўтар не трымаўся прынцыпу строга навуковай дакумэнтацыі, прынцыпу дакладнай фіксацыі імёнаў (у розных крыніцах яны падаюцца крыху інакш) і дакладных спасылак на крыніцы (у выпадку кожнага канкрэтнага імя). Датычыць гэта аднолькава іншамоўных тэрмінаў, а таксама тлумачэньня імёнаў іншых індаэўрапейскіх народаў, што былі ўзятыя з дасьледваньняў і агульных гістарычных працаў.

У справе тлумачэньня славянскіх і ліцьвінскіх паганскіх імёнаў апошняе слова павінны сказаць мовазнаўцы-спэцыялісты. Валодаючы грунтоўнымі ведамі ў галіне старых моваў індаэўрапейскіх народаў, толькі яны могуць справіцца з гэтай праблемай. Таксама на грунце параўнальнай лінгвістыкі яны могуць прасачыць ступень залежнасьці (у працэсе імёнаўтварэньня) старажытных славянскіх і ліцьвінскіх імёнаў ад кельцкіх і германскіх або ад імёнаў іншых індаэўрапейскіх народаў, у першую чаргу ад стараіранскіх.

У дужках падаюцца год згадваньня таго або іншага імя, год сьмерці носьбіта імя (†...), таксама гады валадараньня князёў і каралёў, іранскіх шахаў і індыйскіх магараджаў.

Дзеля лепшай арыентацыі тут можна назваць важнейшыя крыніцы, датычныя моўных кампанентаў анамастыкі і самой анамастыкі славянскіх народаў і іншых індаэўрапейскіх народаў:

1. Александр Иванович Горшков. Старославянский язык. Москва, 1963.

2. Георгий Александрович Хабургаев. Старославянский язык. Москва, 1974.

3. Свод древнейших письменных известий о славянах / Отв. ред. Л.А.Гиндин, Г.Г.Литаврин. РАН. Т. I—II. Москва, 1994—1995.

4. Handbuch der altbulgarischen (altkirchenslavischen) Sprache / Von A. Leskien. Heidelberg, 1962. Да гэтай працы далучаны вялікі дадатак (Glossar, Glossárium або "Тлумачальны слоўнік"), дзе да славянскіх тэрмінаў падаюцца таксама грэцкамоўныя адпаведнікі.

Для тлумачэньня кельцкіх тэрмінаў і кельцкай анамастыкі вельмі важныя дасьледваньні:

1. Helmut Birkhan. Kelten. Versuch einer Gesamtdarstellung ihrer Kultur. Wien, 1997. (Гэта капітальная праца (1260 старонак), выдадзеная Аўстрыйскай Акадэміяй навук. У кнізе падаюцца таксама германскамоўныя адпаведнікі.)

2. Gaius Iulius Caesar. De bello Gallico. Lateinisch / Deutsch. Übersetzt und Herausgegeben von Marieluise Deissmann. Stuttgart, 1998.

Для тлумачэньня германскіх тэрмінаў і германскай анамастыкі прапануюцца:

1. Hans Bahlow. Deutsches Namenlexikon. Familien-und Vornamen nach Ursprung und Sinn erklärt. Baden-Baden, 1985.

2. Wilhelm Grönbech. Kultur und Religion der Germanen. Band I—II. Darmstadt, 1997.

3. Joachim Bumke. Höfische Kultur. Literatur und Gesellschaft im hohen Mittelalter. München, 1997.

4. Georg Scheibelreiter. Die barbarische Gesellschaft. Mentalitätsgeschichte der europäischen Achsenzeit 5.—8. Jahrhundert. Darmstadt, 1999.

Тлумачэньні стараіндыйскіх і стараіранскіх тэрмінаў і адпаведна індыйска-іранскай анамастыкі можна ўзяць:

1. Krishna. Die Quelle aller Freude / Von A.C. Bhaktivedanta Swami Prabhupada. Band I. Heidelberg, 1987.

2. Hermann Kulke, Dietmar Rothermund. Geschichte Indiens. Von der Induskultur bis heute. München, 1998.

3. Indien. Kultur, Geschichte, Politik, Wirtschafr. Ein Handbuch. Herausgegeben von Dietmar Rothermund. München, 1995.

4. Josef Wiesehöfer. Das antike Persien. Von 550 v. Chr. bis 650 n. Chr. Düsseldorf & Zürich, 1998.

Для тлумачэньня грэцкіх і лацінскіх тэрмінаў і адпаведна для тлумачэньня старагрэцкіх і старарымскіх уласных імёнаў прапануюцца:

1. Robert von Ranke-Graves. Griechische Mythologie. Quellen und Deutung. Reinbek bei Hamburg, 1984.

2. H.W.Stoll. Mythologie der Griechen und Römer. Die Götter des klassischen Altertums. Kettwing, 1990.

3. Louise Bruit Zaidman, Pauline Schmitt Pantel. Die Religion der Griechen. Kult und Mythos. München, 1994.

4. Werner Dahlheim. Die Antike. Griecheland und Rom von den Anfängen bis zur Expansion des Islam. Paderborn — München — Wien — Zürich, 1995.

5. The Cambridge Illustrated History of Ancient Greece / Edited by Paul Cartledge. Cambridge, 1998.

6. J.F.Haldon. Byzantium in the Seventh Century. The transformation of a culture/ Revised edition. Cambridge, 1997.

У працах, названых пад № 3, 4 і 5, зьмешчаныя “Glossar — Glossary”, “Who’s Who” (Nr. 5) і “Kleines Lexikon der Götter, Heroen und Mythologischen Gestalten” (Nr. 3).

Дзеля “Тлумачальнага слоўніка” (Glossary), які падаецца на пачатку кожнага тому, прапануецца яшчэ: The Cambridge Illustrated History of the Middle Ages / Edited by Robert Fossier. Volume I—III. Cambridge, 1997.

Нарэшце, дапаможнікам для аўтара “Матэрыялаў” быў вялікага фармату і аб’ёмісты (1372 старонкі) лацінска-францускі слоўнік: Dictionnaire latin-francais. Par Ch. Lebaigue. Paris, 1947.

У гэтым слоўніку, побач з лацінскімі тэрмінамі, часта падаюцца грэцкамоўныя адпаведнікі.

Пэўна, што тлумачэньні тэрмінаў, тлумачэньні моўных кампанэнтаў анамастыкі параскіданыя ў асноўным у тэкстах названых тут дый іншых дасьледваньняў і абагульняльных гістарычных працаў.

**Ужытыя іншамоўныя скароты**

agerm. — старагерманскі (тэрмін, корань, імя)
ags. — англасаксонскі
ahd. — стараверхненямецкі
aind. — стараіндыйскі
air. — стараірляндзкі
airan. — стараіранскі
akelt. — старакельцкі
askand. — стараскандынаўскі
dt. — нямецкі
gall. — гальскі
germ. — германскі
got. — гоцкі
gr. — грэцкі
ind. — індыйскі
inde. — індаэўрапейскі
iran. — іранскі

kelt. — кельцкі
kymr. — уэльскі
lat. — лацінскі
lit. — летувіскі
mhd. — сярэдневерхненямецкі
mir. — сярэднеірляндзкі
skt. — санскрыт
urgerm. — прагерманскі
urkelt. — пракельцкі
ст.-сл. — стараславянскі
BC — да нараджэньня Хрыстова
AD — пасьля нараджэньня Хрыстова
ca. — каля

АЛЬГЕРД, сын Гедзіміна і сам вялікі князь (1345—1377). Варыянты: "Самъ Олкгердъ Божію милостью великий князь Литовьскій, Рускій, Жомоитскій и иныхъ" (1345), "князь велики Литовьскій Олгердъ Гедимановичь" (1348), "Се язъ князь великии Олгердъ" (1371), Дмитрии Олгердовичь (1388), Володимеръ Ольгердовичь (1390), Шватрегайло Олгердовичь (1408), Olgerdus (1347), Algard (1352, 1356), Algerd, Alegardus, Alhart, Alherd.

**Аль-герд (+Oll-gerdъ)**: urkelt. +oll-os, gall. ollo-, air. oll, germ. all, alla- "увесь", "усё", "уся", "вялікі", "прасторны", "шырокі"; air. ollam "найбольшы"; germ. gerd, geard, gerht, gerth, hard, herd, hart, hert "адважны", "бліскучы", "вялікі", "прамяністы", "слаўны", "сьмелы".

Імя Альгерд значыла тое ж, што значыла імя У с я с л а ў (пра гістарычныя карані гэтага факту гл. пад імем УСЯСЛАЎ).

Параўнай: бог кельтаў Ollathir (germ. Odinn/Wodan **Hroptatyr**) тлумачыўся "Вялікі бацька" або "Усявышні бог" (kelt. +tatus, air. athi, got. atta "бацька", ст.-сл. отьць; air. thir, germ. tyr "бацька", "бог"; got. **hrops** "вялікі", "слаўны").

Магчыма, згаданым тут кельцкаму богу Ollathir і германскаму Odinn Hroptatyr адпавядаў персанаж у старагрэцкай міталёгіі Alastor, імя якога значыла "Мсьціўца".

Германскія імёны: Alhart, Ohlgart, Olgard, Olgardus, Albert, Albrecht, Allrath, Allwin; каралі вэстготаў Alarich I (395—410), Alarich II (484—507); прыклады іншых імёнаў: адзін з гоцкіх ваяводаў на Балканах Alatheus (376, 382) і адпаведна герцаг (comes) бур-

гундаў Aletheus (†613); "miles Alwinus nobolis" (†1014); сын правіцеля франкаў Карла Мартэла Bernhard (†787) і адпаведна адна з жонак Карла Вялікага Hildegard (†783); герцаг (comes) Нармандыі Richard I (Rich-hard, 942—956). Параўнай яшчэ асвоенага ў кельтаў-галаў старарымскага бога вайны: Mars Olloudius, Mars Olludius (⁺Olla-dēṷos), прозьвішча якога таксама значыла "Вялікі бог" або "Магутны бог"; сучасьнік правіцеля (major domus, subregulus) франкаў Карла Мартэла (†741) "Koning van Engelandt A l l e g a r d genandt"; "Multi eciam ex utraque parte sunt occisi et signanter frater A l g a r d u s comes de Hoensteyn (Hohenstein)" (1391).

Параўнай таксама: стараіранскі (партаў-парфянаў) бог T i r атаясамліваўся з грэцкім богам A p o l l o n. Імя іранскіх шахаў (shah) з дынастыі Сасанідаў: Yazdgird I (Yezdegerd) (399—421), Yazdgird II (439—451), Yazdgird III (633—651).

Сярэднеперсідзкі тэрмін yazdān (yazd) абазначаў "роду багоў" (gr. genous theōn). Параўнай старагрэцкае імя Theodoros, якое тлумачылася "Божы дар".

Згадваныя ў Ю. Цэзара адпаведна кельцкія імёны і назоў кельцкага племя Alioboduos (Alio-boduos), Ollovico (⁺Ollo-vic(c)us), Allobrogi (Allobroges); асвоены ў кельтаў старарымскі бог вайны Mars Albiorix, прозьвішча якога значыла "Валадар Сусьвету". Да згаданага тут кельцкага племя Allobrogi (Allobroges) параўнай назоў германскага племя Alemanni (Alamanni).

БАГДАН. Варыянты: "Богданъ тивунъ" (1359), Bogdan (1268, 1274), Andrey Bohdanowicz (1410), Bohdan Mutrymowycz (1444), "dominus Andreas Sakowicz palatinus Throcensis et filius eius Bogdan" (1460), Bohdan Wasilьewicz (1474), "Bogdan Andrzeyowicz Sakowicz marschalkus terrestris magni ducatus Lythuanie" (1484), "Dlatego my bracia, to jest Mikolaj Niekrasz i Bogdan" (1491), "Ego Bohdanus Raluczevycz heres de Semkovo et de Radzylovo et ego Anna Rurcova Anubowna una cum suis filiis videlicet Szamba (Самбор) et Bohdan" (1498), Anna Bohdana Correiowna (1495), "Bohdan Hornostay marsalcus" (1497), Bogdan Nassunovycz (1501), Bogdan Syenykovycz (1501), Bogdan Sakowicz (1502), Bogdan Jakubowicz (1506).

**Баг-дан (⁺Bog-danъ)**: akelt. bogos, bogios, bogius "воін", "змагар", "зьнішчальнік" (больш разгорнута пра гэты тэрмін гл. пад імем БУДЗІВОЙ і ДАВОЙНА); gr. danos, lat. ḍonum, ст.-сл. даръ; gall.

dannos, air. dann, donn адпаведна “старэйшына” супольні і “высакародны”, “шляхотны”, “валадар”, “гаспадар”, “князь”, “правадыр”; gr. dunatoi “магнаты”.

Імя Багдан значыла верагодна “Здольны воін” або “Удалы воін”. Іншыя славянскія імёны: Мьстибогъ (1202), Мьстивой (1229), Воиславъ Добриничь (1220), Иворъ Молибожичь (1240), Богуславъ Гориславичь (1229). Кельцкі бог вайны Belladonis (lat. bellum “вайна”, “бітва”) тлумачыўся “Валадар бітвы” або “Зьнішчальнік”.

Старагрэцкія імёны: Anthedon, Medon, Pheidon, Laomedon, Eurymedon; марскі бог P o s e i d o n; Mygdon, Sarpedon. Стараперсідзкае імя: пляменьнік шаха Дарэйёса, палкаводзец M a r d o n i u s (†479 BC).

Згаданыя тут персанажы ў старагрэцкай міталёгіі Anthedon і Laomedon адпаведна тлумачыліся “Радасьць кветкавая” і “Пакарыцель людзей”; таксама кельцкія імёны Donnotaurus і Dannatalos адпаведна значылі “Князь-бык” і “Валадар Зямлі” (gr. taūros, lat. taurus; lat. tellus, air talam адпаведна “бык”, “тур” і “зямля”).

БАГУСЛАЎ. Варыянты: Богуславъ Гориславичь (1229), Boguslaus (1198), Boguzlaw (1198), Bohuzlaus (1226), Bogislaw (1293), Buggezlaus (1343), Bugslaw (1386), Boguslaus (1410, 1423), “Boguslaus dux” (1423), Boguzlaus (1413), Boguslaus Maczkowicz (1495), Boguslaus Bohuthinowicz (1506).

**Багу-слаў (⁺Bogu-slavъ)**: kelt. bogos, bogios, bogius “воін”, “змагар”, “зьнішчальнік” (гл. пад імем БАГДАН).

Імя Багуслаў значыла верагодна “Слаўны воін”.

Іншыя славянскія імёны: Bogumil (1236, 1413, 1460), Boguchalus (1210), Boguphal (1251), Boguchwal (1253), Bogufal (1266, 1339), Bogusz Anuszowicz (1492), Barbara Bohumilowa (1499), Bagusch Borisowycz (1501).

Кельцкія імёны: Namantobogos, Namantobogios, Vercombogios. Гэтыя кельцкія імёны (Namanto-bogos, Namanto-bogios, Vercombogios) адпаведна тлумачыліся “Змагар (супраць) ворага”, “Зьнішчальнік ворагаў” і “Вялікі зьнішчальнік”.

Германска-нарманскае імя: нашчадкі нарманскага заваёўніка Апуліі і Калябрыі Рабэрта Жыскара, князі заснаванага ў 1099 г. княства Антыёхія на Блізкім Усходзе Bohemund I (1099—1111), Bohemund II (1126—1130), Bohemund III (1163—1201), Boemund IV (†1233), Boemund V (1233—1252), Boemund VI (1252—1275), Boemund VII (1275—1287).

Параўнай стараславянскі тэрмін: боуй, боуесть, боуйство (germ. mund, askand. mund адпаведна “абарона”, “абаронца” і “абараняльная сіла”; lat. mundus “неба”, “Сусьвет”, “высакародны”, “годны”, “грацыёзны”, “добры”, “зграбны”, “ласкавы”, “прывабны”, “сьветлы”, “слаўны”, “чысты”).

БАЛЯСЛАЎ. Варыянты: “Болеславъ Ляхъ” (1018), “Болеславъ Лядьскыи” (1146); князі Чэхіі Boleslaus I (929—967), Boleslaus II (967—999), Boleslaus III (999—1003); каралі Польшчы Boleslaw I Chrobry (992—1025), Boleslaw II Szczodry (1058—1079), Boleslaw III Krzywousty (1102—1138).

**Баля-слаў**: ст.-сл. болий “большы”; lat. bellus “добры”, “любы”, “зграбны”, “прывабны”, “прыгожы”, “слаўны”; gr. bólos, lat. bolus “выйгрыш”, ваенная “здабыча”; gr. boulé “рада”, “нарада” (у старагрэцкай міталёгіі старая жанчына Eubulé і сьвінапас Eubuléus адпаведна тлумачыліся “Добрая парада” і “Чараўнік”); Zéus Euboulos або бог Зэўс “Добры дарадца”; старафранцускі тэрмін bailli значыў “рэгент”, ст.-сл. правитель. Імя Баляслаў значыла верагодна “Дабраслаў” або “Слаўны парадай”.

Іншае славянскае імя: Доброславъ (1235), Dobroslaus (1413), Dobroslaus (1156), Dobroslava (1190).

Імя стараіранскіх шахаў (shāh): Attambelos I (ca. 47—25BC), Attambelos VIII (ca. 180—195).

Старарымскае імя: Bellienus, C. Annius Bellienus, L. Bellienus.

Імя кельцкага князя Bellovesus (ягоны брат зваўся Segovesus) увасабляла верагодна лацінскія тэрміны bellum (duellum), bellāre (bello), што значыла адпаведна “вайна”, “бітва” і “біцца”, “ваяваць”, “змагацца” (старарымская багіня вайны звалася Bellōna, Duellōna); lat. bellator “баец”, “воін”.

БАРЫСЛАЎ. Варыянты: Петръ Бориславичь (1170), Borislaw (1186), Boreslaus (1203), Boreslaw (1287); першы каталіцкі біскуп у Кіеве Borzislaus (1405).

**Бары-слаў**: стараславянскія тэрміны з коранем б о р-: борьба, бърати (⁺borti), бранити, брань, борьць, богоборьць (gr. theomáchos), боуря, бръзъ (“борзды”, “імклівы”).

У старагрэцкай міталёгіі бог моцнага, парывістага паўночнага ветру зваўся Boreas.

Імя Барыслаў значыла верагодна “Слаўны воін” або “Слаўны ў бітвах”.

Імя Б а р ы с (Борисъ) — кароткая форма ад імя Барыслаў.

Іншыя славянскія імёны: князі харватаў Boruta (†748), Borna (†821); цар Баўгарыі Борисъ (852—889); князі Чэхіі Borzywoj I (873—894), Borzywoj II (1107—1124); згадваны ў саксонскага краніста Тытмара князь стадаранаў Boris (1006); сын кіеўскага князя Ўладзіміра Сьвятаславіча растоўскі князь Борисъ (+1015); сын Усяслава Чарадзея полацкі князь Борисъ-Рогъволодъ (+1128); Ратиборъ (1079, 1095, 1117, 1269), "воевода Борисъ Жидиславичь" (1174), "воевода Славнъ Борисовичь" (1188, 1189), Предъборъ (1262), Стиборъ (1336, 1366), Цтиборъ (1359), "князь Борисъ Костянтиновичь" (1371), Борись Меркурьевичь (1386), Czestibor (858), Selibur, Zelibor (967), Czcibor (992), Svantibor (1193), Stibor (1226), Ratibor (1028, 1082, 1218), Lutabor (1124), Prebor (1218), Barwin, Burwin, Burwinus (1218, 1222, 1225, 1228), Dalebor (1226), Zwatobor, Zwantobor (1226), Ratiborius, Raciborius (1234, 1259), Priznoborus (1235), "Nos Samborius Pomeranorum dux" (1258, 1276), Mislibor (1274), Chotibor (1343), Swantoborius (1395), Stiborius (1402), Przedborius (1413), Swanthobor (1413), Schamborius (1178, 1284), Samborius (1229, 1343), Schambor (1283).

Імя франкскіх графаў (comes), якія ў выніку Крыжовых паходаў дзейнічалі на Блізкім Усходзе: Barisan I (†1150), Barisan II (1177, 1187), Barisan III (1236, 1239).

Кельцкае імя: згадваны ў Ю. Цэзара адзін з правіцеляў кельцкага племя рэмаў (Remi) Andecumborius (Ande-cum-borius) (57 BC). Гоцкія імёны: ваяводы на службе ў бізантыйскага імпэратара готы бацька і сын Aspar і Ardabarius, абодва замардаваныя ў 471 г.; ваявода караля вэстготаў Тэадэрыха II (†466) Arborius (462).

Армянскія імёны: палкаводзец і нядоўга бізантыйскі імпэратар Philippikos Bardanes (711—713), "strategos Bardas" (700), "strategos Bardanes Tourkos" (803), Caesar Bardas (855, 865).

Стараіранскія імёны: персідзкія сатрапы і адпаведна адзін перс, ваявода ў рыцарскай коньніцы Аляксандра Македонскага: Barzanes (†328 BC), Baryaxes (†324), Aigobares (Aigo-bares) (324 BC).

Параўнай таксама: kelt. briga, lat. burgus, gr. purgos, aind. puraḥ "замак", "умацаванае месца", "крэпасьць" (стараітальянскі, старафранцускі, старагішпанскі і старанямецкі адпаведнікі: borghi, barri (bourgs), barrios, burgum).

Старагрэцкае імя Briareus (Herakles B r i a r e u s) тлумачылася "Валявы", "Моцны", "Стойкі".

Да згаданага тут славянскага імя Ратиборъ, Ratibor, Ratiborius параўнай ст.-сл. рать, ратьникъ (gr. polémios), ратьнъ.

Да згаданага тут славянскага імя Samborius (Самборъ) параўнай імя аднаго зь індыйскіх магараджаў, зь якім меў справу Аляксандр Македонскі: S a m b o s (325 BC); у стараіндыйскай міталёгіі волат Dasa Shambara, зь якім змагаўся і перамог стараіндыйскі бог вайны Indra Purandara (aind. sam, saṃgrāma адпаведна "сутычка" і "вайна"; aind. sāmanta "сусед"; aind. samānā, got. samana, air. samain "разам", "супольна").

Параўнай таксама: армянскія князі Saborios (†668), Sambat (gr. Symbátios) I (890—914).

Іранскія шахі (shāh) з дынастыі Сасанідаў: Ŝābuhr (Shabuhr) I (240—272), Ŝābuhr II (309—379).

Зрэшты, стараславянскае імя Б о р и с ъ (gr. Borises) магло паходзіць ад драпежніка б а р с (gr. pardós, lat. pardus — самец сямейства пантэраў). Якраз назвай гэтага зьвера абумоўлівалася стараармянскае імя Bardas. Як імя, што паходзіла ад драпежніка л е ў (gr. léon, lat. leo): бізантыйскія імпэратары Leon I (457—474), Leon VI (886—912); князі Малой Арменіі Leon I (1129), Leon II (1197, 1209); каталіцкія Папы ў Рыме Leo I (440—461), Leo IX (1049—1054). А шмат раней, у старажытнай Спарце, быў "besileús Léon" (перад 550 BC), нашчадкі якога, таксама каралі Спарты, зваліся ўжо Leonidas I (490—480 BC), Leonidas II (262—235 BC).

Адсюль нашыя беларускія імёны Л е ў, Л я в о н, Л е а н і д.

БРАНІСЛАЎ. Варыянты: князь балканскіх сэрбаў Branislav (892), Barnozlaus (1176), Bronizlaus (1257, 1259), Bronislaus (1259).

**Брані-слаў**: ст.-сл. брань, бранити (+borniti) "вайна", "бітва", "абараняцца", "адбівацца" (шырэй пра гэты тэрмін гл. пад імем **Барыслаў**); kelt. +brannos, +Brannos адпаведна "воран" (ст.-сл. вранъ) і "Бог воранаў" (параўнай kelt. Brannovices, што значыла "Воіны бога Ворана"); мітычны герой кельтаў Уэльсу Bran тлумачыўся "Велічны", "Высакародны", "Узвышаны", "Шчасьлівы". Згадваны тут сэрбскі князь Браніслаў, сын князя балканскіх сэрбаў Мунтымера (Mountiméros, 850—892), у Канстантына Парфіраноднага быў названы B r á n o s.

Імя Браніслаў магло значыць "Узвышаны славай" або "Слаўны ў бітвах".

Іншае славянскае імя: надпіс на камені аднаго з харвацкіх князёў "БРАНИМИРЪ" (70-я гг. IX ст.).

Кельцкія імёны: князь галаў Brennos блізу 390 г. да Н. Х. здабыў і спапяліў Рым; іншы князь галаў, таксама Brennos, у 279 г. да Н. Х. абрабаваў агульную сьвятыню для грэкаў у Дэльфі.

БРАЧЫСЛАЎ, унук Рагнеды, сын Ізяслава і сам полацкі князь; памёр ён у 1044 г. Варыянты: "преставися Изяславъ, отець Бряцьславль" (1001), "оумре Брячьславъ, сынъ Изяславль, отець Всеславль" (1044); сын полацкага князя Барыса-Рагвалода Брячиславъ (1127), віцебскі князь Брячьславъ Василькович (1180), Василько Бряцьславичь (1180), полацкі і віцебскі князь Брячиславъ (1239); сын кіеўскага князя Сьвятаполка Ізяславіча Брячиславъ (†1127).

**Брачы-слаў**: skt. bṛhatī, inde. +bhṛghṇtī, akelt. +brigantinos "велічны", "высакародны", "высокі", "вялікі", "узвышаны".

Імя кельцкай багіні Brigantia (+Brigantī), Brigit тлумачылася "Велічная" або "Высакародная".

Імя Брачыслаў значыла верагодна "Велічны славай" або адпавядала іншаму славянскаму імю В ы ш а с л а ў, У с я с л а ў.

Князі Чэхіі: Brzetyslaw I (†1055), Brzetyslaw II (†1100), "Brzieczislaus dux" (1198).

Сын кіеўскага князя Ўладзіміра Сьвятаславіча **Вышеславъ** (990); князі балканскіх славянаў VIII—IX стст. Vysseslav, Wyszeslaw; заходнеславянскія імёны Wisiezlaus (1221), Wizlavus (1299), Wislaws (1338), "Ego Wisieslaus Ruianorum princeps" (1221).

Ліцьвінскія імёны: Dowoyn Wysigirdonis (1401), Wissegerd (1413), Wiszowid (1459), Stanislaus Wyszymuntowicz (1474), Wyszgyrd (†1475), Laurentius Wiszymuntowicz (1503).

Згаданае тут ліцьвінскае імя Wissegerd (1413) таксама значыла тое ж, што і В ы ш а с л а ў.

Зрэшты, імя Б р я ч и с л а в ъ (Брячьславъ, Бряцьславъ, чэскае Brzetyslaus) магло проста абумоўлівацца старaславянскім дзеясловам **брати**, бьрати, бърати (+borti) і назоўнікам б о р ь ц ь, што значыла "бароцца", "змагацца", "спрачацца" і "барэц", "змагар", "воін", "праціўнік". У гэтым выпадку імя Брачыслаў значыла тое ж, што імя Браніслаў, а менавіта "Слаўны ў барацьбе", "Слаўны змагар", "Слаўны воін".

БУДЗІВОЙ. Варыянты: сын Годшалка і сам князь абадрытаў Buthue, Budiwoi (1066—1075), Bugivogius (1232, 1237, 1259), Budivoius (1257), Budivoyus (1259); “miles Budizlavus” (1018).

**Будзі-вой**: ст.-сл. боуй “адважны”, “горды”, “люты”, “сьмелы”, “удалы”, “храбры”; gr. bia, bios адпаведна “сіла” і “жыцьцё”; kelt. bija (+bii̯a), bios (+bii̯os), bius (vius) адпаведна “жыцьцё” і “сіла”, “баяздольны”, “гвалтоўны”, “магутны”, “моцны”; kelt. bogos, bogios, bogius, +bodu̯os, boduus (voduos, vodus) “баец”, “воін”, “змагар”, “зьнішчальнік”; ahd. bad, bod, bode “валадар”, ст.-сл. повелитель; kelt. boudios, air. búaid “перамога”; urkelt. +bodu̯ā, kelt. +bodu̯os, urgerm. +badu̯az, +badu̯o, air. bodb, askand. bod “бітва”, “сеча”, “змаганьне”; gr. anabates, lat. andabata “воін” або “гладыятар”, што змагаўся “ўцёмную” (у закрытым шоламе).

Параўнай таксама: gr. apobátes, epibátes, exkoúbitoi адпаведна воін у панцыры, марскі воін, воіны-гвардзейцы; airan. argbed, aspbed, spāhbed, yazdbad, mōbad (mauḥ-bad) адпаведна камендант замку, ваявода коньніцы, ваявода галоўнага войска, дарадца шаха і (рэлігійна-царкоўны тэрмін) “Вярхоўны ўладыка” (gr. archiepiskopos).

Імя Будзівой значыла верагодна “Валадарны воін”, “Магутны воін” або адпавядала іншаму славянскаму імю Л ю т а в о й (gr. Nikoláos Lutobóes, 1028—1052); магло значыць яшчэ “Пераможны воін”.

Іншыя славянскія і ліцьвінскія імёны: Боутовитъ (1217), Боудивидъ (1290), Budislaw (1242), Budimir (1263), Budovan, Boudewin (1310), Butold (1401), Butowdus (1413), Butrim (1416), Iwasko Butrimowicz (1425), Budwil (1436), Butwid (1451), Buyvid (1462), Butho Jaczkowycz (1468), Gynywil Buywidowicz (1471), Jacobus Budwidocz (1472), Juszko Butoltowicz (1474), Daumunt Butwidowicz (1484), Stanislaus Budylowycz (1486), Buiwid (1490), Gregor Budwilowicz (1494), Georgius Budwidowicz (1494), Nicolaus Buthwilowicz (1494), Miczko Buywilowicz (1495), Butwid (1498).

Германскія імёны: кароль бургундаў Gundobad (Gundibadus, 485—516); іншыя князі готаў і франкаў: Ildebad (Ildebadus, †541), Baderich (531, 534), Butilinus (†554), Gundobad (†544), Willebad (†642); герцаг (comes) аляманаў Butilin (539—554), кароль вэстготаў Sisebut (612—621), князь фрызаў Ratbot (689—719), адпаведна біскуп Рэгенсбургу і арцыбіскуп Трыеру Baturich (833, 845), Radbod (†915).

Старагрэцкія імёны: Eurybiades (480 BC), Alkibiades (ca. 450—404 BC), Eurybotas (†335 BC), Hyperbatas (226 BC); гісторык, які жыў у Рыме, Polybios (ca. 200—120 BC).

Стараіранскія імёны: Artabates (480 BC), Mithrobaios (324 BC), Orontobates (316 BC).

Кельцкія імёны: князі галаў-галатаў у Малой Азіі Bathanatos, Kombụtis (279, 277 BC); іншыя імёны кельцкіх князёў і ваяводаў, якія ʒгадваліся таксама ў Ю.Цэзара: Alioboduos, Boduognatus, Eniboudios, Namantobogos, Namantobogios, Soliboduus, Teutoboduus, Vercombogios.

B o u d ̦i c c a (lat. Boudicea, Boud-icēa; ейны муж і князь зваўся Prasutagus) — княгіня кельцкага племя і к е н а ў (lat. iceni, icenes) у Брытаніі, якая ў 60 г. пасьля Н.Х. узначаліла паўстаньне супраць панаваньня Рыму і пазьней ушаноўвалася як “Багіня вайны”.

ВАЛАДАР, сын менскага князя Глеба Ўсяславіча, брат Расьціслава і сам менскі князь; год ягонай сьмерці невядомы; у 1167 г.Валадар здабыў Полацак, але пацярпеў паразу пад Віцебскам. Варыянты: “а Володарь не целова крестъ, оже ходяше подъ Литвою в лесехъ” (1159), “Том же лете приходи Рогъволодъ на Володаря с Полотьчаны к Городцю, Володарь же не да ему полку” (1162), “Том же лете поиде Володарь Глебовичь к Полотьскоу ратью,.. и побеже Володарь от Витебьска” (1167); Володарь Ростиславичь (1082), “и Володаря яша Ляхове лестью” (1122), “преставися Володарь Ростиславичь” (1124), лагойскі князь Василко Володаревичь (1186), Василько Володаровичь (1196).

**Вала-дар** (**⁺Volod-darъ**): германскі тэрмін wald, walt (-old, -olt, gold, hold) адпавядаў праславянскаму ⁺voldъ — корань для “валадарыць”, “гаспадарнічаць”, “панаваць” (параўнай ст.-сл. владети, власть, владыка, властель, властелинъ, волость); akelt. ⁺ụlati-, air. flaith, kymr. gwlad адпаведна “валадарыць”, “улада”, “краіна”; gr. dóron, lat. dōron, ст.-сл. даръ; aind. dar “валадар”, “уладальнік” (zamindar “землеўласнік”; airan. zam “зямля”); airan. dār “валадар”, “носьбіт” (framādār, ŝafsērdār (shafsērdār) адпаведна ст.-сл. повелитель, “камендант” і “мечаносец”); gr. dorys, doryphóros адпаведна “кап’ё” і “капейнік” або “воін, узброены кап’ём”.

Імя Валадар значыла верагодна “Абдораны ўладай” або “Уладальнік кап’я”, “Валадар кап’я”.

Імя караля лангабардаў: Ouáldares (lat. Waltari) (539—546).

Старагрэцкія імёны: эпічны паэт Pindar (Pindaros) (538—418 BC), Apollodoros (331, 323 BC), Athenodoros (325 BC), Diodoros (†319 BC), Dionysiodoros (333 BC), Lipodoros (323 BC), Nikodoros (313 BC), Theodoros (505, 500 BC), Theodotos (294, 281 BC).

Персанажы ў старагрэцкай міталёгіі: Eudore (“Дабрадзейка”, “Тая, што дарує дабро”), Pandora (“Тая, што абдароўвае ўсім”), Polydoros (“Вельмі-Шчодры”), Dionysos Plutodotes (“Той, што дае багацьце і дабрабыт”), Zeus Epidotes (“Апякун”, “Той, што прапануе апеку”).

Імя старaперсідзкіх шахаў (shah): Dareios (Darayavaush) I (522—486 BC), Dareios II (423—404 BC), Dareios III (336—330 BC).

Стараіндыйскі бог вайны Індра (Indra) меў яшчэ прозьвішча Purandara (Puran-dara), якое тлумачылася “Разбуральнік крэпасьцяў” (aind. puraḥ спачатку значыў “умацаванае месца”, “стан”, затым — “горад”). Пазьней Індра ўвасабляў нябеснага бога дажджу і навальніцы; гэтымі сваімі функцыямі ён адпавядаў славянскаму Пяруну.

Параўнай: agerm. $^{+}$punaraz, askand. pórr, kelt. taran, air. torann, gr. brontes “гром”, “пярун”; багі: gr. Brontes (Zeus Brontes), lat. Jupiter Tanarus (Jupiter Tonans), kelt. Taranis (Taranus), ahd. Thunar, dt. Donner — усе яны абазначалі Пяруна.

Адсюль, мабыць, славянскі Пярун быў адначасна “Богам-Грамавержцам” і “Богам воінаў-дружыньнікаў”.

Можа быць іншае тлумачэньне імя Валадар ($^{+}$Volo-darъ): ст.-сл. велети, велий, великъ; kelt. valos ($^{+}$u̯alos, $^{+}$u̯elios) “вялікі”, “дужы”, “магутны”, “моцны”, “сіла”.

У гэтым выпадку імя Валадар магло значыць “Абдораны сілай” або “Вялікі валадар”.

ВАЛІМУНТ, бацька жамойцкага старасты Міхала Кязгайлы, падпісаў прэлімінарнае пагадненьне з крыжакамі Прусіі 1398 г.; загінуў, магчыма, у бітве 1399 г. з ханам Цемір Кутлугам на рацэ Ворскле. Варыянты: Walmund (1398), Kesgaylo Wolymuntonis (1401), Rombold Volimontonis (1409), “пан Шедибор Валимонтович” (1420), Sudziwoy Volimuntowicz (1434), Albertus Volmuntowicz (1475).

**Валі-мунт** ($^{+}$**Vali-mund**): ст.-сл. велети, велий, великъ; kelt. valos ($^{+}$u̯alos, $^{+}$u̯elios) “вялікі”, “дужы”, “магутны”, “моцны”, “сіла”; germ.

mund, askand. mund адпаведна "абарона", "абаронца" і "абараняльная сіла"; lat. mundus "Сусьвет", "неба", "высакародны", "годны", "зграбны", "прыгожы", "ясны", "сьветлы", "слаўны". Імя Валімунт значыла верагодна "Вялікі абаронца" або "Слаўны сілай".

Іншыя ліцьвінскія імёны: Albertus Volmynowicz (1475), Michael Wyelbuthowicz (1475).

Славянскія імёны: Vislaus (1338), Welislaus (1386), Velislaus (1413).

Кельцкія імёны: Cartimandua, Catumandus, Dunwallo, Nertovalos, Valetiacus, Vellocatus; кельцкі бог Vellaunos (aind. Vāruṇa), Luguvalos.

Германскія імёны: князь готаў у Панонii Valamer (447, 461); нядоўга кароль вэстготаў Vallia, Wallia (415—417); англасаксонскі кароль у Брытаніі (Wessex) Caedwalla (†688); франкскі граф, затым ігумен манастыру ў Корбі (Corbie) Wala (826—837); адпаведна кароль бургундаў і кароль вандалаў Sigismund (516—534), Thrasamund (496—523); англасаксонскі кароль у Брытаніі (Wessex) Edmund (939—957).

Старарымскія імёны (консулы, легаты, праэтары, сэнатары, трыбуны ў войску): P. Valerius Laevinus (cons. 280 BC), L. Valerius Flaccus (cons. 100, 86 BC), L. Valerius (sen. 76 BC), C. Valerius Triarius (pr. 78 BC), M. Valerius (tr. mil. 68 BC), C. Velleius (sen. 76 BC), Q. Velenius (tr. mil. 56 BC), L. Villius (pr. 58 BC); паэт Velleius Paterculus, які тварыў у часе валадараньня імпэратара Tiberius Claudius Nero (14—37 AD); Marcus Vettius Valens (tr. mil. 66 AD).

Бізантыйскі імпэратар, які загінуў пад Адрыянопалем у змаганьні з навалай г о т а ў, Flavius Valens (gr. Ouáles) (364—378).

Імя стараіранскіх шахаў (shāh): Vologeses I (51—80), Vologeses VI (207—222).

Параўнай таксама: lat. valēre (valeo) "быць здаровым", "быць моцным", "быць здольным", "мець аўтарытэт", "мець сілу", "быць дзейсным"; ahd. munt "улада", "панаваньне" над людзьмі.

ВАРЦІСЛАЎ. Варыянты: князі Чэхіі Wratyslaus I (905—921), Wratyslaus II (1061—1092), Wartizlaus (1164), князь заходнеславянскіх абадрытаў Wertizlavus, Wartislaw (†1164), Wartizlaus Svantiboriz (1187), Warceslaus (1221), "Wartizlaus dux Pomeranorum" (1229), "Wartizlaus dux Dyminensis" (1240), "Nos Wartyzlaus dux Slavorum" (1320), Wartislaus (1343), Wartislaus (1386), Андреи Воротиславичь (1270).

**Варці-слаў (⁺Vrati-slavъ)**: germ. ward, mhd. wart., ст.-сл. вратьникъ, стража "ахоўнік", "вартаўнік", "сторaж".

Імя Варціслаў значыла "Слаўны ахоўнік", "Слаўны абаронца".

Германскія імёны: Gerward, Wartmann, Warmunth (⁺Ward-mund), Warinbald (⁺Ward-bald), Wermer (⁺Ward-mer).

Кельцкае імя: Vertiscus, Vortigern (Vurtigernus) (⁺Ver-tigernos); апошняе кельцкае імя тлумачылася "Вышэйшы гаспадар" або "Найвышэйшы валадар" (kymr. Gwrtheyrn).

Параўнай яшчэ стараіндыйскі тэрмін і тытул магараджаў vartin, cakravartin (čakra-vartin), што значыла адпаведна "валадар", ст.-сл. правитель і "Правіцель сьвету", "Сусьветны валадар".

ВІГАНД-АЛЯКСАНДР, сын вялікага князя Альгерда, княжыў у Кернаве; памёр ён у 1392 г. Варыянты: Вигонтъ (1377), "Nos Allexander alias Wygunth dei gracia dux Kernoviensis" (1388), "Alexander alias Vigunt" (1391), Wygand, Wigandus (1392).

**Віг-анд (⁺Vig-nand)**: germ. wig "бітва", "сеча"; mhd. wigand "віцязь", "волат", "воін"; germ. nand, nund (-and, -nad, -nud, -nut) "адважны", "дужы", "моцны", "нехапісны", "сьмелы", "стойкі".

Імя Віганд значыла верагодна "Адважны ў бітвах" або "Непахісны воін".

Імя В і г а н д атрымаў князь Вітаўт, калі пасьля замардаваньня бацькі вялікага князя Кестута ў 1382 г. уцёк у Прусію і там быў ахрышчаны крыжакамі.

Іншае ліцьвінскае імя: Woynad (⁺Voy-nand) Russilowicz (1401).

Германскія імёны: Wigand (⁺Wig-nand), Wignand, Weigand, Wiegand (⁺Wig-nand), Gerwig, Gernand, Siegnand, Hadewig, Helwig.

Імёны канкрэтных гістарычных асобаў: каралі франкаў Chlodwig (Chlodio, Chlodovecho, Chlodoweg) I (481—511), Chlodwig II (639—657); пазьнейшыя імпэратары з дынастыі Каралінгаў: Ludwig (Chlodowig, Hludowicus) I (813—840), Ludwig II (850—875).

Параўнай: ahd. lud, liut (germ. ⁺hlōd, ⁺chlōd, ⁺chlōt) мелі значэньне "слава", "слаўны" (Liutberga †788, Liutgarda †800, Liutbert †889).

"Wigfridus Coloniensis archiepiscopus" (923—953), "Hartwigus (Hartwig) Salzburgensis archiepiscopus" (991—1023), "Wigbertus episcopus Merseburgensis" (1004—1009), "comites" Wigmannus I (†944), Wigmannus II (†967).

ВІТАЎТ (Віганд, Юры, Аляксандр), сын Кестута і сам вялікі князь (1392—1430). Варыянты: "князь Юрьи Витовтовичь" (1342, 1351); Витовтъ (1382, 1392, 1400), Витольдъ (1388), Витольтъ (1389), "Nos Allexander alias Withawdus dei gracia magnus dux Litwanie etc." (1423), "Allexander alias Wytowdus dei gracia magnus dux Lithwanie tarrarumque Russie etc." (1423), "Alexander alias Witawdus dei gracia magnus dux Lythwanie etc." (1424), "Allexander alias Witawdus Dei gracia magnus dux Lythvanie, Russie etc." (1430), "Alexander anders Witawd" (1430), Witawt, Witowt; Stanislaus Witoutowicz (1451).

**Ві-таўт (+Vitъ-taut)**: gr. bia, bios "сіла", "жыцьцё"; lat. vita, vīvere адпаведна "жыцьцё", "жыць", "існаваць"; lat. vix (vi, vices) "сіла", "насільле"; kelt. bija (+bii̯a), bios (+bii̯os), bius (vius) адпаведна "жыцьцё" і "баяздольны", "гвалтоўны", "магутны", "дужы", "сіла" (параўнай: Banuabios (+Banua-bii̯os) "Забойца сьвіней"); inde. +ueik-t-, u̯īk-t- (+u̯eik-) "жыцьцёвая сіла", "энэргічнае выяўленьне сілы"; inde. +teutā; kelt. +teutā, +toutā; air. túath, tud; got. theod, thiuda; germ. theud, teuto, touto, teut, tied, tut, diet — усе яны значылі "народ", "племя" (у летувіскай мове тэрмін tauta ужываўся ўжо ў значэньні "зямля", "краіна" народу); got. gutthiuda (gut-thiuda) "гоцкі народ".

Імя Вітаўт значыла верагодна "Сіла народу".

Іншыя ліцьвінскія імёны: Nicolaus Tawtigerd (1413), Teutigerd (1434), "Johannes alias Thautwil" (1440), Towthwyl (1461).

Славянскія імёны: Витомиръ (1202), Витанъ, Юрьи Витановичь (1206), Володиславъ Витовичь (1213), Витославъ (1213), Witoslaus (872), Witoslaw (895), Witoslaus (1213), сын Косьці (Costa) і Мані (Miania) з Ваўкавыску Vitus (1410), Vitus Radczynski, Nicolaus Vitanski (1437), Johannes Vythevycz (1500).

Кельцкія імёны: князь кельцкага племя арвернаў (lat. arverni, arvernes) B i t u i t o s (сярэдзіна II ст. перад Н.Х.; ягоны бацька зваўся Lovernios); Teutates (+Teuto-tatus), Teutoboduus, Teutomatus, Toutiorix.

Германскія імёны: кароль дзяржавы готаў у Італіі Theoderich (lat. "rex Theodericus") (493—526); каралі вэстготаў Theoderich I (417—451), Theoderich II (451—466); каралі франкаў Theuderich I (511—534), Theuderich II (596—613), Theudebert I (534—547), Theudebert II (596—612), Theudebald I (548—555).

Параўнай: germ. rik, rich адпаведна "магутны" і "валадар", ст.-сл.

правитель; got. reiks "правадыр", "кароль", "выдатны"; germ. bald, bold "адважны", "сьмелы", "моцны", "трывалы"; germ. bert, berht "бліскучы", "слаўны"; старагерманскі тэрмін theod меў яшчэ значэньне "веліч", "велічны", "вялікі".

Іншыя германскія імёны: князі готаў (адпаведна бацька і сын) Vithimer (†ca. 376), Vitherich (376, 382); Thiudimer (Theodimer, †ca. 474); нядоўга кароль вандалаў Theodhad (534—536); "comes Theodulf" (+Theud-wolf) (585), "major domus Theudoald" (+Theudo-wald) (†715); герцаг (comes) аляманаў Theudebald (724—746); дачка Карла Вялікага Theodrada (†794); адпаведна біскуп Арлеану і арцыбіскуп Зальцбургу Theodulf (+Theod-wolf) (797—818), Theotmar (870—907); адпаведна біскуп Аўгсбургу і герцаг (comes) Латарынгіі Witger (877, 886), Dietrich (984, 986); "Witgerus Metensis episcopus" (917—927).

Імя брата князя руянаў-ругіяў Яраміра (1170—1218) Tetislav, Tetiszlavus (+Teuto-slavъ) значыла верагодна "Слава народу" або "Слаўны ў народзе" (германскі адпаведнік Dietmar, Thietmar).

ВІЦЕНЬ, брат Гедзіміна і сам вялікі князь (1293—1316). Варыянты: "rex Vithenus" (1296), "Vithenus rex Lethowinorum" (1298), "praedecessor noster rex Viten" (1322), "sicut Vithene bone memorie, frater vester et antecessor" (1323); **князь заходнеславянскіх абадрытаў** Witsan (789), "princeps Witzan" (789), "Witzin Abodritorum rex a Saxonibus occisus est" (795); у беларускіх летапісах XVI ст. Витень, Witeni.

**Віцень**: lat. vincere, victoria, victor, victrix адпаведна "перамагаць", "перамога", "пераможца", "пераможны"; lat. vita, vis vitalis "жыцьцё" і "жыцьцёвая сіла"; lat. vix (vi, vices) "сіла", "гвалт"; kelt. bogos, bogios, bogius (vogius, voius) "баец", "воін", "зьнішчальнік"; kelt. vicos, vic(c)us "воін", "змагар" (параўнай: Brannovices, Eburovices, Ordovices, што адпаведна тлумачылася "Воіны бога Ворана", "Воіны дзіка-кабана", "Воіны, узброеныя молатам"); germ. wig (wicus) "бітва", "сеча"; aind. vijaya "перамога", "заваёва". Імя Віцень значыла проста "Віцязь".

Параўнай канстатацыю саксонскага храніста Тытмара: "in ea parte, qua **satellites** habitant dicti Sclavonice V e t h e n i c i" (1002), што датычыла славянскіх воінаў-наймітаў, якія служылі ў саксаў і дапамагалі ім абараняць замкі.

У крыжацкага храніста Пётры Дузбурга бацькам Віценя быў на-

званы Пукувер або Лютавер. Не ўнікаючы ў сутнасьць праблемы, можна згадаць сугучныя імёны: славянскія Пакославъ (1211), Pacoslaus (1253), Lutogneus (1238), Nicoláos Lutobóes (1028—1052), Puccummir (1320); рымскія імёны C. Lutatius Catulus, Q. Lutatius Catulus, Pacuvius Calavius, Q. Pacuvius, M. Pacuvius, Sextus Pacuvius; кельцкае імя Lutarios (гэта князь галаў, якія перасяліліся ў Малую Азію, 279, 277 BC).

Адпаведна кароль готаў і каралі вэстготаў: Wittigis (536—540), Witteric (⁺Wite-rich) (603—610), Witiza (ca. 680—690); вэстгоцкі манах у Аквітаніі Witiza (ca. 781, 814).

Да згаданых тут заходнеславянскіх воінаў Vethenici параўнай самбійскіх (Sambia, Sambitae — зямля і племя старажытных прусаў) Witingi (Witingae, sing. witinga), што датычыла асобных вайсковых групаў-дружынаў; пазьней, напрыклад у крыжацкага храніста Віганда з Мурбургу, гэтым тэрмінам ("vexillum wytingorum") абазначаліся воіны, якія выконвалі вартавую службу.

У сэнсавым значэньні імю Віцень адпавядалі старарымскія і старагрэцкія: Victor, Victória, Andronikós, Nikólaos, Nikánor, Nikókles, Niképhoros (gr. niké "перамога" і багіня перамогі Niké = lat. Victória; gr. andrós, laós, nor аднолькава "чалавек" ("народ") і "муж" у сэньсе дзейснага чалавека; gr. kles (⁺kléios), phoros адпаведна "слава", "слаўны" і "носьбіт".

Параўнай таксама: тытул nikátor "пераможца", які часта ўжывалі эпігоны Аляксандра Македонскага.

Ваяводы ў Аляксандра Македонскага Andronikos (330, 312 BC), Nikanor (343, †330 BC), Nikanor (330, †317 BC); дзяржаўца (сатрап) у Кападокіі Nikanor (321, 301 BC); адпаведна палітычны дзеяч у Атэнах і тыран Сікыёну (Sikyon) Nikokles (†318 BC), Nikokles (264, 251 BC); адзін з каралёў на Кіпры (basileús) Nikokles (†310 BC); эпігоны Seleukos I Nikator (326, †281 BC), Antiochos III Nikator (ca. 223—187 BC), Demetrios II Nikator (145—141 BC); бізантыйскія імпэратары Nikephoros I (802—811), Nikephoros III Botaneiates (1078—1081); патрыярхі Канстантынопалю Nikephoros (806—815), Nikolaos Mystikos (901—907, 912—925).

ВОЙШАЛК, сын Міндоўга і сам нядоўга вялікі князь; замардаваны ў 1268 г. Варыянты: Вышелкъ (1258, 1261), Вышелгъ, Воишологъ (1261, 1263), Воишелкъ (1261, 1263, 1268, 1283), "Воишелкъ

же нача княжити во всеи земли Литовьскои" (1264), "и пріиде же Шварно с помочью в Литвоу к Воишеволкови, и видевъ Воишеволкъ помочь Шварновоу и Василковоу,.. и радъ бысть велми" (1264), "князь Левъ... оуби Воишелка завистью, оже бяшеть далъ землю Литовьскоую братоу его Шварнуви" (1268).

**Вой-шалк**: lat. calcus, mhd. schalk "слуга", dt. "Knecht"; але нямецкі тэрмін Knecht паходзіў ад англасаксонскага knight, што значыла "віцязь", "рыцар" (kelt. +neits "герой").

У сваю чаргу германскі тэрмін marschall, marsalcus спачатку значыў "канюшы", "канявод", "конюх" (kelt. +markos, germ. +marha, kymr. march — "конь").

Імя Войшалк значыла верагодна "Самаадданы воін".

Князь заходнеславянскіх абадрытаў Godescalcus, Gottschalk (1044—1066); германскае імя Gottschalk (842), Godschalk, Godeschalk; імёны князёў готаў Arnegisclus (ca. 445), Godisdisclus (ca. 489), Theudisclus (548), "pastor Goddescalcus" (1044).

Ваявода і нядоўга кароль вэстготаў у Гішпаніі: Theudisclus (548—550).

ВЯЧАСЛАЎ. Варыянты: сын Яраслава Ўладзіміравіча смаленскі князь Вячеславъ (†1057), Борисъ Вячеславичь (†1078), Вячеславъ Ярополковичь (†1105), сын Уладзіміра Ўсеваладавіча тураўскі князь Вячеславъ (†1154), Вячеславъ Гориславичь (1233).

**Вяча-слаў**: ст.-сл. вече, веште адпаведна "веча", "рада", "парада"; ст.-сл. вяштии, вятшии адпаведна "большы" і "больш важны", "вялікі"; aind. viśiṣṭha (vishishtha) "годны", "дастойны", "якасны", "годнасьць", "якасьць"; aind. vijaya "перамога", "заваёва".

Імя Вячаслаў значыла верагодна "Слаўны парадай" або "Годны славы".

Іншыя славянскія і ліцьвінскія імёны: князь Кукеносу Вячка, які загінуў у 1224 г. ("rex Vesceka", "rex Viesceka", "rex Vetseka"), Wenceslaus (†929), Watszlaus (1218), Wencezlaus (1229), Venceslaus (1289), Вятславъ (1371), "панъ Вятславъ Дмитровьскии" (1371), "pan Wenslawъ Rafalowicz" (1470), Venczeslaus Mongirdowycz (1486), Venczeslaus Olechnovycz (1491), "plebanъ Wenъslawъ" (1500), Venceslaus Juszkowicz (1503), Stanislaus Wianclawowicz (1505) (Wianczeslawowicz?).

Стараіндыйскія імёны: Vasishka, Vasishtha, Vatsarāja, Vishākhā.

ГАЛІГІН. Варыянты: Goligyn (1401), Goligind (1401), Goligund (1413), Michael Golgynowicz (1434), Andruszko Golgynowicz (1449), Olechno Goliginowicz (1460), Michael Golgynowicz (1467, 1479), "Michael, Dyl et Andreas germani Golgynowiczi" (1479).

**Галі-гін** (**+Gail-gund**): індаэўрапейскі тэрмін gail ужываўся ў значэньні "велічны", "высакародны", "магутны", "палкі", "люты", "сьветлы", "слаўны" (шырэй пра гэты тэрмін гл. пад імем ЯГАЙЛА); германскі тэрмін gund значыў "барацьба", "бітва", "змаганьне".

Імя Галігін, Галігунд значыла "Палкі ў бітвах" або "Лютавой".

Германскія імёны: Kunigunda, Gunnar (+Gund-nari), Gundolf (+Gund-wolf), Gumbold (+Gund-bald), Gundacker (+Gund-waker), Gumbert (+Gund-berht).

ГАШТОЎТ. Магнацкі род Гаштоўтаў, слыннымі прадстаўнікамі якога былі ваявода віленскі Івашка Гаштоўт (1444—1458), таксама ваявода віленскі і канцлер ВКЛ Альбрэхт Мартынавіч Гаштоўт (1522—1539). Варыянты: Gastot, Gastoud (†1364), "Andreas alias Gastold Vilnensis capitaneus" (1387), "Stanislaus alias Gastold" (1391), "Gastold cum filio Taliwusch" (1401), Johannes Gastoldi (1413), Gaschthowth (1430), "Gastold curie nostre marschalkus" (1430), Ivaschco Gastold (1432), Joannes alias Gaschthowth (1433), "Joannes Gastold palatinus Trocensis" (1440), "Joannes Gastold Vilnensis palatinus" (1444), "Ivaschko Gastold palatinus Wylnensis" (1449), "Joannes Gasztowd Vilnensis palatinus" (1452), "proinde nos Georgius Gastoldi heres in Geranony" (1468), "ego Petrus Gastowtowicz" (1475), "Martinus Gastoldi capitaneus in Nowogrodek" (1469), "Nos Martinus Gasztholthwicz heres de Geranony, necnon capitaneus Kyowiensis" (1471), "Nos Martinus Gasztholthowicz heres in Geranony, capitaneus Kyowiensis" (1474), "Albert Gastoltowycz marschalkus" (1501), "Бил нам чолом воевода Виленскій, канцлер наш пан Олбрахт Мартинович Гаштовт" (1525).

**Гаш-тоўт** (**+Gast-tout**): inde. +ghostis, lat. hostis, germ. gast, ст.-сл. гость (+gostis) "госьць", "госьць-купец", "чужынец" (у лацінскай мове яшчэ "вораг", "варожае войска"); aind. ghoṣa (ghosha) "гожы", "слаўны"; inde. +teutā, kelt. +teutā/toutā, germ. theud, teuto, touto, teut, air. túath/tud "народ", "племя" (шырэй пра значэньне індаэўрапейскага тэрміна +ghostis гл. пад імем ДАБРАГОСТ).

Імя Гаштоўт значыла верагодна **Дабрадзей** — на ўзор старагрэц-

кага імя Demaratos і тытулу Damagogós, якія тлумачыліся адпаведна "Жаданы народам" і "Народны правадыр" (gr. démos "народ", "племя").

Старагрэцкія імёны: кароль Спарты (basileús) Demaratos (? — 491, †ca. 480 BC); пісьменьнік з Абдэры Demokritos (ca. 460—385 BC); палітык у Атэнах Demosthenes (384—322 BC); Demaratos (Korinth) (338, 330 BC), Demaratos (Rhodos) (321 BC); палітык з Атэнаў і праціўнік Аляксандра Македонскага Charidemos (348, †333 BC); ваявода Аляксандра Македонскага і пазьней дзяржаўца (сатрап) у Заходняй Індыі Eudemos (†316 BC); дзяржаўца Малой Фрыгіі Demarchos (323 BC); каралі Македоніі Demetrios I (306—283 BC), Demetrios II (239—229 BC); адпаведна адмірал флёту ў Мілеце (Miletos) і тыран Мегалаполісу (Megalopolis) Aristodemos (320, 306 BC), Aristodemos (ca. 266—251 BC).

Славянскія імёны: князь вільцаў-люцічаў Milegastus (823), князь абадрытаў Gostomysl (†844), Dobrogost (1082), Dobrogost (1237), Bedigost (1251), Jesco Dobirgost (1320); згадваны ў бізантыйскіх крыніцах пад 569 г. князь славянаў Ardagastos (⁺Rada-gastъ).

Імёны готаў: Hostages (ca. 382), Radagaisus (405), Anagastes (†ca. 474), ваявода франкаў Arbogast, Arbogastes (383—392).

Можа быць іншае тлумачэньне імя Гаштоўт (⁺Gast-old, ⁺Host-wald): germ. host (lat. hostis) "войска" з вольных людзей; германскі тэрмін wald, walt (-old, -olt, gold, hold) адпавядаў праславянскаму ⁺voldъ — корань для "валадарыць", "гаспадарыць", "панаваць".

Параўнай: англасаксонскі тэрмін bretwalda (bret-walda) значыў "Валадар" або "Правіцель брытанцаў" (ад кельцкага племя брытаў: britani, pritani).

У гэтым выпадку імя Гаштоўт або Гастольд магло значыць "Валадарны ў войску", "Ваявода".

ГЕДЗІМІН, брат Віценя і сам вялікі князь (1316—1341). Варыянты: Гедиминъ (1326, 1333), Гедименъ (1320, 1326, 1331), "умре князь велики Литовскій Гедиманъ" (1341), "Gedeminne, dei gratia Letphanorum Ruthenorumque rex, princeps et dux Semigalliae" (1323), "Gedeminne, divina providentia Letphanorum Ruthenorumque rex, princeps Semigalliae et dux" (1323), "Gedeminne, de koning van Lethowen" (1323), "Godeminnus Lethowinorum Ruthenorumque rex" (1324), "Ghodeminne de koningh van Lettowen" (1338), Любартъ

Кгедиминовичь (1322), Любордъ Гедимановичь (1349), Кориатъ Гедимановичь (1345, 1348, 1356), Кестутей Гедимановичь (1345), Наримантъ Гедимановичь (1345).

**Гедзі-мін** (**⁺Gede-manъ**): германскі корань gede-, god-, gode- ня мае адназначнага тлумачэньня; можна меркаваць, што паходзіў ён ад германскага тэрміна god, gud "б о г" і ўжываўся ў значэньні "добры", "прыязны" (у нямецкай і ангельскай мовах паняцьці "добры" і "Бог" амаль супадаюць: "gut" і "Gott"; "good" і "God"; параўнай яшчэ стараскандынаўскі тэрмін gode, мн. л. godi, якім абазначаліся найвышэйшыя паганскія "жрацы" і "старэйшына" супольні); aind. ghoṣa (ghosha) "гожы", "слаўны"; lat. gaudēre (gaudeo, gr. gethéo), gaudium адпаведна "радавацца", "весяліцца", "забаўляцца" і "радасьць", "вясельле", "забава", "задаволеньне"; germ. magin, megin (ahd. man-, mane-, main-, mein-) "сіла", "улада", "энэргія"; gr. mégas, lat. magnus, aind. mahāḥ "вялікі", "высокі", "магутны", "слаўны"; gr. ménos "сіла", "гнеў", "ярасьць"; lat. mens (gr. ménos) "душа", "думка", "розум", "мудрасьць"; lat. manus "рука", "аўтарытарная ўлада" гаспадара дому (сям'і, старэйшыны роду), "гвалт", "сіла", "улада"; gr. (h)egemón, (h)egouménos, (h)egemonía "правадыр", "намесьнік", "улада гвалту".

Імя Гедзімін (Гедымін) значыла верагодна "Добры валадар".

Славянскія імёны: Годеславъ (1176), адпаведна харвацкі жупан і князі заходнеславянскіх абадрытаў Godeslav (810), Godeliub (Godelaib) (†808), Godeliub (810—844), Godescalcus (Gode-scalcus) (1044—1066); згадваныя пад 1410 г. славянскія імёны з Ваўкавыску C h o t i m i n ("Audotya filia Chotimini"), Chotimir, Chotimia; Chotimir (752—769), Chotibor (1343), Dobroslaus (1156).

Германскія імёны: "reges Burgundorum" Godegisil (†500), Godomarus (523—534), "dux Magnowald" (†585), "maior domus Carlomannus" (†754), "rex Francorum Carlommanus" (768—771), "rex Danorum Godofridus (Gudfred)" (800—810), "Herioldi Dani filius dux Godefridus (Gotafridus)" (852—891), "Godescalcus Gallus monachus monasterii Orbacensis" (849), "duces Alamanniae" Herimannus I (926—948) Herimannus II (997—1003), "comites" Wigmannus I (†944), Wigmannus II (†967), "duces Lothariensis" Godefridus I (953—964), Godefridus II (1012—1023), "Godescalcus episcopus Frisingensis" (Frisia) (993—1005); "Magnerich episcopus Treverensis" (Trier) (561—587), "comes Meginhardus" (811, 817), "comes Meginharius" (814, 817),

“Maginfridus comes Mediolanensis” (Milano) (896), “miles Maganus” (1003), “Meingaudus Treverensis archiepiscopus” (1008— 1015), “Meginwercus (Meinwercus) episcopus Paderburnensis” (1009—1036), “reges Nortmanniae” (Norwegia) Magnus I (1034—1047), Magnus II (1066—1069).

Князі кельцкай Брэтані Morman (†818), Salomon (857—874).

Персанажы ў старагрэцкай міталёгіі: Alkmene (“Моцная ў гневе”), Dynamene (“Магутная”), Hegemone (“Правадырка”), Idmon, Idomeneus (“Знаўца”), Menelaos (“Валадар народу”, “Сіла народу”), Tisamenos (“Помсьлівая сіла”).

Дэманы: адпаведна старагрэцкі і стараіранскі Agathos Daimon (“Добры дух”), Ahriman (“Бог зла”, “Варожы дух”, “Чорт” — ад стараіндыйскіх тэрмінаў ari, mana адпаведна “вораг” і “дух”).

Старагрэцкія імёны: паплечнікі, стратэгі, сучасьнікі Аляксандра Македонскага Andromenes (330, 317 BC), Aristomenes (333 BC), Antimenes (324 BC), Eumenes (†316 BC), Menes (331, 323 BC), Menon (†324 BC), Menandros (334, 319 BC); адпаведна камічны паэт і брат караля (basileús) Эгіпту Пталамея I (Ptolemáios I Soter, 305—283 BC) Menandros (ca. 342—292 BC), Menelaos (315, 306 BC); адпаведна каралі Спарты і Пергамону Kleomenes I (520—490 BC), Kleomenes III (235—219 BC), Eumenes I (261—241 BC), Eumenes II (164—156 BC).

Стараіранскія імёны (сатрапаў): Pharasmanes (329, 325 BC), Phradasmanes (330, 324 BC), S p i t a m e n e s (†328 BC); індыйскі князь (rāja) S p i t a k e s (†326 BC), які загінуў у бітве з Аляксандрам Македонскім.

Параўнай імёны князёў Чэхіі: Spitimir (872), Spitignew I (891—916), Spitignew II (1055—1061), Spitigneus (1197).

Можа быць іншае тлумачэньне імя Гедзімін (варыянты Gedeminne, Ghodeminne, Godeminnus): ahd. minne “любоў”, “каханьне” (Minnesang, Minnesänger). У гэтым выпадку імя Гедзімін (Гедымін) магло значыць Д а б р а л ю б.

ГЕДЫГОЛЬД-ЮРЫ, брат Манівіда, ваявода кіеўскі (1411), намесьнік падольскі (1421), ваявода віленскі (1423—1432); памёр ён блізу 1442 г. Варыянты: “Georgius alias Gedigold” (1411), “Gedigold woyewoda Kyoviensis” (1411), “oú je trouvay und chevalier, capitaine de Lopodolie, nommé Gheldigold (Guedigol)” (1421), “Gedigold palatinus

Vilnensis" (1429), "Georgius alias Gedigold palatinus Vilnensis" (1430), "Georgius alias Gedigold de Wissnewo" (1435); Siemion Gedygoldowicz (1434), "Siemion Giedygoldowicz castellanus Vilnensis" (1451), Petrus Sienko Giedygoldowicz (1477), "Michael alias Minigal Gedigold capitaneus de Oschmena" (1387).

**Геды-гольд (⁺Gedi-gold, ⁺Gedi-wald)**: германскі корань gede-, god-, gode- значыў верагодна "добры", "прыязны" (больш разгорнута пра гэта гл. пад імем ГЕДЗІМІН); германскі тэрмін wald, walt (-old, -olt, gold, hold) адпавядаў праславянскаму ⁺voldъ — корань для "валадарыць", "гаспадарыць", "панаваць" (параўнай ст.-сл. владети, власть, владыка, властель, властелинъ, волость); akelt. ⁺u̯lati-, air. flaith, kymr. gwlad адпаведна "валадарыць", "улада", "краіна".

Імя Гедыгольд значыла верагодна "Добры валадар".

Прыклады славянскіх і германскіх імёнаў гл. пад імем ГЕДЗІМІН. Параўнай: "princeps Reginoldus" (Rein-wald) (1044), "Reinhold episcopus Aldenburgensis" (ca. 1023—1030).

ГЕРДЗЕНЬ, полацкі князь (1263—1267). Варыянты: "Князь Гердень кланяеться всем темь, кто видить сію грамоту" (1263), Гердень (1265), "Домонтъ, изобравъ съ собою мужей лутчихъ и храбрыхъ Псковичь,.. и шедъ поплениша всю землю Литовскую, вотчину свою, и княгиню Герденеву полони, и дети ея два княжичя ятъ, и возвратися во Псковъ" (1266), "а князь Домонтъ Псковскій съ Псковичи повоеваша Литву и князя Герденя убиша" (1267).

**Гер-дзень (⁺Ger-dan)**: germ. gêr "кап'ё", "дроцік"; gr. danos, lat. dōnum, ст.-сл. даръ; gall. dānnos "старэйшына супольні"; air. dann, donn "высакародны", "валадар", "гаспадар", "князь", "правадыр"; gr. don "радасьць", "задаволеньне".

Імя Гердзень значыла "Валадар кап'я".

Германскія імёны: "Gerdagus Hillinessemensis (Hildesheim) episcopus" (989—992), "Gerbertus Remensensis (Reims) archiepiscopus" (991—998), "miles Gerward (Garevardus)" (994), "Gerhardus comes Alsaciae" (1002, 1018), "Gerhardus Cameracensis (Cambrai) episcopus" (1012—1051), "Geroldus Aldenburgensis / Lubicensis episcopus" (1154—1163), "Witgerus Metensis (Metz) episcopus" (917— 927).

Старагрэцкія імёны: палітык у Атэнах (Афіны) з кааліцыі праціўнікаў Аляксандра Македонскага Eurymedon (323 BC), сябар юнацтва Аляксандра Македонскага, пазьней дзяржаўца ў Сырыі

Laomedon (337, 319 BC); старарымскія імёны Appius Herdonius (ca. 460 BC), Turnus Herdonius (ca. 500 BC).

Славянскае імя: "Богданъ тивунъ" (1359), Bogdan (1268, 1274), Andrey Bohdanowicz (1410), "panъ Jakub Koribanowicz Hordyna" (1470).

ГІНВІЛ. Варыянты: Gyniwil (1433), "Gyniwil konuch Wilnensis" (1434), "Nacz Gynwylowicz castellanus Trocensis et tenutarius Witebensis" (1452), Gynywil Buywidowicz (1471), "Ego igitur Narbuth Gynvilovicz universis et singulis" (1491), "Anna Bohdana Correiowna relicta olim domini Naczko Gynwylowicz" (1495), Nicolaus Gyngvyl (1502), Nicolaus Gynywylowicz (1501).

**Гін-віл (+Gund-vil)**: germ. gund "бітва", "барацьба", "змаганьне"; askand. villa, germ. wille "воля" ў сэньсе "валявая сіла", "валявая рашучасьць".

Імя Гінвіл, Гундвіл значыла "Валявы ў бітвах", "Непахісны воін".

Германскія імёны: кароль бургундаў Gundobadus (485—516), "rex Francorum Gunthramn" (561—592), "dux Gundowald" (†585), Gundrada (†ca. 826), Cunegunda (†997), "Guntherius episcopus Ratisbonensis" (+941), "Gunterius (Guntherius, **Gunter**) marchius de Merseburg" (965—982), "cancellarius Guntterius" (1009—1032), "patricius (dux) Willebadus" (+642), "dux de Normandia" Willehelmus I (+942), "Willehelmus archiepiscopus Magociacensis (Mainz)" (954—968).

Параўнай яшчэ германскае (скандынаўскае) імя G u n n a r (Gund-nari); "Guncelinus (Gund-celin) marchius Misnensis" (1002—1017).

ГЛЕБ. Варыянты: сын Уладзіміра Сьвятаславіча мурамскі князь Глебъ (†1015), сын Усяслава Чарадзея менскі князь Глебъ (†1119), Глебъ Всеволодковичь (1144), друцкі князь Глебъ Ростиславичь (1159), нядоўга кіеўскі князь Глебъ Юрьевичь (†1173), друцкі князь Глебъ Рогъволодичь (1180), Глебъ Святославичь (1183), Глебъ Туриевичь (1183), Глебъ Тоуровьскии (1195), Глебъ Петковичь (1209), слонімскі князь Глебъ (1256), "князь Юрьии Глебовичь Белзьскии" (1368), Глебъ Васильевичь (1386).

**Глеб**: lat. glaeba, gleba, glēbōsus адпаведна "глеба", "зямля", "хлеб" і "ўрадлівая ніва"; lat. globus "зямны шар", "сфэра", "пpастора", "натоўп", "кампактнае войска"; lat. glaber, glabellus "аблыселы",

“гладкі”, “лысы”; lat. galba “тлусты”, “магутны”, “дужы”; akelt. +kaleto-, air. calad, agerm. +halipa, ahd. helid, dt. Held “герой”.

Імя Глеб значыла верагодна “Жыцьцядзейны” або “Асілак”.

Старарымскія імёны: Caesar Galba, P. Sulpicius Galba (66 BC), Ser. Sulpicius Galba (54 BC), Servius Galba, P. Servilius Globulus (67 BC).

Кельцкае імя: згадваны ў Ю. Цэзара кароль (князь) кельцкага племя суэсіонаў (Suessiones) G a l b a (57 BC).

ГРЫН, пашыранае імя ў славянаў, але не ў асяродзьдзі князёў. Варыянты: “А при томъ былъ тивунъ Негневицкыи Гринъ”; “Се язъ Колчко Есковичь со своим братом с Гринемъ дали есмо”; “Я панъ Грінько Микоуличь записалъ есьми”; “а Петроушков сынъ Шоубича Гринько” — усе з запісаў першай паловы XIV ст. у “Лаўрышаўскім Евангельлі”; “Гринко панъ староста Подольскии” (1375); “pan Hrinaszko Bohdanowicz Szolucha” (1470), “pan Wasilei Hrinkewicz” (1470), Hryn Banyowicz (1471), Hrynko Maczkewicz (1501); адзін з князёў заходнеславянскіх абадрытаў і адпаведна сын князя абадрытаў Крута Grinus (ca. 1018), Grinus (1066, 1075).

**Grin**: urkelt. +greinā, air. grían “Сонца”; akelt. +grann, gall. granus, mir. grenn, ags. grann, ahd. grana “барада”, “вусы”, што метафарычна ўжывалася для абазначэньня “герой”, “воін”; lat. grānum, grandis адпаведна “зерне”, “плод” і “вялікі”, “высакародны”, “моцны”, “старэйшы”; mhd. grim “бязьлітасны”, “жорсткі”, “люты”, “разьюшаны”; aind. grāma, gramani “войска” і “ваявода”.

Імя Грын значыла верагодна “Жыцьцядзейны” або “Лютавой”.

Стараскандынаўскія імёны: Grim, Grim Droplaugson, Grim Njalson, Grim Wollwange, Grimhild, Grimkel; іншыя германскія імёны: “maior domus Grimoald” (Grimo-wald) (†656), “maior domus Grimoald” (†714), “dux de Beneventum Grimoald” (788, 792).

Параўнай таксама: маці князя Кракаву і Сандаміру Баляслава звалася Grimizlsva (1257); “Ego Grimizlaus... unus de principibus Pomoranie” (1198); у “бацькі гісторыі” Герадота адзін з каралёў на востраве Тэра (Thera) быў названы “basileús G r i n n o s”.

Кельцкі бог Grannus (Grannos) атаясамліваўся з грэцкім богам Apollon і ўвасабляў “Бога выздараўленьня” і “Бога гаючых крыніцаў”.

ДАБРАГОСТ. Варыянты: Доброгость (1206), Dobrogost (1082), Dobrogost (1198), Dobrogost (1237), Jesco Dobirgost (1320), “Dobro-

gostius episcopus Poznaniensis" (1389), "Petrus alias Dobrogost Narbutowicz" (1471), "Dobrogost de Lwow castellanus Poznaniensis" (1504).

**Дабра-гост**: inde. +ghostis, lat. hostis, germ. gast, ст.-сл. гость (+gostis) "госьць", "госьць-купец", "чужынец" (у лацінскай мове гэты тэрмін значыў яшчэ "вораг"); aind. ghoşa (ghosha) "гожы", "слаўны"; aind. goşâti (goshati) "здабыча жывёлы (кароў)", што ў стараіндыйскай міталёгіі ўважалася як "гераічны ўчынак"; lat. hasta "дроцік", "кап'ё"; gr. hestiator "гаспадар, што прыймае гасьцей".

Стараіндыйскае імя Damaghoşa тлумачылася "Слаўны заваёўнік".

Славянскае імя Дабрагост значыла верагодна "Гожы дабрынёй" або "Добры прыяцель".

Іншыя славянскія імёны: Добърыня, Добрыня (971, 988), Добрыня Рагуиловичь (1098), Добрына (1117), Добрынъка, Добрынка (1147), Рагуилъ Добрыничь (1169, 1469), Доброславъ (1235), Dobremir (990), Dobromir (1124), Dobroslaus (1156), Dobroslava (1190), жаночыя імёны з Ваўкавыску Dobrincza (1410), Dobrussa (1410); Dobra (1459), Dobrus (1462).

Гоцкія імёны Hostages (ca. 382), Radagaisus (405); імя ваяводы франкаў Arbogast, Arbogastes (383—392).

Галоўны бог у заходнеславянскіх вільцаў-люцічаў зваўся Радагост (варыянты: Radagost, Radegast, Radigast, Redegast, Redegost, Redigost, Riedegost), што супадала зь імем князя славянаў у Падунаўі Ardagastos (+Rada-gastъ), згадванага ў бізантыйскіх крыніцах пад 569 годам. Тлумачэньне: ст.-сл. радъ, радость, радити "рады", "радасьць", "даваць параду", "клапаціцца"; aind. radha "радасьць", "шчасьце", "сіла радасьці" ("любоў", "каханьне"); germ. rôd, rôt (+hrôd, +hrôth), rád, raéd "воля", "думка", "жаданьне", "паратунак", "рада", "сіла", "слава"; germ. geist (dt. Geist) "дух", "душа", "думка", "розум"; lat. genius, Genius "дух", "душа", "абараняльная сіла" або "геній" і "Жыцьцядайны бог", "Бог-Творца".

Згаданы бог Р а д а г о с т значыў верагодна "Жаданы госьць" або "Гожы радасьці" (параўнай назоў двух старых славянскіх паселішчаў на захадзе Беларусі: у запісе 1396 г. — Р а д о г о щ а). Гэтым сваім значэньнем бог вільцаў-люцічаў Радагост адпавядаў значэньню ўсходнеславянскага бога Сонца Дажбога (сам сын бога Неба Сварога, Д а ж ь б о г ъ ад каранёў кельцка-індыйскага паходжаньня +Dago-bhagos, што значыла "Добры бог").

Зрэшты, у заходнеэўрапейскіх аналах бог Радагост атаясамліваўся таксама з богам люцічаў Сварожычам (варыянты: Zuarasiz, Zuarasici), а Сварожыч быў, пэўна, сынам бога Неба Сварога (Сварогъ, Съварогъ) (aind. svarga "Неба"; aind. sūraḥ, skt. svar, iran. hvar "Сонца"; стараіндыйскі бог Сонца зваўся Surya). Яшчэ імя князя готаў, які служыў у бізантыйскім войску, а ў 469—470 гг. быў ваяводам Тракіі (Фракія): Anagast, Anagastes.

ДАБЯСЛАЎ. Варыянты: Добеславъ (1368), Дебеславъ Халастра (1378), Dobeslav (1178), Dobieslaus (1262), "dominus Dobeslaus de Rzeszyn" (1338), Andrzej Dobieslawic (1352), "панъ Добеславъ Кошицкии" (1368), Dobeslaus (1413, 1419), Dobeslaus de Oleschnicza (1419), Stanislaus Dobeslai de Czechonowo (1424), Dobeslaus (1428), "Joannes et frater eius Dobeslaus filii domini Kiesgal" (1442), Dobeslaus Buczkowicz (1503).

**Добе-слаў**: ст.-сл. добль (добле, доблесть) "адважны", "доблесны", "мужны", "сьмелы", "храбры".

Імя Дабяслаў значыла "Слаўны адвагай", "Слаўны мужнасцяй".

Іншыя славянскія імёны: Dobemysl (862), "Dobegnev archidiaconus" (1276), Dobegnew (1283), "dominus Dobegneus subcamerarius Wladislaviensis" (1338).

ДАВОЙНА. Варыянты: Dowoyn Wysigirdonis (1401), Andreas Dowoynowicz (1434, 1452), Olechno Dowoynowicz (1434, 1436), Iwaszko Dowoynowicz (1460), "dominus Dowoin" (1472), Joannes Dowoinovicz (1492), "Jacobus Dowoynovicz capitaneus Drohyczensis" (1494), "Joannes, Andreas et Jergius Dowoynowiczy fratres germani" (1501), "Georgius Dowoynowicz tenutarius Dolgostaiensis" (1501).

**Да-война (⁺Dago-voinъ, ⁺Dago-bogios)**: akel. dago (⁺dagos), germ. dag адпаведна "добры" і "бліскучы", "прамяністы", "сьветлы"; kelt. bogos, bogios, bogius "баец", "воін", "змагар", "зьнішчальнік" (шырэй пра гэты тэрмін гл. пад імем БУДЗІВОЙ). Імя Давойна (Давоін) значыла верагодна "Добры воін" або "Удалы воін".

Іншыя ліцьвінскія і славянскія імёны: брат вялікага князя Гедзіміна, князь полацкі Воинъ (1326), Воинамиръ (1144), Мьстибогъ (1202), Мьстивой (1229), Воиславъ Добриничь (1220), Воимиръ (1223), Иворъ Молибожичь (1240), Воинъ (1282), Данило Дажьбоговичь (1394), Stefan Voislav (1041—1052), Budiwoi (1066), Bugivogius (1232), Budivogius (1237), Budivoius (1257), Sandivogius

(1276), Sandiwoy (1339), Woydilo (1380), Voynil, Woynil (1391), "Dominus Sandziwogius Swidwa palatinus Poznaniensis" (1402), Woynilo (1410), Woydilo Russilowicz (1413), Przedwoy (1413), Dadzibog (1413), Dadzibogius (1413, 1423), Daczboius (1413), Daczboyus (1413), Daczbogius (1413), Sudziwoy Volimuntowicz (1434), "Sudiwogius castellanus Vilnensis" (1452), "Stanislaus Sandiwogius capitaneus in Grodno" (1469), "Stanislaus Sandziwoiewicz magni ducatus Littuaniae marsalcus et capitaneus Grodnensis" (1471), "Andreas Sakowicz cum genero suo Woydilo" (1447), "Ego Woydzilo" (1460), "Nos Bohdan et Andreas Woydzilowiczy" (1486), "Nyekrasz et filius eius Voyna" (1504).

Кельцкія імёны: Namantobogos, Namantobogios, Vercombogios (⁺Ver-com-bogios), Dagolitos, Dagodurnus; каралі франкаў Dagobert I (629—639), Dagobert III (711—716).

Тут можна расшыфраваць паходжаньне і значэньне ўсходнеславянскага бога Дажьбогъ і ліцьвінскага бога Дивириксъ, Диверикъзъ, якія ў "Іпацеўскім летапісе" быў названы "Заячым богам".

Д а ж ь б о г ъ (⁺Dago-bḥagos) адпавядаў кельцкаму Dagdae (⁺Dago-dēu̯os), што значыла "Добры бог"; для Дажбога другі корань bḥagos "бог" меў іранска-індыйскае паходжаньне (skt. bḥagos, iran. baga (bay) "бог"). Сын бога Неба (aind. svarga) Сварога Д а ж ь б о г ъ або "Добры бог" быў богам Сонца (у стараіндыйскай міталёгіі бог Сонца зваўся Surya). У галаў (пазьнейшай Францыі) бог Dagdae (Dagdoe, +Dago-dēu̯os) меў таксама значэньне "Бацька багоў" і "Бог-Бацька людзей (чалавецтва)". Апрача S u r y a у стараіндыйскай міталёгіі богам Сонца называліся яшчэ A d i t y a і V i v a s v ā n.

Ліцьвінскі Д и в и р и к с ъ таксама супадаў з кельцкім богам Dēvorīx, што тлумачылася "Бог-кароль", "Валадар Неба" або "Нябесны бог" (aind. ⁺deju̯o-, skt. dēvaḥ (deva), akelt. ⁺dēu̯os, lat. deus, gr. théos "бог"; aind. rāja, kelt. rix (⁺rīg-s), got. reiks, gr. rēx, lat. rēx "князь", "кароль", "валадар"; iran. rēš (resh) "начальнік"; lat. dīvus (dīus), gr. dīos "бог", "багаў", "боскай натуры"; lat. sub divo "пад вольным Небам" або літаральна "пад Богам").

Старагрэцкая багіня ў кульце ўшанаваньня Месяца Dia значыла "Зь Неба", "Нябесная"; старарымская багіня земляробства звалася Dea Dia; кельцкае імя Deiotaros (gr. Deiotauros) тлумачылася "Нябесны бык".

Параўнай старагрэцкія імёны: адпаведна тыран Сіракузаў, філасаф і сатрап Бактрыі Dionysios I (405—367 BC), Diogenes (ca.

400—325 BC), Diodotos (ca. †227 BC); Diodotos (423, 415 BC), Dioskorides (315 BC), Deidameia (317, 300 BC); Diodoros Siculus — гісторык, які паходзіў з Сыцыліі і тварыў у Рыме блізу 60—30 гг. да Н. Х.; Diodoros (323, †319 BC).

У славянскага Чарнабога быў кельцкі папярэднік +Dubnorīx (kelt. +dub-no-, air. dubn "змрочны", "чорны", "цёмны"). Ім адпавядалі старагрэцкі, старарымскі і стараіндыйскі Hades (Thanatos), Dispater і Yamarāja — "Бог сьмерці", "Бог памерлых" або "Бог падзямельля".

Вынікае, што славянскія Купала і Купальле сваё паходжаньне бяруць у стараіндыйскай міталёгіі: стараіндыйскі Бог-Творца Крышна (kṛṣṇaḥ, Krishna) меў яшчэ прозьвішча Gopala (Go-pāla), што значыла "Апякун кароў", "Абаронца кароў"; старагрэцкі адпаведнік Tauropolos (Artemis Tauropolos). У цёплую летнюю ноч, асьветленую поўняй месяца, былі і сустрэчы-гульні бога Крышны з пастушкамі (aind. gopī, gopīs "пастушка", "пастушкі"), пад час якіх пастушкі, аздобленыя вянкамі, марылі знайсьці ў постаці бога Крышны пасланага "жаніха". Пэўна, не ў сэньсе матэрыяльным, фізычным, а ў сэньсе духоўным, трансцэндэнтальным (параўнай: airan. gāv "бык", "вол"; aind. gośālā (goshala) "кароўнік").

Гэтыя прыкметы можна адшукаць таксама ў абрадах сьвяткаваньня Купальля.

Стараіндыйскія імёны: магараджы (mahārāja) Govinda III (ca. 793—821), Gopala (ca. 770—790), Dharmapala (ca. 790—821), Devapala (ca. 821—860), Mahipala (ca. 988—1038), Ramapala (ca. 1100—1122).

Згадваны тут старарымскі "Бог сьмерці" **Dispater** таксама меў значэньне "Чарнабог" (inde. +dhusno-, kelt. dusius "буры", "чорны", "цёмны"; таксама gall.-lat. dusius, lat. dusmus адпаведна "дрэнны" або "цёмны дух" і "чорт"; старабрытанскі Diz, Dus "чорт"; gr. despotēs "дэспат", "тыран"; gr. patér, lat. pater, aind. pati "бацька", "валадар", "старэйшына").

ДАЛІМІР. Варыянты: Dalimir (1213), Dolimar (1235), Dalimarus (1235), Dolimarus (1235).

**Далі-мір (+Dole-mirъ)**: ст.-сл. долети "перамагаць", "браць перавагу"; gr. dólos, lat. dolus, dolosus адпаведна "вераломства", "каварства", "хітрасьць" і "вераломны", "каварны", "люты", "хітры"; lat. duellum, duellis адпаведна "бітва", "вайна" і "воін", "узброены во-

раг"; lit. dailus "вытанчаны", "зграбны"; mhd. dol, tol "дурасьлівы", "неразважлівы"; kelt. māros, air. mór, kymr. maur, germ. mar, mer, ст.-сл. меръ, миръ "вялікі", "дужы", "магутны", "моцны", "слаўны".

Імя Далімір значыла верагодна тое ж, што і іншае славянскае імя Лютамір (Лютомиръ, 1210; Lutomir, 895).

Іншыя славянскія імёны: Dalebor (1226), Dalessius (1294), Dalimil (1341), Doleslaus (1413).

Старарымскія імёны і адпаведна позьнегрэцкае прозьвішча: Cn. Cornelius Dolabella (consul, 81 BC), P.Cornelius Dolabella (praetor, 69 BC; consul, 44 BC); Damianos Dalassenos (†998), Konstantinos Dalassenos (998, 1024).

ДАМАРАТ. Варыянты: Domerat (1233), Domarath (1253), "Domarath de Kobilany castellanus Becensis" (1419).

**Дама-рат**: aind. dama, ḍamaraḥ адпаведна "пакараць" і "завадатар", "правадыр"; gr. damos, lat. domitor "дрэсіроўшчык", "утаймавальнік", "пераможца"; lat. dominus "гаспадар дому", "валадар", "уладальнік"; askand. dóm "воля", "гонар", "сіла", "слава", "шчасьце"; germ. rôd, rôt (+hrôd, +hrôth), rád, raéd (rât) "воля", "думка", "жаданьне", "мудрасьць", "рада", "сіла", "слава"; lat. ratio, ratus адпаведна "думка", "мудрасьць", "праўда", "погляд", "розум", "спосаб дзеяньня" і "моцны", "перакананы", "стойкі", "упэўнены", "спраўджаны", "ратыфікаваны"; ст.-сл. рота "дамова", "прысяга".

Імя каралёў старажытнай Спарты Demaratos (gr. démos "народ", "племя") тлумачылася "Жаданы народам", а стараіндыйскае імя Viṣṇurata (Vishnu-rāta) значыла "Сьцеражоны богам Вішну". Славянскае імя Дамарат значыла верагодна "Слаўны заваёўнік" або "Мудры правадыр".

Іншыя славянскія імёны: Домашь Твердиславичь (1229), Юрьги Домамеричь (1224), Лазоръ Домажирець (1240), Dumar Slavus (1114), Domaslaus (1127), Domaslav (1153), Damasc Slavus (1210), Dummemar (1215, 1218), Domezlaw (1269), Dummeslav (1307), Domaslaus (1419).

Было яшчэ славянскае імя Domagoy, Domagoius (864—876), якое паходзіла або ад грэцкага тэрміна demagogós "народны правадыр" (сёньня — "дэмагог"), або супадала з стараіндыйскім імем Damaghoṣa (aind. ghoṣa, ghosha "вядомы", "гожы", "слаўны"), што значыла "Слаўны заваёўнік".

Адпаведна старагрэцкія і старарымскія імёны: каралі Македоніі

Demetrios I (305—283 BC), Demetrios II (239—229 BC), Demaratos (Korinth) (338, 330 BC), Demaratos (Rhodos) (321 BC); Cn. Domitius Calvinus (consul, 53, 40 BC), L. Domitius Ahenobarbus (consul, 54 BC), Cn. Domitius Ahenobarbus (consul, 32 BC), imperator Titus Flavius Domitianus (81—96 AD).

Стараіранскае імя: персідзкі сатрап, пазьней незалежны князь у Паўночнай Кападокіі Ariarathes (Aria-rathes) (332, †322 BC).

Параўнай: aind., airan., skt. ārya, Āryān, Ērān адпаведна "высакародны", "шляхотны" і І р а н; aind. āryavārta, āryaputra адпаведна "Зямля арыяў (арыйцаў)" і "высакародны сын", "прынц" (lat. princeps).

Нашчадак згадванага сатрапа, але ўжо агрэчаны і падпарадкаваны "basileús" Ariarathes V Eusebes Philopator (163—130 BC).

Параўнай таксама старагрэцкае імя: каралі старажытнай Спарты Areús I (309—265 BC), Areus II (262—254 BC) — зваўся яшчэ "basileós Areos".

ДАНІСЛАЎ. Варыянты: Даньславъ (1118), "посадникъ Иванко Данковъ" (1135), Даньславъ (1167), Даньславъ Лазутиничь (1170), Даниславъ (1378), Ивашко Данъславичь (1378).

**Дані-слаў**: gr. danos, dóron, lat. dōnum, dōron, ст.-сл. даръ, "даніна", "падарунак"; gall. dānnos "старэйшына супольні"; air. dann, donn "высакародны", "валадар", "князь", "правадыр"; gr. deinōs "люты", "магутны", "дужы"; lat. dare (gr. dóo, didomi) "даваць", "дарыць", "прапанаваць"; gr. dunatoi "магнаты".

Імя Даніслаў значыла верагодна "Абдораны славай" або "Слаўны валадар".

Кельцкія імёны: Dannatalos, Dannimara, Donnotaurus, Dunwallo (⁺Donn-u̯alos).

Кароль **Dunwallo** Molmutius, імя якога значыла "Вялікі валадар", згадваўся ў "Historia Regum Britanniae" (ca. 1135); іншыя імёны Dannimara, Dannatalos, Donnotaurus адпаведна тлумачыліся "Вялікая (Слаўная) валадарка", "Валадар Зямлі", "Князь-Бык" (lat. tellus, air. talam; gr. taūros, lat. taurus адпаведна "зямля" і "бык", "тур"; kelt. ⁺māros гл. пад імем ДАЛІМІР або МІРАСЛАЎ).

ДАЎГАЛЬ. Варыянты: Daugel, Dawgen (1413), "Nos igitur Dowgal Gyrdowicz" (1437), Dowgon (1444), Andreas Dowgyalowicz (1449), Andrus Nacz Dowgyalowicz (1449), "Stanislaus alias Dowgalo" (1437), Daugenis, Dawgenis (1481).

**Даў-галь (+Dago-gail)**: akelt. dago (+dagos), germ. dag адпаведна "добры" і "бліскучы", "прамяністы", "сьветлы"; індаэўрапейскі тэрмін gail ужываўся ў значэньні "высакародны", "заўзяты", "магутны", "палкі", "сьветлы", "слаўны" (шырэй пра гэты тэрмін гл. пад імем ЯГАЙЛА).

Імя Даўгаль (Даўгяла, Даўгайла) значыла верагодна "Слаўны дабрынёй" або адпавядала славянскаму імю Д а б р а с л а ў (Доброславъ, 1235; Dobroslaus, 1156; Dobroslaus, 1413).

У адзначаных тут варыянтах гэтага імя Dawgen, Daugenis, Dowgon маглі адлюстравацца gall. genos, gr. eugéneia, eugéneios, eugenés адпаведна "кроўны сын" і "высакародная", "высакародны", "шляхотнага роду". Кельцкае імя Esugenos (Esus — кельцкі бог вайны) тлумачылася "Сын бога Эзуса"; у стараірляндзкай мове гэтае імя гучала Éogan; kelt. Medugenos "Сын мёду".

Кельцкае імя Dagodurnus (Dago-durnus) значыла "Той, што мае добры кулак"; "reges Francorum" Dagobert I (629—639), Dagobert II (675—679) Dagobert III (711—716), імя якіх таксама значыла "Д а б р а с л а ў" (germ. bert, berht, berth "бліскучы", "прамяністы", "слаўны"); іншае германскае імя "abbas Dagulfus" (+Dago-wolf) (585, 590), якое магло тлумачыцца "Добры воўк" (inde. +u̯l̥ku̯os, askand. úlfr, germ. olf, ulf — "воўк").

ДАЎГЕРД, ваявода віленскі (1432—1444). Варыянты: Dowgird (1401), "Dowgyrd palatinus Vilnensis" (1433), Dawgerd (1434), "Dewgerd Vilnensis palatinus" (1435), "Dewgerd Wylnensis palatinus" (1436), "dominus Dolgerd capitaneus Vilnensis" (1437), "Dawgerd palatinus Vilnensis" (1440), "Degerd tenutarius in Ossmiana" (1444), Daugyr (1449), "My Andrij Dowkhirъdowicz dedicz Swirjan" (1454), Andruszko Dogirdowicz (1459), "Nos Andreas Davgyrdovycz haeres in Swyrany" (1461), Dalgerd (1463, 1467), Daugierd (1467), Stanislaus Dowgierdowicz (1469), Fedko Dagirdowicz (1478), Dawgyrd Rodzewicz (1479), Dawgyrd (1479), "proinde nos Hannus et Chwyedko Dagirdowiczi fratres germani" (1481), "Ego Joannes Dagirdowicz tenutarius in Myeracz" (1481), "proinde ego Anna Dolgyrdowicz consors magnifici domini Iwaschko Ilynicz" (1486), Szarysz **Gudgierdowicz** (1487), Chwyethko Dawgyerdowicz (1503), "panъ Hannus a panъ Fedko Dagyrdowiczy" (1503).

**Даў-герд (+Dago-gerd)**: akelt. dago (+dagos), germ. dag адпаведна

“добры” і “бліскучы”, “прамяністы”; germ. gerd “адважны”, “бліскучы”, “вялікі”, “сьмелы”, “слаўны” (шырэй пра гэты тэрмін гл. пад імем АЛЬГЕРД).

Імя Даўгерд значыла “**Дабраслаў**” (параўнай: Доброславъ, 1235; Dobroslaus, 1156; Dobroslava, 1190; Dobroslaus, 1413).

У “Хроніцы Лівоніі” Генрыка Латвійскага згадваўся князь ліцьвіноў Daugeruthe, які, трапіўшы ў рукі мечаносцаў біскупа Альбэрта, у 1213 г. паканчыў жыцьцё самагубствам. Імя Daugeruthe (+Dago-ruth) таксама значыла “Дабраслаў” або “Добры парадай” (пра значэньне другога кораня гэтага імя, -ruth, -rât, глядзі пад імем РАДЗІВІЛ).

У бізантыйскіх крыніцах другой паловы VI ст. згадваўся князь славянаў-антаў, імя якога ў грэцкай транскрыпцыі гучала Dauritas, Dauréntios — у рэканструкцыі +Dobręta, +Добрята; сваім першым коранем гэтае славянскае імя адпавядала згаданым ліцьвінскім Даўгерд і Даўгерута.

Кельцкія імёны: Dagodurnus, Dagolitos.

Імя каралёў франкаў: Dagobert I (629—639), Dagobert II (†679), Dagobert III (711—716).

ДАЎМОНТ-ЦІМАФЕЙ, нальшчанскі князь; браў удзел у змове супраць караля Міндоўга, у 1266 г. уцёк у Пскоў, дзе быў ахрышчаны і абраны пскоўскім князем; памёр ён у Пскове ў 1299 г. Варыянты: Довъмонтъ (1263), Довмонтъ (1266, 1299), Доумонтъ (1267), Домантъ (1266, 1270, 1281, 1299), Домонтъ (1266, 1267, 1270, 1286, 1299).

**Даў-монт (+Dago-mund)**: akelt. dago (+dagos), germ. dag адпаведна “добры” і “бліскучы”, “прамяністы”, “сьветлы”; germ. mund, askand. mund адпаведна “абарона”, “абаронца” і “абараняльная сіла”; lat. mundus “Сусьвет”, “неба”, “высакародны”, “годны”, “зграбны”, “прывабны”, “добры”, “сьветлы”, “слаўны”; ahd. munt “улада”, “панаваньне” над людзьмі.

Імя Даўмонт значыла верагодна “Добры абаронца” або “Дабраслаў”. Можа быць іншае тлумачэньне імя Даўмонт (**+Dom-mund**): askand. dóm “воля”, “гонар”, “сіла”, “сіла ўлады”, “слава”.

У гэтым выпадку імя Даўмонт магло значыць “Магутны абаронца” або таксама “Слаўны абаронца”.

Іншыя ліцьвінскія імёны: Drowmut (1401), Gabriel Domunthowicz (1471), “dux Domunth de Swyr” (1483).

Германскія імёны: каралі франкаў Dagobert I (629—639), Dagobert

III (711—716); "rex Burgundorum Sigismundus" (516—523, †524); "Sigismundus episcopus Halverstidensis" (894—924); "rex de Wessex Edmundus" (Ead-mund) (939—957); кароль вандалаў у Паўночнай Афрыцы Thrasamundus (496—523).

Кельцкія імёны: Dagodurnus, Dagolitos.

Славянскія імёны: Доброславъ (1235), Dobroslaus (1156), Dobroslava (1190), Dobroslaus (1413).

ДРАГАВІТ, князь заходнеславянскіх вільцаў-люцічаў (са. 738—789). Занатаваныя ў крыніцах варыянты: Dragawit, Dragovit, Dragitus, Dragoidus, Dragoitus, Tragwit, Tragowit.

**Драга-віт**: ст.-сл. драгъ, дроугъ, дроужьба, дръжава, дръзость, дръзъкъ; lit. draugas таксама "друг", "сябар"; lat. drungus, gall. drungus, air. drong "батальён", "дружына", "полк"; gr. drákon, lat. draco, kymr. draig "дракон", "зьмей"; gr. drys, urkelt. +dru- (+druuids, +dru-uids кельцкія жрацы **друіды** або "Мудрацы з-пад дуба"), air. dair — усе абазначалі "дуб"; у мове кельтаў з тэрмінам "дуб" метафарычна зьвязваліся паняцьці "важны", "вельмі", "дужы", "моцны"; індаэўрапейскі тэрмін -vit ужываўся ў значэньні "жыцьцёвая сіла", "сіла", "энэргія" (больш разгорнута пра гэты тэрмін гл. пад імем ВІТАЎТ).

Параўнай таксама: lat. vita, vis vitalis адпаведна "жыцьцё", "жыцьцёвая сіла"; lat. dūrus, gr. derós "моцны", "суровы", "цьвёрды"; aind. dhruva, droha адпаведна "моцны", "трывалы" і "здрада".

Імя Драгавіт значыла верагодна "Шанаваны сілай" або "Сіла дружбы".

Іншыя славянскія імёны: сын Віценя і сам князь заходнеславянскіх абадрытаў Drago, Drasco (795—809), сын згаданага Драга і сам князь абадрытаў Ceadragus, Geadragus (817—826); імя пасла протабаўгарскага хана Крума (803—814) у Канстантынопаль Dragomir; адпаведна князь балканскіх харватаў і сэрбаў Dragomysl (†819), Stefan Dragutin (1276—1282); Драгомиръ, Dragomir, Dragumir (1378).

Няшлюбны сын Карла Вялікага і пазьнейшы біскуп Мэцу Drago, Dragonus (823—855); сын Піпіна Сярэдняга "dux Drogo" (†708).

Старарымскае імя: вайсковы трыбун Q.Laberius Durus (54 BC).

Імя князя кельтаў Drutos, сын якога зваўся Ategnatos; у стараірляндзкай міталёгіі Mac Daro тлумачыўся "Сын Дуба". У стара-

грэцкай міталёгіі русалка Dryope ("Аблічча Дуба") і Dryas, які ўвасабляў "Валадара Дуба" або "Князя Дуба".

Кароль старажытнай Тракіі (Фракія) D r y a s.

Параўнай яшчэ: gr. dryádes, lat. dryades; gr. dryítis, lat. dryitis адпаведна "лясныя русалкі" і "каштоўны камень"; gr. droungarios "камандуючы" флётам.

Параўнай таксама: у стараіндыйскай міталёгіі багіня D u r g a (Durgadeva) увасабляла "дабрабыт", "сілу" і "славу"; mahārāja Dhruva (ca. 779—793).

ЖЫГІМОНТ, сын Кестута, брат Вітаўта і сам вялікі князь (1432—1440). Варыянты: "Печать Жикгимонтова" (1398), "Печать князя Жикгимонта" (1411), Segemund (1390), "Sigismundus dei gracia dux Littuanie, frater germanus Allexandri alias Witoldi magni ducis Littuanie etc." (1411), "Proinde nos Sigismundus dei gracia magnus dux Lithvanie necnon terrarum Russie dominus et heres" (1434), "Proinde nos Sigismundus Dei gratia magnus dux Lithwanie, Russie etc." (1436); сын Казіміра Ягайлавіча, кароль Польшчы і вялікі князь Жигимонт (1514), Sigmund, Sigismundus (1506).

**Жыгі-монт (⁺Sigis-mund)**: got. sigis, askand. sigr "перамога"; mir. seg "моц", "сіла"; kelt. ⁺segos "адважны", "вялікі", "магутны", "сьмелы", "трывалы", "цьвёрды"; germ. mund, askand. mund адпаведна "абарона", "абаронца" і "абараняльная сіла"; lat. mundus "Сусьвет", "неба", "высакародны", "годны", "зграбны", "прыгожы", "прывабны", "добры", "сьветлы", "слаўны", "чысты"; ahd. munt "улада", "панаваньне" над людзьмі.

Імя Жыгімонт значыла верагодна "Магутны абаронца" або "Вялікі ўладай".

Славянскае імя Сигневъ (⁺Sig-gnevъ) (1251, 1257, 1268).

Германскія імёны: "regulus Francorum" (Köln) Sigibertus (ca. 486—508); адпаведна кароль бургундаў і ягоны сын Sigismundus (516—523), Sigirich (†522); кароль вандалаў у Паўночнай Афрыцы Thrasamundus (496—523); каралі франкаў Sigibert I (561—575), Sigibert (Sighibertus) III (634—651); пасол Карла Вялікага ў Персію Sigismundus (801); "nepos Godofridi regis (Daniae) Sigifridus (812); "comes Sigihartus" (Sigihard) (861); "Sigihartus abbas Fuldensis" (861, 872); "rex Nordmannorum Sigifridus" (873—891); "Sigismundus episcopus Halverstidensis" (894—924); бацька і брат саксонскага храніста

Тытмара (Thietmarus, †1018) Sigisfridus (†991), "Sigifridus episcopus Monastiriensis" (1022—1032); "Sigifridus episcopus Augustanensis" (Augsburg) (1000—1006); "Sigifridus comes Merseburgensis" (†937), "comes Sigibertus (Sibertus)" (†995).

Кельцкія імёны: Segomaros, Segovesus (ca. 191 BC), Catumandus.

Згаданае тут славянскае імя Сигневъ (⁺Sig-gnevъ) значыла верагодна "Вялікі гнеў" або "Пераможны гнеў".

ЖЫРАСЛАЎ. Варыянты: Иванъ Жирославичь (1076), Гюргии Жирославичь (1128), Жирославъ Яванковичь (1146), Жирославъ Андреевичь (1159), Нестеръ Жирославичь (1170), Сбыславъ Жирославичь (1171), Борисъ Жирославичь (1173), Здеславъ Жирославичь (1193), Жирославъ (1219, 1229, 1249), Жирославъ Дорогомиловичь (1269).

**Жыра-слаў (⁺Gero-slavъ)**: germ. (mhd.) gêr "дроцік", "кап'ё".

Імя Жыраслаў, як і імя Яраслаў (⁺Gero-slavъ), значыла верагодна "Слаўны кап'ём" або "Слаўны капейнік".

Іншыя славянскія імёны: Гориславъ (⁺Gero-slavъ) (1145), Богуславъ Гориславичь (1229), Вячеславъ Гориславичь (1233), Gergnew (⁺Ger-gnevъ) (1221), Goriwoy (⁺Gero-voj) (872).

Германскія імёны: "comes et praefectus (Bavaria) Geroldus" (Ger-wald) (771, 779), "Geroldus comes Pannoniae" (826), "comes (Aurillac) Gerard (Ger-wald)" (871, 899), "comes (Auvergne) Gerhard" (819, 821), "comes (Bourges) Gerard (Ger-ward)" (867), "comes (Vienne) Gerhard" (855, 870), "abbas (Aurillac-Reims) Gerbertus" (972, 997); "marchius Gerhardus" (894), "Witgerus Metensis (Metz) episcopus" (917—927), "Gerdagus Hillinessemensis (Hildesheim) episcopus" (989—992), "Gerbertus Remensensis (Reims) archiepiscopus" (991—998), "Gerhardus comes Alsaciae" (1002, 1018), "Gerhardus Cameracensis (Cambrai) episcopus" (1012—1051).

Напрыклад, германскія імёны кшталту Gerbert (lat. Gerbertus) і Germar (lat. Germarus); Gerdag (lat. Gerdagus), Gerwin (lat. Gerwinus, Gervinus), Gerwig (lat. Gerwicus, Gerwigus) мелі адпаведна значэньне "Слаўны кап'ём", "Бліскучы (До́бры) капейнік", "Сябра кап'я", "Бітва кап'ём".

ІЗЯСЛАЎ, сын Рагнеды і Ўладзіміра Сьвятаславіча, бацька Брачыслава, полацкі князь; памёр ёну 1001 г. Варыянты: Изяславъ (990), "преставися Изяславъ, отець Бряцьславль" (1001); сын Яраслава

Ўладзіміравіча кіеўскі князь Изяславъ (†1078), сын кіеўскага князя Сьвятаполка Изяславіча Изяславъ (†1127), сын Мсьціслава Ўладзіміравіча кіеўскі князь Изяславъ (†1154), сын Давыда Сьвятаславіча кіеўскі князь Изяславъ (†1161), сын полацкага князя Васількі Изяславъ (загінуў блізу 1180).

**Ізя-слаў**: gr. isos, isonom адпаведна "аднолькавы", "роўны" і "вольны", "свабодны"; gr. isotés (isotimoi) "роўныя" або "раўнапраўныя" гараджане; gr. isonomia прынцып "роўнасьці" гараджанаў у законе і перад законам; gr. isódomos той, хто меў роўны голас і месца ў нарадах.

Імя Ізяслаў значыла верагодна "Аднолькава слаўны" або "Раўнаслаўны".

Заходнеславянскія імёны: Isislaus (1212), Isđezlaus (1249).

Германскае імя: "Isingrim episcopus Ratisbonensis" (Regensburg) (930—940).

Старагрэцкія імёны: арыстакрат з Атыкі, які спрабаваў стацца тыранам у Атэнах (Афіны) Isagoras (ca. 510, 508 BC); брат выдатнага скульптара з Атэнаў Мірона (Myron; тварыў у сярэдзіне V ст. да Н. Х.) Isodemos; рытар, гісторык і заснавальнік першай вышэйшай школы ў Атэнах Isokrates (436—338 BC); Isidoros; скульптар у караля Пергамону (Attalos I, 241—221 BC) Isogonos (Isigonos).

Персанаж у старагрэцкай міталёгіі Isandros ($^{+}$Iso-andros) значыў "Апартыйны" або "Незалежны чалавек". Гэта брат таксама мітычнай асобы, зьвязанай з культам пакланеньня Месяцу, што звалася Laodameia дый імя якой тлумачылася "Утаймавальніца людзей" або "Валадарка людзей".

КАЗІМЕР. Варыянты: сын Уладыслава і сам кароль Польшчы Kazimierz Wielki (1333—1370); Kazimarus (1174), Kazemarus (1176), Kazimer (1221), Kazimirus (1334).

У працы W i p o n i s "Gesta Chuonradi II imperatoris" сын польскага князя Мешкі II (1025—1034) быў названы "dux G a z m e r u s" (1040—1058).

**Казі-мер ($^{+}$Gaesi-mer)**: akelt. $^{+}$gaisom, agerm. $^{+}$gaiza, kelt. $^{+}$gaesom, $^{+}$gaesum, gall. gaesa, gaesum, lat. gaesum "дроцік", "кап'ё"; kelt. māros, air. mór, kymr. maur, germ. mar, mer, ст.-сл. меръ, миръ "вялікі", "дужы", "магутны", "моцны", "слаўны".

Іншыя славянскія імёны: згадваны ў бізантыйскіх крыніцах пад

555—556 гг. славянін-ант Дабрагез (gr. Dabragézas, lat. "Dabragetas vir quidam", "Leontius Dabragesae filius"): Gozwinus (1237), Gozwinus (1243).

Імя Казімер, як і імя Кязгайла, значыла верагодна "Магутны капейнік" або "Слаўны кап'ём".

Лацінізаваны кельцкі тэрмін Gaesatae, Gaesati абазначаў найманых кельцкіх воінаў, узброеных кап'ём; kelt. Gezatorix ($^+$Gaesato-rīx) тлумачылася "Правадыр воінаў-капейнікаў".

Германскія імёны: князь готаў у Падунаўі Radagaisus (†406), які ў 405—406 гг. зрабіў напад на Італію; падпарадкаваны каралю гунаў Атыле (Attila, †453) князь готаў Gesimundus (Gesimund; ягоны бацька зваўся Hunimund) (447, 450); кароль вандалаў, якія ў 439 г. перасяліліся ў Паўночную Афрыку, Geiserich (428—477).

Стараіранскае імя: каралі (shāh) партаў-парфянаў Vologaeses I (51—80), Vologaeses III (111—147), Vologaeses V (192—208), Vologaeses VI (208—222).

КАРЫБУТ-ДЗІМІТРЫ, сын Альгерда, нейкі час князь наваградзкі, затым князь ноўгарад-северскі. Дата ягонай сьмерці невядомая. Варыянты: "Печять князя Корибута" (1386), "Nos Demetrius alias Koributh dux Litwanie, dominus et heres de Nouogrodek" (1386), Karibut, Coribut (1387), "Се язъ великии князь Дмитрии Олгирдовичь" (1386), "Мы князь Дмитрии Олгердовичь" (1388), "Мы Дмитрии инемъ именемъ Корибутъ князь Литовскии" (1388), "Дмитрии инемъ именемъ Корибутъ князь Новгородьскии и Северскии" (1388), "зять мой князь Корибутъ" (1393). Найбольш вызначыўся ягоны сын Жыгімунд Карыбутавіч. Накіраваны ў 1421 г. у Чэхію, князь Жыгімунд Карыбутавіч адмовіўся падпарадкавацца загаду вялікага князя Вітаўта вярнуцца з сваім экспедыцыйным корпусам у ВКЛ і працягваў змагацца на баку чэскіх гусітаў-табарытаў. Загінуў ён у Чэхіі блізу 1432 г. Варыянты ягонага імя: "dux Sigismund Coributi" (1421), "dux Sigismundus Corybuthy" (1424), "dux Sigismundus Koributhi" (1429), "dux Sigismundus Coributhi" (1430).

**Кары-бут**: aind. kharaḥ "цьвёрды"; kelt. $^+$kau̯aros "дужы", "магутны", "моцны"; air. caur, kymr. cawr "велікан", "волат"; gr. **korybántes, korybántoi** узброеныя воіны-служкі ў кульце Вялікай Маці-багіні Рэі-Кыбелі (Megale Metrôon Rhea-Kybele); gr. anabátes, lat. andabata "воін" або "гладыятар", які змагаўся "ўцёмную", у закрытым шоламе; kelt. boduos, boduus "баец", "воін", "змагар",

“зьнішчальнік” (шырэй пра гэты апошні тэрмін гл. пад імем БУДЗІСЛАЎ).

Імя Карыбут значыла “Храбры воін” або “Магутны воін”.

Можа быць іншае тлумачэньне імя Карыбут (**Geri-bud**; параўнай славянскае імя Гориславъ, пададзенае пад імем ЖЫРАСЛАЎ; параўнай варыянты Kazimarus — Gazmerus пад імем КАЗІМЕР).

Імя англасаксонскага манаха і місіянера ў “Rimberti Vita Anskarii” гучала Anskarius. Ён быў таксама першым арцыбіскупам у Гамбургу: “Anskarius archiepiscopus Hammaburgensis” (831—865). Але ў іншых крыніцах ягонае імя пісалася Ansgarius (Ansgar, +Ans-ger). Параўнай імя англасаксонскага караля ў Брытаніі (Wessex) Edgar (Ead-ger) (957—975). Для імя Ansgar першы корань Ans- паходзіў ад старагерманскіх паўбагоў Асаў — Ансаў (Asen, Ansen), а другі корань -ger значыў баявое “кап’ё”. Адсюль імя Ansgar мела значэньне “Воіна-капейніка, што змагаўся пад аховай Ансаў”.

Іншыя германскія імёны: англасаксонскі кароль у Брытаніі (Northumbria) Oswald (+As-wald) (605—642); “Ansbertus (Ans-bert) episcopus Rotomagensis” (Rouen) (684—?); “Anshelmus Mediolanensis (Milano) episcopus” (817), “Asulfus (Ans-wolf) Treverensis (Trier) abbas” (967); “Ansfridus episcopus Traiectensis” (Utrecht) (995—1010).

Былі яшчэ германскія імёны, што паходзілі ад бога Thor: Thora, Thorgerd, Thorgrim; князь готаў у Панoніі Thorismund (447, 473), кароль вэстготаў у Гішпаніі Thorismund (451—466).

Больш верагодна, што імя Карыбут (+Geri-bud) значыла “Валадар кап’я” або “Воін-капейнік”.

КАРЫГАЙЛА-КАЗІМІР, сын вялікага князя Альгерда, загінуў у 1390 г. пры абароне Вільні, абложанай войскамі князя Вітаўта і прускіх крыжакоў. Варыянты: Коригайло (1377), Karigal, Korigal (1390), “princeps Casimir alias Korigal per Theutonicos Cruciferos de Prussia de anno Domini 1390 interfectus” (1391).

**Кары-гайла**: lat. carus “дарагі”, “любімы”, “мілы”, “міласэрны”, “каштоўны”; gr. charis, kouros адпаведна “літасьць” і “хлопец”, “воін”; aind. kharaḥ, kelt. +kaṷaros адпаведна “цьвёрды” і “дужы”, “магутны”, “моцны”; air. caur, kymr. cawr “волат”, “велікан”; aind. kharaj, kāra, kārana адпаведна “даніна”, “слуга”, “прычына”; індаэўрапейскі тэрмін gail ужываўся ў значэньні “высакародны”, “заўзяты”, “магутны”, “палкі”, “сьветлы”, “слаўны” (шырэй пра гэты тэрмін гл. пад імем ЯГАЙЛА).

Наконт магчымасьці, што першы корань гэтага імя мог паходзіць ад germ. (ahd.) gêr баявое “кап’ё”, гл. пад імем КАРЫБУТ і КАРЫЯТ.

Імя Карыгайла значыла верагодна “Палкі капейнік” або “Слаўны кап’ём”.

КАРЫЯТ-МІХАІЛ, сын вялікага князя Гедзіміна, наваградзкі князь; год ягонай сьмерці невядомы. Варыянты: “Михаілъ Кориатъ князь Новогородский” (1329), “а за великого князя Олькерта и за Корьята” (1352), Коріадъ (1341, 1377), Коріядъ (1348), Коріадъ Гедиминовичь (1349), Юрьии Корьятовичь (1352, 1375), “Мы... Олександро Корьятовичь князь и господаръ Подольскои земли” (1375), Левъ Корьядовичь (†1399).

**Кары-ят**: lat. cara, gr. kara “галава”; lat. carus “дарагі”, “любы”, “каштоўны”; aind. kharaḥ, kelt. +kaṷaros адпаведна “цьвёрды” і “дужы”, “магутны”, “моцны”; air. caur, kymr. cawr “волат”, “велікан”; gr. kouros (kouroi) “хлопец”, “воін”; airan. kārā, karanos адпаведна “народ”, “народнае апалчэньне” і “ваявода”; gr. **ath** (atha-), aind. **adhi** “высокі”, “галоўны”, “найвышэйшы” (параўнай: aind. adhipati, adhirāja, mahārāja адпаведна “галоўны валадар” (“старэйшына”), “найвышэйшы князь”, “вялікі князь”); aind. jāta “народжаны”; gr. atta (patér), lat. atta (pater), got. atta, air. athi, kelt. +tatus, ст.-сл. отьць “бацька”, “тата”; gr. kýris (kýrios), ст.-сл. владыка, “валадар”; gr. atér, lat. āter “злосны”, “змрочны”, “страшны”, “чорны”; gr. atos “ненатольны”, “пражэрлівы”; ст.-сл. корити, покорити, яти.

Параўнай таксама: askand. audr, ags. eád, eádig тэрмін, які абазначаў пажаданьне (“Sei eádig”) дабрабыту, здароўя, радасьці, сілы і шчасьця; gr. Adelphé ганаровы тытул для каралеваў (basiléa); askand. aethel, ags. eald, ead (ealdorman, -men); lat. nōbilis, nōbilitas; dt. adlig, Adlige “высакародны”, “шляхотны”.

Англасаксонскія каралі ў Брытаніі. (Kent): Aethelberht (Ethelbert) (ca. 596—617), Edwinus (Ead-win) (617—633); (Wessex): Aethelred I (ca. 596—617), Eduard (Ead-ward) I (899—924), Athelstan (924—939), Edmundus (Ead-mund) (939—957), Edgar (Ead-ger) (957—975), Ethelred (Aethelred) II (979—1014); дочкі згаданага караля Эдуарда I зваліся Eadgifu (923) і Eadhild (926).

Іншыя германскія імёны: “Aetheldagus (Etheldagus, **Adaldag**) archiepiscopus Bremensis” (Bremen) (937—988), “Aethelbertus (Athelbertus, **Adalbert**) archiepiscopus Magadaburgensis” (Magdeburg)

(968—981), “Aethelboldus (Ethelbaldus, **Adalbald**) Traiectensis (Utrecht) episcopus” (1010—1026); імя брата князя Чэхіі Яраміра (1004—1012) Удальрыка ў лацінскай транскрыпцыі пісалася “dux Othelricus” (1012—1034); “Othelricus episcopus Augustanensis” (Augsburg) (923—973); князь готаў у Падунаўі Athanarich (376, 385); кароль остготаў у Італіі Athalarich (526—534); каралі вэстготаў у Паўднёвай Францыі, затым у Гішпаніі Athaulf (Athal-wolf) (410—415), Athanagild (554—562).

Зноў параўнай: gr. ath, aind. adhi (adhipati, adhirāja); старагрэцкія імёны: Attalos (+Ath-talos) (†336 BC), Attalos (†321 BC); князі (basileús) Пергамону Attalos (Ath-talos) I (241—221 BC), Attalos II (221—197 BC) (у грэцкай міталёгіі імя трагічнага персанажу Talos тлумачылася “Той, што пакутуе”; або gr. thólos “курган”, насыпаны над магілай “героя”).

Больш верагодна, што імя Карыят (+Geri-ead, +Geri-ath) супадала зь імем згаданага англасаксонскага караля Edgar (Ead-ger) і значыла “Высакародны капейнік” (параўнай: Гориславъ, Ярославъ (+Gero-slavъ)).

КЯЗГАЙЛА-МІХАЛ, стараста жамойцкі (1412—1432). Варыянты: Kesgaylo Wolymuntonis (1401), Kynsgail (1404), “Michel andirs Kynsegail hauptman czu Wylkomirye” (1410), “Nicolaus alias Kynsgal” (1411), “Kynsgal capitaneus Samagittarum” (1412), “Kinsgail hauptmann in Samagitten” (1425), “Dominus Mychell alias Kenzegall capitaneus terre Samogittarum” (1426), “Kiezygal capitaneus Samogitarum” (1432), Petrus Kensgalowicz (1437), “Joannes Kyenszgalowycz capitaneus Samogithiensis” (1452), Michael Giezgalowicz (1451), “Woewodu Wilenskomu panu Michailu Kezkhailowiczu, kanclieru naszomu” (1476), “Proinde ego Michael Gieszgalowicz palatinus Vilnensis et magni ducatus Lituanie cancellarius” (1476), Joannes Gieszgalowicz (1476), “Joannes Gieszgalowycz castellanus Vilnensis et capitaneus Samagittie” (1484).

**Кяз-гайла (+Gaes-gailo)**: akelt. +gaisom, agerm. +gaiza, kelt. +gaesom, +gaesum, gall. gaesa, gaesum, lat. gaesum “дроцік”, “кап’ё”; індаэўрапейскі тэрмін gail ужываўся ў значэньні “высакародны”, “заўзяты”, “магутны”, “палкі”, “сьветлы”, “слаўны”.

Імя Кязгайла, як і імя Казімер, значыла “Магутны капейнік” або “Слаўны кап’ём”.

У старога Міхала Кязгайлы Валімунтавіча былі тры браты: “пан

Шедибор Валимонтович" (1420), "Schedibor houptman czu Wilkomiria" (1425); "ritter Schelibor" (Жалібор, 1424); Sudziwoy Volimuntowicz (1434), а таксама сын: "Dobeslaus filius domini Kiesgal" (1442).

Іншыя славянскія імёны: згадваны ў бізантыйскіх крыніцах пад 555—556 гг. славянін-ант Д а б р а г е з (gr. Dabragézas, lat. "Dabragetas vir quidam", "Leontius Dabragesae filius"); Cozwinus (1237), Gozwinus (1243).

Параўнай заходнеславянскія імёны: князь абадрытаў Selibur, Zelibor (967), Sandiwoy (1339), "панъ Судивой староста Кракувъскии" (1378), Dobeslav (1178), Dobieslaus (1262).

Лацінізаваны кельцкі тэрмін Gaesatae, Gaesati абазначаў кельцкіх воінаў-наймітаў, узброеных кап'ём; kelt. Gezatorix (+Gaesato-rīx) тлумачылася "Правадыр воінаў-капейнікаў".

Германскія імёны: князь готаў у Падунаўі, які ў 405 г. зрабіў рабункавы напад у Паўночную Італію, Radagaisus (†406); таксама князь готаў у Падунаўі Gesimund (447, 450), але падпарадкаваны каралю гунаў (Attila, †453); кароль вандалаў, што ў 439 г. перасяліліся ў Паўночную Афрыку, Geiserich (428—477); "Megingoz episcopus Wirciburgiensis" (Würzburg) (ca. 763—769), "dux Thuringiae Gozbertus" (ca. 690—700).

ستараіранскае імя: князі (shah) партаў-парфянаў Vologaeses I (51—80), Vologaeses III (111—147), Vologaeses V (192—208).

КЕСТУТ, сын вялікага князя Гедзіміна, князь троцкі і нядоўга вялікі князь; замардаваны ў 1382 г. Варыянты: "Отъ князя от Кестутя и отъ князя Люборта у Туронь къ местычемъ" (1342), Кестутей Гедимановичь (1345), "Оже я князь Еоунутии, и Кистютии, и Любартъ" (1352), "Се язъ князь великии Олгердъ со своимъ братомъ, со княземъ Кестутьемъ" (1371); Витовт Кестутьевич (1396), Жигимонт Кестутьевич (1418); "Kinstut rex" (1356, 1382), Kinstod, Kinstoud, Kynstud, Kynstodus, Kynstut, Kenstott.

**Кес-тут (+Kens-toud)**: gr. knos (knoi), akelt. knos (gall. cnos, cnus, cos, cus) "сын"; gr. génos, protogenos, lat. genus, gens адпаведна "род", "першанароджаны", "кроўны сын", "нашчадак", "народ", "раса", "паходжаньне", "нараджаньне", "клан", "сям'я"; gall. genos, genus, lat. cūna (cunae) адпаведна "кроўны сын" і "калыска"; air. cenél, kymr. cenedl "клан"; askand. chunni, germ. (ahd.) knui, kuni, kyn "сын", "клан", "род"; індаэўрапейскі тэрмін teuta, touta ужываўся ў зна-

чэньні "племя", "народ" (шырэй пра гэты тэрмін гл. пад імем ВІТАЎТ).

Імя Кестут значыла верагодна "Сын народу".

Кельцкія імёны: бог у кельтаў-галаў пазьнейшай Францыі Teutates (+Teuto-tatus) або "Бацька народу" (яму прыносіліся людзкія ахвяры, якія тапіліся ў вадаёмах; параўнай: kelt. tatus koimos "любы бацька"); Toutiorix або "Кароль (Князь) суродзічаў племя"; князь аднаго кельцкага племя (nitiobroges) Teutomatus (54 BC); Taranucnus або "Сын (бога) Пяруна", які ў кельтаў звaўся Taranus (Taranis); Esugenos або "Сын (бога) Эзуса" (Esus).

Яшчэ імёны кельцкіх князёў: Diviciacus (58 BC), Casticus (57 BC), Maricus (69 AD), Calgacus (84 AD).

Германскія імёны: "Kunibertus Coloniensis (Köln) episcopus" (ca. 624—640); (нямецкія каралі) "rex Cuonradus" (Konrad) I (911—918), "rex-imperator" Cuonradus (Chuonradus, Konrad) II (1024—1034); маці саксонскага храніста Тытмара (Thietmarus, †1018) Cunigunda (991), "mater mea Cunigund... expiravit" (†997); жонка нямецкага караля і затым імпэратара Heinricus (Heinrich) II (1002—1024) Cunegunda (1002, 1017); ахрышчаны ў 785 г. "dux Saxonibus Widochindus" (Wido-chind) (777, 782) і саксонскі храніст, аўтар "Res gestae Saxonicae", Widukind (Widichindus) (†ca. 969), імя якіх значыла "Дзіця лесу" ("Wald" + "Kind").

У старагрэцкай міталёгіі багіняй нязгоды-разладу была E r i g o n e, імя якой тлумачылася "Дзіця нязгоды-разладу" (у рымлянаў яна проста называлася "Dea Eris"; gr. eris "разлад", "нязгода", "спрэчка"). Сваім зьместам якраз ёй магло адпавядаць згаданае тут германскае жаночае імя C u n i g u n d a (germ. gund "барацьба", "разлад", "спрэчка").

ЛЕЛЮШ-ПЁТРА, ваявода троцкі (1432—1440). Варыянты: "Lelusch palatinus Trocensis" (1434), "Petrus alias Lelusch Trocensis palatinus" (1436), "Ego Petrus alias Lelusche (olim) palatinus Trocensis,.. sperans post vitae huius occasum ad vitam transferri aeternalem" (1442), Lelusz (1474); Joannes Lyelyusch (1503).

**Ле-люш (+Lao-laech)**: gr. laós (laoi) "чалавек", "людзі", "народ"; air. lucht, bret. latti "людзі", "народ"; ahd. liud (liudi), liut, dt. Leute "людзі", "народ" (параўнай: Nordleudi, Nordliudi, Nordmanni); gr. laón, lyssa адпаведна "войска", "гнеў"; air. lach, láech "баец", "воін", "герой"; gr. lochos "народжаны", "дзіця" (Dione/Diana Locheía або

багіня Д. "Парадзіха"); gr. Dionysos Lyaios або бог Д. "Збаўца", "Выратавальнік ад клопатаў".

Імя Л е л ю ш значыла верагодна "Воін народу".

Можна меркаваць, што ліцьвінскае імя Л е л ю ш адпавядала імёнам легендарнага польскага князя Л е х і гістарычнага князя Чэхіі Л е х, які загінуў у 805 годзе: "Eodem anno (imperator Carolus) misit exercitum suum cum filio suo Carlo in terram Sclavorum qui vocantur Boheimi. Qui (Carlus) omnem illorum patriam depopulatus, ducem eorum nomine L e c h o n e m occidit" (805); "Carolus rex... misit exercitum cum filio suo Carolo super Sclavos qui vocantur Boemi, ducem eorum qui appellatur L e t h o occiderunt" (805).

Старагрэцкія імёны канкрэтных гістарычных асобаў: адпаведна кароль Македоніі і кароль Спарты Archelaos (413—399 BC), Agesilaos II (398—361 BC); Archelaos (331, 321 BC), Archelaos (243 BC), Agelaos (221 BC), Arkesilaos (272, 263 BC); Laomedon (337, 319 BC); брат караля Эгіпту Пталамея I Menelaos (315, 295 BC); Nikolaos (326, †289 BC); патрыярх Канстантынопалю Nikolaos Mystikos (901—907, 912—925); Iolaos (338, †319 BC), Iolaos (336, †317 BC), Perilaos (315 BC); паэт VII ст. перад Н.Х. Archilochos; Hegelochos (334, 331 BC); рытар у Сіракузах Lysias (ca. 459—380 BC), Lichas (428 BC), Laches (324 BC), Lachares (298, 279 BC), Lysanias (335 BC), Lysanias (222 BC).

Старарымскія імёны: паплечнік палкаводца Сцыпія Афрыканскага (Publius Cornelius Scipio Africanus, 236—183 BC) адмірал (praefectus remigum) Gaius Laelius (211, 202 BC); таксама паплечнік і сябра палкаводца Сцыпія Афрыканскага II (Publius Cornelius Scipio Aemilianus, 186—130 DC) Cicero Gaius Laelius (146, 130 BC; consul, 140 BC); Decius Laelius (legatus, †76 BC), сын папярэдняга Dec. Laelius (prosecutor, 59 BC; tribunus, 54 BC).

Прыклады тлумачэньня старагрэцкіх імёнаў: Agesilaos "Валадар народу", "Правадыр народу"; Archelaos "Валадар народу", "Правадыр народу"; Laodameia "Утаймавальніца людзей"; Laomedon "Утаймавальнік людзей"; "Заваёўнік народу"; Menelaos "Сіла народу", "Валадар народу"; Nikolaos "Пераможны ў народзе" або "Чалавек перамогі"; Protesilaos "Першы ў народзе".

ЛІНГВЕН-СЯМЁН, сын вялікага князя Альгерда, мсьціслаўскі князь; памёр ён у 1431 г. Варыянты: Лугъвенъ (1377), Лингвении (1389), Лунгвенъ (1397), "Мы князь Семенъ инымъ именемъ Лыг-

веніи" (1389), "Самъ князь Лонъкгвени" (1390), "dux Semen alias Lingwenis" (1389), Lyngwyen (1397), "dux Symeon alias Ligwen" (1411); сваяк вялікага князя Міндоўга Лонъгвени (1247), Languinus (1260); Lohwin Sawicz (1501).

**Лінг-вен (+Ling-vinъ)**: air. láigne, lat. lancea, gr. lógche "дроцік", "кап'ё"; germ. win "друг", "прыяцель", "сябар".

Імя Лінгвен значыла верагодна "Прыяцель кап'я", "Сябар кап'я" (дакладна тое ж значыла германскае імя G e r w i n).

Славянскія імёны: надпіс на кубку X ст. баўгарскага жупана "+СИВИН+" (+Сигъ-винъ), Сигневъ (1251, 1268) (+Сигъ-гневъ), Gergnew (Ger-gnevъ) (1221), Gniewomir (1268), Неревинъ (1145) (+Nari-vinъ), Завидъ Неревеницъ (1175), Радованъ (1270) (+Rado-vinъ); мужчынскія імёны ў Ваўкавыску (1410): Selyvon (+Seli-vinъ), Seliwon, Selywon, Radwan (+Rado-vinъ).

Германскія імёны: "Апостал немцаў" англасаксонскі манах-эрудыт, затым архіяпіскап Wynfrith (Winfrid = Bonifatius) (675—754); Amalwinus (785), "Adwinus (Ead-win) Hillinessemensis (Hildesheim) episcopus" (954—984), "Baldwinus dux Wlandariorum" (Flandria) (988—1035), "Hardwinus (Hardwigus) rex Langobardorum" (1002—1015), "Gudvinus (Godwin) dux de Wessex" (1020—1053), "Baldewinus praepositus de Razenburg" (1169), мечаносец у Лівоніі "miles **Gerwinus**" (1208).

Крыжацкія каралі Ерусаліму Balduin (Bald-win) I (1100—1118), Balduin IV (1174—1185).

Старарымскія імёны: C. Cassius Longinus (consul, 73 BC), C. Cassius Longinus (praetor, 44 BC), L. Cassius Longinus (praetor, 66 BC; tribunus, 44 BC), Q. Cassius Longinus (tribunus, 49 BC).

ЛЮБ, сын Драгавіта і сам князь вільцаў-люцічаў (ca. 789—809): "Erant autem Wilti genere, filii L i u b i, regis quondam; nomine eorum fuere Mileguastus et Cedeadragus; quorum pater L i u b i, dum Abotritis bellum indixisset, ab eis interemptus est, et regnum primogenito contraditum" (823); сын полацкага князя Войны, пляменьнік вялікага князя Гедзіміна Л ю б к а, які загінуў у 1342 г. пад Псковам: "А князь Любка Воиневъ, сынъ Полотского князя, самъ другъ отъехаша отъ Олгерда, и въехаша въ сторожевый полкъ Немецкій, не ведяще яко чюжьдій суть, и тамо убиша его самогодруга" (1342).

**Люб (+Любъ)**: ст.-сл. любъ, любы, любити; kelt. (gall.) lubi, lubiti "люблю", "любіць"; lat. libens, libentia (архаічны lat. lubens, lubentia)

адпаведна “з добрай воляй”, “з радасьцяй” і “асалода”, “задаволеньне”, “радасьць”.

Імя Л ю б значыла верагодна “Любы”, “Улюбёнец”.

Іншыя славянскія і ліцьвінскія імёны: Любъ (1206), Матеи Любовъ (1206), Liubomir (1090), Lubemar (1163), Lubko (1459, 1490), Lyubyatha (1462), Michailo Lubkowicz (1491), Aleksey Lubkowicz (1491), Lubko Pawlukowicz (1491).

Кельцкія імёны: Lubbo, Lubos, Lubos, бацька кожнага зь якіх адпаведна зваўся Letondus, Avalos і Melmu.

Старарымская багіня асалоды-каханьня і прыгажосьці звалася Libentīna (Lubentina) = V e n u s.

Старарымскае імя: Libanius (358).

ЛЮБАРТ-ДЗІМІТРЫ, сын вялікага князя Гедзіміна, княжыў на Валыні; памёр ён блізу 1382 г. Варыянты: Любартъ Кгедиминовичь (1322), “Отъ князя отъ Кестутя и отъ князя Люборта у Торунъ къ местичемъ” (1342), Любордъ Гедимановичь (1349), “Оже я князь Еоунутии, и Кистюти, и Любартъ” (1352), Любортъ (1377), “Мы, князь Федоръ Любортовичь” (1393), Lubertus Lytwanus (1376), Lubart (1401).

**Лю-барт** (**⁺Liub-bert**): ст.-сл. любъ, любы, любити; kelt. (gall.) lubi, lubiti “люблю”, “любіць”; lat. libens, libentia (alat. lubens, lubentia) адпаведна “з добрай воляй”, “з радасьцяй” і “асалода”, “задаволеньне”, “радасьць”; germ. berht, bert, berth, bercht, brecht “бліскучы”, “зіхатлівы”, “прамяністы”, “слаўны”.

Імя Любарт значыла верагодна “Слаўны любасьцяй” або адпавядала славянскаму імю Л ю б а м і р.

Іншыя славянскія і ліцьвінскія імёны: Любъ (1206), Матеи Любовъ (1206), Liubomir (1090), Lubemar (1163), Lubko (1459, 1490), Michailo Lubkowicz (1491), Lubko Pawlukowicz (1491).

Германскія імёны: Godlieb, Godelieb, Lubbert, Lubbertus, Lübbert, Lübbers.

Прыклады кельцкіх імёнаў гл. пад імем ЛЮБЪ.

ЛЮТАВІТ, князь балканскіх славенцаў, які ставіў супраціў пасоўваньню імпэрыі франкаў на Балканах і быў замардаваны ў 822 г. Занатаваныя ў крыніцах варыянты: Liutevit, Liutewit, Liutewitus (818, 819, 820, 821, 822), Liudevit, Liudewit, Liudewitus (818, 819, 820, 821, 822, 823).

**Люта-віт**: ст.-сл. лютъ; lat. luteus, lutum "агідны", "брыдкі", "ганебны", "мізэрны", "пачварны"; lat. lucta (luctatio, luctatus), luctator адпаведна "барацьба", "змаганьне", "барацьбіт", "змагар"; ahd. liud, lud, liut (germ. hlôd, chlôd, chlôt) "слава", "слаўны"; ahd. liut, liud, lüt "людзі", "народ" (параўнай: Austreleudi, Nordleudi, Nordliudi, Nordmanni, што значыла "людзі" або "народ" Усходу, Поўначы і "нарманы"); індаэўрапейскі тэрмін vітъ ужываўся ў значэньні "жыцьцёвая сіла", "сіла", "энэргія" (шырэй пра гэты тэрмін гл. пад імем ВІТАЎТ).

Імя Лютавіт значыла верагодна "Лютая сіла" або "Слаўны сілай".

Іншыя славянскія імёны: князь харватаў Liudemuhsl, Liudomysl (823); ваявода Дзімітрыяды (Македонія) Мікалай Лютавой (gr. Nikoláos Lutobóes, 1028—1052); князь балканскіх сэрбаў Liutovid (1052); Lutabor (1124), Lutomir (1150), Lutogneus (1238), Мартинъ Лютковъский (1378), Ludizlaus (1265), Ludomilla (1483), Lludimilla (1486, Людміла); "Ladasclavus nepos Bornae ducis Dalmatiae atque Liburniae" (821).

Германскія імёны: імпэратары з дынастыі Каралінгаў **Ludwig** (Hlodowicus, Hludowicus, Ludowicus) I (813—840), Ludwig II (850—875), **Lothar** (Hlotharius, Hlutharius, Lotharius) I (817—855); "rex Germaniae (Germanorum)" **Ludwig** (Hlodowicus, Hludowicus, Ludowicus) (839—876), "rex Galliae (Francorum)" **Lothar II** (Hlotharius, Hlutharius, Lotharius) (855—869); жонка Карла Вялікага Liutgarda (†800), Liutgarda (†953); жонка караля Карламана (876— 880) Liutswing (861, 880); "Liutwinus episcopus" (720); прадзед і дзед саксонскага храніста Тытмара (Thietmarus, †1018) "comites" Liutharius (Lothar) I (+929), Liutharius II (+964); "Liudgerus (Ludgerus) episcopus Monastiriensis" (+809), "Liutbertus archiepiscopus Mogontiacensis" (Mainz) (864—889), "Liutolfus (Liut-wolf) comes Saxoniae" (+880), "Liutbaldus dux occisus est" (+907), "Liudulfus (Liud-wolf) Augustanensis (Augsburg) episcopus" (989—996), "miles Liutharius" (997), "Liudgerus comes Thuringiae" (1002, +1011), "et Liudherdus presbiter obiit" (+1018); (Liudulfus, Liud-wolf) dux Alemmaniae" (947—954), "Liudulfus abbas Corbensis" (965—983), "Liudulfus (Liud-wolf) archiepiscopus Treverensis" (993—1011).

Прыклады старых германскіх імёнаў: каралі франкаў Chlodwig (Chlodowech) I (481—511), Chlodwig II (639—657), Chlothar (Chlothachar) I (511—561), Chlothar II (584—629), Chlodomerus (511—524);

Chrodoald (Chrodo-wald) (†624), “regina Chrodhild” (†544); “Leudegarius Mogontiacensis (Mainz) episcopus” (ca. 596—615), “nonna (monacha) Leudeberta” (ca. 591—615), “dux Leudegisil” (561, 592).

Кельцкае імя: князь галаў-галатаў, якія перасяліліся ў Малую Азію, Lutarios (279, 277 BC); Litumara, Litumaros.

Старарымскія імёны: Q. Lutatius Catulus (consul, 102 BC), Q. Lutatius Catulus (consul, 78 BC), C. Lutatius Catulus (78 BC).

ЛЮТАГНЕЎ. Варыянты: Lutogneus (1212), “Lutogneus venator de Callis” (1232), Lutogneus (1238).

**Люта-гнеў**: ст.-сл. люте, лютъ; lat. luteus, lutum (gr. lúo) “агідны”, “брыдкі”, “варты пагарды”, “ганебны”, “гнусны”, “пачварны”, “подлы”; lat. gnavus (navus) “актыўны”, “борзды”, “дзейсны”, “жвавы”, “руплівы”; lat. gravis “важны”, “жорсткі”, “моцны”, “дужы”, “строгі”, “суровы”, “цяжкі”; ст.-сл. гневъ “гнеў”, “ярасьць”; ahd. liud, lud, liut (germ. hlôd, chlôd, chlôt) “слава”, “слаўны”.

Імя Лютагнеў значыла верагодна “Люты ў гневе”.

Іншыя славянскія імёны: князі Чэхіі Spitignew I (891—916), Spitignew II (1055—1061); Stoygnew (†955), Nilolaós Lutobóes (Лютавой, ваявода Дзімітрыяды, 1028—1052), “principes Slavorum Anadrag et Gneus” (1065), Zbignew (1102), Gergnew (1221), Lutabor (1124), Miregravus, Mirognew (1174), Spitigneus (1197), Gniewomir (1262), Dobegnew (1276), Stoygnew (1284), “Sbiluthus Naklensis castellanus” (1335), Luthko Jakobi de Maleszowo (1413), “Sbigneus marschalcus” (1413), “Ninogneus vexillifer” (1413), “Ninogneus castellanus Wiznensis” (1413), “Sbigneus Kamenecensis episcopus” (1419); князь абадрытаў Pribygneus (1018—1028), “Dobegneus palatinus de Belegart” (1283).

У дадатак яшчэ славянскае імя: “оже мы панъ Гневошь староста Руское земли” (1393), “панъ Гневошь подкомории” (1399).

Да згаданага тут славянскага імя Spitigneus (1197) або Spitimir (872) параўнай імёны персідзкіх сатрапаў і адпаведна імя аднаго зь індыйскіх магараджаў, зь якімі меў справу Аляксандр Македонскі: Spithridates (†334 BC), Spitamenes (†328 BC), Spitakes (†326 BC).

Прыклады германскіх, кельцкіх і старарымскіх імёнаў гл. пад імем ЛЮТАВІТ.

Дадаткова старарымскія імёны: сакратар імпэратара Траяна (98—117) Gnaeus Octavius Capito; “praetor Syriae” Gnaeus Piso (†20 AD).

МАНІВІД-АЛЬБЭРТ, брат Гедыгольда, ваявода віленскі (1413—1423). Варыянты: Монивидъ (1392), пячатка “Sigillum-Albrecht-D-Monewid” (1398), “Monivid capitaneus Wilnensis” (1397), “Albertus alias Monywyd capitaneus Vilnensis” (1412), “Monivid woyewoda Wilnensis” (1413), “Albertus Moniwid Wylnensis palatinus” (1419); “Joannes Moniwidowicz Trocensis palatinus” (1444), “Joannes Monnvyd Trocensis palatinus” (1452), “Jan Moniwid wojewoda Wilenski” (1458), “Joannes filius domini Monywyd” (1460), Woyczych Monywydowycz (1460).

**Мані-від** (**⁺Mane-vid**): germ. magin, megin (ahd. man-, mane-, main-, mein-) “сіла”, “улада”, “энэргія”; gr. mégas, lat. magnus, aind. mahāḥ “вялікі”, “высокі”, “магутны”, “слаўны”; gr. ménos “сіла”, “гнеў”, “ярасьць”; lat. mens (gr. ménos) “душа”, “думка”, “розум”, “мудрасьць”; lat. manus “рука”, “аўтарытарная ўлада” гаспадара дому (сям’і, старэйшыны роду), “гвалт”, “сіла”, “улада”; skt. veda, ayurveda “веда”, “знаньне” і “пазнаньне жыцьця”; aind. vidyā, mahāvidyā адпаведна “сіла”, “вялікая сіла”, “містычная дабрадзейная сіла”; lat. vidēre, videns адпаведна “адчуваць”, “бачыць”, “марыць”, “бачыць наперад” і “вяшчун”, “прарок”; ст.-сл. ведь “веда”, “знаньне”, “чараўніцтва”.

Імя Манівід значыла верагодна “Празорлівы валадар” або “Валявы сілай”.

Іншыя славянскія і ліцьвінскія імёны: князь балканскіх сэрбаў Zavid (1068), Завидъ (1097, 1118, 1186), Завидъ Дмитровиць (†1128), Завидъ Нереveниць (1175), Сновидъ Изечевичь (1097), Кузма Сновидовичь (1159), Ширъвидъ (1158), Володиславъ Завидиць (1216), Сиръвидъ Рюшковичь (1259), Давидъ Явидовичь (1278), Johannes Rimovidowicz (1413), Rimowid (1444, 1456, 1482), Butwid (1451, 1498), Georgius Rimowid (1456), Olechno Rimowidowicz (1456), Sudymunth Rymowidowicz (1460), Narwyd (1462), Buyvid, Buiwid (1462, 1490), Gynywil Buywidowicz (1471), Jacobus Budwidocz (1472), Nyemyr Rimowidowicz (1486), Georgius Budwidowicz (1494).

Германскія імёны: князь готаў у Падунаўі Vidimerus (Vidimer) (451, 473), біскуп Тулузы Magnulf (Magno-wolf) (ca. 580—596), “Magnerich episcopus Treverensis” (ca. 561—587), “dux Magnowald” (†585), “comes Meginhardus” (811, 817), “comes Meginharius” (814, 817), “Maginfridus comes Mediolanensis” (Milano) (896); “domna Meinsuith” (Mein-swinta) (989), “miles Maganus” (1003), “Meingaudus

Treverensis archiepiscopus" (1008—1015), "Meginwercus (Meinwercus) episcopus Paderburnensis" (1009—1036), "reges Nort-manniae" (Norwegia) Magnus I (1034—1047), Magnus II (1066—1069), "Meynardus (Mein-hard) episcopus Livoniae" (1186), "miles de Kukenoys Meynhardus" (Meinhard) (†1215), "Manfredus rex Siciliae" (1258—1266), "Frater Manegoldus magister Prussiae fuit II annis" (1280—1282), "rex Danorum Eryk VI Menved" (1286—1319).

Прыклады старагрэцкіх імёнаў гл. пад імем ГЕДЗІМІН.

Яшчэ ліцьвінскае імя: баярын Widimin (Widimyn) (1410, 1415); імёны індыйскіх рэлігійна-царкоўных дзеячаў Vidyaranya (1331, 1346), Vidyapati (XIV ст.).

МАНТЫГЕРД. Варыянты: "От намесника от полочького от Монтигирда" (1396), "наш воевода Монтигирд" (1397), "что вы с нашим наместником Монтигирдом заключили мирный договор" (1392), "unser hawptman Muntigirde" (1397), Montogerd (1401), Hannus Montigerdonis (1401), "Olechno filius olim Montigerdi" (1410), Petrus Mondigerd (1413), "Petrasius Montygerdowicz palatinus Novogrodensis" (1432), "Petrasch Montigierdowicz terre Lithwanie marschalcus" (1436), "Petrus Montigierdowicz terre Lituanicae supremus marsalcus" (1442), "Petrus Mongyrdowicz marsalcus generalis terre Lithvanie" (1449), "Petrassius Montigerdowicz marsalcus generalis, castellanus et tenutarius Novogrodensis" (1452), "Petrus Janowicz (Montigerdowicz) curiae serenissimi principis domini Cazimiri regis Poloniae et magni ducis Lituanie marschalcus" (1482), "Petrus Janowicz (Montigerdowicz) palatinus Trocensis et marschalcus terrestris magni ducatus Lituaniae" (1492, 1497), "Quare nos Joannes Pyotrowicz (Montigierdowicz) marschalcus serenissimi principis... memorantes quomodo magnificus olim dominus Petrus Janowicz palatinus Trocensis et marschalcus terrestris magni ducatus Lythuanie, genitor noster charissimus" (1499), Venceslaus Mongirdowicz (1442, 1486).

**Манты-герд (⁺Mundi-gerd)**: germ. mund "абарона", "абаронца"; askand. mund "абараняльная сіла"; lat. mundus "Сусьвет", "неба", "высакародны", "годны", "зграбны", "прыгожы", "прывабны", "добры", "сьветлы", "слаўны", "чысты"; germ. gerd, gerht, geard, gard, hard, hart, herd, hert "адважны", "вялікі", "бліскучы", "прамяністы", "сьмелы", "слаўны".

Імя Мантыгерд, Мундыгерд значыла "Вялікі абаронца" або "Слаўны адвагай".

Князь балканскіх сэрбаў Мунтымер, Моунтимеръ (Mountiméros) (850—892), імя якога таксама значыла "Вялікі абаронца" або "Слаўны адвагай".

Параўнай таксама: ahd. munt "улада", "панаваньне" над людзьмі (ahd. gewere "улада", "панаваньне" над рэчамі).

Германскія імёны: жонкі Карла Вялікага Hildegarda (†783), Liutgarda (†800); дачка нямецкага караля, затым імпэратара Антона I (Otto I, 936—973) "Liutgarda (Liudgarda) filia regis obiit" (†953); "Adalhard abbas Corbiensis" (†826), "comes (Vienne) Gerhardus (855, 870), "comes Sigihartus" (Sigis-hard) (861), "Sigihartus abbas Fuldensis" (861, 872), "Ruodhardus episcopus Strazburgensis" (938), "Gerhardus comes Alsaciae" (1002, 1018), "Gerhardus Cameracensis (Cambrai) episcopus" (1012—1051), "Rotherdus Constanciensis episcopus" (1018—1022), "Meynardus (Mein-hard) episcopus Ykescolensis (Livoniae)" (1186; пасьля прызначэньня ў названым годзе ён неўзабаве быў замардаваны паганцамі).

Або яшчэ: пляменьнікі Карла Вялікага Bernhard (†821), Nithard (Niet-hard) (†845) (ahd. bern, niet адпаведна "мядзьведзь", "дбайнасьць", "запал", "руплівасьць"); жонка францускага караля Людвіга Заікі (856—879) Ansgard (863, 878); "dux Normandiae Richard" (Rich-hard) I (942—956).

МІНДОЎГ, вялікі князь, затым кароль ВКЛ; замардаваны ў 1263 г. Варыянты: Мидогъ (1229), Минъдогъ (1235), Миндогъ (1253), Миндовгъ (1254, 1257, 1263), "и во осень оубитъ бистъ великии князь Литовьскии Минъдовгъ, самодержечь быстъ во всеи земли Литовьскои" (1263), "Mindowe, dei gratia rex Lettowiae" (1254), "quod praedecessor noster, rex Mindowe" (1322), Mindaw, Mendogus.

**Мін-доўг** (**⁺Men-dog**): germ. magin, megin (ahd. man-, mane-, main-, mein-) "сіла", "улада", "энэргія"; gr. mégas, lat. magnus, aind. mahāḥ "вялікі", "высокі", "магутны", "слаўны"; gr. ménos "сіла", "гнеў", "ярасьць"; lat. mens (gr. ménos) "душа", "думка", "розум", "мудрасьць"; lat. manus "рука", "аўтарытарная ўлада" гаспадара дому (сям'і, старэйшыны роду), "гвалт", "сіла", "улада"; akelt. dago (⁺dagos), germ. dag адпаведна "добры" і "бліскучы", "прамяністы", "сьветлы".

Імя Міндоўг або Міндог значыла верагодна "Магутны дабрынёй" або адпавядала славянскаму імю Д а б р а м і р (Dobremir, 990; Dobromir, 1124).

